**В. Б. Варламаў**

# ДАПРЫЗЫЎНАЯ ПАДРЫХТОЎКА

Падручнік для 10—11 класаў
устаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

3-е выданне, перагледжанае і дапоўненае

Мінск
«Адукацыя і выхаванне»
2012

УДК 355.211.5(075.3=161.3)
ББК 68.49(4Беи)9я72
В18

Рэцэнзент: настаўнік дапрызыўнай падрыхтоўкі вышэйшай катэгорыі дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 208 г. Мінска» *І. А. Бедзенка*

Пераклад з рускай мовы *А. У. Бельскай*, *Я. М. Важнік*, *Т. У. Данілавай*

**Варламаў, В. Б.**

В18 Дапрызыўная падрыхтоўка : падруч. для 10—11-х кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання / В. Б. Варламаў ; пер. з рус. мовы А. У. Бельскай, Я. М. Важнік, Т. У. Данілавай. — 3-е выд., перагледж. і дап. — Мінск : Адукацыя і выхаванне, 2012. — 328 с. : іл.

ISBN 978-985-471-482-0.

У першай частцы падручніка прадстаўлены матэрыял па гераічным гістарычным мінулым беларускага народа, зараджэнні, развіцці і сучасным стане Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, ваенным заканадаўстве, канкрэтызаваны пытанні падрыхтоўкі і праходжання ваеннай службы. У другой частцы выкладзены асновы ваеннай справы па асноўных дысцыплінах баявой падрыхтоўкі беларускай арміі.

**УДК 355.211.5(075.3=161.3)**
**ББК 68.49(4Беи)9я72**

**ISBN 978-985-471-482-0**

# УВОДЗІНЫ

Чалавек зазірнуў у таямніцы ўнутрыядзернай энергіі, выйшаў у касмічную прастору, клануе клеткі жывёл. Чалавечы розум заваяваў Зямлю, але не змог прымірыць чалавецтва. Свет яшчэ не навучыўся жыць у міры. І ў трэцяе тысячагоддзе людзі ўвайшлі з цяжарам дыктату і гвалту, з лакальнымі і глабальнымі канфліктамі, з наяўнасцю армій амаль ва ўсіх краінах свету.

Беларусь — міралюбівая дзяржава. У Канстытуцыі нашай краіны запісана: «Рэспубліка Беларусь у сваёй знешняй палітыцы зыходзіць з прынцыпаў роўнасці дзяржаў, непрымянення сілы або пагрозы сілай». Але толькі міралюбнасць у сучаснай абстаноўцы яшчэ не дае гарантый бяспекі. Адным з прыярытэтных напрамкаў забеспячэння бяспекі Рэспублікі Беларусь з'яўляецца стварэнне неабходнага абароннага патэнцыялу.

У апошнія гады адбыліся змены ў тэорыі і практыцы падрыхтоўкі і вядзення войнаў. Узброеная барацьба сёння ўжо не з'яўляецца адзіным і асноўным сродкам дасягнення мэт вайны. На першы план выйшлі палітычныя, дыпламатычныя, эканамічныя, інфармацыйныя, псіхалагічныя і іншыя формы супрацьборства. Верагоднасць і зыход вайны ў сённяшніх умовах усё больш і больш залежаць ад адзінства і гатоўнасці ўсяго народа паўстаць на абарону Айчыны. Усё гэта надало нацыянальнай бяспецы краіны сапраўды ўсенародны характар.

Трансфармаваўся і змест узброенай барацьбы — прыярытэтнымі ў ёй сталі некантактныя дзеянні, спецыяльныя аперацыі, дзеянні ірэгулярных войскаў, тэрарыстычныя акцыі. Радыкальныя змены

ў змесце ўзброенай барацьбы прывялі да неабходнасці глыбокага рэфармавання Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Узнікла неабходнасць у арганізацыі стройнай сістэмы тэрытарыяльнай абароны краіны, актуальнай стала дапрызыўная падрыхтоўка грамадзян да ваеннай службы.

Абарона краіны аднесена беларускім заканадаўствам да найважнейшых функцый дзяржавы, з'яўляецца ўсеагульнай справай, а абарона Рэспублікі Беларусь вызначана яе Канстытуцыяй як абавязак і свяшчэнны доўг грамадзян рэспублікі. Адвеку ўзброеная абарона Айчыны была доляй мужчын, іх абавязкам і справай гонару. У Беларусі ўстаноўлены воінскі абавязак, у адпаведнасці з якім грамадзяне падлягаюць воінскаму ўліку, рыхтуюцца і прыцягваюцца да ваеннай службы або службы ў рэзерве ва Узброеных Сілах або ў іншых воінскіх фарміраваннях рэспублікі, знаходзяцца ў запасе.

Закон Рэспублікі Беларусь «Аб воінскім абавязку і воінскай службе» прадугледжвае абавязковую і добраахвотную падрыхтоўку грамадзян да ваеннай службы. Важным элементам абавязковай падрыхтоўкі з'яўляецца дапрызыўная падрыхтоўка, якая праводзіцца ва ўстановах агульнай сярэдняй, прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі.

Мэтай дапрызыўнай падрыхтоўкі з'яўляецца фарміраванне ў юнакоў маральна-псіхалагічнай гатоўнасці да ваеннай службы, забеспячэнне навучэнцаў ведамі і ўменнямі, неабходнымі для асваення абавязкаў абаронцы Айчыны.

У працэсе навучання дапрызыўнікі і прызыўнікі павінны засвоіць канстытуцыйныя правы і абавязкі грамадзян па абароне дзяржавы, прызначэнне Узброеных Сіл і іншых воінскіх фарміраванняў Рэспублікі Беларусь, парадак праходжання ваеннай службы салдатамі і сяржантамі, асноўныя патрабаванні Ваеннай прысягі і агульнавоінскіх статутаў; набыць практычныя ўменні і псіхалагічную ўстойлівасць, каб, будучы прызванымі на ваенную службу, паспяхова авалодваць даручаным узбраеннем і ваеннай тэхнікай.

У падручніку выкладзены змест усіх тэм праграмы па дапрызыўнай падрыхтоўцы для ўстаноў агульнай сярэдняй, прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Разам з тым паслядоўнасць падачы матэрыялу ў нейкай ступені адрозніваецца ад размяшчэння тэм у праграме. Такое адступленне робіць падручнік больш стройным, лагічна

паслядоўным і не павінна выклікаць цяжкасцей пры вывучэнні прадмета.

У першай частцы падручніка «Абарона Айчыны» змяшчаецца тэарэтычны матэрыял па гераічным гістарычным мінулым нашага народа, зараджэнні, развіцці і сучасным стане Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, ваенным заканадаўстве, канкрэтызуюцца пытанні падрыхтоўкі і праходжання ваеннай службы. Вывучэнне гэтага матэрыялу спрыяе выхаванню грамадзянскасці і патрыятызму, фарміруе ў юнакоў псіхалагічную гатоўнасць да будучай ваеннай службы.

У другой частцы падручніка «Асновы ваеннай справы» прадстаўлены ў асноўным практычны кампанент дапрызыўнай падрыхтоўкі. Практычная адпрацоўка прыёмаў, практыкаванняў і нарматываў спрыяе больш усвядомленаму ўспрыманню пытанняў першага раздзела, а таксама дае магчымасць набыць першапачатковыя ўменні, якія дапамогуць маладым салдатам хутчэй адаптавацца да ваеннай службы.

Вывучэнне прадмета «Дапрызыўная падрыхтоўка» ў комплекснай сістэме ідэалагічнага і ваенна-патрыятычнага выхавання фарміруе ў юнакоў гатоўнасць да выканання канстытуцыйнага доўгу па абароне Радзімы, умацоўвае маральны дух навучэнцаў, спрыяе павышэнню іх свядомасці, адказнасці, дысцыплінаванасці, працоўнай актыўнасці.

У гэтым выданні ўлічаны змены ў ваенным будаўніцтве і ваенным заканадаўстве Рэспублікі Беларусь пасля 2006 года. Змест раздзела 2 «Абарона Рэспублікі Беларусь» заснаваны на палажэннях Канцэпцыі нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь 2010 года. У падручніку выкарыстаны ілюстрацыйны матэрыял, прапанаваны дзяржаўнай установай «Ваенна-інфармацыйнае агенцтва Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь "Ваяр"» і супрацоўнікам навукова-метадычнай установы Рэспублікі Беларусь «Нацыянальны інстытут адукацыі» С. М. Гамолкам.

# АБАРОНА АЙЧЫНЫ

З усіх канстытуцыйных абавязкаў грамадзян Беларусі толькі адзін вызначаны як свяшчэнны — гэта абарона Рэспублікі Беларусь. Каб выконваць воінскі абавязак свядома і годна, трэба ведаць сваю краіну, яе мінулае і сучаснасць, мець уяўленне пра армію, быць маральна і псіхалагічна гатовым да будучай ваеннай службы і, калі спатрэбіцца, да ўзброенай абароны Айчыны — Рэспублікі Беларусь.



# РАЗДЗЕЛ I
# Старонкі мужнасці і гераізму беларускага народа

Усе, хто жыве сёння, маюць абавязак перад мінулым і нясуць адказнасць перад будучыняй. Што мы ўзялі ў нашых продкаў, як скарысталіся іх спадчынай, што перадамо нашчадкам?

Не злічыць ратных подзвігаў, здзейсненых на беларускай зямлі, не злічыць імёнаў герояў, што самаахвярна абаранялі сваю Радзіму.

У дадзеным раздзеле ўспомнім не пра бітвы, войны або гістарычныя падзеі, а пра людзей, якія паўсталі на абарону роднай зямлі, свайго народа, Айчыны. Задумаемся, паразважаем і ацэнім мужнасць, адвагу і веліч духу нашых продкаў.

## § 1. Абарона Айчыны нашымі продкамі

**Узброеная барацьба ўсходніх славян.** Гісторыя ведае нямала прыкладаў, калі ў знішчальных войнах спынялі сваё існаванне цэлыя плямёны, народы, дзяржавы. Са старажытных часоў права на жыццё і сваё далейшае развіццё трэба было адстойваць, а таму пытанні ўзброенай абароны набывалі першараднае значэнне.

Нашы старажытныя продкі — усходнеславянскія плямёны. Яны вялі аселы лад жыцця, паспяхова развівалі земляробства, жывёлагадоўлю, рамёствы, а калі нападаў вораг — мужна і ўмела абараняліся.

У перыяд разлажэння першабытнаабшчыннага ладу і зараджэння феадальных адносін ва ўсходніх славян удзел у ваенных мерапрыемствах не з’яўляўся прывілеем для адных і цяжарам для іншых, а набыццё неабходных уменняў і навыкаў для ваенных дзеянняў было справай усіх, хто да гэтага быў здольны.

Бліжэйшымі суседзямі ўсходніх славян на поўдні былі качэўныя ў прычарнаморскіх стэпах гуны і авары, а затым — хазары, печанегі, полаўцы. Пры чарговых нападах яны рабавалі, забіралі ў палон, спусташалі ўсходнеславянскія

землі. Праз усё гэта вялікая ўвага надавалася ўзброенай абароне. Усходнія славяне будавалі вялікія ўмацаваныя гарадзішчы, акружаныя землянымі валамі, равамі, частаколам з бярвення, удасканальвалі сваё ўзбраенне, чаму спрыяла паспяховае развіццё рамёстваў.

У старажытным рускім летапісе «Аповесць мінулых гадоў» захаваліся звесткі пра паходы рускіх князёў на сталіцу Візантыі Царград (Канстанцінопаль) (907, 914 гг.). У гэтых паходах бралі ўдзел і полацкія дружыны.

Але часцей трэба было абараняцца, а поспех прыходзіў, калі дзейнічалі супольна. Пры чарговым нападзе полаўцаў у 1168 годзе вялікі князь кіеўскі Мсціслаў, сабраўшы ўсіх удзельных князёў, звярнуўся да іх са словамі: «Сябры і браты! Пакінем міжусобіцы; паглядзім на неба, вымем меч і, паклікаўшы імя Божае, рушым на ворагаў. Слаўна, браты, шукаць гонару ў полі і слядоў, пракладзеных там нашымі бацькамі і дзядамі». Полаўцы былі разбіты. У сумесных паходах супраць качэўнікаў разам з кіеўскімі князямі прымалі ўдзел са сваімі дружынамі князі: ***полацкі Давід, гродзенскі Мсціслаў, тураўскі Глеб, пінскі Яраслаў*** і іншыя.

У 1240 годзе, захапіўшы вусце Нявы і горад Ладагу, шведы мелі намер заступіць наўгародцам выхад да Балтыйскага мора. Войска шведа Я. Біргера прайшло па Няве і размясцілася лагерам каля ракі Іжоры. Наўгародскі князь Аляксандр Яраславіч з невялікім атрадам і дружынай палачан падышоў да шведскага лагера і ўшчэнт разграміў праціўніка. Летапісец высока адазваўся пра беларускага ваяра ***Якава Палачаніна***. Паводле яго слоў, той «наихав на шведский полк с мечом, мужествовав много». Пасля бою князь Аляксандр Неўскі асабіста падзякаваў адважнаму ратніку. Яшчэ больш поўнае паражэнне было нанесена крыжакам на Чудскім возеры ў 1242 годзе.

***Кулікоўская бітва***. Яскравым прыкладам яднання сіл супраць агульнага ворага з'явілася Кулікоўская бітва (1380), дзе пад кіраўніцтвам вялікага князя маскоўскага ***Дзмітрыя Данскога*** ваявалі са сваімі атрадамі ***князь полацкі і пскоўскі Андрэй***, яго брат ***князь Дзмітрый Альгердавіч***, ***князь Дзмітрый Баброк***, ***друцкі князь Глеб***.

Бітва пачалася з паядынку паміж двума волатамі: рускім Аляксандрам Перасветам і мангольскім Чалубеем.



Неўская бітва (злева — Аляксандр Неўскі, справа — Я. Біргер, на пярэднім плане — Якаў Палачанін).
*Старажытнаруская кніжная мініяцюра XVI ст.*



Паядынак Перасвета з Чалубеем. *Мастак М. Авілаў*

Абодва загінулі ў смяротнай сутычцы. Затым зблізіліся войскі, і пачалася бітва. Упартасць і бязлітаснасць Кулікоўскай бітвы летапісец у знакамітым «Паданні аб Мамаевым пабоішчы» апісвае так: «На тым полі сышліся моцныя палкі разам, з іх выступілі крывавыя зоры ад ззяння мячоў, быццам маланкі бліскаюць. І быў трэск паламаных копій і ўдары мячоў».

Аб'яднанымі сіламі Залатой Ардзе быў нанесены знішчальны ўдар, у выніку якога яна няўхільна пайшла да заняпаду.

Беларусы могуць ганарыцца мужнасцю і адвагай сваіх продкаў — воінаў, якія прыйшлі на Кулікова поле, каб удзельнічаць у справядлівай барацьбе ўсіх брацкіх усходнеславянскіх народаў.

***Грунвальдская бітва.*** Яшчэ адным прыкладам сумеснай барацьбы з ворагам з'яўляецца знакамітая Грунвальдская бітва, у якой супраць Тэўтонскага ордэна крыжакоў плячом да пляча ваявалі літоўскія, польскія, беларускія і рускія героі.

Бітва адбылася 15 ліпеня 1410 года каля вёскі Грунвальд. Пачалася яна са смелай атакі конніцы ***Вітаўта***. Атака была рашучай і магутнай, коннікі ўжо грамілі нямецкіх бамбардзіраў і наблізіліся да рыцараў, але былі сустрэты лавінай стрэл арбалетчыкаў і лучнікаў. І тут рынулася ў бой закаваная ў браню сцяна рыцарскай конніцы. Выступілі і перадавыя польскія палкі. Непрыяцелі сышліся ў сечы.

Стаяў неймаверны гул ад баявых заклікаў, крыкаў, ржання коней, ляскату зброі. «Нага наступала на нагу, даспехі стукаліся аб даспехі і пікі накіроўваліся ў твары ворагаў...» Доўгі час войскі ваявалі без усякага поспеху. Вітаўт, забыўшыся пра стомленасць і не звяртаючы ўвагу на небяспеку, з'яўляўся то ў адным, то ў другім месцы бітвы, заклікаў і вёў у бой сваіх воінаў.

Магутны ўдар нанеслі немцы па цэнтры, дзе стаялі воіны смаленскага, аршанскага і мсціслаўскага палкоў. Рускія ваявалі адчайна, стрымліваючы ў некалькі разоў больш моцнага праціўніка. Польскі гісторык XV стагоддзя Ян Длугаш пісаў: «...рускія віцязі са смаленскай зямлі, пастроеныя трыма асобнымі палкамі, стойка біліся з ворагамі... Тым заслужылі яны неўміручую славу».



Грунвальдская бітва (фрагмент). *Мастак Я. Матэйка*

Магістр Тэўтонскага ордэна Ульрых фон Юнгінген, адчуўшы, што сілы праціўніка на зыходзе, устаў на чале сваіх войскаў і пайшоў, як ён думаў, на разгром ворага, але пралічыўся. Палякі з аднаго боку, літоўцы — з другога ўдарылі па войску Юнгінгена. Сотні прусаў, а за імі і рыцары, пакідаўшы сцягі і зброю, пачалі здавацца ў палон.

Не здолеў ордэн закаваць славянства ў тыя кайданы, якія былі знойдзены пераможцамі пасля бітвы ў лагеры крыжакоў. Мужнасць і адвага нашых продкаў у іх барацьбе з нямецкімі захопнікамі пры Грунвальдзе — залатая старонка воінскай доблесці і славы беларускага народа.

**Доблесць і слава беларускіх палкоў.** Царскі ўрад не даваў зброі многім народам, для беларусаў жа ніколі ніякіх абмежаванняў не існавала. Больш за тое, з іх фарміраваліся цэлыя палкі.

***Полацкі полк.*** Найвышэйшым дасягненнем ваеннага майстэрства канца XVIII стагоддзя было ўзяцце непрыступнай па тых часах турэцкай крэпасці Ізмаіл. У бяспрыкладным штурме пад камандаваннем А. В. Суворава прымалі ўдзел воіны Беларускага егерскага корпуса і Полацкага пяхотнага палка. У крытычны момант штурму, калі непрыяцель імкнуўся скінуць атакуючую калону з крапаснога вала, камандзір Полацкага пяхотнага палка падпалкоўнік ***Ясунскі*** павёў палачан у контратаку. Іх рашучыя дзеянні прымусілі турак адысці, кінуць свае пазіцыі і бегчы. Але і палачане панеслі страты, загінуў смерцю адважных іх мужны камандзір падпалкоўнік Ясунскі. Тады на яго месца ўстаў палкавы святар ***Трафім Куцынскі***. З крыжом у руцэ ён павёў за сабой салдатаў, пастаўленая перад палком задача была выканана.

Палачане мужна змагаліся ў Барадзінскай бітве, абараняючы знакамітую батарэю Раеўскага, у штурме Лейпцыга і пры ўзяцці Парыжа, у аблозе Варны і абароне Севастопаля.

***Мінскі полк.*** Частка корпуса маршала Жуно і палкі князя Ю. Панятоўскага 26 жніўня 1812 года імкнуліся адрэзаць 1-ю грэнадзёрскую дывізію ад асноўных сіл Баграціёна. Мінскі 54-ы пяхотны полк у складзе дывізіі, здзейсніўшы манеўр, раптоўна контратакаваў французаў і палякаў, рассеяў іх баявы парадак і адкінуў на зыходныя пазіцыі. Пра яго камандзіра, палкоўніка ***А. Красавіна***, ва ўзнагародным лісце надрукавана: «Камандаваў давераным яму палком з прыкладнай адважнасцю і, знаходзячыся пад моцным гарматным агнём, дзейнічаў выдатна і падаваў падначаленым свой прыклад асабістай храбрасцю, прычым атрымаў моцную ў нагу ад ядра кантузію». Пазней полк граміў і гнаў захопнікаў у напрамку Малаяраслаўца, Смаленска, Лагойска, Радашковічаў, Альшан, Гродна.

***Хвацкія беларускія гусары.*** Сярод палкоў, якія насілі назвы беларускіх гарадоў, найбольш старажытны і багаты на падзеі летапіс меў Беларускі 7-ы гусарскі полк. Толькі пры штурме крэпасцяў Сілістрыі і Рушчук падчас вайны з Турцыяй іх трафеямі сталі 82 варожыя сцягі і 437 гармат.

Адчайныя рубакі Гродзенскага гусарскага палка пад камандаваннем ***Кульнева*** ўносілі замяшанне і сеялі паніку сярод французаў у 1812 годзе. У баі пад Клясціцамі 30 ліпеня атрад Кульнева грунтоўна патрапаў часці маршала Удзіно,



Атака ля Клясціц. *Мастак М. Самокіш*

захапіўшы амаль увесь яго абоз і 900 палонных. Ля вёскі Баяршчына прамым пападаннем французскага ядра Кульневу адарвала абедзве нагі. Смерць наступіла амаль імгненна. Якаў Пятровіч Кульнеў заслугоўвае вечнай памяці. Нават у Фінляндыі ён пакінуў пра сябе самыя добрыя ўспаміны як пра воіна-рыцара ў дачыненні да пераможаных. Менавіта такім Кульнеў увайшоў у фінскую нацыянальную літаратуру. У Гродзенскім гусарскім палку ён стаў палкоўнікам, а затым генерал-маёрам, Георгіеўскім кавалерам. Палку было прысвоена яго імя.

Няма такіх узнагарод, якіх не ўдастойваліся б беларускія палкі — ад Георгіеўскіх сцягоў да сярэбраных труб — ганаровых знакаў баявой доблесці.

? **1.** Ад каго і як абараняліся нашы старажытныя продкі? Хто ў тыя часы прымаў удзел у абароне ад ворагаў? **2.** Што вы ведаеце пра Грунвальдскую бітву? **3.** Раскажыце аб мужнасці і адвазе воінаў Полацкага палка пры штурме крэпасці Ізмаіл і пра баявыя подзвігі беларускіх гусараў.

## § 2. Воіны-беларусы ў Вялікай Айчыннай вайне

У гісторыі не было яшчэ такой вайны, у якой бы захопніцкія мэты агрэсара былі настолькі маштабныя і бесчалавечныя, а адпор ворагу насіў такі агульнанародны характар, як у Вялікую Айчынную вайну 1941—1945 гадоў. Ідэалагічнай асновай палітыкі германскага фашызму была чалавеканенавісніцкая тэорыя нацыстаў аб расавай перавазе нямецкай нацыі над іншымі народамі. Рэалізацыя гэтай ідэалогіі прадугледжвала не толькі гвалт, захоп тэрыторый і матэрыяльных каштоўнасцей іншых дзяржаў, але і стварэнне індустрыі масавага знішчэння людзей. Цалкам натуральна, што з першых жа дзён нямецка-фашысцкай агрэсіі народ Беларусі, як і ўвесь савецкі народ, падняўся на абарону Айчыны ад гітлераўскіх захопнікаў.

Першымі ў бой з фашыстамі ўступілі пагранічнікі. Мужна і самаадданa змагаліся з ворагам пагранічнікі заставы пад камандаваннем афіцэраў ***М. К. Ішкова***, ***А. М. Кіжаватава***, якому пасмяротна было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, ***І. Р. Ціханава***, ***В. М. Усава*** і многіх іншых.

**Гераічная абарона Брэсцкай крэпасці.** Усяму свету вядомая гераічная абарона легендарнай Брэсцкай крэпасці. Стойкасць і мужнасць яе абаронцаў здзіўлялі нават ворагаў. Акружыўшы крэпасць, гітлераўцы ўвесь час абстрэльвалі яе з гармат і мінамётаў, фашысцкія самалёты скідалі на фарты бомбы вагой да дзвюх тон, бочкі з бензінам. У абаронцаў крэпасці не хапала боепрыпасаў, вады, ежы, медыкаментаў, але нішто не магло зламаць іх стойкасці. Амаль месяц гарнізон мужна змагаўся з ворагам. Нават калі крэпасць была захоплена, асобныя групы яе абаронцаў, засеўшы ў падвалах, не спынялі барацьбы. Пра іх гераізм і самаадданасць сведчаць надпісы, якія захаваліся на сценах крэпасці: «Памром, але з крэпасці не сыдзем»; «Нас было трое, нам было цяжка, але мы не ўпалі духам і паміраем як героі»; «Паміраю, але не здаюся! Бывай, Радзіма!». Вялікая колькасць абаронцаў крэпасці, сярод якіх былі прадстаўнікі 30 нацыянальнасцей, загінула смерцю храбрых, некаторыя, прарваўшы кальцо акружэння, сталі партызанамі. За выключную мужнасць, адвагу і гераізм,



Абарона Брэсцкай крэпасці ў 1941 годзе (фрагмент). *Мастак Я. Зайцаў*

праяўленыя пры абароне Брэсцкай крэпасці, 68 чалавек былі ўдастоены ўрадавых узнагарод, а камандзіру 44-га стралковага палка ***П. М. Гаўрылаву*** прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Брэсцкай крэпасці прысвоена званне «Крэпасць-герой».

**Подзвіг экіпажа самалёта М. Гастэлы.** На чацвёрты дзень вайны, 26 чэрвеня 1941 года, гераічны подзвіг са сваім экіпажам здзейсніў Мікалай Францавіч Гастэла. Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны капітан Гастэла быў камандзірам бамбардзіровачнай эскадрыллі 207-га авіяпалка. Эскадрылля нанесла магутны бомбавы ўдар па фашыстах на дарозе Маладзечна — Радашковічы. Але калі бамбардзіроўшчыкі вярталіся з задання, варожы снарад прабіў бензабак камандзірскай машыны. Агонь ахапіў увесь самалёт, збіць полымя не ўдавалася. Можна было пакінуць самалёт і прызямліцца на парашутах, але гэта азначала палон. Камандзір і яго экіпаж у складзе штурмана ***А. А. Бурдзенюка***, стралка ***Р. М. Скорабагатага*** і стралка-радыста ***А. А. Калініна*** выбралі смерць. Падпалены самалёт быў накіраваны камандзірам на калону танкаў, аўтамашын і бензацыстэрнаў. Выбухам бамбардзіроўшчыка ворагу быў нанесены значны ўрон у жывой сіле і тэхніцы. На месцы подзвігу, здзейсненага мужным экіпажам, збудаваны помнік-мемарыял, а ў

г. п. Радашковічы Герою Савецкага Саюза М. Ф. Гастэлу ўзведзены помнік.

**Генерал-маёр Даватар**. Кароткі, але яркі быў шлях славутага сына беларускага народа, легендарнага камандзіра і адважнага кавалерыста Льва Міхайлавіча Даватара. У 1941 годзе яго кавалерыйская група прарвалася ў тыл ворага. Фашысты тэрмінова паведамілі, што ў іх тыле дзейнічае 100-тысячная армія казакоў (на самай справе было 3 тысячы кавалерыстаў). У гэтым жа годзе бясстрашны камандзір генерал-маёр Даватар узначаліў 3-і кавалерыйскі корпус, які за мужнасць і гераізм быў пераўтвораны ў 2-і гвардзейскі корпус. Адважны і таленавіты камандзір вадзіў у атакі кавалерыстаў, асабістым прыкладам паказваў байцам узоры мужнасці і гераізму, палымянай любові да сваёй Радзімы. З невялікай групай разведчыкаў 19 снежня 1941 года Даватар ішоў з галаўной дывізіяй, адкуль кіраваў корпусам. Збіваючы заслоны захопнікаў, кавалерысты выйшлі да ракі Руза насупраць вёскі Палешкіна Маскоўскай вобласці. Але тут на іх абрынуўся шквал агню фашыстаў. Наступіў крытычны момант. Тады Даватар выхапіў левай рукой пісталет (напярэдадні яго раніла ў правую руку), падняўся на ўвесь рост і з воклічам «За Радзіму!» павёў байцоў на штурм умацавання ворага. Любімы камандзір кавалерыстаў быў забіты кулямётнай чаргой. На магіле і на месцы гібелі героя ўстаноўлены помнікі, яго імем названы вуліцы ў многіх беларускіх гарадах.

**Адважны снайпер Смалячкоў**. Ураджэнец Магілёўскай вобласці Феадосій Смалячкоў ужо ў першыя месяцы вайны праславіўся ратнымі справамі не толькі на ўвесь Ленінградскі фронт, але і на ўсю армію, на ўсю краіну. Васямнаццацігадовы разведчык асобнай разведроты стаў ініцыятарам снайперскага руху па знішчэнні фашысцкіх захопнікаў. Да пачатку 1942 года ён меў на сваім баявым рахунку 125 знішчаных фашыстаў, на якіх выдаткаваў 126 патронаў. У майстра трапнага стрэлу, нягледзячы на яго юнацкі ўзрост, з'явілася цэлая школа. Ён падрыхтаваў 10 снайпераў, якія знішчылі некалькі сотняў гітлераўцаў. Усяго ж умелыя снайперы — вучні і баявыя сябры радавога Смалячкова, у іх ліку і адважная беларуская дзяўчына-снайпер У. І. Лукашэнка, знішчылі больш за 5 тысяч фашыстаў. Феадосій

Арцёмавіч Смалячкоў загінуў у баі 15 студзеня 1942 года. Пасмяротна ён удастоены звання Героя Савецкага Саюза.

**Подзвіг братоў-танкістаў Крычаўцовых.** Кастусь, Міна і Елісей Крычаўцовы — браты-танкісты з Гомельшчыны. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны яны ваявалі на фронце ў адным танкавым экіпажы. У баі каля в. Лапы пад Беластокам іх танк быў падбіты. Тады браты накіравалі сваю падпаленую машыну на фашысцкі танк. Знішчыўшы яго цаной сваіх жыццяў, яны заступілі шлях танкам ворага на вузкім праходзе забалочанага ўчастка. Імем братоў Крычаўцовых названая вуліца ў вёсцы Барок Гомельскага раёна.

**Гераічны подзвіг Кавалёва.** Рыгор Сямёнавіч Кавалёў — яшчэ адзін выхадзец з Гомельшчыны. У 1939 годзе ён удзельнічаў у вызваленні Заходняй Беларусі, у час Вялікай Айчыннай вайны спачатку ваяваў у партызанскай брыгадзе, а з ліпеня 1944 года — у стралковай брыгадзе 3-га Беларускага фронту. У барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі сяржант Кавалёў праявіў бясстрашнасць і гераізм. Падчас вызвалення ад фашыстаў Літвы 18 жніўня 1944 года ў баі за вышыню на захад ад горада Шаўляй ён кінуўся са звязкам гранат пад гусеніцы варожага танка. Натхнёныя яго подзвігам, байцы знішчылі яшчэ некалькі танкаў і адбілі атаку ворага. Р. С. Кавалёў пасмяротна ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза. Яго імем названа вуліца ў г. Рагачове, а ў в. Вялікая Крушынаўка, на радзіме героя, яго імя прысвоена сярэдняй школе.

**Слаўныя подзвігі беларускіх лётчыкаў.** Беларускія патрыёты гераічна змагаліся і ў паветры. Першы ў гісторыі паветраны вышынны таран ажыццявіў у маскоўскім небе лётчык 12-га знішчальнага палка ***А. М. Катрыч***. Звання Героя Савецкага Саюза ўдастоены таксама яго землякі — мінчанін ***І. І. Казлоўскі*** і віцяблянін ***П. Ф. Сычэнка***.

У баях пад Курскам лётчык-знішчальнік ***А. К. Гаравец*** прыкрываў з паветра наземныя войскі. Вяртаючыся на свой аэрадром 6 ліпеня 1943 года, ён уступіў у бой з 20 варожымі бамбардзіроўшчыкамі і, валодаючы найвышэйшым лётным майстэрствам, збіў 9 самалётаў праціўніка. А. К. Гаравец — адзіны ў свеце лётчык, які ў адным паветраным баі збіў столькі варожых самалётаў. У Полацку і на радзіме Героя

Савецкага Саюза Аляксандра Канстанцінавіча Гараўца ўстаноўлены помнікі. Яго імем названы вуліцы ў Віцебску, Мінску, Полацку, Сянно, г. п. Багушэўску.

Адзіны ў свеце лётчык, які здзейсніў чатыры паветраныя тараны, — беларус ***Б. І. Коўзан***. Яго называюць чалавекам з легенды. У гады Вялікай Айчыннай вайны яго імя, якое стала сімвалам бясстрашнасці, адвагі і стойкасці, наводзіла страх на фашыстаў. За гады вайны ён здзейсніў 360 баявых вылетаў, правёў 127 паветраных баёў, у якіх збіў 28 і тараніў 4 варожыя самалёты. Званне Героя Савецкага Саюза Барысу Іванавічу Коўзану было прысвоена пасля бою пад Старой Русай. У бесперапыннай сутычцы з 13 фашысцкімі сцярвятнікамі Б. І. Коўзан сваім ужо палаючым самалётам тараніў фашысцкі самалёт. І, як заўсёды, лётчык з легенды застаўся жывы і працягваў наводзіць жах на ворага.

**Адважныя беларускія маракі**. На марскіх прасторах Балтыкі праславіўся віцэ-адмірал ***В. П. Дрозд***, выхадзец з Буда-Кашалёва. Пад яго камандаваннем восенню 1941 года караблі Балтыйскага флоту ажыццявілі смелы прарыў з Таліна ў Кранштат і пераправілі на Ленінградскі фронт абаронцаў паўвострава Ханка. Адважны адмірал загінуў у студзені 1943 года на лядовай трасе пад Кранштатам.

У гады вайны падводная лодка «Щ-310» пад камандаваннем віцябляніна ***С. Н. Багарада*** палявала за варожымі караблямі. І якой бы моцнай ні была ахова марскіх караванаў праціўніка, адважны камандзір заўсёды смела вёў сваю падводную лодку ў рашучую атаку. Толькі ў двух паходах экіпаж лодкі патапіў 7 караблёў ворага. Падводная лодка «Щ-310» была ўзнагароджана ордэнам Чырвонага Сцяга, а яе камандзіру прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. На іншай падводнай лодцы, легендарнай «С-13» пад камандаваннем ***А. І. Марынеску***, плаваў і ўдзельнічаў у патапленні трох варожых судоў ураджэнец Віцебшчыны старшына 2-й стацці ***П. С. Байцоў***, узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

**Мужная медсястра**. Скончыўшы курсы медсясцёр, пайшла добраахвотнікам на фронт маладая віцяблянка ***Зіна Тусналобава***. За 8 месяцаў старшына медыцынскай службы Тусналобава вынесла з поля бою 128 параненых салдатаў і афіцэраў. У лютую зіму 1943 года на тэрыторыі Курскай вобласці патрыётка была цяжка параненая, абмарозіла рукі і

ногі, якія давялося ампутаваць. Але Зіна не выйшла з шэрагу змагароў з фашызмам: яна выступала па радыё, у друку, заклікала землякоў змагацца з ворагам да поўнай перамогі. На фронце былі танкі, самалёты, гарматы і мінамёты з надпісамі «За Зіну Тусналобаву!». У лісце да свайго каханага лейтэнанта Марчанкі, які змагаўся на фронце, яна пісала: «Я страціла рукі і ногі. Горка і крыўдна застацца ў 23 гады інвалідам... Не хачу абцяжарваць цябе ніякімі клопатамі. Уладкоўвай сваё жыццё, як быццам мяне ніколі не было. Бывай...» Пасля перамогі Іосіф вярнуўся ў Полацк да сваёй каханай дзяўчыны. За 40 сумесна пражытых гадоў яны захавалі ўзаемнае каханне і вернасць, выгадавалі сына Уладзіміра і дачку Ніну. Імем Героя Савецкага Саюза Зінаіды Міхайлаўны Тусналобавай-Марчанкі названая вуліца ў Полацку. Міжнародны Камітэт Чырвонага Крыжа ўзнагародзіў З. М. Тусналобаву-Марчанку медалём Флорэнс Найтынгейл.

**Бясстрашнасць напярэдадні перамогі.** Тысяча чатырыста дзясяты дзень вайны. Сярод многіх беларусаў, якія ўдзельнічалі ў штурме рэйхстага, быў і малодшы сяржант ***Пётр Пятніцкі***. Камандзір батальёна Няўстроеў успамінае: «Як ніколі неабходны быў сцяг. Недзе здабыў кавалак чырвонай матэрыі. Аддаў гэтае палатно малодшаму сяржанту Пятру Пятніцкаму і сказаў: «Людзі ляжаць на плошчы. Рэйхстаг блізка. Усе залеглі — і нашы, і суседзі з давыдаўскага батальёна. Як дойдзеш да ланцуга, аддай мой загад у атаку! Падымай людзей...» Пётр скокнуў з акна ў варонку, папоўз да ланцуга. Потым падняўся, выхапіў палотнішча. Каля яго ўжо дзесяць, пятнаццаць, дваццаць чалавек... Ён выпусціў пунсовае палотнішча перад самымі прыступкамі — забіты». Сцяг Перамогі быў узняты над купалам рэйхстага ***Міхаілам Ягоравым*** і ***Мелітонам Кантарыя***. Да перамогі заставалася восем дзён.

**Масавыя мужнасць і гераізм.** За мужнасць, доблесць і гераізм, праяўленыя ў барацьбе з фашысцкімі захопнікамі, больш за 300 тысяч салдат і афіцэраў — ураджэнцаў Беларусі — былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі, 446 з іх прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза, 67 чалавек сталі поўнымі кавалерамі ордэна Славы. Званне Героя Савецкага Саюза двойчы было прысвоена лётчыку П. Я. Галавачову, камандзірам танкавых злучэнняў І. І. Гусакоўскаму, С. Ф. Шутаву, І. І. Якубоўскаму.



**1.** Чаму вайна савецкага народа з нямецкімі фашыстамі 1941—1945 гг. названая Айчыннай? **2.** Назавіце вядомых вам беларускіх воінаў — герояў Вялікай Айчыннай вайны. Раскажыце пра іх подзвігі. **3.** Што пацвярджае масавыя мужнасць і гераізм беларускіх воінаў у Вялікай Айчыннай вайне? **4.** Як Беларусь шануе памяць воінаў, якія абаранілі Радзіму ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў? Успомніце імёны герояў, у гонар якіх названы вуліцы, школы, узведзены мемарыялы, помнікі ў вашым населеным пункце, раёне, горадзе. **5.** Як вы шануеце памяць воінаў, якія загінулі ў Вялікай Айчыннай вайне? Як вы дапамагаеце ветэранам вайны?

## § 3. Партызаны і падпольшчыкі Беларусі ў гады фашысцкай акупацыі

У гады фашысцкай акупацыі беларуская зямля была залітая крывёй сотняў тысяч людзей. Але народ Беларусі не скарыўся, з першых жа дзён варожага нашэсця ён пачаў сапраўды ўсенародную барацьбу супраць фашысцкіх захопнікаў. На акупіраванай тэрыторыі была створана шырокая сетка падпольных арганізацый, разгарнуўся партызанскі рух.

**Самаадданасць падпольшчыкаў-чыгуначнікаў.** На Аршанскім чыгуначным вузле эфектыўна дзейнічала група ***Канстанціна Заслонава***. Заслонаўцы рабілі міны, знешне падобныя на кавалкі вугалю, і падкідвалі іх на вугальныя склады, у тэндэры паравозаў. Брыкетна-вугальныя міны пры трапленні ў топкі вывелі са строю да 200 паравозаў, частка з якіх узарвалася на станцыі, а другая — на шляху да фронту. Гестапаўцы актыўна шукалі арганізатараў дыверсій. Калі ж навісла пагроза выкрыцця, Заслонаў з групай таварышаў сышоў з Оршы і ўзначаліў партызанскі атрад, які затым перарос у партызанскую брыгаду.

Смела і рашуча дзейнічалі падпольшчыкі на чыгуначным вузле Асіповічы. У ноч на 30 ліпеня 1943 года пуці адзін з кіраўнікоў падполля ***Фёдар Крыловіч***, працуючы на чыгуначнай станцыі ў начную змену, падклаў дзве магнітныя міны пад эшалон з гаручым, які павінен быў ісці ў напрамку Гомеля. Але немцы накіравалі эшалон у так званы Магілёўскі парк, дзе ў гэты час знаходзіліся яшчэ тры эшалоны з вогненебяспечнымі грузамі. Праз некаторы час

раздаўся выбух, гіганцкі агнявы слуп падняўся над станцыяй. Пажар перакінуўся на іншыя эшалоны, загружаныя ваеннай тэхнікай і боепрыпасамі. У выніку гэтай аперацыі былі цалкам знішчаны 4 эшалоны, у тым ліку адзін з танкамі «Тыгр», 31 цыстэрна з гаручым, 63 вагоны са снарадамі, авіябомбамі, мінамі.

**Вера Харужая.** Яркім, актыўным, поўным барацьбы за свабоду, гонар і незалежнасць роднай Беларусі было жыццё Веры Захараўны Харужай. Журналістка, падпольшчыца ў Заходняй Беларусі, яна 7 гадоў знаходзілася ў турме за падпольную дзейнасць. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны Вера пакінула на апеку маці і сястры двух сваіх малалетніх дзяцей і на чале групы дзяўчат накіравалася ў нямецкі тыл, у Віцебск, для арганізацыі падполля. Смелыя падпольшчыцы пасылалі камандаванню Чырвонай Арміі важныя звесткі. Фашысты напалі на іх след. У гестапаўскіх засценках загінулі Вера Харужая і яе таварышы па падполлі ***Соф'я Панкова***, ***Еўдакія Суранава***, ***Клаўдзія Балдачова***, ***Марыя***, ***Васіль*** і ***Агаф'я Вараб'ёвы***. Імем Героя Савецкага Саюза Веры Харужай названы вуліцы і плошчы ў Мінску, Віцебску, Мазыры, Бабруйску і іншых гарадах.

**Гераічная сям'я Гойшыкаў.** Сям'я Васіля Дзям'янавіча Гойшыка — ён сам, яго жонка Вольга Андрэеўна і 13-гадовы сын Коля — вяла актыўную барацьбу з фашыстамі ў Івацэвічах Брэсцкай вобласці. Васіль Дзям'янавіч патрапіў у рукі гітлераўцаў і быў закатаваны, але не выдаў падпольшчыкаў і падпольных явак. Коля, пасля таго як ворагі забілі яго бабулю і спалілі дом, пайшоў з маці да партызанаў, дзе стаў адважным сувязным і ўмелым падрыўніком. 23 сакавіка 1944 года партызанам стала вядома, што праз станцыю Івацэвічы ў напрамку Мінска павінен прайсці фашысцкі эшалон. Падарваць цягнік падахвоціліся Коля і яго баявы сябар Лёня Савошчык. Немцы ўзмоцнена ахоўвалі пуці, уздоўж насыпу хадзілі патрулі, у неба ўзляталі асвятляльныя ракеты. Непрыкметна падпаўзці і ўсталяваць выбухное ўстройства не ўдалося. Але вось паказаўся чыгуначны састаў, ён зусім блізка. Коля з мінай у руках кінуўся пад паравоз. Страшны выбух скалануў паветра, пад адхон паляцелі вагоны з варожымі танкамі, гарматамі, боепрыпасамі. Гэта быў восьмы, апошні ўзарваны эшалон Колі Гойшыка. У Івацэвічах, Ганцавічах, Мінску

ёсць вуліцы Колі Гойшыка. Яго імя носіць адна школа ў Івацэвіцкім раёне.

**Партызаны Бацькі Міная.** *Мінай Піліпавіч Шмыроў* быў удзельнікам грамадзянскай вайны (з 1917 па 1922 г.), у 1941 годзе ён узначаліў партызанскі атрад, а затым — 1-ю Беларускую партызанскую брыгаду. Народныя мсціўцы называлі яго паважліва, па-бацькоўску — Бацька Мінай. Мужна змагаліся з ворагам партызаны брыгады Бацькі Міная: яны пусцілі пад адхон 10 варожых эшалонаў, узарвалі 21 чыгуначны мост, знішчылі 116 аўтамашын і сотні гітлераўцаў. Народныя мсціўцы аднавілі савецкую ўладу на тэрыторыі 15 сельскіх Саветаў. Паміж Веліжам і Усвятамі яны стварылі так званыя Суражскія вароты, праз якія атрымлівалі зброю, боепрыпасы, накіроўвалі ў шэрагі Чырвонай Арміі тысячы савецкіх патрыётаў. Супраць партызанаў брыгады гітлераўцы кінулі вялікія сілы, але ліквідаваць партызанскую зону яны так і не змаглі. Фашысцкія карнікі спрабавалі захапіць камандзіра народных мсціўцаў жывым, але і гэта ім не ўдалося. Тады яны ўзялі ў заложнікі дзяцей партызанскага камандзіра і расстралялі іх. Партызаны Бацькі Міная гамілі фашысцкіх захопнікаў у іх тыле, а ў кастрычніку 1943 года яны злучыліся з савецкімі войскамі і прынялі ўдзел у вызваленні Беларусі ад гітлераўскіх акупантаў. Герою Савецкага Саюза М. Ф. Шмырову ў Віцебску ўстаноўлены бюст, створаны мемарыяльны музей, які носіць яго імя.

**Марат Казей.** Партызанскую клятву Марат Казей прыняў у 12 гадоў. Ён быў разведчыкам штаба партызанскай брыгады. Ужо ў першыя месяцы вайны фашысты павесілі яго маці Ганну Аляксандраўну за падпал арсенала і знішчэнне казармы з фашысцкімі салдатамі. Старэйшая сястра Ада разам з Маратам была ў партызанах. Пасля аднаго з баёў ёй ампутавалі абедзве адмарожаныя нагі. Ужо ў першым баі каля роднай вёскі Марат праявіў смеласць і мужнасць: быў паранены ў руку, але, нягледзячы на гэта, некалькі разоў хадзіў у атаку на ворага. Юны разведчык пранікаў у гарнізоны фашыстаў і здабываў для камандавання партызанаў каштоўныя звесткі. 11 мая 1944 года каля вёскі Хароміцкія Уздзенскага раёна Мінскай вобласці Марат быў акружаны карнікамі. Юны партызан адстрэльваўся да апошняга патрона. Затым, узяўшы гранату, ён пайшоў на ворагаў.

Марат гераічна загінуў, але гранатай знішчыў фашыстаў, якія яго акружылі. Герою Савецкага Саюза Марату Казею ў Мінску ўзведзены помнік.

**Пётр Міронавіч Машэраў.** Пасля заканчэння ў 1939 годзе Віцебскага педагагічнага інстытута Пётр Міронавіч Машэраў працаваў у Расонскай сярэдняй школе. Вайна перапыніла яго настаўніцкую працу. Ужо ў першыя ваенныя дні малады патрыёт узначаліў Расонскае падполле, у якое ўвайшлі яго вучні і настаўнікі. У 1942 годзе 24-гадовы Пётр Машэраў стаў камандзірам партызанскага атрада, а ў 1943 годзе — камісарам партызанскай брыгады. Для байцоў, партызанаў і падпольшчыкаў камісар Машэраў быў прыкладам мужнасці і адвагі. Ён быў двойчы паранены ў баі. У верасні 1943 года ўзначаліў Вілейскі падпольны абкам камсамола. У 1944 годзе за гераізм, праяўлены ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, П. М. Машэраў быў удастоены звання Героя Савецкага Саюза. Пасля вызвалення Беларусі ад фашысцкай акупацыі Пётр Міронавіч актыўна ўключыўся ў практычную дзейнасць па аднаўленні разбуранай вайной гаспадаркі рэспублікі. У 1965 годзе ён быў абраны першым сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі. Беларускі народ свята шануе памяць пра свайго слаўнага сына, мужнага партызана, патрыёта, Героя Савецкага Саюза і Героя Сацыялістычнай Працы Пятра Міронавіча Машэрава.

**Кірыл Пракопавіч Арлоўскі.** У цэнтры вёскі Мышкавічы Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці ўзведзены помнік мужнаму беларускаму патрыёту, партызану, Герою Савецкага Саюза і Герою Сацыялістычнай Працы Кірылу Пракопавічу Арлоўскаму. Ля падножжа помніка адлітыя з металу вінтоўка і плуг — сімвалы ратнай і мірнай працы адважнага воіна і нястомнага працаўніка. У 1942—1943 гадах Арлоўскі ўзначальваў спецатрад «Сокалы», які дзейнічаў у Мінскай і Брэсцкай абласцях. Байцы атрада пусцілі пад адхон 16 эшалонаў, падарвалі 41 аўтамашыну, 4 прамысловыя прадпрыемствы, 2 масты, разграмілі 2 гарнізоны ворага. У адным з баёў з фашыстамі камандзір быў цяжка паранены. Пазней, калі пачалася гангрэна, хірург В. А. Лякомцаў зрабіў Арлоўскаму «аперацыю»: з дапамогай навостранай і пракіпячонай у вадзе звычайнай слясарнай пілы былі ампутаваныя правая рука і тры пальцы на левай. Пры гэтым

мужны камандзір ні разу не застагнаў. У 1944 годзе Кірыл Пракопавіч узначаліў калгас «Рассвет» Магілёўскай вобласці і заставаўся яго нязменным старшынёй да канца свайго цяжкага, але яркага жыцця.




Помнік-абеліск воінам і партызанам
Вялікай Айчыннай вайны

На тэрыторыі Беларусі ў розны час Вялікай Айчыннай вайны дзейнічала 213 партызанскіх брыгад, якія аб’ядноўвалі 997 атрадаў, і 258 асобных атрадаў. Ва ўзброенай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў удзельнічала 374 тысячы партызанаў і 70 тысяч падпольшчыкаў. За тры гады гераічнай барацьбы ў тыле ворага патрыёты вывелі са строю больш за паўмільёна гітлераўцаў і іх паслугачоў, узарвалі і пусцілі пад адхон больш за 11 тысяч эшалонаў, знішчылі сотні мастоў, тысячы адзінак тэхнікі, захапілі мноства гармат, мінамётаў, кулямётаў, вінтовак і аўтаматаў праціўніка. За гераізм і адвагу больш за 120 тысяч партызанаў і падпольшчыкаў Беларусі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі, 88 з іх прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.



**1.** Чым тлумачыцца ўсенародны характар барацьбы супраць фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Беларусі? **2.** Раскажыце пра дзейнасць беларускіх падпольшчыкаў у гады фашысцкай акупацыі. **3.** Прывядзіце прыклады баявой дзейнасці партызанскіх атрадаў у Беларусі. **4.** Назавіце імёны вядомых вам кіраўнікоў і герояў партызанскага руху. Раскажыце пра подзвігі герояў-партызанаў.

## § 4. Гераізм і мужнасць у мірныя дні

Адгрымелі поўныя гора і пакут, мужнасці і гераізму гады Вялікай Айчыннай вайны. Але і ў мірныя дні на зямлі слаўных продкаў здзяйсняюцца і будуць здзяйсняцца гераічныя подзвігі.

**Самаадданасць Мішы Мароза.** У 1977 годзе навучэнец Аршанскага педагагічнага вучылішча Міхаіл Мароз разам з іншымі навучэнцамі працаваў на ўборцы бульбы ў калгасе «Прагрэс» на Віцебшчыне. На транспарцёры бульбаўборачнага камбайна ён заўважыў іржавы снарад, які рухаўся ў барабан агрэгата, пагражаючы жыццям працуючых. Міша хутка зняў яго са стужкі і кінуўся ў бок рова, але данесці не паспеў... Ратуючы іншых, ён загінуў сам. За мужнасць і самаадданасць Міхаіл Мароз пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі.

**Мужнасць воінаў-сапёраў.** Тысячы розных боепрыпасаў штогод абясшкоджваюць і знішчаюць адважныя воіны-сапёры. І кожнае абясшкоджванне — гэта мужнасць, подзвіг. Пры суцэльным размініраванні толькі Крупскага раёна Мінскай вобласці, Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці і пасёлка Цітаўка пад Бабруйскам было знішчана каля 84 тысяч выбухованебяспечных прадметаў, уведзена ў эксплуатацыю 3330 гектараў зямель. Велізарную працу выканалі сапёры на рэках Заходняя Дзвіна і Лучоса. З вады былі выцягнуты і знішчаны 2180 выбухованебяспечных прадметаў. На першым у гісторыі нашай арміі Усеармейскім афіцэрскім сходзе, які адбыўся 21 мая 1997 года, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўручыў першыя медалі нашай рэспублікі «За адвагу» мужным сапёрам: падпалкоўніку ***Л. Ласенка***, маёру ***С. Рудакову***, капітанам ***В. Гардзіевічу***, ***І. Касінскаму***, ***М. Палуянаву***, старшым лейтэнантам ***Ю. Залатапруду***, ***С. Чацверыкову***, ***Г. Шыфману***.

**Слаўныя беларускія касманаўты.** Са снежня 1973 года ў асваенне космасу ўключыліся беларускія лётчыкі-касманаўты ***П. І. Клімук*** і ***У. В. Кавалёнак***. Кожны палёт у космас — гэта подзвіг, які патрабуе ўсебаковай тэарэтычнай, практычнай і псіхалагічнай падрыхтоўкі, велізарнай працавітасці і выключнай мужнасці. Менавіта такія якасці і выявіліся ў слаўных сыноў Беларусі — лётчыкаў-касманаўтаў СССР, генералаў, двойчы Герояў Савецкага Саюза Пятра Ільіча Клімука і Уладзіміра Васільевіча Кавалёнка, якія здзейснілі па тры палёты ў космас у якасці камандзіраў касмічных караблёў.

**Вернасць воінскаму абавязку.** У снежні 1979 года кіраўніцтва СССР накіравала ў Дэмакратычную Рэспубліку Афганістан абмежаваны кантынгент сваіх войскаў. Афганская вайна савецкага народа, па сутнасці, стала першай у свеце вайной супраць распаўсюджвання міжнароднага тэрарызму, спробай спыніць апусканне трэцяга свету ў постцывілізаваны хаос. За дзесяць гадоў вайны больш за трыццаць з паловай тысяч салдат, сяржантаў і афіцэраў былі пасланы ў гэтую краіну і з Беларусі. Беларускія воіны годна выконвалі свой воінскі абавязак у Афганістане.

Пра Герояў Савецкага Саюза, якія першымі атрымалі гэта высокае званне ў Афганістане, — гвардыі старшых сяржантаў ***Аляксандра Міроненку*** і ***Мікалая Чэпіка*** — напісаны аповесці і апавяданні, вершы і песні...

Мікалай Чэпік з вёскі Май Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці загінуў у няпоўных 20 гадоў. 29 лютага 1980 года ўзвод дэсантнікаў паспяхова выканаў баявую задачу па знішчэнні варожага склада са зброяй і боепрыпасамі. Група, якую ўзначальваў Чэпік, падчас вяртання да сваіх была выяўлена і акружана. У няроўным баі многія гвардзейцы былі цяжка паранены, але працягвалі змагацца з ворагам. Мікалай адстрэльваўся да апошняга патрона, а калі скончыліся боепрыпасы, ён узяў апошнюю міну і, падпусціўшы да сябе варожую групу, падарваў яе, загінуў сам і знішчыў маджахедаў, якія акружылі яго. Адважны воін-дэсантнік да канца выканаў свой воінскі абавязак.

Загадам Міністра абароны Рэспублікі Беларусь гвардыі старшыя сяржанты Мікалай Пятровіч Чэпік і Аляксандр Рыгоравіч Міроненка навечна залічаны ў спісы асабовага складу 103-й гвардзейскай асобнай мабільнай брыгады.

Стойкасць і адвагу праявілі савецкія воіны ў жорсткім баі на вышыні 3234, абараняючы важную дарогу на поўдзень ад Кабула. Праціўнік абрынуў на вышыню масіраваны ракетны, артылерыйскі і мінамётны агонь. У гэтым баі асабліва вызначыўся беларус з Магілёва радавы ***А. А. Мельнікаў***. Самай страшнай была дванаццатая атака. Маджахеды кінулі асноўныя сілы на незмаўкальны кулямёт Мельнікава. Калі ж асколкам снарада кулямёт заклінавала, а ворагі былі ўжо зусім блізка, паранены кулямётчык пусціў у ход гранаты. І не хапіла ўсяго толькі некалькіх хвілін да прыбыцця падмацавання. Усе 39 адважных воінаў, якія змагаліся супраць амаль 300 маджахедаў, узнагароджаны ордэнамі, а Андрэю Мельнікаву пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Адным са славутых герояў небяспечнай і рызыкоўнай прафесіі верталётчыка быў маёр ***В. В. Шчарбакоў***, ураджэнец в. Казімірава Полацкага раёна Віцебскай вобласці. У Афганістане ён паспяхова здзейсніў 318 баявых вылетаў. У адзін з іх для выратавання акружаных маджахедамі дэсантнікаў, што апынуліся сярод высокіх скал, якія адусюль прастрэльваліся непрыяцелем, верталётчыкі Шчарбакова пайшлі на смяротную рызыку: праніклі да акружаных і вывезлі ўсіх у бяспечнае месца. А ў іншым баі, пасля нанясення трапнага ракетнага ўдару па агнявых пунктах праціўніка, адзін з верталётаў эскадрыллі быў пашкоджаны і здзейсніў вымушаную пасадку. Маджахеды спрабавалі захапіць авіятараў. Але нечакана для ворага Шчарбакоў пасадзіў свой верталёт, члены яго экіпажа выскачылі з машыны і аўтаматным агнём сарвалі каварныя намеры праціўніка. У лічаныя хвіліны ўсе выратаваныя ўзняліся ў паветра. Маёру Шчарбакову было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

**Герой Беларусі Уладзімір Карват.** Пры выкананні вучэбнага палёту 23 мая 1996 года ў 22 гадзіны 54 хвіліны самалёт падпалкоўніка Карвата ў выніку пажару стаў губляць кіраванне. Палёт праходзіў на вышыні 800 метраў над густанаселенай мясцовасцю. Падчас атрымання каманды на катапультаванне самалёт знаходзіўся над населенымі пунктамі Арабаўшчына і Вялікае Гацішча. Лётчык, нягледзячы на штосекундную небяспеку выбуху, застаўся ў кабіне сваёй машыны. Апошнія 14 секунд палёту падпалкоўнік Карват, выкарыстоўваючы мінімальныя магчымасці ўздзеяння на

самалёт, працягваў адводзіць яго ў бок ад вёскі. Коштам уласнага жыцця і дзякуючы лётнаму майстэрству ён не дапусціў падзення самалёта на населены пункт, чым выратаваў мноства чалавечых жыццяў.

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за мужнасць і гераізм, праяўленыя пры выкананні воінскага абавязку, падпалкоўніку Уладзіміру Мікалаевічу Карвату пасмяротна прысвоена званне «Герой Беларусі».

**Радзіма. Айчына.** Радзіма — гэта наша зямля, родная прырода, наша грамадства, гэта не толькі плоць, але і культура, дух народа.

Любоў да Радзімы — адно з самых прыгожых і высакародных пачуццяў чалавека. З першых імгненняў жыцця ў немаўляці зараджаецца любоў да маці. Далей ён спазнае родных і блізкіх, дом, край, выхоўваецца на звычаях і норавах свайго народа, меладычнасці яго песень, прыгажосці роднай прыроды. Францыск Скарына адзначаў, што «людзі, дзе нарадзіліся і ўскормлены, да таго месца вялікую любоў маюць». Адсюль, з «малой радзімы», бярэ вытокі любоў да Радзімы. У працэсе адукацыі, выхавання і працоўнай дзейнасці чалавек ад пачуццёвага ўспрымання родных мясцін і блізкіх людзей пераходзіць да ўсведамлення роднай мовы, культуры, традыцый і звычаяў народа, яго здзяйсненняў, да актыўнага служэнню яму і справе росквіту любімай Айчыны.

Паняцці «Радзіма», «Бацькаўшчына», «Айчына» аднолькавыя па сэнсе. Словы «Бацькаўшчына» і «Айчына» больш эмацыянальна ўзнёслыя і часцей ужываюцца ў выпадках, калі гаворка ідзе пра абарону. Сапраўдная любоў да Радзімы не залежыць ад велічы, багаццяў або дабрабыту краіны, гэтая любоў бескарыслівая і чыстая. Чалавек, які любіць сваю Радзіму, ганарыцца ёю, радуецца дасягненням або засмучаецца няўдачам, усяляк спрыяе яе росквіту і ніколі не пакіне ў бядзе.

Наша гісторыя пакінула мноства прыкладаў самаахвярнай любові, адданасці і вернага служэння Радзіме, мужнасці і гераізму, выяўленых пры абароне Айчыны. У гэтай гісторыі гонар, слава і доблесць нашых продкаў.

Ратныя справы воінаў заўсёды асабліва шанаваліся народам і дзяржавай. Выконваючы абавязак па абароне Айчыны, воіны ўступаюць у бой з ворагам, рызыкуючы сваім жыццём. Тут праяўляецца вышэйшы ўзровень маральнасці: гатоўнасць

аддаць жыццё дзеля выратавання родных і блізкіх, свайго дома, зямлі, народа, Айчыны падчас выканання свайго грамадзянскага абавязку.

**Грамадзянскасць і патрыятызм.** ***Грамадзянскасць*** — гэта ўсвядомленае і глыбока развітае пачуццё неабходнасці годна выконваць абавязкі грамадзяніна сваёй краіны.

***Патрыятызм*** — гэта адданасць і любоў да сваёй Айчыны, да свайго народа. Патрыятызм — вышэйшая ступень грамадзянскасці, выяўленая ў актыўнай дзейнасці на карысць любімай Радзімы.

Спакон веку ў беларускага народа нараджаліся, беражліва захоўваліся і шанаваліся патрыятычныя пачуцці, якія адлюстроўваюць яго інтарэсы па развіцці і саборнай абароне сваёй хаты, зямлі, Айчыны.

Патрыятызм у Рэспубліцы Беларусь агульнанацыянальны, ён пазбаўлены тэрытарыяльных, нацыянальных, эканамічных, палітычных, рэлігійных або іншых прэтэнзій або амбіцый і накіраваны на ўдасканаленне і абарону сваёй дэмакратычнай прававой дзяржавы.

**Памяць народа і ўзнагароды Радзімы.** Беларускі народ памятае і шануе сваіх выдатных прадстаўнікоў навукі, культуры, мастацтва, народных асветнікаў, грамадскіх і палітычных дзеячаў. Асаблівае месца ў памяці народа займаюць верныя сыны і дочкі беларускай зямлі, якія, не шкадуючы жыцця, са зброяй у руках заваёўвалі і адстойвалі нацыянальную незалежнасць, гонар і свабоду Радзімы.

На ўскраінах вёсак і ў цэнтрах гарадоў, на ажыўленых аўтамагістралях і сярод могілкавай цішыні ўзведзены сотні абеліскаў, манументаў, стэл і помнікаў мужным абаронцам Айчыны. На ўскраіне горада-героя Мінска рукамі ўдзячнага народа насыпаны курган Славы, а ў цэнтры сталіцы велічна ўзвышаецца манумент у гонар перамогі непакоранага беларускага народа над нямецкім фашызмам. У нашай сталіцы створаны Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, а ў горадзе Брэсце збудаваны музей-мемарыял абаронцам Брэсцкай крэпасці. У многіх гарадах Беларусі запалены Вечны агонь славы, арганізаваны Вахты памяці, у рэспубліцы створаны і дзейнічаюць сотні музеяў баявой славы. У Беларусі цяжка знайсці населены пункт, у якім бы не было вуліцы, плошчы або школы, якая носіць імя абаронцы нашай Радзімы.

Аддаючы належнае мужнасці, адвазе і самаадданасці, выяўленай пры абароне Бацькаўшчыны і выкананні абавязкаў воінскай службы, Радзіма ўзнагароджвае годных сыноў ордэнамі і медалямі.

Вышэйшым ордэнам у Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца ордэн Айчыны (трох ступеняў). Устаноўлены таксама ордэны Воінскай Славы, «За службу Радзіме» (трох ступеняў), «За асабістую мужнасць», Пашаны, а таксама медалі «За адвагу», «За адзнаку ў воінскай службе», «За адзнаку ў ахове грамадскага парадку», «За адзнаку ў ахове дзяржаўнай граніцы» і «За бездакорную службу» (трох ступеняў).

**Ордэны і медалі Рэспублікі Беларусь за абарону Айчыны і воінскую службу**



Медаль ГЕРОЯ БЕЛАРУСІ



Ордэн АЙЧЫНЫ I ступені



Ордэн АЙЧЫНЫ II ступені



Ордэн АЙЧЫНЫ III ступені



Ордэн ВОІНСКАЙ СЛАВЫ



Ордэн «ЗА СЛУЖБУ РАДЗІМЕ» I ступені



Ордэн «ЗА СЛУЖБУ РАДЗІМЕ» II ступені



Ордэн «ЗА СЛУЖБУ РАДЗІМЕ» III ступені



Ордэн «ЗА АСАБІСТУЮ МУЖНАСЦЬ»



Ордэн ПАШАНЫ



Медаль «За адвагу»



Медаль «За адзнаку ў воінскай службе»



Медаль «За адзнаку ў ахове грамадскага парадку»



Медаль «За адзнаку ў ахове дзяржаўнай граніцы»



Медаль «За бездакорную службу» І ступені



Медаль «За бездакорную службу» ІІ ступені



Медаль «За бездакорную службу» ІІІ ступені

Вышэйшай ступенню адзнакі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца званне «Герой Беларусі», якое прысвойваецца за выдатныя заслугі перад дзяржавай і народам, звязаныя з подзвігам, здзейсненым у імя свабоды, незалежнасці і росквіту Рэспублікі Беларусь. Асобам, удастоеным звання «Герой Беларусі», уручаецца медаль Героя Беларусі.



**1.** Раскажыце пра самаадданы подзвіг Мішы Мароза. **2.** Што вам вядома пра высакародную і небяспечную працу беларускіх воінаў-сапёраў? Якімі якасцямі павінен валодаць сапёр? **3.** Чаму праца ў космасе патрабуе вялікіх ведаў, выключнай працавітасці і велізарнай мужнасці? Раскажыце пра беларускіх касманаўтаў. **4.** Раскажыце пра гераізм воінаў-беларусаў у Афганістане. **5.** Раскажыце пра першага Героя Беларусі Уладзіміра Карвата і здзейснены ім подзвіг. **6.** Як вы разумееце словы «Радзіма», «Бацькаўшчына», «Айчына», «грамадзянскасць», «патрыятызм»? **7.** Як вы ставіцеся да воінскага абавязку? Растлумачце чаму.

# РАЗДЗЕЛ II
# Абарона Рэспублікі Беларусь

Найважнейшы прынцып знешняй палітыкі Беларусі — міралюбнасць. Разам з тым у свеце яшчэ захоўваюцца крыніцы ваеннай небяспекі, існуе верагоднасць узброенага сутыкнення. Рэальную пагрозу нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь уяўляе дэструктыўнае інфармацыйнае ўздзеянне на асобу, грамадства, дзяржаўныя інстытуты.

Каб гарантаваць правы і свабоды грамадзян, Рэспубліка Беларусь забяспечвае абарону сваёй незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці, канстытуцыйнага ладу. Абарона Рэспублікі Беларусь — найважнейшая функцыя дзяржавы і справа ўсяго народа.

Гатоўнасць да абароны Рэспублікі Беларусь у сучасных умовах — гэта не толькі ўмелае валоданне сваёй ваеннай спецыяльнасцю, але і ідэйная перакананасць у неабходнасці абароны сваёй Айчыны, наяўнасць ідэалагічнага імунітэту ад знешняй маніпуляцыі свядомасцю грамадзян.

## § 5. Войны і ваенныя канфлікты

З часу ўзнікнення дзяржаўнасці і да сёння людзі не навучыліся абыходзіцца без сілы або пагрозы прымянення сілы пры вырашэнні канфліктаў паміж народамі і краінамі. Гісторыя ведае шмат войнаў і ваенных канфліктаў. Навукоўцы падлічылі, што за апошнія 5,5 тысяч гадоў на зямлі было больш за 15 тысяч войнаў і толькі 300 гадоў людзі жылі ў міры. У войнах апошніх чатырох стагоддзяў загінулі:

XVII стагоддзе — 3 млн чалавек;

XVIII стагоддзе — больш за 5 млн чалавек;

XIX стагоддзе — 6 млн чалавек;

XX стагоддзе — больш за 70 млн чалавек.

Толькі за 50 апошніх гадоў у свеце ўспыхвалі лакальныя войны і ўзброеныя канфлікты больш за 250 разоў.



Апафеоз вайны. *Мастак В. Верашчагін*

Развіццё тэхнагеннай цывілізацыі прадугледжвае барацьбу за рынкі збыту, захоп новых сыравінных рэсурсаў і тэрыторый. Гэта правакуе войны як сродак вырашэння супярэчнасцей паміж дзяржавамі.

**Войны.** ***Вайна*** — грамадска-палітычная з'ява, якая ўяўляе сабой барацьбу дзяржаў, народаў, нацый сродкамі ўзброенага, эканамічнага, інфармацыйнага, псіхалагічнага або іншага насілля.

Стагоддзямі і тысячагоддзямі галоўным, а часта і адзіным элементам войнаў была ўзброеная барацьба. Праз узброенае насілле заваёўваліся тэрыторыі, скідваліся кіраўнікі, захопліваліся матэрыяльныя каштоўнасці.

Але мяняліся часы, мянялася і карціна войнаў. Сучасная вайна можа весціся і дасягаць сваіх мэт і без узброенай барацьбы. Усё больш значнымі становяцца эканамічныя, палітычныя, інфармацыйныя, ідэалагічныя, псіхалагічныя і іншыя супрацьборствы. Калі такія супрацьборствы набываюць празмерную маштабнасць, то яны, па сутнасці, становяцца войнамі, бо самастойна, без узброенай барацьбы, вырашаюць палітычныя мэты войнаў.

Прыкладам вайны без прымянення зброі можа служыць так званая халодная вайна кааліцыі дзяржаў супраць СССР. Коштам велізарных высілкаў, пакут і страт Савецкі Саюз атрымаў перамогу над фашысцкай Германіяй, якая вераломна напала на яго. Але ў выніку доўгатэрміновага комплекснага палітычнага, эканамічнага, інфармацыйна-псіхалагічнага і іншага ўздзеяння, якое ажыццяўлялася ў пасляваенны час, савецкія войскі пакінулі пераможаную ў Вялікай Айчыннай вайне Германію, а сам Савецкі Саюз распаўся, прайграўшы «халодную вайну».

На мяжы XX—XXI стагоддзяў усё больш значным і небяспечным для чалавецтва становіцца інфармацыйна-псіхалагічнае супрацьборства. Яго прадметам з'яўляецца свядомасць не толькі воінаў, але і насельніцтва праціўніка, а асноўным сродкам — інфармацыйная зброя.

**Узброеная барацьба**. У выпадку прымянення супрацьлеглымі бакамі сродкаў узброенай барацьбы ўзнікаюць *ваенныя канфлікты*, *узброеныя канфлікты*, *войны*.

Пад *ваенным канфліктам* маецца на ўвазе любое ваеннае супрацьборства: войны рознага маштабу з прымяненнем сродкаў узброенай барацьбы, памежныя ўзброеныя канфлікты або ўзброеныя сутыкненні ў межах тэрыторыі адной дзяржавы, ваенныя акцыі, дэманстрацыйна-правакацыйныя дзеянні і іншыя формы прымянення ваеннай сілы.

*Міжнародны ваенны канфлікт* выяўляецца ў форме ўзброенай акцыі або ўзброенага сутыкнення паміж дзяржавамі ў асобным раёне (рэгіёне).

*Унутраны ваенны канфлікт* — ваеннае супрацьборства ў межах адной дзяржавы. Ён характарызуецца небяспекай трансфармацыі ў лакальную або грамадзянскую вайну, складаным сацыяльна-палітычным становішчам, шырокім выкарыстаннем нетрадыцыйных (партызанскіх) метадаў вядзення баявых дзеянняў, высокім уключэннем у яго мясцовага насельніцтва.

*Узброены канфлікт* — разнавіднасць ваеннага канфлікту, якая характарызуецца непасрэдным прымяненнем сродкаў узброенай барацьбы.

Шырокамаштабны ўзброены канфлікт — гэта вайна. У вайне мэты, якія праследуюцца бакамі, і сродкі, якія прымяняюцца, ужо не так абмежаваны, як ва ўзброеным

канфлікце. *Не ўсякі ўзброены канфлікт з'яўляецца вайной, але ўсякая вайна з прымяненнем сродкаў узброенай барацьбы — гэта ўзброены канфлікт.*

**Класіфікацыя ваенных канфліктаў**. Сучасныя ваенныя канфлікты (войны) у адпаведнасці з ваенна-палітычнымі мэтамі, прыменнымі сродкамі ўзброенай барацьбы і маштабамі ваенных дзеянняў класіфікуюцца:

Паводле ваенна-палітычных мэт:

- справядлівыя, гэта значыць тыя, якія не супярэчаць Статуту ААН, асноватворным прынцыпам і нормам міжнароднага права, што вядуцца ў парадку самаабароны бокам, які падвергся нападу;
- несправядлівыя, гэта значыць тыя, якія супярэчаць Статуту ААН, асноватворным прынцыпам і нормам міжнароднага права, падпадаюць пад вызначэнне агрэсіі і вядуцца бокам, што распачаў напад.

Паводле прыменных сродкаў:

- з прымяненнем ядзернай і іншых відаў зброі масавага знішчэння;
- з прымяненнем толькі звычайных сродкаў паражэння.

Паводле маштабаў ваенных дзеянняў:

- сусветныя;
- лакальныя (рэгіянальныя).

**Трансфармацыя зместу ўзброенай барацьбы**. Удасканаленне крэпасцяў і катапультаў, мячоў і даспехаў; вынаходства пораху; выкарыстанне кавалерыі і артылерыі, танкаў і самалётаў; стварэнне агнястрэльнай, ракетна-ядзернай і іншай зброі — усё гэта непазбежна прыводзіла да змен у змесце ўзброенай барацьбы. Тым не менш усе папярэднія войны характарызуюцца як кантактныя і сіметрычныя, г. зн. зброя — супраць зброі, сіла — супраць сілы, формы і спосабы вядзення баявых дзеянняў — супраць амаль аналагічных формаў і спосабаў. У Першай і Другой сусветных войнах пераважалі пазіцыйныя формы барацьбы, паміж супрацьлеглымі бакамі праходзіла лінія фронту, зрокава ўсведамляліся фронт і тыл.

З канца XX стагоддзя ўзброеная барацьба зведала істотныя змены.

Важнейшай асаблівасцю сучаснай узброенай барацьбы з'яўляецца шырокае прымяненне некантактных дзеянняў,

калі ўдары наносяцца без уваходу носьбітаў у зону паражэння. У войнах новага пакалення вырашальная роля адводзіцца не вялікай колькасці сухапутных войскаў, не ядзернай, а высокадакладнай зброі рознага базіравання і зброі на новых фізічных прынцыпах.

Адметнай рысай сучаснай узброенай барацьбы з'яўляецца шырокае прымяненне мабільных сіл і войскаў спецыяльнага прызначэння. Усё большае значэнне набываюць дзеянні сіл спецыяльных аперацый і ірэгулярных войскаў, тэрарыстычныя акцыі. У сучаснай вайне можа не быць адзінай лініі фронту. Праціўніка быццам бы і няма, але ён паўсюль і здольны выяўляць вытанчанасць у нанясенні выбраных удараў па жыццёва важных аб'ектах.

Вялікае значэнне ў сучасных і будучых войнах надаецца інфармацыйнай зброі, накіраванай як супраць узброеных сіл, так і супраць усяго насельніцтва праціўніка. Усё больш відавочным становіцца сціранне граняў паміж ваеннымі і неваеннымі сродкамі барацьбы. Высокая эфектыўнасць сродкаў інфармацыйнай вайны ў спалучэнні з выкарыстаннем высокадакладнай зброі дазваляе дэзарганізоўваць сістэму дзяржаўнага кіравання, прыгнечваць маральны дух насельніцтва.



**1.** Якія формы супрацьборства, акрамя ўзброенай барацьбы, выкарыстоўваюцца ў сучасных войнах? Што такое вайна? **2.** Што такое ваенны канфлікт і ўзброены канфлікт? **3.** Як класіфікуюцца ваенныя канфлікты ў адпаведнасці з ваенна-палітычнымі мэтамі, прыменежнымі сродкамі і маштабамі ваенных дзеянняў? **4.** Якія асаблівасці сучаснай узброенай барацьбы?

## § 6. Інфармацыйна-псіхалагічнае супрацьборства

**Паняцце, гісторыя псіхалагічнага супрацьборства.** Практычна ва ўсіх войнах, якія ведала чалавецтва, перамога дасягалася не толькі праз прымяненне зброі, але і іншымі шляхамі, у тым ліку і мэтанакіраваным псіхалагічным уздзеяннем на непрыяцеля.

Вядома, што ў 1245 годзе да нашай эры Гедэон, каб дасягнуць перамогі над мядзянамі, выкарыстаў тое, што сёння называецца псіхалагічнай вайной. Паводле звычаяў таго часу

на кожную сотню воінаў адводзіліся трубач і факельшчык. Уначы ён загадаў сваім салдатам адначасова запаліць каля 300 свяцільняў. Мядзяне, вырашыўшы, што супраць іх выступае вялікае войска, у жаху ўцяклі.

Прыкладна 500 гадоў да нашай эры вялікі кітайскі палкаводзец Сунь-Цзы пісаў, што вяршыняй ваеннага майстэрства з'яўляецца заваяванне праціўніка без бітвы. У сваім трактаце «Мастацтва вайны» ён пісаў: «Заваяванне без бітваў — найлепшае заваяванне, вайна без ваенных дзеянняў — найлепшая вайна».

У гісторыі захаваліся звесткі аб выкарыстанні манголамі такога сродку, як запалохванне свайго праціўніка. На старадаўняй французскай гравюры намалявана баявая крэпасць на чатырох сланах. Для вядзення баявых дзеянняў дадзенае прыстасаванне было непрактычнае, але яно з'яўлялася важным фактарам псіхалагічнай вайны, наводзячы жах на праціўніка.

Манголы выкарыстоўвалі і яшчэ больш страшны сродак запалохвання праціўніка — забіваючы большую частку палонных, яны складалі іх галовы ў піраміду, а затым асляплялі тых, што засталіся ў жывых, і адпускалі іх у разліку на тое, што сляпыя сваімі апавяданнямі будуць выклікаць жах.

Прыклады псіхалагічнага ўздзеяння з мэтай падрыву маральнага духу праціўніка можна сустрэць практычна ўсюды, дзе выкарыстоўвалася ваенная сіла. Але на працягу стагоддзяў гэта былі невялікія па маштабах дзеянні, якія не мелі вырашальнага значэння.

Са з'яўленнем друкаванай прадукцыі становішча змянілася. Газеты і часопісы адкрылі шырокія магчымасці для мэтанакіраванага ўплыву на думкі, пачуцці, паводзіны велізарных мас людзей з мэтай дасягнення выгод для краіны, якая вядзе прапаганду. З гэтай бяскроўнай і бясшумнай, але ўжо даволі магутнай зброяй сталі лічыцца.

У Першую сусветную вайну псіхалагічнае ўздзеянне на праціўніка ператварылася ў спецыяльны від зброі, які эфектыўна дапамагаў дзеючым войскам выконваць баявыя задачы.

У гады Другой сусветнай вайны тэорыя і практыка псіхалагічнага ўздзеяння атрымалі далейшае развіццё. Кіраўніцтва фашысцкай Германіі разглядала прапаганду як адзін з вырашальных фактараў паспяховага вядзення вайны.

Усе інфармацыйна-псіхалагічныя мерапрыемствы каардынаваліся Міністэрствам прапаганды Германіі, якое фарміравала адпаведную задумам фашысцкага кіраўніцтва грамадскую думку ўнутры краіны і за мяжой. Для рэалізацыі гэтых мэт у фашысцкай Германіі было мабілізавана каля 25 000 прапагандыстаў і 2500 спецыяльных супрацоўнікаў, якія дзейнічалі ў 45 краінах. Нямецкая прапаганда падкрэслівала жорсткасць вайны і наўмысна перабольшвала моц сваіх узброеных сіл.

**Інфармацыйна-псіхалагічнае супрацьборства**. На сучасным этапе развіцця цывілізацыі ключавую ролю ў жыцці людзей мае інфармацыя. Магчымасць хуткага абмену палітычнай, эканамічнай, навукова-тэхнічнай і іншай інфармацыяй, прымяненне новых інфармацыйных тэхналогій ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, несумненна, з'яўляюцца, безумоўна, карыснымі. Але падобна таму, як хуткі прамысловы рост стварыў пагрозу экалогіі Зямлі, а поспехі ядзернай фізікі спарадзілі небяспеку ядзернай вайны, так і інфарматызацыя зрабілася крыніцай пагрозы для людзей. Не паспела сусветная супольнасць паставіць надзейную заслону выпрабаванням, распаўсюджванню і прымяненню ядзернай зброі, як сустрэлася з новай глабальнай пагрозай бяспекі — інфармацыйнай зброяй.

Як толькі быў вынайдзены спосаб перадачы інфармацыі на адлегласці з дапамогай радыёхваляў, ён тут жа быў выкарыстаны з ваеннымі мэтамі. У ходзе Руска-японскай вайны радыё выкарыстоўвалася для кіравання караблямі, перадачы тэрміновай інфармацыі, карэкціроўкі агню артылерыі. Тады ж зарадзілася і радыёэлектронная барацьба. Тым не менш радыёсродкі ў той час у асноўным прымяняліся для забеспячэння сувязі, выяўлення каналаў сувязі праціўніка і перахопу інфармацыі, якая перадавалася па іх.

Інфармацыйна-псіхалагічная барацьба, якая раней забяспечвала баявыя дзеянні, сёння ўжо трансфармавалася ў самастойны від войнаў і здольная вырашаць стратэгічныя задачы геапалітычнага ўзроўню. Разам з тым агрэсіўная інфармацыйна-псіхалагічная барацьба сама спараджае лакальныя войны і ўзброеныя канфлікты.

Велізарная небяспека інфармацыйна-псіхалагічнай зброі заключаецца і ў абязлічаным характары яе прымянення, што дазваляе весці наступальныя дзеянні ананімна, нават

без абвяшчэння вайны. Да таго ж забараніць распрацоўку і выкарыстанне такой зброі (як гэта зроблена, напрыклад, у дачыненні да хімічнай або бактэрыялагічнай зброі) наўрад ці магчыма.

***Інфармацыйна-псіхалагічнае супрацьборства*** — гэта барацьба паміж дзяржавамі і іх ўзброенымі сіламі за дасягненне перавагі ў галіне атрымання, апрацоўкі і давядзення інфармацыі да праціўніка, маральнага і псіхалагічнага ўздзеяння на яго ў інтарэсах дасягнення палітычных і ваенных мэт.

**Формы і метады маніпуляцыі свядомасцю.** Тэхнічны прагрэс даў у рукі маніпулятараў свядомасцю і ўчынкамі людзей новыя эфектыўныя інструменты, якія ніколі раней не выкарыстоўваліся. Перш за ўсё гэта тэхналогіі, якія абапіраюцца на сродкі масавай інфармацыі (СМІ). Ад газетнага аркуша зроблены крок да спадарожнікавага тэлебачання і інтэрнэта. Сёння, калі больш за 99 % інфармацыі чалавек атрымлівае праз СМІ, пры іх дапамозе можна давесці да кожнага жаданую інфармацыю, прычым немагчыма праверыць яе праўдзівасць і ўжо тым больш прааналізаваць яе ўздзеянне. Для гэтага ў краіне, якая падвяргаецца ідэалагічнай экспансіі, нароўні з сусветнымі выкарыстоўваюцца яе ж уласныя СМІ.

Галоўнай прычынай поспеху маніпуляцыі з’яўляецца тое, што ў пераважнай большасці выпадкаў чалавек не жадае траціць ні час, ні душэўныя сілы на тое, каб проста ўсумніцца ў паведамленнях, якія яму прапаноўваюцца. Для падачы хлусні наймаюцца людзі, якія маюць аўтарытэт у грамадстве, — любімыя артысты, паважаныя акадэмікі, «непадкупныя» паэты-бунтары або прыгожыя дзяўчаты — для кожнай катэгорыі насельніцтва выкарыстоўваецца свой аўтарытэт. Інфармацыя падаецца з розных крыніц, малымі дозамі і на пабытавым узроўні. Такім чынам атрымоўваецца пазбаўляць людзей самастойнага мыслення.

Для ўзмацнення ўздзеяння на падсвядомасць выкарыстоўваюцца эмоцыі чалавека, і самая моцная з іх — страх. Шырока прымяняецца тэхналогія падачы сенсацыі. Хлусня, падмацаваная страхам, абавязкова забяспечваецца зрокавым вобразам. Паведамленні падаюцца ў вялікай плыні, без пераходу паміж імі, інфармацыя аб масавай гібелі людзей раптоўна змяняецца паказам моды, праўда змешваецца з хлуснёй. У выніку чалавек не паспявае прааналізаваць

паказаную інфармацыю, яго мозг захоплены ўжо іншай інфармацыяй, процілеглай па накіраванасці. У плынь сапраўды праўдзівых паведамленняў устаўляюцца лжывыя, якія асядуць у памяці чалавека, не падвяргаючыся аналізу. Неўзабаве крыніца інфармацыі забудзецца, а ў мозгу ўтворацца ўстойлівыя перакананні і стэрэатыпы, якія не адпавядаюць рэчаіснасці.

Сталі распрацоўвацца і рэалізоўвацца новыя тыпы войнаў. Вось прыкладны сцэнарый такой вайны.

***Па-першае***, сродкі масавай інфармацыі напаўняюцца паведамленнямі аб парушэнні правоў чалавека і дыктатуры ў краіне — ахвяры агрэсіі. Улада паказваецца злачыннай, карумпаванай, дыктатарскай.

***Па-другое***, ствараецца «віртуальная» ідэалогія. Сапраўдныя інтарэсы народа замяняюцца іншымі, якія спецыяльна ствараюцца і распаўсюджваюцца СМІ.

***Па-трэцяе***, у краіне — ахвяры агрэсіі вырошчваецца і падтрымліваецца апазіцыя. Яна забяспечваецца грашыма, малюецца пазітыўнай і дэмакратычнай, здольнай «выключна мірнымі сродкамі» палепшыць жыццё народа.

***Па-чацвёртае***, рыхтуюцца «баевікі» апазіцыі. Для гэтага нелегальна або пад выглядам грамадскіх арганізацый любой скіраванасці ідзе іх навучанне. Праводзяцца семінары і круглыя сталы, дзе выяўляюцца людзі, гатовыя за грошы выконваць чорную працу па расхістванні і захопе ўлады. Прыцягваюцца інструктары і найміты з іншых краін.

***Па-пятае***, ініцыююцца і арганізуюцца масавыя сходкі і шэсці-пратэсты людзей, «абураных тыраніяй і бяспраўем». Удзельнікаў такіх акцый падбухторваюць да беспарадкаў і пагромаў. У патрэбны момант уступаюць у дзеянне «баевікі», якія павінны захапіць уладу і перадаць яе новаму ўраду, падкантрольнаму праціўніку.

Такім чынам, без баявых дзеянняў і знішчэння ўзброеных сіл мэты вайны могуць быць дасягнуты. Калі ж падобны сцэнарый тармозіцца, то рэалізоўваецца наступны — міратворчыя сілы ўводзяць свае войскі на тэрыторыю, дзе ўжо штучна створана гуманітарная катастрофа. Улада плаўна перацякае да больш моцнага праціўніка. Такія сцэнарыі ўжо былі рэалізаваны на Балканах, у Іраку, Егіпце, Лівіі ці пад выглядам «аксамітных рэвалюцый» — у шэрагу дзяржаў постсавецкай прасторы.

Комплекс захадаў інфармацыйна-псіхалагічнага ўздзеяння на войскі і насельніцтва праціўніка абазначаецца тэрмінам «псіхалагічныя аперацыі». У арміях НАТА дзейнічае агульная дырэктыва «Аб прынцыпах планавання і вядзення псіхалагічных аперацый». На думку ваенна-палітычнага кіраўніцтва блока НАТА, такія аперацыі ўяўляюць сабой эфектыўную зброю, прымяненне якой дапаможа наогул адмовіцца ад ваеннай сілы.

Псіхалагічныя аперацыі падзяляюцца на стратэгічныя, аператыўныя і тактычныя.

***Стратэгічныя псіхалагічныя аперацыі*** праводзяцца ў глабальным маштабе для дасягнення доўгатэрміновых мэт, у інтарэсах стварэння спрыяльнай псіхалагічнай абстаноўкі для вядзення баявых дзеянняў.

***Аператыўныя псіхалагічныя аперацыі*** ажыццяўляюцца ў пэўных рэгіёнах і пераследуюць сярэднетэрміновыя мэты па падтрымцы ваенных кампаній або буйных ваенных аперацый.

***Тактычныя псіхалагічныя аперацыі*** рэалізуюцца з кароткатэрміновымі мэтамі і накіроўваюцца на падтрымку баявых дзеянняў войскаў у тактычным звяне. Псіхалагічныя аперацыі ўсіх узроўняў, пры іх адначасовым ажыццяўленні, складаюць адзіны цэласны комплекс узаемазвязаных мерапрыемстваў. Яны плануюцца і праводзяцца на аснове рашэнняў галоўнакамандуючых, камандуючых і камандзіраў розных рангаў у мірны і ваенны час.

Пры вядзенні баявых дзеянняў асноўнымі задачамі псіхалагічных аперацый лічацца: перакананне грамадскай думкі ў правільнасці і неабходнасці ваеннага ўмяшання; уздзеянне на ваенна-палітычнае кіраўніцтва праціўніка і яго саюзнікаў з мэтай прымусіць іх адмовіцца або ўстрымацца ад уступлення ў вайну; падтрымка ўнутры краіны праціўніка апазіцыі, сіл супраціўлення, расавых, этнічных, рэлігійных і іншых супярэчнасцей, падрыў даверу да кіраўніцтва краіны. Псіхалагічныя аперацыі могуць садзейнічаць у захопе населеных пунктаў праціўніка шляхам прад'яўлення ўльтыматумаў і перадачы заклікаў да капітуляцыі, а таксама супрацьдзейнічаць псіхалагічным аперацыям праціўніка.

**Войны ў сферы сэнсаў.** Ужо ў другой палове мінулага стагоддзя людзі сталі разумець, што ракетна-ядзерная вайна

можа знішчыць чалавецтва. «Хто першым выкарыстае ядзерную зброю, загіне другім, нават не атрымаўшы ў адказ ўдару», — сфармуляваў сітуацыю, якая склалася ў свеце, акадэмік М. М. Маісееў. Чалавечы мозг пачаў вынаходзіць новыя «гуманныя» механізмы барацьбы, якія дазваляюць ажыццяўляць экспансію новымі, больш бяспечнымі метадамі, што прыносяць максімальны прыбытак. У выніку разам са звыклымі відамі баявых дзеянняў узніклі новыя канцэпцыі войнаў. Такія канцэпцыі, выкарыстоўваючы сучасныя інфармацыйныя і псіхалагічныя тэхналогіі, прадугледжваюць дасягненне мэт вайны шляхам уздзеяння на розум праціўніка, што значна больш выгадна, чым увязвацца ў глабальную вайну з непрадказальнымі наступствамі.

Сёння гаворка ідзе ўжо не пра ўплыў на свядомасць, а пра кардынальную дэфармацыю свядомасці людзей. Прычым некаторыя тыпы свядомасці проста вынішчаюцца, а людзі, наадварот, пасля перабудовы іх свядомасці могуць быць захаваны.

Войны ў сферы сэнсаў (кансцыентальныя вайны, ад лацінскага слова «свядомасць») амаль незаўважныя, але выключна разбуральныя і праводзяцца не толькі ў ваенны, але і ў мірны час. Дабро і зло, гонар і ганьба, прыгажосць і бязладдзе, калектывізм і індывідуалізм, сяброўства, сумленне, узаемадапамога — сэнс гэтых уяўленняў падвяргаецца нападу і перагляду. Дэфармуецца або знішчаецца інтэлектуальны рэсурс нацыі, руйнуюцца каштоўнасныя ўстаноўкі насельніцтва праціўніка. У такіх войнах знішчаецца культура.

Сутнасць падобнай вайны яшчэ ў 1945 годзе на адным з сакрэтных пасяджэнняў выклаў дырэктар ЦРУ ЗША Ален Далес:

«Пасеяўшы там хаос, мы незаўважна падменім іх каштоўнасці на падманныя і прымусім іх у гэтыя падманныя каштоўнасці верыць. Як? Мы знойдзем сваіх аднадумцаў, сваіх памочнікаў і саюзнікаў у самой Расіі. Эпізод за эпізодам будзе разыгрывацца грандыёзная па сваім маштабе трагедыя гібелі самага непакорнага на зямлі народа, канчатковага, незваротнага згасання яго самасвядомасці… Мы будзем усяляк падтрымліваць і ўзнімаць так званых мастакоў, якія стануць укараняць і ўдзёўбваць у чалавечую свядомасць культ сексу, насілля, садызму, дысідэнцтва, словам, усялякай распусты. У кіраванні дзяржавай мы створым хаос і блытаніну…

Мы будзем уплываць на людзей з дзіцячых, юнацкіх гадоў, будзем заўсёды рабіць галоўную стаўку на моладзь, станем разлагаць, разбэшчваць, гвалтаваць яе. Мы зробім з іх агентаў нашага ўплыву.

Пакуль існуе з пяціканцовай зоркай на лбе савецкі салдат і чалавек са значком камсамола на грудзях, мы не зможам пакарыць Савецкі Саюз. Трэба мяняць метады барацьбы супраць чырвоных, а для гэтага неабходна ўкласці ў псіхалогію савецкага грамадзяніна нашу прапаганду, гэта значыць змяняць псіхалогію іх, пачынаючы з калыскавага ўзросту. У першую чаргу неабходна прыбраць з экрана савецкае кіно, са сцэны — тэатр, ударыць па школьных установах і ВНУ, стварыць паніку ў органах дзяржаўнай улады, пачынаючы з Крамля, з такім разлікам, каб кіраўнікі ўладных структур больш спрачаліся між сабой. Варожасць паміж нацыямі ў СССР разваліць яго як картачны дом. Пасля гэтага мы ўдарым па эканоміцы».

Стратэгія сэнсавых войнаў прадугледжвае ўздзеянне па ўсіх адрасах — асоба, група і грамадства ў цэлым, свядомасць і падсвядомасць людзей. Вайна ў сферы сэнсаў ставіць мэтай глабальную перабудову базавых каштоўнасцей і светаадчування людзей.

Гэта значыць, што цяпер войны могуць праходзіць не толькі ў прасторы, але і ў іншым вымярэнні — у свядомасці людзей і за іх душы. *У гэтым сутнасць сучасных войнаў у сферы сэнсаў.*



**1.** Назавіце вядомыя вам прыклады псіхалагічнага ўздзеяння на воінаў працаўніка. **2.** Чаму інфарматызацыя стала крыніцай бяспекі людзей? **3.** У чым заключаецца маніпуляцыя свядомасцю людзей? **4.** Якія асноўныя задачы ставяцца ў арміях НАТА перад псіхалагічнымі аперацыямі? **5.** Што такое войны ў сферы сэнсаў?

## § 7. Процідзеянне інфармацыйна-псіхалагічнай агрэсіі

**Спосабы супрацьдзеяння інфармацыйна-псіхалагічнай агрэсіі.** Неабходна зыходзіць з прынцыпу, што лжэгуманная інфармацыйна-псіхалагічная вайна, у якой не гінуць войскі,

а прыгнятаецца воля, дэфармуецца свядомасць і знішчаецца культура праціўніка, нічога агульнага не мае з сапраўднай гуманнай барацьбой людзей за мір. Інфармацыйна-псіхалагічная агрэсія такая ж бесчалавечная і злачынная, як і ўзброеная агрэсія, але вядзецца яна больш вытанчанымі метадамі.

***Інфармацыйна-псіхалагічны ціск на іншыя краіны і народы — гэта агрэсія.*** У інфармацыйна-псіхалагічнай вайне дзяржава-агрэсар павінна класіфікавацца як краіна, якая вядзе несправядлівую вайну.

***Супрацьдзеянне інфармацыйна-псіхалагічнаму ціску з'яўляецца вымушаным і неабходным.*** У інфармацыйна-псіхалагічнай вайне дзяржава, на якую накіравана агрэсія, павінна класіфікавацца як краіна, што вядзе справядлівую вайну.

У свеце існуе значная колькасць ідэалогій, гэта значыць сістэм філасофскіх, палітычных, эканамічных, маральных, рэлігійных, эстэтычных і іншых поглядаў і ідэй. З мэтай фарміравання ў грамадзян пэўнага светапогляду дзяржава ўкараняе ў грамадскую свядомасць мас пануючую ў краіне ідэалогію, праводзіць ідэалагічную прапаганду. У інфармацыйна-псіхалагічным супрацьборстве дзяржава-агрэсар мае на мэце разбурыць дзяржаўную ідэалогію праціўніка метадамі маніпуляцыі свядомасцю або кардынальнай дэфармацыі свядомасці насельніцтва, падмяніць яе іншай, выгаднай для сябе ідэалогіяй. Галоўнай жа мэтай інфармацыйна-псіхалагічнай агрэсіі з'яўляецца падпарадкаванне іншай дзяржавы свайму ўплыву, захоп новых рынкаў збыту і сыравінных рэсурсаў.

Асноўнымі спосабамі супрацьдзеяння інфармацыйна-псіхалагічнай агрэсіі з'яўляюцца:

- фарміраванне ў грамадстве патрыятызму, аб'яднанне грамадства і ўмацаванне яго маральнага духу;
- прапаганда ідэалогіі і дасягненняў у развіцці сваёй дзяржавы;
- дасканалае вывучэнне грамадскай думкі і яе ўлік у дзейнасці дзяржаўных і грамадскіх структур, стварэнне спрыяльнай для сваёй краіны грамадскай думкі;
- пастаяннае адсочванне падзей, якія адбываюцца ў свеце, абмеркаванне найбольш вострых пытанняў;

• вычляненне лжывых паведамленняў з агульнай інфармацыйнай плыні; раскрыццё хлусні прапаганды праціўніка і кампраметацыя яго інфармацыйнай сеткі;

• разбурэнне варожай ідэалогіі, паказ яе слабых бакоў, накіраванасці і мэт;

• паказ праблем і цяжкасцей, з якімі сустракаюцца «паспяховыя» краіны.

Асаблівую ўвагу ў супрацьдзеянні інфармацыйна-псіхалагічнай агрэсіі неабходна накіраваць на моладзь, паколькі праз малы жыццёвы вопыт яна менш абаронена ад вытанчанай прапаганды, накіраванай на разбурэнне нашай дзяржавы.

**Контрпрапаганда і стварэнне незалежнай інфармацыйнай прасторы.** Контрпрапаганда — гэта супрацьдзеянне дэструктыўнаму інфармацыйнаму ўздзеянню на асобу, грамадства і дзяржаўныя інстытуты краіны. У Беларусі контрпрапаганда праводзіцца ў цеснай сувязі і ва ўзаемадзеянні з прапагандай дзяржаўнай ідэалогіі і дасягненняў у развіцці рэспублікі.

Абарончая складовая контрпрапаганды выкрывае ілжывасць, недакладнасць, наўмыснае скажэнне фактаў у інфармацыі, якая падаецца. Наступальная складовая можа ўтрымліваць паказ праблем і цяжкасцей, якія маюцца ў самой краіне — інфармацыйным агрэсары. Галоўнае ў контрпрапагандзе — дакладныя факты, пераканаўчая статыстыка і юрыдычная абгрунтаванасць.

Прыкладам актыўнага супрацьдзеяння інфармацыйнай агрэсіі можа быць контрпрапаганда, якая праводзілася ў Рэспубліцы Беларусь пасля правалу змовы па звяржэнні ўлады ў снежні 2010 года.

Пацярпеўшы сакрушальнае паражэнне на прэзідэнцкіх выбарах 19 снежня, некаторыя экс-кандыдаты ў прэзідэнты паспрабавалі захапіць уладу гвалтоўна. Змова з дапамогай замежных спецслужбаў і пры фінансавай падтрымцы некаторых заходніх структур рыхтавалася загадзя. Ледзь закрыліся выбарчыя ўчасткі, як інтэрнэт-сайт «Хартыя-97» паспяшаўся паведаміць карыстальнікам ашаламляльную вестку аб тым, што адзін з кандыдатаў у прэзідэнты заявіў пра падзенне «рэжыму Лукашэнкі» і абвясціў пра стварэнне «ўрада народнага выратавання». А ў гэты

час «баевікі» разбуралі дзверы і вокны Дома ўрада. Да 23 гадзін супрацоўнікі міліцыі выціснулі ўсіх удзельнікаў несанкцыянаванага зборышча з Плошчы Незалежнасці, а найбольш агрэсіўных правапарушальнікаў затрымалі. А далей?

А далей усталёўвалася ісціна, якая адкрыта і сумленна даводзілася да людзей. Па канале беларускага тэлебачання быў паказаны фільм «Плошча. Жалезам па шкле». У фільме дакументальна была прадстаўлена ўся дынаміка няўдалага путчу: планаванне змовы, грошы еўрапейскіх фондаў, заклікі ісці на «плошчу», азвярэлыя твары падвыпітых малойчыкаў і бой шкла. Пра палітычную змову і яе наступствы гаварылася па радыё. У газетах з'явіліся артыкулы, дакументальныя здымкі, водгукі на падзеі абураных грамадзян. Газета «Советская Белоруссия» пад рубрыкай «За кулісамі адной змовы» апублікавала серыю артыкулаў «Некаторыя рассакрэчаныя дакументы пра падзеі 19 снежня»: копіі «Стратэгічнага плана», складу ўрада народнага выратавання, гранта, кантракту на атрыманне гранта, інструкцыі па нелегальнай перапраўцы грошай у Беларусь. З дакументаў было відаць, хто і на што прасіў, хто і за што плаціў. На рэалізацыю свайго плана «Стратэгія перамогі» адзін з экс-кандыдатаў у прэзідэнты, да прыкладу, папрасіў у сваіх заходніх апекуноў 19 220 000 долараў ЗША.

Праўдзівы паказ падзей 19—20 снежня і падаплёкі падрыхтоўкі да звяржэння законнай улады ў Рэспубліцы Беларусь — гэта эфектыўная контрпрапаганда. Штурм Дома ўрада выклікаў абурэнне ў беларускім грамадстве. Такім чынам, СМІ не толькі адлюстроўвалі рэчаіснасць, але і ўдзельнічалі ў фарміраванні грамадскай думкі.

Незалежная інфармацыйная прастора Беларусі з'яўляецца галоўнай умовай захавання інфармацыйнага суверэнітэту краіны і ўмацавання дзяржаўнасці. У Рэспубліцы Беларусь выдаюцца больш за 700 газет і больш за 500 часопісаў. Каля трэці ўсіх зарэгістраваных выданняў з'яўляюцца дзяржаўнымі. Прэса выдаецца на беларускай, рускай, нямецкай, англійскай, украінскай, польскай і іншых еўрапейскіх мовах. У Беларусі існуе 9 інфармацыйных агенцтваў, каля

60 праграм тэлевяшчання і больш за 150 праграм радыёвяшчання.

Вельмі важным у супрацьдзеянні маніпуляцыі свядомасцю з'яўляецца навучанасць і інфармаванасць насельніцтва краіны. У рэспубліцы завяршылася фарміраванне асноў інфармацыйнага грамадства. Закладзена прававая аснова інфарматызацыі, паспяхова развіваецца нацыянальная інфармацыйна-камунікацыйная інфраструктура, якая дазваляе аказваць новыя тэлекамунікацыйныя і інфармацыйныя паслугі. Беларусь мае дастаткова развітую ўласную інфармацыйную індустрыю, якая ўключае распрацоўку і вытворчасць сродкаў вылічальнай і тэлекамунікацыйнай тэхнікі, а таксама праграмнага забеспячэння.

Канцэпцыя нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь адносіць эфектыўнае інфармацыйнае забеспячэнне сваёй дзяржаўнай палітыкі да аднаго з асноўных інтарэсаў краіны ў інфармацыйнай сферы.

**Ідэалогія дзяржавы як супрацьдзеянне псіхалагічнай агрэсіі.** Ідэалогія беларускай дзяржавы — гэта сістэма поглядаў, ідэй, канцэпцый, якая выказвае мэты, змест і шляхі грамадскага развіцця краіны.

Беларуская ідэалогія грунтуецца на трывалым гістарычным падмурку. У складаных умовах барацьбы за сваю незалежнасць фарміраваўся менталітэт беларуса. Гісторыя даносіць да нас звесткі пра гераічную абарону палачанамі сваёй зямлі ад плямёнаў гунаў і готаў. Цяжкае і небяспечнае жыццё продкаў беларусаў — плямёнаў крывічоў, радзімічаў, палачан, дрыгавічоў — сярод лясоў, азёр і балот, у цяжкай працы і ў бесперапынных войнах выкавала характар беларуса.

Стагоддзямі фарміравалася і крок за крокам выпрацоўвалася сучасная ідэалогія Беларусі і мадэль яе сацыяльна-эканамічнага развіцця. У яе аснове — сацыяльна арыентаваная рынкавая эканоміка, якая гарманічна спалучае ўстойлівую дынаміку развіцця краіны і прыватную ініцыятыву. Фундаментальная мэта ідэалогіі беларускай дзяржавы — ***моцная, дэмакратычная і квітнеючая Беларусь.***

Прававая аснова беларускай ідэалогіі — Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

Асноўныя каштоўнасці беларускага палітычнага грамадства: суверэнітэт, моцная і эфектыўная дзяржава, інстытут прэзідэнцтва, грамадзянская супольнасць. Важная асаблівасць ідэалогіі беларускага палітычнага грамадства — прыярытэт маральна-прававых каштоўнасцей над прагматычнымі і кан'юнктурнымі каштоўнасцямі. Следствам гэтага з'яўляецца фарміраванне ў грамадстве высокіх маральных стандартаў: сумленнасці, шчырасці, адкрытасці, прынцыповасці.

У галіне эканомікі Беларусь абрала варыянт плаўнага, паступовага ўваходжання ў рынак пры актыўным умяшанні дзяржавы ў эканамічныя працэсы. Важнымі адметнымі рысамі беларускай мадэлі сацыяльна арыентаванай рынкавай эканомікі выступаюць:

- моцная і эфектыўная дзяржаўная ўлада;
- забеспячэнне раўнапраўя і эфектыўнага функцыянавання прыватнага і дзяржаўнага сектараў эканомікі;
- добра спланаванае і скаардынаванае раздзяржаўленне эканомікі;
- шматвектарнасць знешнеэканамічнай дзейнасці суб'ектаў гаспадарання;
- моцная сацыяльная палітыка.

Сацыяльная палітыка з'яўляецца галоўным прыярытэтам дзяржавы, а яе асноўная мэта — забеспячэнне годнага ўзроўню і якасці жыцця кожнага жыхара краіны.

Сёння, калі ў сусветных інфармацыйных сетках вядуцца псіхалагічныя войны, менавіта ідэалогія стварае ўмовы для забеспячэння эфектыўнага развіцця дзяржавы. Улічваючы традыцыі беларускай гісторыі і культуры, яна гуртуе і кансалідуе розныя пласты беларускага грамадства. Толькі дзяржаўна-нацыянальная ідэя, якая прымаецца і рэалізуецца большасцю насельніцтва, дазваляе дамагчыся адзінства ўлады і народа, забяспечыць стабільнае развіццё эканомікі, замацаваць уласныя нацыянальныя інтарэсы і ажыццявіць дынамічнае развіццё краіны з мэтай росту дабрабыту і абароненасці беларускага народа.

Менавіта таму ідэалогія з'яўляецца надзейнай імуннай сістэмай дзяржавы, якая абараняе яго ад унутранай і знешняй агрэсіі.



Народнае шэсце да плошчы Перамогі



**1.** Як неабходна процідзейнічаць інфармацыйна-псіхалагічнай агрэсіі? **2.** Што такое контрпрапаганда? Прывядзіце прыклады контрпрапаганды ў нашай краіне. **3.** Чаму ідэалогія беларускай дзяржавы з'яўляецца асновай у інфармацыйна-псіхалагічным супрацьборстве?

## § 8. Ваенная палітыка Рэспублікі Беларусь

**Ваенная палітыка** — частка агульнай палітыкі дзяржавы. Асноўнымі мэтамі ваеннай палітыкі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца падтрыманне міжнароднага міру і бяспекі, прадухіленне пагрозы развязвання вайны і забеспячэнне гарантыі нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.

Рэалізуючы самастойную ваенную палітыку, Рэспубліка Беларусь зыходзіць з прынцыпаў:

- выключэння тэрытарыяльных прэтэнзій Рэспублікі Беларусь да іншых дзяржаў і непрызнання такіх прэтэнзій з боку іншых дзяржаў. Дзяржаўная мяжа Рэспублікі Беларусь недатыкальная;
- павагі палітычнай незалежнасці і дзяржаўнага суверэнітэту іншых краін, прызнання іх права вырашаць

пытанні забеспячэння нацыянальнай бяспекі ў адпаведнасці са сваімі інтарэсамі без нанясення шкоды бяспецы іншых дзяржаў;

• вырашэння ўсіх міждзяржаўных супярэчнасцей выключна шляхам перагавораў на ўзаемапрымальнай аснове;

• садзейнічання збалансаванаму скарачэнню ўзбраення ў рамках абавязацельстваў, вызначаных міжнароднымі пагадненнямі і дагаворамі;

• выключэння аднабаковага скарачэння ўзбраення ва ўрон ваеннай бяспецы Рэспублікі Беларусь, дапускаючы яго толькі з улікам сваіх эканамічных магчымасцей і аб'ектыўнай мэтазгоднасці.

***Ваенная палітыка канкрэтызуецца ў ваеннай дактрыне, ваеннай стратэгіі і практыцы ваеннага будаўніцтва, а рэалізуецца ваеннай арганізацыяй дзяржавы.***

**Ваенная дактрына Рэспублікі Беларусь.** Ваенная дактрына — гэта прынятая ў дзяржаве сістэма поглядаў і прынцыпаў забеспячэння ваеннай бяспекі дзяржавы пры дапамозе прымянення палітычных і ваенных захадаў.

Ваенная дактрына Рэспублікі Беларусь, якая носіць абарончы характар, зыходзіць з таго, што ні адна з дзяржаў на сёння не з'яўляецца для Рэспублікі Беларусь патэнцыяльным праціўнікам. Рэспубліка Беларусь будзе лічыць сваім патэнцыяльным праціўнікам тую дзяржаву, палітыка якой уяўляе ваенную небяспеку для Рэспублікі Беларусь, вядзе да ўмяшання ў яе ўнутраныя справы, робіць замах на яе суверэнітэт і тэрытарыяльную цэласнасць.

Рэспубліка Беларусь разглядае магчымасць прымянення ваеннай сілы і ўдзел у ваенным канфлікце (вайне) выключна з мэтай адбіцця нападу (акта ўзброенай агрэсіі) і абароны сваёй тэрытарыяльнай цэласнасці. Пры гэтым Рэспубліка Беларусь пакідае за сабой права ў выпадку нападу звярнуцца па дапамогу, у тым ліку і ваенную, да дзяржаў — удзельнікаў калектыўнай бяспекі і іншых дзяржаў, з якімі Рэспубліка Беларусь заключыла дагаворы аб дружбе і ўзаемадапамозе. Рэспубліка Беларусь выступае за стварэнне сістэмы еўрапейскай бяспекі з улікам інтарэсаў

усіх зацікаўленых дзяржаў на аснове прынцыпаў даверу і ўзаемаразумення.

Ваенная дактрына вызначае комплекс захадаў, накіраваных на ўмацаванне механізма ўзброенай абароны дзяржавы як у мірны час, так і ў небяспечны перыяд і з пачаткам узброенага канфлікту (вайны), а таксама структуру і асноўныя напрамкі развіцця ваеннай арганізацыі дзяржавы.

Ваенная дактрына вызначае склад, прымяненне і задачы Узброеных Сіл у мірны і ваенны час.

**Ваенная стратэгія** — складовая частка ваеннага мастацтва. Яна ўключае тэорыю і практыку падрыхтоўкі краіны і Узброеных Сіл да вайны, планаванне і вядзенне стратэгічных аперацый і вайны ў цэлым. Ваенная стратэгія абапіраецца на дасягненні ваеннай навукі, узаемазвязана з Ваеннай дактрынай, цалкам залежыць ад палітыкі і эканомікі дзяржавы.

Прыкладам ваеннай стратэгіі, заснаванай на агрэсіўнай палітыцы сваёй дзяржавы, служыць авантурыстычны план фашысцкай Германіі «Барбароса», які прадугледжваў нанясенне па Савецкім Саюзе раптоўнага ўдару ў чэрвені 1941 года і дасягненне перамогі ў хуткабежнай вайне.

У залежнасці ад ваенна-палітычнай абстаноўкі кіраўніцтвам ЗША ў розныя гады распрацоўваліся стратэгіі «масіраванага пакарання», «гнуткага рэагавання», «рэалістычнага застрашвання», «прамога супрацьборства».

Ваенная стратэгія Рэспублікі Беларусь, рэалізуючы ваенную палітыку сваёй краіны, плануе падрыхтоўку і вядзенне баявых дзеянняў па адбіцці ваеннай агрэсіі і абароне сваёй тэрытарыяльнай цэласнасці.

**Ваеннае будаўніцтва** — гэта сістэма эканамічных, сацыяльна-палітычных і ўласна ваенных мерапрыемстваў дзяржавы, накіраваных на ўмацаванне яе ваеннай моцы.

Ваеннае будаўніцтва ў маладой суверэннай дзяржаве — Рэспубліцы Беларусь пачалося ў пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя. Фарміраванне беларускай арміі ажыццяўлялася на

базе скасаванай Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі. Рэфармаванне Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь на пачатковым этапе зводзілася ў асноўным да скарачэння групоўкі войскаў акругі.

Рэальнае рэфармаванне ваеннай арганізацыі Рэспублікі Беларусь пачалося з сярэдзіны 90-х гадоў XX стагоддзя. У рамках рэфармавання Узброеных Сіл перабудоўваліся органы ваеннага кіравання, змянялася сістэма падрыхтоўкі кадраў, рэфармавалася большасць аб'яднанняў, злучэнняў і воінскіх часцей, ствараліся мабільныя сілы. У 1995 годзе была створана Ваенная акадэмія Рэспублікі Беларусь.

У 2001 годзе была прынята «Канцэпцыя будаўніцтва Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь да 2010 года», пачала арганізоўвацца тэрытарыяльная абарона дзяржавы.

Ваеннае будаўніцтва — бесперапынны працэс, ён абумоўлены многімі фактарамі, у тым ліку зменамі ў ваенна-палітычнай абстаноўцы і ў поглядах на падрыхтоўку і вядзенне войнаў.

**Ваенная арганізацыя.** Ваенная арганізацыя Рэспублікі Беларусь складае аснову ваеннага патэнцыялу дзяржавы і рэалізуе яго ваенную палітыку.

Ваенная арганізацыя дзяржавы — гэта сукупнасць Узброеных Сіл, іншых воінскіх фарміраванняў, дзяржаўных, ваенна-палітычных органаў кіравання, органаў ваеннага кіравання, іншых арганізацый. У ваенную арганізацыю дзяржавы, акрамя таго, уваходзіць абаронны сектар эканомікі Рэспублікі Беларусь, які ажыццяўляе навуковую і вытворчую дзейнасць па стварэнні прадукцыі ваеннага прызначэння.

Асноўная дзейнасць ваеннай арганізацыі ў мірны час накіравана на вырашэнне задач па забеспячэнні ваеннай бяспекі дзяржавы, а ў выпадку вайны — на забеспячэнне ўзброенай абароны дзяржавы, адбіццё нападу, разгром праціўніка і дасягненне палітычных мэт у вайне.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь — Галоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі ажыццяўляе агульнае кіраўніцтва падрыхтоўкай і прымяненнем ваеннай арганізацыі дзяржавы.




Да дзяржаўных, ваенна-палітычных органаў кіравання адносяцца Савет Бяспекі Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, органы мясцовага кіравання. Да іншых арганізацый адносіцца, напрыклад, ДТСААФ.

Савет Бяспекі Рэспублікі Беларусь — вышэйшы калегіяльны кардынацыйна-палітычны орган, які вызначае асноўныя напрамкі ваеннай палітыкі, арганізуе ўзаемадзеянне паміж рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання і структурнымі элементамі ваеннай арганізацыі дзяржавы.

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь вырашае пытанні забеспячэння Узброеных Сіл, іншых войскаў і воінскіх фарміраванняў усім неабходным для надзейнай абароны дзяржавы, кіруе падрыхтоўкай эканомікі Рэспублікі Беларусь да працы ў рэжыме ваеннага часу.

Органы мясцовага кіравання пры ўвядзенні ваеннага становішча праводзяць мерапрыемствы па пераводзе падведамасных арганізацый на працу ва ўмовах ваеннага часу, аказваюць садзейнічанне ваенным камісарыятам у мабілізацыйнай рабоце ў мірны час і пры аб'яўленні мабілізацыі.

Да органаў ваеннага кіравання адносяцца Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь і Генеральны штаб Узброеных Сіл.



**1.** Якімі прынцыпамі кіруецца Рэспубліка Беларусь пры правядзенні сваёй ваеннай палітыкі? **2.** Чаму Ваенная дактрына Рэспублікі Беларусь носіць абарончы характар? **3.** Што ўваходзіць у ваенную арганізацыю Рэспублікі Беларусь?

## § 9. Заканадаўства Рэспублікі Беларусь па ваенных пытаннях

Абарона дзяржавы і ваеннае будаўніцтва ў нашай краіне ажыццяўляюцца ў рамках заканадаўства, якое базіруецца на Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Акрамя Канстытуцыі, заканадаўчымі і іншымі нарматыўнымі прававымі актамі Рэспублікі Беларусь аб абароне і ваенным будаўніцтве з'яўляюцца: Канцэпцыя нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь; законы Рэспублікі Беларусь «Аб абароне», «Аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь», «Аб воінскім абавязку і воінскай службе», «Аб статусе ваеннаслужачых»; Ваенная дактрына Рэспублікі Беларусь; палажэнні аб праходжанні ваеннай службы рознымі катэгорыямі ваеннаслужачых; статуты Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

**Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.** Прынцыпы знешняй палітыкі Беларусі, дэклараваныя ў Канстытуцыі, не выключаюць узброеную абарону нашай дзяржавы. Агульнанацыянальны падыход да абароны дзяржавы выяўлены ў артыкуле 57 Канстытуцыі:

Абарона Рэспублікі Беларусь — абавязак і свяшчэнны доўг грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.

Гэтым жа артыкулам вызначана, што «парадак праходжання воінскай службы, падставы і ўмовы вызвалення ад воінскай службы ці замена яе альтэрнатыўнай вызначаюцца законам».

Па Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь усім грамадзянам вызначаны аднолькавыя правы і свабоды, «усе роўныя перад законам» (артыкул 22). Разам з тым артыкул 23 Канстытуцыі абвяшчае: «Абмежаванне правоў і свабод асобы дапускаецца толькі ў выпадках, прадугледжаных законам, у інтарэсах нацыянальнай бяспекі...». Неабходнасць абмежавання некаторых грамадзянскіх правоў і свабод для ваеннаслужачых

вызначаецца спецыфікай воінскай службы і ўзброенай абароны дзяржавы. Так, у артыкуле 36 Канстытуцыі запісана: «ваеннаслужачыя не могуць быць членамі палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў, якія маюць палітычныя мэты».

У адпаведнасці з Канстытуцыяй Галоўнакамандуючым Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь з'яўляецца Прэзідэнт, які «прымае захады па ахове суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, яе нацыянальнай бяспекі і тэрытарыяльнай цэласнасці».

Канстытуцыяй вызначана сфера дзейнасці Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па пытаннях абароны.

**Канцэпцыя нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь.** Нацыянальная бяспека — стан абароненасці нацыянальных інтарэсаў Рэспублікі Беларусь ад унутраных і знешніх пагроз.

Нацыянальныя інтарэсы — сукупнасць патрэб дзяржавы па рэалізацыі збалансаваных інтарэсаў асобы, грамадства і дзяржавы, якія дазваляюць забяспечваць канстытуцыйныя правы, свабоды, высокую якасць жыцця грамадзян, незалежнасць, тэрытарыяльную цэласнасць, суверэнітэт і ўстойлівае развіццё Рэспублікі Беларусь.

Пагроза нацыянальнай бяспецы — патэнцыяльная ці рэальна існуючая магчымасць нанясення ўрону нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь.

Крыніца пагрозы нацыянальнай бяспецы — фактар або сукупнасць фактараў, здольных пры пэўных умовах прывесці да ўзнікнення пагрозы нацыянальнай бяспецы.

Канцэпцыя вылучае восем асноўных відаў бяспекі, якія адпавядаюць асноўным сферам жыццядзейнасці асобы, грамадства і дзяржавы: палітычную; эканамічную; навукова-тэхналагічную; сацыяльную; дэмаграфічную; інфармацыйную; ваенную; экалагічную.

Адным з асноўных нацыянальных інтарэсаў у ваеннай сферы з'яўляецца ўмацаванне ў грамадстве пачуцця патрыятызму, гатоўнасці да абароны нацыянальных інтарэсаў Рэспублікі Беларусь.

Канцэпцыя вызначае дзейнасць дзяржавы, арганізацый і грамадзян па абароне асобы, грамадства і дзяржавы ад унутраных і знешніх пагроз.

**Закон Рэспублікі Беларусь «Аб абароне».** Абарона Рэспублікі Беларусь — сістэма прававых, палітычных, эканамічных, ваенных, сацыяльных і іншых захадаў, якія забяспечваюць ваенную бяспеку дзяржавы.

Абарона належыць да важнейшай функцыі дзяржавы і з'яўляецца ўсеагульнай справай (артыкул 2).

Для абароны Рэспубліка Беларусь мае Узброеныя Сілы, унутраныя войскі Міністэрства ўнутраных спраў, пагранічныя войскі, органы дзяржаўнай бяспекі, Службу бяспекі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, іншыя воінскія фарміраванні, якія ствараюцца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Пры неабходнасці для вырашэння задач абароны прыцягваюцца органы ўнутраных спраў, органы і падраздзяленні па надзвычайных сітуацыях.

Дзяржаўныя органы, іншыя арганізацыі і грамадзяне Рэспублікі Беларусь прымаюць удзел у забеспячэнні абароны і нясуць адказнасць за ажыццяўленне ўскладзеных на іх задач.

Для грамадзян Рэспублікі Беларусь установлены воінскі абавязак у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь (артыкул 14).

Законам дапрызыўная і фізічная падрыхтоўка ва ўстановах агульнай сярэдняй, прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі ўключана як складовая частка ў арганізацыі абароны Рэспублікі Беларусь (артыкул 4).

**Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь».** Закон устанаўлівае прызначэнне, задачы, склад, колькасць, прынцыпы пабудовы і дзейнасці Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, камплектаванне і дыслакацыю, кіраўніцтва Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь, узаемадзеянне іх з іншымі войскамі і воінскімі фарміраваннямі Рэспублікі Беларусь.

Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь — структурны элемент ваеннай арганізацыі дзяржавы, прызначаны для забеспячэння ваеннай бяспекі і ўзброенай абароны Рэспублікі Беларусь, яе суверэнітэту, незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці (артыкул 1).

У адпаведнасці з Законам прыцягненне воінскіх часцей для выканання задач, не звязаных з абаронай дзяржавы, не дапускаецца, за выключэннем выпадкаў неабходнасці абароны насельніцтва і аказання яму дапамогі пры ўзнікненні надзвычайных сітуацый (артыкул 11).

Узброеныя Сілы камплектуюцца на аснове спалучэння воінскага абавязку з добраахвотным паступленнем на ваенную службу па кантракце (артыкул 7).

**Закон Рэспублікі Беларусь «Аб воінскім абавязку і воінскай службе».** Закон устанаўлівае асновы выканання грамадзянамі Рэспублікі Беларусь воінскага абавязку шляхам праходжання воінскай службы, а таксама падставы і ўмовы вызвалення ад воінскай службы.

***Воінскі абавязак*** — канстытуцыйны абавязак грамадзян па абароне Рэспублікі Беларусь. Воінскі абавязак уключае: воінскі ўлік, абавязковую падрыхтоўку да ваеннай службы, прызыў на ваенную службу, праходжанне ваеннай службы па прызыве, прызыў на службу ў рэзерве і праходжанне службы ў рэзерве, знаходжанне ў запасе, прызыў на ваенныя і спецыяльныя зборы і іх праходжанне.

Воінскі абавязак выконваюць грамадзяне мужчынскага полу, прыгодныя па стане здароўя і фізічным развіцці да яе выканання, незалежна ад паходжання, сацыяльнага і маёмаснага становішча, расавай і нацыянальнай прыналежнасці, адукацыі, мовы, адносін да рэлігіі, роду і характару заняткаў, палітычных і іншых перакананняў (артыкул 4).

***Воінская служба*** — асаблівы від дзяржаўнай службы, які ўключае праходжанне ваеннай службы або службы ў рэзерве Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, ваенных або спецыяльных збораў у перыяд знаходжання ў запасе Узброеных Сіл або іншых воінскіх фарміраванняў Рэспублікі Беларусь.

***Ваенная служба*** — асноўны від воінскай службы, які заключаецца ў непасрэдным выкананні грамадзянамі воінскага абавязку ў складзе Узброеных Сіл і іншых воінскіх фарміраванняў.

Тэрмін ваеннай службы па прызыве ўстанаўліваецца: для ваеннаслужачых, якія не маюць вышэйшай адукацыі, — 18 месяцаў; для ваеннаслужачых, якія маюць вышэйшую адукацыю, — 12 месяцаў (артыкул 45).

***Служба ў рэзерве*** — від воінскай службы, які заключаецца ў абавязковым выкананні грамадзянамі, якія падлягаюць прызыву на тэрміновую ваенную службу, воінскага абавязку шляхам праходжання службы ў воінскіх часцях або іншых арганізацыях Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь на занятках і вучэбных зборах без спынення працоўнай дзейнасці.

Тэрмін службы ў рэзерве ўстанаўліваецца: для грамадзян, якія не маюць вышэйшай адукацыі, — тры вучэбныя гады; для грамадзян, якія маюць вышэйшую адукацыю, — два вучэбныя гады (артыкул 63).

***Дапрызыўнік*** — грамадзянін мужчынскага полу, які праходзіць падрыхтоўку да ваеннай службы да прыпіскі да прызыўнога ўчастка.

***Прызыўнік*** — грамадзянін мужчынскага полу, прыпісаны да прызыўнога ўчастка.

***Ваеннаслужачы*** — грамадзянін, які праходзіць ваенную службу ва Узброеных Сілах або іншых воінскіх фарміраваннях.

***Рэзервіст*** — грамадзянін, які праходзіць службу ў рэзерве.

***Ваеннаабавязаны*** — грамадзянін, які знаходзіцца ў запасе Узброеных Сіл або іншых воінскіх фарміраванняў.

Закон вызначае парадак воінскага ўліку прызыўнікоў і ваеннаабавязаных, падрыхтоўкі грамадзян да ваеннай службы, прызыву на ваенную службу, службу ў рэзерве.

Ваеннаслужачыя і рэзервісты, якія ўпершыню прызваны на ваенную службу, службу ў рэзерве, прыносяць Ваенную прысягу. Законам устаноўлены змест Ваеннай прысягі (артыкул 49).

Законам вызначаны парадак праходжання ваеннай службы, службы ў рэзерве, а таксама прызыву на ваенныя і спецыяльныя зборы. Для Узброеных Сіл і іншых воінскіх фарміраванняў Закон устанаўлівае саставы ваеннаслужачых і воінскія званні.

**Закон Рэспублікі Беларусь «Аб статусе ваеннаслужачых».** Статус ваеннаслужачых устанаўлівае сістэму іх правоў, свабод, абавязкаў і адказнасці.

На ваеннаслужачых распаўсюджваецца агульнае заканадаўства дзяржавы, яны валодаюць правамі і выконваюць абавязкі грамадзян Рэспублікі Беларусь. У той жа час ваеннаслужачыя абавязаны забяспечваць узброеную абарону

дзяржавы, выконваючы задачы часам з рызыкай для жыцця. Таму на іх распаўсюджваецца спецыяльнае ваеннае заканадаўства.



**1.** Пералічыце вядомыя вам заканадаўчыя і іншыя нарматыўныя прававыя акты Рэспублікі Беларусь аб абароне і ваенным будаўніцтве. **2.** Што запісана ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пра абарону Рэспублікі Беларусь і ваенную службу? **3.** Раскажыце пра Законы Рэспублікі Беларусь «Аб абароне» і «Аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь». **4.** Які асноўны змест Закона Рэспублікі Беларусь «Аб воінскім абавязку і воінскай службе»?

## § 10. Міжнароднае гуманітарнае права ў перыяд узброеных канфліктаў

**Развіццё міжнароднага гуманітарнага права (МГП).** Ужо ў старажытнасці, а затым у Сярэднія вякі амаль ва ўсіх цывілізацыях існавалі правілы, што накладалі абмежаванні на права ваюючых наносіць шкоду праціўніку. Прызнавалася неабходнасць абароны пэўных катэгорый асоб: жанчын, дзяцей, старых, палонных.

У сваім сучасным выглядзе права вайны склалася ў асноўным пад уплывам хрысціянскага веравучэння і рыцарства ў ходзе войнаў. Яно знаходзіла выражэнне ва ўказах, што выдаваліся дзяржавамі сваім арміям і прадпісвалі правілы паводзін войскаў у адносінах да праціўніка. Заключаліся і двухбаковыя акты камандуючымі супрацьлеглых бакоў.

У 60-я гады XIX стагоддзя адбыліся дзве міжнародныя канферэнцыі для заключэння дагавораў аб нормах вядзення вайны. З гэтых канферэнцый развіліся два асобныя напрамкі: адно, якое звычайна называецца «права Гаагі», тычыцца ваенных дзеянняў і дапушчальных сродкаў і метадаў вайны, тады як іншае, так званае права Жэневы, надае асаблівую ўвагу становішчу ахвяр вайны.

**Асноўныя паняцці.** ***Міжнароднае гуманітарнае права*** — сукупнасць прававых нормаў, якія абмяжоўваюць метады і сродкі вядзення вайны і забяспечваюць абарону асоб, якія не ўдзельнічаюць або спынілі ўдзел у ваенных дзеяннях.

***Камбатанты*** — салдаты рэгулярнай арміі; байцы ваенізаваных фарміраванняў і добраахвотніцкіх атрадаў, якія знаходзяцца пад камандаваннем асобы, адказнай за сваіх падначаленых, маюць пэўны і бачны здалёк выразны знак, адкрыта носяць зброю, прытрымліваюцца законаў і звычаяў вайны.

***Ваеннапалонныя*** — камбатанты, захопленыя ў палон варожым бокам.

***Ваенныя аб'екты*** — падраздзяленні ўзброеных сіл праціўніка, ваенная тэхніка, ваенныя будынкі, ваенныя заводы і іншыя аб'екты, знішчэнне якіх можа выклікаць паслабленне ўзброеных сіл праціўніка.

***Грамадзянскія аб'екты*** — аб'екты, якія не выкарыстоўваюцца з ваеннымі мэтамі.

**Забароненыя сродкі і метады вядзення вайны.** Міжнароднае права ***забараняе наступныя сродкі вядзення вайны***:

- яды ці атручаную зброю, задушлівыя, атрутныя або іншыя газы, аналагічныя вадкасці, рэчывы і працэсы, а таксама бактэрыялагічную зброю;
- сродкі ўздзеяння на прыроднае асяроддзе з варожымі мэтамі;
- любую зброю, калі яе дзеянне заключаецца ў нанясенні пашкоджанняў асколкамі, якія не выяўляюцца ў чалавечым целе з дапамогай рэнтгенаўскіх прамянёў (шкло, пластмаса і г. д.);
- міны, міны-пасткі і іншыя прылады ў выглядзе дзіцячых цацак і прадметаў медыцынскай дапамогі;
- любую запальную зброю;
- кулі, якія лёгка разгортваюцца або сплюшчваюцца ў чалавечым целе;
- іншыя віды звычайнай зброі, якія могуць наносіць празмерныя пашкоджанні або маюць невыбіральнае дзеянне.

***Забароненыя метады вядзення вайны:***

- ажыццяўленне генацыду на захопленай тэрыторыі;
- здрадлівае забойства або раненне непрыяцеля, які склаў зброю або бяззбройны;
- аб'яўленне тым, хто абараняецца, каб у выпадку супраціўлення не чакалі літасці;

- незаконнае карыстанне парламенцкім ці нацыянальным сцягам неваюючай дзяржавы, сцягам Чырвонага Крыжа або Чырвонага Паўмесяца, ваеннымі знакамі адрознення і форменным адзеннем непрыяцеля, адметнай эмблемай ААН;
- забойства, раненне або ўзяцце ў палон праціўніка з дапамогай вераломных дзеянняў, накіраваных на тое, каб выклікаць давер з боку праціўніка і прымусіць яго паверыць, што ён мае справу са сваімі ўзброенымі сіламі ці мае права на абарону ў адпаведнасці з нормамі міжнароднага права;
- абстрэл гарадоў і населеных пунктаў, якія не аказваюць супраціўлення ці не заняты войскамі праціўніка;
- абстрэл і разбурэнне санітарных установ і фарміраванняў, бальніц, шпітальных судоў і транспартаў, якія маюць належныя апазнавальныя знакі, пры ўмове, што яны не выкарыстоўваюцца з ваеннымі або варожымі мэтамі;
- бессэнсоўнае разбурэнне гарадоў і населеных пунктаў і знішчэнне варожай уласнасці, калі гэта не выклікана ваеннай неабходнасцю;
- абстрэл і разбурэнне помнікаў і цэнтраў сканцэнтравання культурных каштоўнасцей і асобных аналагічных аб'ектаў;
- выкарыстанне для прыкрыцця сваіх войскаў мірнага насельніцтва акупаваных краін.

***Нормы права вайны ў адносінах да ахвяр вайны забараняюць:***

- ператварэнне грамадзянскага насельніцтва або асобных грамадзянскіх асоб у аб'ект нападу;
- здзяйсненне нападу невыбіральнага характару, калі вядома, што такі напад з'явіцца прычынай празмерных людскіх страт, раненняў сярод грамадзянскіх асоб або прычыніць шкоду грамадзянскім аб'ектам;
- замахі на жыццё і фізічную недатыкальнасць (усякія віды забойства, калецтва, жорсткае абыходжанне, катаванні);
- замах на чалавечую годнасць, абразлівае стаўленне;
- калектыўныя пакаранні;
- прымяненне пакарання без папярэдняга судовага рашэння;
- правядзенне медыцынскіх або навуковых эксперыментаў.

Абвясціўшы прыярытэт міжнароднага права ў адносінах да нацыянальнага заканадаўства, Рэспубліка Беларусь узяла на сябе абавязацельства забяспечыць іх выкананне ўсімі дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі, усімі грамадзянамі рэспублікі. Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь распрацавана і ўведзена ў дзеянне Інструкцыя аб парадку прымянення нормаў міжнароднага гуманітарнага права ва Узброеных Сілах і транспартных войсках Рэспублікі Беларусь. Інструкцыя ўтрымлівае Памятку паводзін ваеннаслужачага Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь — удзельніка баявых дзеянняў. У Памятцы, у прыватнасці, запісана:

«Падчас баявых дзеянняў ведай і выконвай наступныя правілы:

1. Выкарыстоўвай зброю толькі супраць праціўніка і яго ваенных аб'ектаў.

2. Не нападай на асоб і аб'екты, абазначаныя распазнавальнымі эмблемамі і знакамі, калі яны не чыняць варожых дзеянняў.

3. Не прынось залішніх пакут. Не нанось большага ўрону, чым неабходна для выканання баявой задачы.

4. Падбірай параненых, хворых і тых, што церпяць караблекрушэнне, якія ўстрымліваюцца ад варожых дзеянняў. Дапамагай ім.

5. Пашкадуй, раззброй і перадай свайму камандзіру праціўніка, які здаўся ў палон. Стаўся да яго гуманна. Не падвяргай яго катаванням.

6. Гуманна стаўся да грамадзянскага насельніцтва, паважай яго ўласнасць. Марадзёрства і рабаванне забаронены.

7. Стрымлівай сваіх таварышаў ад парушэння гэтых правілаў. Пра выпадкі парушэнняў дакладвай свайму камандзіру.

**Адказнасць за парушэнне нормаў МГП.** Асобы, якія ўчынілі злачынствы супраць міру, чалавечнасці, якія парушаюць законы і звычаі вайны, з'яўляюцца ваеннымі злачынцамі. На ваенных злачынцаў не распаўсюджваюцца тэрміны даўнасці, ім не прадстаўляецца права прыстанішча. Для расследавання парушэнняў Жэнеўскіх канвенцый на тэрыторыі дзяржавы, дзе яны парушаюцца, можа ствараецца міжнародны крымінальны трыбунал.

Пасля Другой сусветнай вайны для суда над галоўнымі ваеннымі злачынцамі быў утвораны Міжнародны ваенны трыбунал. На Нюрнбергскім судовым працэсе трыбунал прысудзіў 12 вышэйшых дзяржаўных і ваенных дзеячаў фашысцкай Германіі да смяротнага пакарання, большасць астатніх былі асуджаны на розныя тэрміны турэмнага зняволення. Такійскі судовы працэс разглядаў справы галоўных японскіх ваенных злачынцаў. Міжнародны ваенны трыбунал прысудзіў у Токіа 7 чалавек да смяротнага пакарання, 18 чалавек да доўгага турэмнага зняволення. У многіх дзяржавах Еўропы былі праведзены суды над негалоўнымі ваеннымі злачынцамі. У СССР суды над ваеннымі злачынцамі прайшлі ў Ленінградзе, Смаленску, Харкаве, Краснадары і іншых гарадах.



**1.** Што такое міжнароднае гуманітарнае права? Што яно ўстанаўлівае? **2.** Якія сродкі і метады вядзення вайны забаронены міжнародным гуманітарным правам? **3.** Раскажыце аб правілах паводзін у баі з пункту гледжання міжнароднага гуманітарнага права. **4.** Якая існуе адказнасць за парушэнне нормаў міжнароднага гуманітарнага права?

# РАЗДЗЕЛ III
# Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь

Узброеныя сілы, ці армія, з'яўляюцца галоўнай складовай часткай ваеннай арганізацыі дзяржавы. Структура сучасных узброеных сіл складаная, перад імі стаяць адказныя задачы, а характар воінскай дзейнасці шматстайны і нялёгкі. Рыхтуючыся да ваеннай службы, прызыўніку варта мець уяўленне пра армію, у шэрагах якой яму трэба будзе служыць.

## § 11. Баявыя традыцыі

Станаўленне і развіццё Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь непарыўна звязана з гісторыяй Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі (ЧБВА). З утварэннем у 1992 годзе суверэннай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь яе Узброеныя Сілы не трэба было ствараць з нуля: разам са сваімі баявымі сцягамі, узнагародамі і ганаровымі найменнямі, з асабовым складам і тэхнікай да нас у спадчыну перайшлі доблесць і баявыя традыцыі славутых злучэнняў і воінскіх часцей Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі.

**Нараджэнне Чырвонай Арміі.** Кастрычнік 1917 года. Ідзе чацвёрты год Першай сусветнай вайны, якую Расія прайграе. Узброенае паўстанне ў Петраградзе прыводзіць да звяржэння Часовага ўрада і абвяшчэння ўлады Саветаў. Фронт развальваецца. Нямецка-аўстрыйскія войскі без супраціўлення займаюць значную частку Прыбалтыкі, Беларусі, Украіны. Неабходна было ў кароткія тэрміны стварыць новую, строга дысцыплінаваную рэгулярную армію. Саветам Народных Камісараў 28 студзеня 1918 года быў прыняты Дэкрэт аб стварэнні Рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі (РСЧА).

Толькі што сфарміраваныя чырвонаармейскія атрады 22 і 23 лютага аказалі ворагу ўпартае супраціўленне і затрымалі яго прасоўванне на Петраград. У азнаменаванне гэтай падзеі 23 лютага штогод, пачынаючы з 1919 і да 1992

года, адзначаўся як Дзень Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту. Цяпер у Рэспубліцы Беларусь святочны дзень 23 Лютага адзначаецца як Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

**Нараджэнне і станаўленне акругі.** Пасля рэвалюцыі ў Германіі ў лістападзе 1918 года Савецкі ўрад скасаваў мірны дагавор і прыняў рашэнне заняць войскамі раней акупаваныя Германіяй тэрыторыі нашай краіны.

Мінская ваенная акруга, у якую тэрытарыяльна ўвайшлі Віцебская, Віленская, Мінская, Магілёўская і Смаленская губерні, была ўтворана 28 лістапада 1918 года. З гэтага часу пачалася слаўная баявая гісторыя Беларускай ваеннай акругі.

З 1926 года акруга стала называцца Беларускай ваеннай акругай (БВА). Поспехі ў развіцці народнай гаспадаркі стварылі перадумовы для аснашчэння войскаў акругі новай тэхнікай і ўзбраеннем. У тыя гады БВА стала свайго роду вопытным палігонам РСЧА. Тут праходзіла праверку новая арганізацыйна-штатная структура войскаў, выпрацоўваліся новыя тактычныя прыёмы і формы.

У верасні 1939 года войскі Беларускага фронту, створанага з войскаў БВА, перайшлі савецка-польскую мяжу і пачалі паход па вызваленні акупаваных Польшчай беларускіх зямель. За шэсць дзён войскі фронту прайшлі праз усю Заходнюю Беларусь. Гэтая аперацыя прывяла да ўз’яднання беларускіх заходніх абласцей з Савецкай Беларуссю.

Між тым Другая сусветная вайна ўшчыльную падышла да межаў нашай краіны.

**Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне**. На досвітку 22 чэрвеня 1941 года Германія без аб’яўлення вайны вераломна напала на Савецкі Саюз. Праціўнік меў шматразовую перавагу ў жывой сіле і тэхніцы. Войскі акругі, пераўтвораныя ў Заходні фронт, у ліку першых прынялі на сябе ўдары нямецка-фашысцкай армады.

Першымі сустрэлі ворага савецкія пагранічнікі і невялікія гарнізоны ўмацаваных раёнаў. Самым стойкім асяродкам супраціўлення на мяжы стала Брэсцкая крэпасць. Абрушваліся сцены будынкаў, плавіліся метал і сцены фартоў, а абаронцы крэпасці, сцякаючы крывёй, працягвалі змагацца.

Ужо першыя дні вайны паказалі рашучасць савецкага народа адстойваць кожную пядзю роднай зямлі. Яркае таму сведчанне — абарона Магілёва, якая доўжылася 23 дні. «Подзвіг магілёўцаў, — пісаў пазней маршал А. Яроменка, — з’явіўся правобразам гераічнай абароны Сталінграда, дзе прыклад абаронцаў беларускага горада быў паўтораны ў іншым, больш буйным маштабе».

Нямецка-фашысцкая акупацыя спарадзіла масавы партызанскі рух, які ахапіў усе раёны Беларусі. Партызаны падрывалі масты, склады боепрыпасаў, пускалі пад адхон варожыя эшалоны, знішчалі нямецкіх салдат і афіцэраў, здабывалі для арміі важную разведвальную інфармацыю.

У верасні 1943 года войскі чатырох франтоў выйшлі да Дняпра і фарсіравалі яго. Пачалося вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

Выдатнай старонкай у летапісе Вялікай Айчыннай вайны з’яўляецца стратэгічная наступальная аперацыя па поўным вызваленні Беларусі пад кодавай назвай «Баграціён». 24 чэрвеня 1944 года абарончая лінія нямецкіх войскаў была прарвана. У выніку імклівага наступу савецкіх войскаў 26 чэрвеня быў вызвалены Віцебск, 27 — Орша, 28 — Магілёў. Фашысты адступалі. Трэцяга ліпеня 1944 года войскі 1-га і 3-га Беларускіх франтоў вызвалілі сталіцу Беларусі — горад Мінск. Да канца ліпеня 1944 года ўся тэрыторыя Беларусі была ачышчана ад фашысцкіх акупантаў.

У час вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх акупантаў у Чырвоную Армію ўлілося 600 тысяч жыхароў рэспублікі, у тым ліку 180 тысяч партызанаў. Беларускі народ унёс дастойны ўклад у перамогу над фашысцкай Германіяй.

**У пастаяннай баявой гатоўнасці.** Вялікая Айчынная вайна скончылася капітуляцыяй гітлераўскай Германіі. Народам Савецкага Саюза неабходна было гаіць нанесеныя вайной раны. Разам з тым ва ўмовах пачатку «халоднай вайны» трэба было ўмацоўваць абараназдольнасць краіны.

Як толькі войскі, якія ўвайшлі ў склад акругі, размясціліся ў пунктах пастаяннай або часовай дыслакацыі, у часцях пачалася планавая баявая падрыхтоўка. Яшчэ не былі створаны элементарныя ўмовы жыцця і побыту, практычна

адсутнічала вучэбна-матэрыяльная база, а баявая вучоба была арганізавана.

Адразу ж пасля вайны трэба было правесці вельмі складаную і небяспечную працу па разміраванні тэрыторыі рэспублікі. Усяго за пасляваенны перыяд сапёры абясшкодзілі і знішчылі больш за 27 мільёнаў розных відаў боепрыпасаў. Гэтая праца працягваецца і сёння.

У БВА працягвалася ўдасканаленне формаў і спосабаў кіраўніцтва войскамі ў баі, арганізацыі палявой і паветранай вывучкі, тактычнай, агнявой і спецыяльнай падрыхтоўкі асабовага складу. Сур'ёзнай праверкай для войскаў і штабоў з'явіліся манеўры «Днепр» (1967), «Нёман» (1968), «Дзвіна» (1970) і шэраг іншых. За вялікі ўклад ва ўмацаванне абароннай моцы Савецкай дзяржавы і яе ўзброенай абароны Беларуская ваенная акруга ў 1968 годзе была ўзнагароджана ордэнам Чырвонага Сцяга.

**З акругі ў армію суверэннай дзяржавы.** У 1991 годзе Беларусь набыла статус суверэннай дзяржавы. Пасля прыняцця 18 сакавіка 1992 года Вярхоўным Саветам рэспублікі пастановы «Аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь» на базе Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі пачалося фарміраванне беларускай арміі.

З улікам групоўкі стратэгічных ядзерных сіл агульная колькасць войскаў на тэрыторыі Беларусі складала больш за 280 тысяч ваеннаслужачых, рабочых і служачых. На ўзбраенні злучэнняў і часцей ЧБВА была самая дасканалая па тым часе зброя і баявая тэхніка. Дзяржаве з 10-мільённым насельніцтвам такія празмерна вялікія ўзброеныя сілы былі не патрэбныя, выдаткі на іх утрыманне і аснашчэнне — непрымальныя.

Паслядоўна выконваючы ўзятыя на сябе міжнародныя абавязацельствы, Рэспубліка Беларусь пазбавілася ад больш за 3 тыс. танкаў і браніраваных машын, 130 самалётаў. Колькасць ваеннаслужачых Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь да 1995 года ўжо не перавышала 100 тысяч чалавек. Апошняя міжкантынентальная балістычная ракета стратэгічных ядзерных сіл Расійскай Федэрацыі была выведзена за межы Беларусі 27 лістапада 1996 года.

У працэсе далейшага рэфармавання Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь была створана эфектыўная сістэма

кіравання, Галоўны штаб Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь пераўтвораны ў Генеральны штаб, ажыццёўлены пераход на двухвідавую структуру, рэфармавана большасць аб'яднанняў, злучэнняў, воінскіх часцей і ўстаноў. У складзе Сухапутных войскаў былі створаны агульнавайсковыя злучэнні пастаяннай гатоўнасці, воінскія часці спецыяльнага прызначэння. У ходзе рэфармавання вялікая ўвага надавалася развіццю ўзбраення і тэхнікі, значна ўзмоцнены ваенна-навуковы і ваенна-адукацыйны комплекс.

Праведзеныя аператыўна-тактычныя вучэнні «Бярэзіна-2002», «Чыстае неба — 2003», «Шчыт Айчыны — 2004» і іншыя сведчылі пра тое, што Узброеныя Сілы ў ходзе іх рэфармавання і прывядзення ў новы якасны стан здольныя выконваць задачы, вызначаныя Ваеннай дактрынай.



**1.** Чаму Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь — правапераемнік славутай Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі? **2.** Раскажыце, калі і як зарадзіліся Чырвоная Армія і Беларуская ваенная акруга. **3.** Раскажыце пра подзвіг беларускага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. **4.** Калі і чаму пачалі фарміравацца Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь?

## § 12. Склад і структура

**Агульны склад.** Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь — аснова ваеннай арганізацыі дзяржавы. Яны складаюцца з цэнтральных органаў ваеннага кіравання, відаў Узброеных Сіл, родаў войскаў, спецыяльных войскаў, ваенных вучэбных устаноў і арганізацый Міністэрства абароны.

Да цэнтральных органаў ваеннага кіравання адносяцца Міністэрства абароны і Генеральны штаб Узброеных Сіл. Генеральны штаб арганізацыйна ўваходзіць у склад Міністэрства абароны.

Відамі Узброеных Сіл з'яўляюцца:

- Сухапутныя войскі;
- Ваенна-паветраныя сілы і войскі супрацьпаветранай абароны.




Колькасны склад Узброеных Сіл вызначаецца Саветам Бяспекі Рэспублікі Беларусь і зацвярджаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. У колькасны склад Узброеных Сіл уваходзяць ваеннаслужачыя і грамадзянскі персанал. Да 2006 года колькасць Узброеных Сіл склала 65 тысяч чалавек, у тым ліку 50 тысяч ваеннаслужачых.

Арганізацыйна Узброеныя Сілы складаюцца з аб'яднанняў (аператыўныя і аператыўна-тактычныя камандаванні), злучэнняў (брыгады), воінскіх часцей (палкі, авіяцыйныя базы, асобныя батальёны, дывізіёны, эскадрыллі і роты) і падраздзяленняў, якія структурна ўваходзяць у склад воінскіх часцей (батальёны, дывізіёны, эскадрыллі, роты, батарэі, авіяцыйныя звёны, узводы, аддзяленні, разлікі, экіпажы).

**Сухапутныя войскі**. Сухапутныя войскі — найбольш шматлікі від Узброеных Сіл. Яны прызначаны для адбіцця ўдараў і разгрому груповак войскаў праціўніка.

Як паказаў вопыт Вялікай Айчыннай вайны, Сухапутныя войскі ва ўзаемадзеянні з авіяцыяй і войскамі супрацьпаветранай абароны вырашалі самыя адказныя баявыя задачы і ўнеслі найбольшы ўклад у справу разгрому ворага. Асноўную масу Сухапутных войскаў у час вайны складалі стралковыя часці і падраздзяленні — гераічная і нязломная пяхота.

Галоўнай агнявой сілай Сухапутных войскаў была артылерыя, а галоўнай ударнай і манеўранай сілай — танкавыя войскі.

У пасляваенны перыяд Сухапутныя войскі беларускай арміі значна змяніліся. Цяпер яны маюць на ўзбраенні магутныя танкі, сучасныя баявыя машыны пяхоты, эфектыўныя сістэмы рэактыўнай і ствольнай артылерыі, супрацьтанкавыя сродкі, больш дасканалыя сродкі кіравання. Удасканаленне баявой тэхнікі і ўзбраення змяняла спосабы вядзення баявых дзеянняў, структуру арміі. Так, у сувязі з блізкасцю і непарыўнасцю баявых задач, што вырашаюцца мотастралковымі і танкавымі войскамі, паўстала мэтазгоднасць стварэння механізаваных брыгад (злучэнняў).

Сухапутныя войскі ўключаюць: роды войскаў, спецыяльныя войскі, злучэнні і воінскія часці тылу.

**Родамі войскаў** з’яўляюцца: *механізаваныя войскі; ракетныя войскі і артылерыя; злучэнні і воінскія часці вайсковай супрацьпаветранай абароны.*

*Механізаваныя войскі* — механізаваныя (мотастралковыя) і танкавыя воінскія часці (падраздзяленні). Валодаючы высокай баявой самастойнасцю, манеўранасцю і ўніверсальнасцю, яны складаюць галоўную ўдарную сілу Сухапутных войскаў і здольныя выконваць пастаўленыя задачы ў розных умовах мясцовасці і ў любое надвор’е.

*Ракетныя войскі і артылерыя* з’яўляюцца асноўным сродкам агнявога паражэння праціўніка. Ракетныя войскі складаюцца са злучэнняў і воінскіх часцей, укамплектаваных тактычнымі ракетамі і рэактыўнымі сістэмамі залпавага агню, а артылерыя — з воінскіх часцей і падраздзяленняў гаўбічнай, гарматнай, рэактыўнай, супрацьтанкавай артылерыі, мінамётных падраздзяленняў і падраздзяленняў артылерыйскай разведкі.

*Войскі супрацьпаветранай абароны* (СПА) Сухапутных войскаў складаюцца з зенітных ракетных, зенітных ракетна-артылерыйскіх і радыётэхнічных воінскіх часцей і падраздзяленняў. Яны прызначаюцца для прыкрыцця груповак войскаў і важных аб’ектаў ад удараў праціўніка з паветра.

Да ***спецыяльных войскаў*** адносяцца злучэнні і воінскія часці разведкі; сувязі; радыёэлектроннай барацьбы;

інжынерныя; радыяцыйнай, хімічнай і біялагічнай (РХБ) абароны; навігацыйна-тапаграфічныя; гідраметэаралагічныя; тэхнічнага і тылавога забеспячэння.

***Тылавое забеспячэнне*** Сухапутных войскаў ажыццяўляюць *воінскія часці і падраздзяленні матэрыяльнага забеспячэння* з запасамі матэрыяльных сродкаў, *аўтамабільныя, медыцынскія і іншыя часці і падраздзяленні тылу*, якія ўваходзяць у склад злучэнняў, часцей і падраздзяленняў усіх родаў войскаў і спецыяльных войскаў.

**Ваенна-паветраныя сілы і войскі супрацьпаветранай абароны.** ВПС і войскі СПА — від Узброеных Сіл, прызначаны для вядзення самастойных або сумесных з Сухапутнымі войскамі дзеянняў па разгроме авіяцыйных і сухапутных груповак праціўніка, яго рэзерваў і важных аб'ектаў, прыкрыцця войскаў і іншых аб'ектаў ад udараў і разведкі праціўніка з паветра, высадкі паветраных дэсантаў, вядзення паветранай разведкі, ажыццяўлення паветраных перавозак і выканання іншых задач.

ВПС і войскі СПА ўключаюць у сябе: авіяцыю, зенітныя ракетныя войскі, радыётэхнічныя войскі, якія з'яўляюцца родамі войскаў; спецыяльныя войскі (воінскія часці і падраздзяленні сувязі, сувязі і радыётэхнічнага забеспячэння палётаў, радыёэлектроннай барацьбы, інжынерныя, РХБ абароны, навігацыйна-тапаграфічныя, тэхнічнага забеспячэння); воінскія часці тылу.

Арганізацыйна ВПС і войскі СПА складаюцца з органаў ваеннага кіравання, аператыўна-тактычных аб'яднанняў, зенітных ракетных, зенітных ракетна-артылерыйскіх і радыётэхнічных брыгад (палкоў), авіяцыйных баз, іншых злучэнняў, воінскіх часцей і арганізацый.

***Авіяцыя.*** За апошнія гады баявыя магчымасці авіяцыі значна ўзраслі. Аснашчэнне самалётаў і верталётаў новым узбраеннем шматразова павялічыла іх агнявую моц. Сучасная ваенная авіяцыя — рэактыўная, звышгукавая, ракетаносная, усепагодная.

Авіяцыя ВПС і войскаў СПА падраздзяляецца на р о д ы а в і я ц ы і: бамбардзіровачную, штурмавую, знішчальную, разведвальную, спецыяльную, транспартную авіяцыю і авіяцыю непасрэднай авіяцыйнай падтрымкі.

***Зенітныя ракетныя войскі*** прызначаны для абароны ад удараў з паветра адміністрацыйных і эканамічных раёнаў і

цэнтраў, важных дзяржаўных і ваенных аб'ектаў, груповак Узброеных Сіл.

***Радыётэхнічныя войскі*** неабходныя для вядзення радыёлакацыйнай разведкі і выдачы баявой і разведвальнай інфармацыі аб паветраным праціўніку, радыёлакацыйнага забеспячэння палётаў авіяцыі ВПС і войскаў СПА, кантролю захавання правілаў выкарыстання паветранай прасторы.

У мірны час ВПС і войскі СПА ўтвараюць сумесна з сіламі і сродкамі СПА Сухапутных войскаў і іншымі сіламі адзіную сістэму СПА Рэспублікі Беларусь.

**Сілы спецыяльных аперацый** з'яўляюцца родам войскаў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Яны прызначаны для выканання разведвальных, спецыяльных і арганізацыйных задач як на часова захопленай праціўнікам, так і на сваёй тэрыторыі. Не менш важная задача сіл спецыяльных аперацый — антытэрарыстычная і контрдыверсійная барацьба. Мабільныя брыгады, што складаюць аснову сіл спецыяльных аперацый Узброеных Сіл, уяўляюць сабой не проста механізаваныя злучэнні, а з'яўляюцца спецыяльнымі войскамі, здольнымі весці высокаманеўраныя, скрытныя і эфектыўныя баявыя дзеянні спецыфічнымі (нетрадыцыйнымі) спосабамі. Яны прадугледжваюць дзеянні малымі падраздзяленнямі ў спалучэнні з актыўным вядзеннем разведкі, эфектыўным выкарыстаннем наяўнага ўзбраення, тэхнікі, інжынерных боепрыпасаў, скрытнасцю дзеяння.

Да сіл спецыяльных аперацый адносяцца асобныя мабільныя брыгады, асобная брыгада спецыяльнага прызначэння, асобная рота спецыяльнага прызначэння.



**1.** Які склад Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь? **2.** Раскажыце пра склад Сухапутных войскаў. **3.** Ахарактарызуйце роды войскаў, спецыяльныя войскі і тыл Сухапутных войскаў. **4.** Раскажыце пра Ваенна-паветраныя сілы і войскі супрацьпаветранай абароны Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

# § 13. Узбраенне і ваенная тэхніка Сухапутных войскаў

**Бранятанкавая тэхніка.** На ўзбраенні беларускай арміі стаяць сярэднія танкі Т-72А і Т-72Б, баявая машына пяхоты БМП-2, бронетранспарцёр БТР-80.

Танк — асноўная ўдарная сіла Сухапутных войскаў. Ён прызначаны для паражэння браніраваных цэляў, агнявых сродкаў і жывой сілы праціўніка.

Баявыя машыны пяхоты і бронетранспарцёры прызначаны для павышэння ўзброенасці, абароненасці і мабільнасці механізаваных (мотастралковых, мабільных) падраздзяленняў.

***Танк Т-72Б*** (мал. 1). Бранявая абарона лабавой часткі корпуса і вежы танка ўяўляе сабой шматслаёвую камбінаваную бранявую перашкоду, якая забяспечвае непаражальнасць ад большасці тыпаў бранябойных падкаліберных і кумулятыўных снарадаў танкавых і супрацьтанкавых сродкаў. Высокая ўстойлівасць ад кумулятыўных боепрыпасаў павялічана ўстаноўкай дынамічнай абароны.



*Мал. 1.* Танк Т-72Б

Экіпаж танка складаецца з трох чалавек: камандзіра, механіка-вадзіцеля і наводчыка.

Асноўным узбраеннем танка Т-72Б з’яўляецца 125-міліметровая гладкаствольная гармата — пускавая ўстаноўка, якая патрапляе ў цэль як звычайнымі снарадамі, так і ракетамі, якімі кіруюць па прамяню лазера на дыстанцыях да 4000 м. У якасці дапаможнага ўзбраення прымяняюцца спараны з гарматай 7,62-міліметровы кулямёт ПКТ і 12,7-міліметровы зенітны кулямёт МСВТ. Танк забяспечаны лазерным прыцэлам-дальнамерам, прыборамі начнога бачання, абсталяваннем для самаакопвання і для навешвання

міннага трала. Ён здольны рухацца з максімальнай скорасцю па шашы да 60 км/г і пераадольваць (пасля папярэдняй падрыхтоўкі) водныя перашкоды глыбінёй да 5 м.

***БМП-2*** (мал. 2) — плаваючая браніраваная гусенічная машына. Яна з'яўляецца транспартным сродкам мотастралковага аддзялення, значна павышае яго манеўранасць і агнявыя магчымасці ў баі. Баявы разлік БМП складаюць 3 чалавекі экіпажа (камандзір, наводчык-аператар, механік-вадзіцель) і 7 чалавек дэсанта.



*Мал. 2.* БМП-2

БМП-2 узброена 30-міліметровай аўтаматычнай гарматай, спараным з гарматай 7,62-міліметровым кулямётам ПКТ і ўстаноўкай супрацьтанкавых кіравальных ракет (СТКР). Далёкасць эфектыўнага агню з гарматы па наземных цэлях у залежнасці ад тыпу боепрыпасу дасягае 4000 м. З гарматы можна весці агонь і па паветраных цэлях з далёкасцю паражэння да 2500 м. Далёкасць паражэння наземных цэляў з СТКР складае 75—4000 м, а далёкасць эфектыўнага агню з кулямёта — 400—500 м. Наяўнасць байніц дазваляе дэсанту весці агонь са стралковай зброі пры руху машыны.

БМП-2 аснашчана прыборамі начнога бачання. Максімальная скорасць руху БМП-2 па шашы дасягае 65 км/г, а на плаву — 7 км/г.

***БТР-80*** (мал. 3) — плаваючы колавы бронетранспарцёр. Баявы разлік БТР складаюць 3 чалавекі экіпажа (камандзір, наводчык, вадзіцель) і 7 чалавек дэсанта.

Бронетранспарцёр узброены 14,5-міліметровым кулямётам КПВТ і 7,62-міліметровым кулямётам ПКТ. Для вядзення стральбы ў бартах корпуса маецца сем амбразур,



*Мал. 3.* БТР-80

дзве амбразуры прызначаны для вядзення агню з кулямётаў.

Дзвюма парамі пярэдніх колаў БТР можна кіраваць. На колах устаноўлены бяскамерныя шыны звышнізкага ціску ці кулястойкія шыны. Максімальная скорасць руху бронетранспарцёра па шашы 80—90 км/г, а на плаву — 10 км/г.

**Палявая артылерыя.** З артылерыі, якую неабходна буксіраваць і вазіць, на ўзбраенні беларускай арміі маюцца 122-міліметровыя і 152-міліметровыя гарматы, а таксама 120-міліметровыя і 82-міліметровыя мінамёты. Больш манеўранымі і эфектыўнымі ў баі з'яўляюцца самаходнаартылерыйскія ўстаноўкі (САУ).

***122-міліметровая самаходная гаўбіца «Гваздзік»*** (мал. 4) уяўляе сабой гусенічную браніраваную канструкцыю, у якой размешчана артылерыйская частка 122-міліметровай гаўбіцы. Браня «Гваздзіка́» супрацьпульная, корпус герметычны, што дазваляе пераадольваць водныя перашкоды ўплаў. Баявое аддзяленне размяшчаецца ў вежы, сярэдняй і кармавой частцы корпуса, а маторна-трансмісійнае аддзяленне — наперадзе. Далёкасць стральбы САУ дасягае 15 300 м. Бронепрабівальнасць дасягае пад прамым вуглом 180 мм, а пад вуглом 60° — 150 мм.




*Мал. 4.* 122-міліметровая самаходная гаўбіца «Гваздзік»

***152-міліметровая самаходная гаўбіца «Акацыя»*** канструктыўна падобная на 122-міліметровую САУ «Гваздзік», але мае больш магутную гармату, якая валодае бо́льшымі агнявымі магчымасцямі.

Для самаходнай гарматы ***«Нона-С»*** (мал. 5) выкарыстоўваецца база плаваючай машыны БМД. Асаблівасць гэтай самаходнай гарматы заключаецца ў тым, што яна можа весці агонь як 120-міліметровымі асколачна-фугаснымі мінамі, так і снарадамі з гатовымі нарэзамі. Па эфектыўнасці дзеяння ля цэлі яны прыкладна роўныя 152-міліметровым гаўбічным снарадам.




*Мал. 5.* 122-міліметровая самаходная гармата «Нона-С»

***Супрацьтанкавы самаходны ракетны комплекс «Штурм-С»*** (мал. 6) уяўляе сабой пускавую ўстаноўку, зманціраваную на лёгкім плаваючым браніраваным транспарцёры-цягачы, з боекамплектам 130-міліметровых кіравальных ракет і сістэмай навядзення іх на цэль. Бронепрабівальнасць ракеты складае 560—600 мм, далёкасць стральбы — 400—5000 м. Разлік комплексу складаецца з двух чалавек.



*Мал. 6.* Супрацьтанкавы самаходны ракетны комплекс «Штурм-С»

Ёсць у беларускай арміі і рэактыўныя ***сістэмы залпавага агню***. Гэта спадчыннікі «Кацюш», што гераічна змагаліся на франтах Вялікай Айчыннай вайны. Сучасныя сістэмы шматразова пераўзыходзяць сваіх легендарных папярэднікаў (мал. 7). Тактыка-тэхнічныя характарыстыкі сістэм залпавага агню, якія стаяць на ўзбраенні, прыведзены ў табліцы:

| Рэактыўныя сістэмы залпавага агню | «Град» | «Ураган» | «Смерч» |
|---|---|---|---|
| Калібр, мм | 122 | 220 | 300 |
| Колькасць напраўляючых | 40 | 16 | 12 |
| Далёкасць стральбы, км | 20,5 | 35 | 70 |
| Маса снарада, кг | 66,5 | 280 | 800 |
| Маса баявой часткі, кг | 18,4 | 100 | 280 |
| Плошча паражэння залпам, га | 3,5 | 19 | 67,2 |



*Мал. 7.* Агонь вядзе беларускі «Град»

З 1999 года сістэма «Град» пастаўлена на іншае шасі — паўнапрывадны аўтамабіль высокай праходнасці МАЗ-6317.

**Ракетны комплекс тактычнага прызначэння «Кропка У»** (мал. 8). У склад комплексу ўваходзяць зманціраваныя на колавым шасі плаваючыя пускавая ўстаноўка і транспартна-зараджальная машына. Ракета — цвёрдапаліўная,



*Мал. 8.* Пускавая ўстаноўка ракетнага комплексу «Кропка У»

аднаступеньчатая. Яна мае стартавую масу 2000 кг і здольная дастаўляць баявую частку на адлегласці 20—120 км. Баявая частка масай 480 кг можа быць асколачна-фугаснай, касетнай або наводнай на радыёлакацыйную станцыю. На апошнім участку палёту ракеты ажыццяўляецца яе даварот і вертыкальнае пікіраванне на цэль. Для дасягнення максімальнай плошчы паражэння падрыў баявой часткі можа ажыццяўляцца і ў паветры над цэллю. Разлік комплексу «Кропка У» складаецца з 4 чалавек.

**Сродкі супрацьпаветранай абароны.** На ўзбраенні Сухапутных войскаў у якасці сродкаў СПА маюцца зенітныя ракетныя комплексы (ЗРК) і зенітная артылерыя.

***Зенітна-гарматны ракетны комплекс «Тунгуска»*** (мал. 9). У яго ўваходзяць: баявая машына (БМ) і транспартна-зараджальная машына. БМ зманціравана на гусенічным ходу. На яе вежы размешчаны дзве двухствольныя 30-міліметровыя аўтаматычныя гарматы (зенітныя аўтаматы) і 8 транспартна-пускавых кантэйнераў з ракетамі. Гарматнае ўзбраенне комплексу дазваляе паражаць цэлі на вышынях ад 0 да 3000 м, на далёкасцях — да 4000 м. Зенітная кіравальная ракета комплексу — цвёрдапаліўная з адлучальным стартавым рухавіком. Вышыня паражэння цэлі ракетай складае ад 15 м да 3500 м на далёкасці да 8000 м. Комплекс можна выкарыстоўваць і для знішчэння наземных і надводных цэляў на далёкасці да 2000 м. БМ аснашчана спецыяльным абсталяваннем для абароны асабовага складу ад зброі масавага паражэння. Разлік устаноўкі



*Мал. 9.* ЗСУ зенітна-гарматнага ракетнага комплексу «Тунгуска»

4 чалавекі — камандзір, аператар, наводчык і механік-вадзіцель. Транспартна-зараджальная машына ўстаноўлена на шасі аўтамабіля. Яна можа перавозіць 8 ракет і 32 карабы з патронамі для зенітных аўтаматаў.

***Пераносны зенітны ракетны комплекс «Іголка»*** пры вазе ў баявым становішчы 17 кг здольны паражаць паветраныя цэлі, якія рухаюцца як на дагонных, так і на сустрэчных курсах са скорасцю да 360 м/с, на вышыні ад 10 м да 2500 м і на далёкасці да 5200 м. У «Іголцы» выкарыстоўваецца галоўка саманавядзення, здольная ва ўмовах перашкод адрозніваць сапраўдныя і лжывыя цэлі, і запытчык «свой-чужы».

**Стралковая зброя.** ***Аўтамат Калашнікава*** мае агульнапрызнанае сусветнае лідарства сярод аўтаматычнай зброі дадзенага класу. На ўзбраенні ваеннаслужачых беларускай арміі ў якасці індывідуальнай зброі знаходзіцца 5,45-міліметровы аўтамат Калашнікава АК-74, а таксама яго мадыфікацыі.

***5,45-міліметровы кулямёт Калашнікава РПК-74*** (мал. 10) з'яўляецца найбольш магутнай аўтаматычнай зброяй мотастралковага аддзялення. Агонь з кулямёта вядзецца чэргамі і адзінкавымі стрэламі. Умяшчальнасць магазіна — 45 патронаў. Вага кулямёта з падрыхтаваным магазінам — 5,46 кг, а прыцэльная далёкасць — 1000 м.

***7,62-міліметровы кулямёт Калашнікава ПК*** (ПКМ — мадэрнізаваны, ПКС — станковы, ПКТ — танкавы) прызначаны для знішчэння жывой сілы і агнявых сродкаў праціўніка. Кулямёты ПК і ПКС могуць таксама паражаць паветраныя цэлі. Агонь з кулямёта вядзецца чэргамі.



*Мал. 10.* 5,45-міліметровы кулямёт Калашнікава РКК-74

Умяшчальнасць стужкі — 100, 200, 250 патронаў. Вага кулямёта з падрыхтаванай стужкай на 200 патронаў — 15,5 кг, а прыцэльная далёкасць — 1500 м. Кулямёт абслугоўвае разлік з двух чалавек.

***30-міліметровы аўтаматычны гранатамёт станковы АГС-17*** (мал. 11) прызначаны для паражэння жывой сілы і агнявых сродкаў, размешчаных па-за ўкрыццямі, а таксама ў адкрытых акопах (траншэях) і за натуральнымі складкамі мясцовасці (у лагчынах, ярах, на зваротных схілах вышынь). Агонь з гранатамёта вядзецца са зменным тэмпам стральбы: мінімальным — 50—100 выстр./мін або максімальным — 350—400 выстр./мін. Маса выстралу — 350 г, а маса самой гранаты — 280 г. Радыус суцэльнага паражэння — 7 м. Умяшчальнасць каробкі — 29 выстралаў. Вага гранатамёта без станка — 18 кг, а вага станка — 12 кг. Гранатамёт забяспечаны аптычным прыцэлам. Прыцэльная далёкасць стральбы — 1700 м.



*Мал. 11.* Аўтаматычны гранатамёт станковы АГС-17 «Полымя»

***7,62-міліметровая снайперская вінтоўка Драгунова (СВД)*** найбольш эфектыўная пры вядзенні агню да 800 м (мал. 12). Агонь вядзецца адзіночнымі стрэламі. Прыцэльная далёкасць стральбы з аптычным прыцэлам складае 1300 м, а з адкрытым прыцэлам — 1200 м. Далёкасць забойнага дзеяння кулі дасягае 1350 м. Вага вінтоўкі без штыканажа, з аптычным прыцэлам і непадрыхтаваным магазінам — 4,3 кг.



*Мал. 12.* 7,62-міліметровая снайперская вінтоўка Драгунова (СВД)

***9-міліметровы пісталет Макарава (ПМ)*** з'яўляецца асабістай зброяй нападу і абароны і прызначаны для паражэння праціўніка на кароткіх адлегласцях (мал. 13). Агонь з пісталета найбольш эфектыўны на адлегласцях да 50 м. Забойная сіла кулі захоўваецца да 350 м. Агонь з пісталета вядзецца адзіночнымі стрэламі. Умяшчальнасць магазіна — 8 патронаў. Вага пісталета з падрыхтаваным магазінам — 810 г.



*Мал. 13.* 9-міліметровы пісталет Макарава (ПМ)



**1.** Раскажыце пра ўзброенасць і тактыка-тэхнічныя характарыстыкі танкаў Т-72Б, БМП-2 і БТР-80. **2.** Што вам вядома пра самаходныя артылерыйскія ўстаноўкі і сістэмы залпавага агню? **3.** Раскажыце пра вядомыя вам сродкі супрацьпаветранай абароны Сухапутных войскаў.

# § 14. Узбраенне і ваенная тэхніка ВПС і войскаў СПА

**Самалёты і верталёты.** ***Знішчальнік-перахопнік Су-27*** — выключна манеўраная шматмэтавая машына. Нашлемная сістэма дазваляе ажыццяўляць цэлеўказанні ўстройствам захопу ў галоўках саманавядзення ракет. Цэлеўказанне ажыццяўляецца паваротам галавы лётчыка ў бок цэлі. Сістэма адзінай індыкацыі забяспечвае адлюстраванне неабходнай прыцэльнай і пілатажна-навігацыйнай інфармацыі на лабавым шкле. Узбраенне самалёта складаюць аўтаматычная скарастрэльная 30-міліметровая гармата і кіравальныя ракеты класа «паветра—паветра». Практычная найбольшая вышыня (паталок) складае 20 000 м, максімальная скорасць — 2500 км/г, а максімальная далёкасць палёту — 3200 км.

Высокая цягаўзброенасць ***знішчальніка-перахопніка МіГ-29*** (мал. 14) гарантуе яму неперасягнутую вертыкальную манеўранасць. Самалёт можа набіраць вышыню амаль вертыкальна. Ён мае магутнае ўзбраенне (кіравальныя ракеты класа «паветра—паветра», убудаваная гарматная ўстаноўка, ракетна-бомбавае ўзбраенне) і аснашчаны комплекснай прыцэльнай сістэмай, у якую ўваходзіць радар, квантавая оптыка-лакацыйная станцыя і нашлемны візір.



*Мал. 14.* Знішчальнік-перахопнік МіГ-29

***Франтавы бамбардзіроўшчык Су-24*** (мал. 15) здольны прыцэльна паражаць наземныя і надводныя аб’екты ў




*Мал. 15.* Франтавы бамбардзіроўшчык Су-24

складаных метэаўмовах, днём і ноччу на вялікіх і малых вышынях, пры ручным і аўтаматычным кіраванні самалётам. Бамбардзіроўшчык на звышгукавых хуткасцях дасягае практычнага паталка 11 500 м, радыус яго дзеяння з баявой нагрузкай у 3000 кг і з адным падвесным паліўным бакам складае 600 км. На ўзбраенні Су-24 маюцца шасціствольная 23-міліметровая гармата і падвешаныя кіравальныя ракеты класа «паветра—паветра» для самаабароны. Бамбардзіроўшчык на вонкавай падвесцы можа несці розныя кіравальныя ракеты класа «паветра—паверхня», а таксама свабоднападаючыя бомбы калібру ад 100 да 1500 кг, блокі некіравальных ракет, кантэйнеры малагабарытных грузаў, падвесныя ўстаноўкі з шасціствольнымі гарматамі. Максімальная баявая нагрузка складае 8000 кг.

***Штурмавік Су-25*** (мал. 16) прызначаны для непасрэднай падтрымкі Сухапутных войскаў. Машына валодае высокімі манеўранымі і хуткаснымі характарыстыкамі, мае магутнае ўзбраенне. Лётчык знаходзіцца ў суцэльназварной канструкцыі з тытанавай броні. Узбраенне самалёта Су-25 — двухствольная 30-міліметровая гарматная ўстаноўка, ракеты класа «паветра—паветра» і «паветра—паверхня». Штурмавік можа прымяняць таксама авіяцыйныя бомбы калібру 100—500 кг, разавыя бомбавыя касеты і кантэйнеры малагабарытных грузаў. Маса агульнай бомбавай нагрузкі складае 4000 кг.



*Мал. 16*. Штурмавік Су-25

***Самалёты Ан-12, Ан-24, Ан-26 і Іл-76*** выконваюць задачы па транспарціроўцы асабовага складу, баявой тэхнікі, узбраення і іншых грузаў у інтарэсах войскаў.

***Верталёт Мі-24*** (мал. 17) — вінтакрылая «баявая машына пяхоты», верталёт агнявой падтрымкі, знішчальнік танкаў. На Захадзе Мі-24 ахрысцілі «лятучым танкам». На верталёце прыменена браніраванне ўсіх жыццёва важных вузлоў. Экіпаж Мі-24 складаецца з трох чалавек (лётчык, лётчык-аператар, борттэхнік), а дэсант можа быць да васьмі чалавек у поўнай экіпіроўцы. Максімальная скорасць верталёта — 335 км/г, максімальная вышыня прамалінейнага палёту дасягае 4500 м. Узбраенне можа быць у некалькіх варыянтах у залежнасці ад мадыфікацыі верталёта. 12,7-міліметровая кулямётная ўстаноўка можа быць аднаствольнай ці чатырохствольнай (ствалы верцяцца). Верталёт узброены двухствольнай 30-міліметровай або 23-міліметровай гарматай. На верталёце могуць быць размешчаны СТКР, некіравальныя ракеты, гранатамёты (АГ-17А), бомбы, кантэйнеры з мінамі. Максімальная ўзлётная маса складае 11 500 кг.



*Мал. 17.* Верталёт Мі-24

Транспартна-баявы ***верталёт Мі-8*** перамяшчаецца з максімальнай скорасцю 250 км/г пры дынамічным паталку 4500 м. Максімальная ўзлётная вага — 12 000 кг. Верталёт можа мець на ўзбраенні кулямётную ўстаноўку, некіравальныя ракеты або бомбы.

***Верталёт Мі-6*** можа перавозіць да 90 пасажыраў або 41 пацыента на насілках з двума суправаджальнымі. Хуткасць палёту — 260 км/г, паталок — 4500 м. Максімальная ўзлётная нагрузка — 44 000 кг. Верталёт узброены 12,7-міліметровым кулямётам.

***Верталёт Мі-26*** (мал. 18) перамяшчаецца з грузам на знешняй падвесцы са скорасцю 255 км/г. Яго дынамічны паталок — 4600 м, а максімальная ўзлётная нагрузка — 56 000 кг. Максімальная карысная нагрузка — 20 000 кг.



*Мал. 18.* Верталёт Мі-26

**Сродкі супрацьпаветранай абароны.** Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь валодаюць разнастайнымі сродкамі барацьбы з балістычнымі і крылатымі ракетамі, самалётамі і верталётамі праціўніка. На ўзбраенні беларускай арміі маюцца зенітныя ракетныя комплексы (ЗРК) розных мадыфікацый.

***Зенітны ракетны комплекс «Аса»*** складаецца з каманднага пункта, баявой і транспартна-зараджальнай машын. Яны зманціраваны на колавым шасі і могуць пераадольваць водныя перашкоды. Комплекс можа выяўляць цэль у межах 28 км і паражаць яе на вышыні ад 25 м да 5000 м на далёкасці да 10 300 м. Сістэма навядзення ракеты на цэль — радыёкамандная.

***Зенітны ракетны комплекс «Бук»*** (мал. 19) у сваім складзе мае: камандны пункт, станцыю выяўлення цэляў,



*Мал. 19.* Самаходная агнявая ўстаноўка зенітнага ракетнага комплексу «Бук»

6 самаходных агнявых установак і 3 пусказарадныя ўстаноўкі. Усе баявыя сродкі комплексу размешчаны на самаходных гусенічных шасі высокай праходнасці. Апаратура і экіпаж знаходзяцца ў браніраваных карпусах, якія абараняюць ад куль, асколкаў і зброі масавага паражэння. Самаходная агнявая ўстаноўка мае радыёлакацыйную станцыю і забяспечвае выяўленне цэлі, аўтаномны пуск чатырох ракет, іх захоўванне, транспарціроўку і перадстартавы кантроль. Пусказарадная ўстаноўка ўтрымлівае 8 ракет, з іх 4 размяшчаюцца на бэльках пускавога ўстройства і гатовы да пуску, а астатнія 4 знаходзяцца на транспартных лажаментах. Зона паражэння цэлі складае па далёкасці ад 3000 м да 30 000 м, а па вышыні — ад 25 м да 18 000 м.

***Зенітны ракетны комплекс С-300*** (мал. 20) здольны надзейна прыкрыць з паветра адміністрацыйна-палітычныя і прамыслова-эканамічныя раёны краіны, групоўкі войскаў і іншыя важныя аб'екты. Ён мае некалькі мадыфікацый і можа ўключаць: шматканальную станцыю навядзення ракет, пускавыя ўстаноўкі, пусказарадныя ўстаноўкі, камандны пункт і радыёлакацыйную станцыю. Комплекс можа размяшчацца на гусенічнай або колавай базе ў залежнасці ад мадыфікацыі. Ён валодае высокай перашкодаабароненасцю і здольны адначасова абстрэльваць да 18 цэляў з навядзеннем на кожную цэль да 2—4 ракет. Увесь працэс баявой працы максімальна аўтаматызаваны за кошт выкарыстання хуткадзейных лічбавых вылічальных машын. Комплекс здольны гарантавана паразіць балістычныя цэлі на далёкасцях да 40 000 м, а аэрадынамічныя — да 100 000 м. Максімальная вышыня паражэння балістычных цэляў складае 25 000 м,



*Мал. 20.* Пускавая ўстаноўка зенітнага ракетнага комплексу С-300

а аэрадынамічных — 30 000 м. ЗРК С-300 здольны знішчыць усе сучасныя паветраныя цэлі.



**1.** Раскажыце пра самалёты і верталёты, якія стаяць на ўзбраенні беларускай арміі. **2.** Раскажыце пра вядомыя вам сродкі супрацьпаветранай абароны. **3.** Якім відам узбраення і ваеннай тэхнікі вы хацелі б авалодаць у працэсе ваеннай службы і чаму?

## § 15. Ваенныя навучальныя ўстановы

**Ваенная акадэмія Рэспублікі Беларусь.** Установа адукацыі «Ваенная акадэмія Рэспублікі Беларусь» з'яўляецца дзяржаўнай установай вышэйшай адукацыі, якая ажыццяўляе падрыхтоўку спецыялістаў ваеннага профілю ў інтарэсах забеспячэння нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь. Сёння Ваенная акадэмія ўваходзіць у лік найбуйнейшых ВНУ краіны.

Шэсць факультэтаў ВНУ — агульнавайсковы, сувязі і аўтаматызаваных сістэм кіравання, супрацьпаветранай абароны, ваеннай разведкі, авіяцыйны, унутраных войскаў — рыхтуюць спецыялістаў па 19 спецыяльнасцях, 6 напрамках і 31 спецыялізацыі.

Падрыхтоўка афіцэраў з вышэйшай ваеннай спецыяльнай адукацыяй для замяшчэння першасных афіцэрскіх пасад ажыццяўляецца з тэрмінам навучання 4 ці 5 гадоў (у залежнасці ад спецыяльнасці). Навучэнцы называюцца курсантамі.

Акадэмія мае неабходную матэрыяльна-тэхнічную базу. У вучэбных карпусах размешчаны лекцыйныя аўдыторыі, класы, спецыялізаваныя кабінеты, лабараторыі, аснашчаныя найноўшай электронна-вылічальнай тэхнікай і сродкамі аўтаматыкі. У фондах бібліятэкі маецца вялікая колькасць неабходнай тэхнічнай і іншай спецыяльнай літаратуры, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, класічнай і сучаснай мастацкай літаратуры.

У акадэміі створаны ўсе ўмовы для арганізацыі і правядзення вучэбнага працэсу ў адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі да падрыхтоўкі афіцэрскіх кадраў. У навучанні

будучых афіцэраў значнае месца займае агульнавайсковая і фізічная падрыхтоўка.

Вучэбны год складаецца з двух семестраў: восеньскага і вясновага. У канцы кожнага семестра курсанты здаюць экзамены. Пасля заканчэння акадэміі выпускнікам прысвойваецца воінскае званне «лейтэнант».

На перыяд навучання курсанты карыстаюцца ўсімі відамі забеспячэння, ім выплачваецца стыпендыя. Старшакурснікі (III—V курсы) пражываюць у добраўпарадкаваным інтэрнаце. Два разы на год (зімой і летам) курсантам прадстаўляецца канікулярны адпачынак працягласцю 14 і 30 сутак адпаведна.

У Акадэмію на конкурснай аснове прымаюцца грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія маюць агульную сярэднюю адукацыю, прафесійна-тэхнічную адукацыю з агульнай сярэдняй адукацыяй або сярэднюю спецыяльную адукацыю, а таксама вышэйшую адукацыю (пры атрыманні яе ў Рэспубліцы Беларусь на ўмовах аплаты) ва ўзросце ад 17 да 21 года, у тым ліку тыя, якія дасягнуць 17-гадовага ўзросту або дасягнулі 21-гадовага ўзросту ў год паступлення на навучанне.

Асобы з ліку грамадзянскай моладзі, якія жадаюць паступіць у Акадэмію, падаюць заяву ў ваенны камісарыят раёна (горада) па месцы жыхарства. У заяве ўказваюцца: прозвішча, імя і імя па бацьку; дата нараджэння; адукацыя; адрас месца жыхарства; наяўнасць допуску да дзяржаўных сакрэтаў (яго форма, нумар, дата ўзгаднення з органамі дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь); поўнае найменне факультэта і абранай спецыяльнасці (напрамкі спецыяльнасці, спецыялізацыі).

Да заявы прыкладаюцца: аўтабіяграфія; для абітурыентаў ва ўзросце да 18 гадоў —пісьмовая згода аднаго з бацькоў або законнага прадстаўніка, завераная ваенным камісарам ваеннага камісарыята; характарыстыка з месца вучобы або працы; для навучэнцаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі або прафесійна-тэхнічнай адукацыі з агульнай сярэдняй адукацыяй або сярэдняй спецыяльнай адукацыі, — даведка аб бягучай паспяховасці або выпіска з табеля паспяховасці за бягучы год навучання; для абітурыентаў, якія скончылі адпаведныя ўстановы адукацыі, — копія дакумента, які

пацвярджае атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі (копія атэстата) або прафесійна-тэхнічнай адукацыі з агульнай сярэдняй адукацыяй (копія дыплома і дадатку да яго) альбо сярэдняй спецыяльнай адукацыі (копія дыплома і дадатку да яго), завераная ваенным камісарам ваеннага камісарыята; тры фатаграфічныя карткі (без галаўнога ўбору памерам 37×47 мм), завераныя ваенным камісарам ваеннага камісарыята; копія пасведчання аб нараджэнні, завераная ваенным камісарам ваеннага камісарыята.

Па прыбыцці ў Акадэмію абітурыент асабіста падае ў прыёмную камісію Акадэміі наступныя дакументы: заяву на імя начальніка Акадэміі; пашпарт; арыгінал дакумента, які пацвярджае атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі (атэстат) або прафесійна-тэхнічнай адукацыі з агульнай сярэдняй адукацыяй (дыплом і дадатак да яго) альбо сярэдняй спецыяльнай адукацыі (дыплом і дадатак да яго); пасведчанне прызыўніка (для звольненых у запас ваеннаслужачых — ваенны білет); арыгіналы сертыфікатаў цэнтралізаванага тэсціравання, праведзенага ў Рэспубліцы Беларусь у бягучым годзе, па дзяржаўнай (беларускай або рускай) мове, матэматыцы і для тых, хто паступае на спецыяльнасці ваенна-тэхнічнага профілю (напрамку), — па фізіцы; для тых, хто паступае на спецыяльнасці ваенна-гуманітарнага профілю (напрамку), — па гісторыі Беларусі; дакументы, якія пацвярджаюць права абітурыента на льготы пры прыёме на навучанне.

Акрамя пералічаных дакументаў пры неабходнасці дадаткова ў прыёмную камісію Акадэміі прадстаўляецца даведка сельскага выканаўчага камітэта аб пастаянным (не менш за два гады) пражыванні на момант атрымання адукацыі ў сельскім населеным пункце або ў населеным пункце, размешчаным на тэрыторыі радыеактыўнага забруджвання (для выпускнікоў устаноў адукацыі, размешчаных у названых населеных пунктах).

У конкурсе на атрыманне вышэйшай адукацыі ў Акадэміі маюць права ўдзельнічаць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія прайшлі прафесійны адбор. Прафесійны адбор абітурыентаў ажыццяўляецца шляхам усебаковай ацэнкі кожнага абітурыента па наступных паказчыках: стан здароўя; фізічная падрыхтоўка; прафесійна-псіхалагічны адбор.

Уступныя выпрабаванні праводзяцца па праграмах, складзеных на аснове адукацыйных стандартаў агульнай сярэдняй адукацыі, зацверджаных Міністэрствам адукацыі.

Залічэнне ў Акадэмію праводзіцца па конкурсе ў адпаведнасці з колькасцю балаў, указаных у сертыфікатах цэнтралізаванага тэсціравання, праведзенага ў Рэспубліцы Беларусь, па прадметах уступных выпрабаванняў і сярэднім балам дакумента аб адукацыі.

**Ваенныя факультэты.** Студэнты, якія навучаюцца вочна ў грамадзянскіх вышэйшых навучальных установах, могуць навучацца па праграмах падрыхтоўкі афіцэраў запасу. Навучанне праводзіцца на ваенных кафедрах або факультэтах устаноў адукацыі. Выпускнікам, якія прайшлі поўны курс навучання па праграмах падрыхтоўкі афіцэраў запасу і здалі дзяржаўныя выпускныя экзамены, прысвойваецца воінскае званне «лейтэнант запасу» («малодшы лейтэнант запасу»).

У Рэспубліцы Беларусь афіцэраў запасу па розных спецыяльнасцях на ваенных факультэтах рыхтуюць установы адукацыі:

- Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт;
- Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі;
- Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт;
- Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт транспарту;
- Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт;
- Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы;
- Мінскі дзяржаўны вышэйшы авіяцыйны каледж.

**Акадэмія Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.** Акадэмія мае статус вышэйшай навучальнай установы ўніверсітэцкага тыпу.

Навучанне ў Акадэміі ажыццяўляецца па спецыяльнасцях «правазнаўства» і «эканамічнае права». Падрыхтоўка спецыялістаў з вышэйшай юрыдычнай адукацыяй праводзіцца на факультэтах:

- факультэт міліцыі — рыхтуе спецыялістаў для падраздзяленняў крымінальнай міліцыі і міліцыі грамадскай бяспекі;
- следча-экспертны факультэт — рыхтуе спецыялістаў для падраздзяленняў папярэдняга расследавання і экспертна-крыміналістычнай службы;

• крымінальна-выканаўчы факультэт — рыхтуе спецыялістаў для падраздзяленняў выканання пакаранняў.

У Акадэміі ёсць таксама факультэты: завочнага навучання, павышэння кваліфікацыі, навукова-педагагічны, давузаўскай падрыхтоўкі і факультэт права.

У Акадэміі створана вучэбна-матэрыяльная база, якая цалкам забяспечвае вучэбны працэс.

Па заканчэнні Акадэміі выпускнікам прысвойваецца спецыяльнае званне «лейтэнант міліцыі» ці «лейтэнант унутранай службы».

У Акадэмію МУС могуць паступаць абітурыенты, прыгодныя па стане здароўя да навучання на адпаведным факультэце. На дзённую форму атрымання вышэйшай адукацыі могуць паступаць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія маюць агульную сярэднюю, прафесійна-тэхнічную з агульнай сярэдняй або сярэднюю спецыяльную адукацыю і прайшлі прафесійны адбор, з ліку:

• супрацоўнікаў органаў унутраных спраў, якія знаходзяцца на пасадах радавога і малодшага начальніцкага саставу, ваеннаслужачых ва ўзросце да 30 гадоў;

• грамадзянскай моладзі, якой у годзе паступлення спаўняецца 17 гадоў, але не старэй за 25 гадоў.

Абітурыенты праходзяць прафесійны адбор, які ажыццяўляецца па наступных напрамках: папярэдняе вывучэнне; правядзенне спецыяльнай праверкі; медыцынскі агляд.

Пераважнае права на залічэнне ў парадку пералічэння маюць:

• супрацоўнікі органаў унутраных спраў (пры паступленні на навучанне ў дзённай форме атрымання вышэйшай адукацыі);

• выпускнікі агульнаадукацыйных навучальных устаноў, з якімі Акадэміяй МУС заключаны дамовы аб супрацоўніцтве і якія вывучылі факультатыўныя курсы прававой скіраванасці;

• члены маладзёжных атрадаў аховы правапарадку, якія маюць рэкамендацыі Цэнтральнага камітэта грамадскага аб’яднання «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі»;

• асобы, якія маюць больш высокі сярэдні бал дакумента аб адукацыі.

**Установы адукацыі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях (МНС).** Установамі адукацыі МНС Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца:

- Гомельскі інстытут МНС Рэспублікі Беларусь;
- Камандна-інжынерны інстытут МНС Рэспублікі Беларусь.

**Мінскае сувораўскае ваеннае вучылішча.** Мінскае сувораўскае ваеннае вучылішча з'яўляецца дзяржаўнай установай агульнай сярэдняй адукацыі з ваенна-прафесійнай накіраванасцю навучання і выхавання непаўналетніх грамадзян. Тэрмін навучання — 5 гадоў.

Правілы жыцця і паводзін суворaўцаў у вучылішчы будуюцца ў адпаведнасці з патрабаваннямі статутаў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, педагогікі, школьнай гігіены. Нароўні з агульнаадукацыйнымі прадметамі вучэбнага плана сувораўцы вывучаюць прадметы ваеннай падрыхтоўкі.

Вучылішча мае сучасную вучэбна-матэрыяльную базу, якая дазваляе якасна арганізаваць і праводзіць вучэбныя заняткі, выконваць праграмы навучання. Вучэбныя класы, кабінеты, лабараторыі абсталяваны сучаснымі тэхнічнымі сродкамі навучання. Ёсць у вучылішчы абсталяваныя спартыўныя залы і пляцоўкі, багатая бібліятэка, вельмі добрая актавая зала.



**1.** Што вам вядома пра Ваенную акадэмію Рэспублікі Беларусь? **2.** Калі ў вас з'явілася жаданне паступаць у Ваенную акадэмію ці Акадэмію МУС, то на які факультэт і чаму? **3.** Раскажыце аб прызначэнні Мінскага сувораўскага ваеннага вучылішча.

# РАЗДЗЕЛ IV
# Падрыхтоўка грамадзян да праходжання ваеннай службы

Воінскі абавязак прадугледжвае перад праходжаннем грамадзянамі ваеннай службы, службы ў рэзерве правядзенне вялікай падрыхтоўчай працы. Гэтая праца ўключае абавязковую і добраахвотную падрыхтоўку грамадзян да ваеннай службы, прыпіску да прызыўных участкаў і прызыў на ваенную службу, службу ў рэзерве. Важнай складовай у сістэме падрыхтоўкі грамадзян да ваеннай службы з'яўляецца дапрызыўная падрыхтоўка ва ўстановах агульнай сярэдняй, прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі.

## § 16. Абавязковая і добраахвотная падрыхтоўка грамадзян да ваеннай службы

Закон Рэспублікі Беларусь «Аб воінскім абавязку і воінскай службе» ўстанаўлівае абавязковую і добраахвотную падрыхтоўку грамадзян да ваеннай службы. Абавязковая падрыхтоўка прадугледжвае:

- атрыманне пачатковых ваенных ведаў у сферы ўзброенай абароны дзяржавы;
- дапрызыўную і фізічную падрыхтоўку ва ўстановах агульнай сярэдняй, прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі;
- патрыятычнае выхаванне;
- правядзенне лячэбна-прафілактычных мерапрыемстваў.

**Атрыманне пачатковых ведаў у сферы ўзброенай абароны дзяржавы** — першы этап у сістэме падрыхтоўкі ўзброенага абаронцы Айчыны ў Рэспубліцы Беларусь. Ён ажыццяўляецца шляхам інтэгравання пытанняў узброенай абароны дзяржавы ў шэраг вучэбных прадметаў, якія ўваходзяць у асноўным у адукацыйную галіну «Грамадазнаўства». Пытанні абароны Айчыны прыярытэтныя падчас пазашкольнага навучання і выхавання, выхавання ў дашкольных установах і ў сям'і.

**Дапрызыўная і фізічная падрыхтоўка.** Юнакі праходзяць дапрызыўную і фізічную падрыхтоўку ва ўсіх установах сярэдняй, прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі ў адпаведнасці з вучэбнымі планамі. Дапрызыўная і фізічная падрыхтоўка вучняў ажыццяўляецца на занятках па вучэбных прадметах «Дапрызыўная і медыцынская падрыхтоўка» і «Фізічная культура і здароўе» настаўнікамі (выкладчыкамі, кіраўнікамі) дапрызыўнай падрыхтоўкі і фізічнай культуры. У ходзе дапрызыўнай падрыхтоўкі юнакі праходзяць вучэбна-палявыя зборы.

Мэта дапрызыўнай падрыхтоўкі — фарміраванне ў юнакоў маральна-псіхалагічнай гатоўнасці да ваеннай службы, забеспячэнне навучэнцаў ведамі і ўменнямі, неабходнымі для асваення абавязкаў абаронцы Айчыны.

У працэсе дапрызыўнай падрыхтоўкі юнакі павінны:

- паглыбіць веды пра гераізм і мужнасць нашых продкаў у справе абароны Айчыны;
- асэнсаваць асабістую адказнасць за выкананне канстытуцыйнага абавязку па абароне Рэспублікі Беларусь;
- азнаёміцца з абарончым характарам ваеннай палітыкі Рэспублікі Беларусь, гісторыяй і сучасным станам нацыянальных Узброеных Сіл, парадкам праходжання ваеннай службы;
- асвоіць правы, абавязкі і адказнасць прызыўніка, асновы ваеннай справы;
- навучыцца страляць, выконваць страявыя прыёмы, дзейнічаць у экстрэмальных умовах, выконваць устаноўленыя практыкаванні і нарматывы.

Фізічная падрыхтоўка дапрызыўнікаў і прызыўнікоў праводзіцца з мэтай падрыхтоўкі фізічна моцных, цягавітых юнакоў, здольных паспяхова адаптавацца да высокіх фізічных і псіхалагічных нагрузак ваеннай службы. Аснову фізічнай гатоўнасці прызыўнікоў да будучай ваеннай службы складаюць заняткі па фізічнай культуры, якія праводзяцца ва ўсіх установах агульнай сярэдняй, прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. У ходзе дапрызыўнай падрыхтоўкі навучэнцы знаёмяцца з элементамі ваенна-прыкладной фізічнай падрыхтоўкі. Заняткі па фізічнай падрыхтоўцы праводзяцца ў адпаведнасці з дзеючымі вучэбнымі праграмамі і нарматывамі па фізічным выхаванні.

Юнакі ўдасканальваюць сваю дапрызыўную і фізічную падрыхтоўку ў працэсе пазаўрочнай і пазашкольнай работы ў ваенна-прыкладных гуртках і секцыях, на спаборніцтвах і спартакіядах, у паходах, пры палявых выхадах, подчас спартыўна-патрыятычных гульняў.

Важную ролю ў развіцці тэхнічных, авіяцыйных, ваенна-прыкладных відаў спорту і тэхнічнай творчасці моладзі мае Добраахвотнае таварыства садзейнічання арміі, авіяцыі, флоту Рэспублікі Беларусь (ДТСААФ). Таварыства мае добра абсталяваную спартыўна-тэхнічную базу і шырока развітую сетку вучэбных цэнтраў, школ, ціраў, спартыўных збудаванняў, яно актыўна садзейнічае фізічнаму развіццю дапрызыўнікаў і прызыўнікоў.

**Патрыятычнае выхаванне.** Для прывіцця любові да сваёй Радзімы і фарміравання маральна-псіхалагічнай гатоўнасці да выканання канстытуцыйнага абавязку па абароне Рэспублікі Беларусь з дапрызыўнікамі і прызыўнікамі праводзіцца патрыятычнае выхаванне. Выхаваўчы працэс арганізуецца і вядзецца органамі мясцовага кіравання і самакіравання сумесна з міністэрствамі абароны і адукацыі Рэспублікі Беларусь, іншымі дзяржаўнымі органамі, у якіх прадугледжана ваенная служба, з грамадскімі арганізацыямі і аб'яднаннямі, у першую чаргу маладзёжнымі.

У ходзе патрыятычнага выхавання юнакі глыбей спазнаюць Беларусь, яе гераічнае і гістарычнае мінулае, сучаснасць, перспектывы развіцця; паглыбляюць веды Канстытуцыі, заканадаўства па абароне Рэспублікі Беларусь, вывучаюць пытанні ўнутранай і знешняй палітыкі нашай дзяржавы. Вельмі важнымі формамі ваенна-патрыятычнага выхавання з'яўляюцца ўрокі мужнасці, сустрэчы з удзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны, музейная і пошукавая работа, правядзенне воінскіх свят, шэфскія сувязі з воінскімі часцямі. Патрыятычнае выхаванне дапрызыўнікаў і прызыўнікоў праводзіцца як у ходзе планавых заняткаў па дапрызыўнай падрыхтоўцы, так і падчас правядзення пазаўрочных і пазашкольных мерапрыемстваў з удзелам усяго педагагічнага калектыву ўстановы адукацыі, прадстаўнікоў воінскіх часцей, ваенкаматаў, ДТСААФ, грамадскіх арганізацый.

**Правядзенне лячэбна-прафілактычных мерапрыемстваў.** Лячэбна-прафілактычныя мерапрыемствы арганізуюцца і праводзяцца па месцы жыхарства, вучобы або працы грамадзян прызыўнога ўзросту медыцынскімі арганізацыямі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь на базе створаных у іх падлеткавых кабінетаў. Да прыпіскі юнакоў да прызыўных участкаў штогод праводзяцца (пачынаючы з 14-гадовага ўзросту) іх медыцынскае абследаванне, дынамічнае назіранне за станам здароўя і фізічным развіццём, а пры неабходнасці — іншыя прафілактычныя і рэабілітацыйныя мерапрыемствы. У працэсе прыпіскі юнакоў да прызыўных участкаў праводзіцца медыцынскі агляд дапрызыўнікаў. Камісіі па прыпісцы, у склад якіх уваходзяць урачы-спецыялісты, прымацоўваюць да лячэбна-прафілактычных арганізацый грамадзян, якія маюць патрэбу ў медыцынскім абследаванні, лячэнні і назіранні.

**Добраахвотная падрыхтоўка грамадзян да ваеннай службы.** Добраахвотная падрыхтоўка ўключае:

- заняткі ваенна-прыкладнымі відамі спорту;
- падрыхтоўку па ваенна-тэхнічных спецыяльнасцях;
- навучанне па вучэбных праграмах, якія прадугледжваюць ваенную падрыхтоўку непаўналетніх грамадзян (Мінскае суворaўскае ваеннае вучылішча, ваенныя аркестры);
- навучанне па праграмах падрыхтоўкі малодшых камандзіраў на ваенных кафедрах або факультэтах грамадзянскіх навучальных устаноў;
- навучанне па праграмах падрыхтоўкі афіцэраў запасу на ваенных кафедрах або факультэтах грамадзянскіх навучальных устаноў.

Грамадзяне, якія падлягаюць прызыву на ваенную службу, могуць займацца ваенна-прыкладнымі відамі спорту ў грамадскіх аб'яднаннях, установах адукацыі, спартыўных клубах і секцыях незалежна ад іх ведамаснай прыналежнасці. Наяўнасць у грамадзян першага спартыўнага разраду або спартыўнага звання па ваенна-прыкладным відзе спорту ўлічваецца прызыўнымі камісіямі пры вызначэнні віду і роду войскаў Узброеных Сіл, іншых воінскіх фарміраванняў, у якіх яны будуць праходзіць тэрміновую ваенную службу.

Падрыхтоўка грамадзян па ваенна-тэхнічных спецыяльнасцях і спецыяльнасцях, роднасных ваенна-ўліковым,

ажыццяўляецца ў арганізацыях Беларускага ДТСААФ і ўстановах адукацыі. На навучанне па ваенна-тэхнічных спецыяльнасцях накіроўваюцца грамадзяне мужчынскага полу, якія дасягнулі 17-гадовага ўзросту, прыгодныя па стане здароўя да ваеннай службы, падлягаюць прызыву на тэрміновую ваенную службу пасля заканчэння навучання на падставе Указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.



**1.** Што ўключае абавязковая падрыхтоўка грамадзян Рэспублікі Беларусь да ваеннай службы? **2.** Якія мэты і задачы дапрызыўнай падрыхтоўкі юнакоў? **3.** У чым заключаецца фізічная падрыхтоўка дапрызыўнікаў і прызыўнікоў? 4. Раскажыце пра патрыятычнае выхаванне вучняў.

## § 17. Прыём на воінскі ўлік і прызыў на ваенную службу

**Прыпіска грамадзян да прызыўных участкаў.** Юнакі ў год дасягнення імі 16-гадовага ўзросту падлягаюць прыпісцы да прызыўных участкаў, якія ствараюцца ў раёнах і гарадах без раённага дзялення. Прыпіска ажыццяўляецца з мэтай пастаноўкі грамадзян на воінскі ўлік, вызначэння катэгорыі прыгоднасці іх да ваеннай службы, устанаўлення агульнаадукацыйнага ўзроўню, набытай спецыяльнасці і фізічнай падрыхтаванасці. Прыпіска праводзіцца штогод у студзені— красавіку па месцы пастаяннага жыхарства (рэгістрацыі) грамадзян.

Кіраўнікі дзяржаўных органаў, іншых арганізацый штогод ва ўстаноўленыя тэрміны прадстаўляюць у ваенныя камісарыяты спісы грамадзян, якія падлягаюць прыпісцы. На падставе прадстаўленых спісаў ваенныя камісарыяты складаюць зводныя спісы і распрацоўваюць графікі яўкі дапрызыўнікаў на прыпіску.

Для правядзення прыпіскі грамадзян да прызыўных участкаў выканкамамі мясцовых органаў улады ствараюцца камісіі ў складзе старшыні камісіі — ваеннага камісара раёна (горада) і членаў камісіі: спецыялістаў ваеннага камісарыята, урачоў — спецыялістаў медыцынскіх арганізацый Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, сакратара камісіі.

У ходзе прыпіскі юнакоў да прызыўных участкаў камісіі праводзяць медыцынскі агляд дапрызыўнікаў і папярэдне вызначаюць іх прызначэнне на воінскай службе; папярэдне адбіраюць на добраахвотнай аснове кандыдатаў для накіравання ў ваенныя вучэбныя ўстановы; вызначаюць асоб для падрыхтоўкі па спецыяльнасцях, роднасных ваенна-ўліковым. Камісіі па прыпісцы прымацоўваюць да лячэбна-прафілактычных арганізацый асоб, якія маюць патрэбу ў медыцынскім абследаванні, лячэнні і назіранні, а таксама разглядаюць пытанні аб вызваленні грамадзян ад прыпіскі да прызыўных участкаў.

Канкрэтныя тэрміны яўкі на прызыўныя ўчасткі ўстанаўліваюцца ваеннымі камісарамі ў павестках выкліку для прыпіскі да прызыўнога ўчастка. Уручэнне павестак грамадзянам ажыццяўляецца праз жыллёва-эксплуатацыйныя арганізацыі, выканкамы мясцовых Саветаў, аддзелы кадраў прадпрыемстваў, устаноў і вучэбных устаноў. У неабходных выпадках апавяшчэнне адбываецца па пошце ці па тэлефоне, павесткі таксама могуць уручацца грамадзянам непасрэдна.

Грамадзяне, якія выклікаюцца для праходжання прыпіскі, абавязаны прыбыць на прызыўныя ўчасткі ў названыя тэрміны, маючы пры сабе пашпарт або пасведчанне аб нараджэнні, дакумент аб заканчэнні вучэбнай установы або даведку з месца вучобы (працы), даведку аб складзе сям'і, характарыстыку з месца вучобы або працы, 4 фатаграфіі $3 \times 4$ см (пералік дакументаў указваецца ў павестцы).

Прызначаныя ваенным камісарам работнікі ваенкамата праводзяць гутарку з юнакамі, правяраюць наяўнасць і паўнату прадстаўленых імі дакументаў, афармляюць асабовыя справы дапрызыўнікаў. У ходзе гутаркі з дапрызыўнікамі высвятляюцца іх схільнасці, спецыяльнасць, рысы характару, узаемаадносіны з аднагодкамі і ў сям'і, стан здароўя, шкодныя звычкі, якім спортам займаюцца і іншыя звесткі.

Кожны дапрызыўнік падчас прыпіскі да прызыўнога ўчастка падлягае абавязковаму медыцынскаму агляду ўрачамі-спецыялістамі: хірургам, тэрапеўтам, неўрапатолагам, псіхіятрам, акулістам, оталарынголагам, стаматолагам і пры неабходнасці ўрачамі іншых спецыяльнасцей.

Грамадзяніну, прыпісанаму да прызыўнога ўчастка, выдаецца пасведчанне прызыўніка, растлумачваюцца правы і абавязкі прызыўніка, правілы воінскага ўліку і парадак праходжання абавязковай падрыхтоўкі да ваеннай службы.

**Прызыў на тэрміновую ваенную службу.** Пасля прыпіскі да прызыўнога ўчастка і да прызыву на тэрміновую ваенную службу, службу ў рэзерве ў ваенкаматах планамерна назапашваюцца звесткі аб прызыўніках, іх дзелавых і маральных якасцях, стане здароўя, фізічнага развіцця, адукацыі і сямейнага становішча.

Прызыву на тэрміновую ваенную службу, службу ў рэзерве падлягаюць грамадзяне мужчынскага полу ва ўзросце ад 18 да 27 гадоў у тэрміны, устаноўленыя Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Прызыў грамадзян на тэрміновую ваенную службу, службу ў рэзерве праводзіць прызыўная камісія ў наступным складзе:

- старшыня камісіі — намеснік кіраўніка мясцовага выканаўчага і распарадчага органа;
- члены камісіі — ваенны камісар раёна (горада), намеснік начальніка ўпраўлення (аддзела) унутраных спраў мясцовага выканаўчага і распарадчага органа, кіраўнік (намеснік кіраўніка) мясцовага органа ўпраўлення аховы здароўя, урач, які кіруе працай урачоў — спецыялістаў па медыцынскім аглядзе грамадзян, што падлягаюць прызыву на тэрміновую ваенную службу, службу ў рэзерве;
- сакратар камісіі.

У працы прызыўной камісіі могуць удзельнічаць дэпутаты, прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў і іншых арганізацый.

Падчас прызыву грамадзян на тэрміновую ваенную службу, службу ў рэзерве раённая (гарадская) прызыўная камісія абавязана арганізаваць медыцынскі агляд прызыўнікоў і прыняць у дачыненні да іх адно з наступных рашэнняў:

- аб прызыве на тэрміновую ваенную службу або службу ў рэзерве;
- аб прадастаўленні адтэрміноўкі ад прызыву на тэрміновую ваенную службу або службу ў рэзерве;
- аб вызваленні ад прызыву на тэрміновую ваенную службу, службу ў рэзерве;

- аб залічэнні ў запас;
- аб вызваленні ад выканання воінскага абавязку.

Падчас прыняцця рашэння аб прызыве грамадзян на тэрміновую ваенную службу прызыўная камісія вызначае від і род войскаў Узброеных Сіл, іншыя воінскія фарміраванні, у якіх гэтыя грамадзяне могуць праходзіць тэрміновую ваенную службу. Рашэнне раённай (гарадской) прызыўной камісіі аб'яўляецца прызыўніку. Па патрабаванні прызыўніка, у дачыненні да якога прынята рашэнне прызыўной камісіі, яму выдаецца копія адпаведнага рашэння.

Грамадзяне, якія падлягаюць прызыву на ваенную службу, службу ў рэзерве, абавязаны: з'явіцца па павестцы ваеннага камісарыята на медыцынскі агляд (абследаванне) і на пасяджэнне прызыўной камісіі; з'явіцца для адпраўкі ў воінскія часці для праходжання ваеннай службы; знаходзіцца ў ваенным камісарыяце (на прызыўным пункце) для адпраўкі іх да месца ваеннай службы, службы ў рэзерве.

Павесткі ваеннага камісарыята ўручаюцца прызыўнікам пад распіску. У павестках указваецца інфармацыя аб прававых наступствах невыканання грамадзянамі выкладзеных у іх патрабаванняў. Грамадзяне, якія падлягаюць прызыву на ваенную службу, службу ў рэзерве, могуць выклікацца паштовымі карткамі або тэлефанаграмамі.

У выпадку адмовы грамадзян ад атрымання павестак і няяўкі ва ўстаноўленыя тэрміны без уважлівай прычыны на мерапрыемствы па прызыве на ваенную службу, службу ў рэзерве органы ўнутраных спраў ажыццяўляюць прывод гэтых асоб у ваенныя камісарыяты (на прызыўныя пункты) на падставе пісьмовага звароту ваеннага камісара. У выпадку няяўкі гэтыя грамадзяне лічацца асобамі, якія ўхіляюцца ад выканання воінскага абавязку і прыцягваюцца да адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Кіраўнікі прадпрыемстваў абавязаны забяспечыць своечасовае прыбыццё прызыўнікоў на прызыўны ўчастак.

Для кіраўніцтва раённымі (гарадскімі) прызыўнымі камісіямі і ажыццяўлення кантролю іх дзейнасці абласнымі (Мінскім гарадскім) выканаўчымі камітэтамі ствараюцца адпаведныя абласныя (Мінская гарадская) прызыўныя камісіі, якія маюць права пераглядаць і адмяняць рашэнні раённых (гарадскіх) прызыўных камісій.

**Вызваленне і прад'яўленне адтэрміновак ад прызыву на ваенную службу, службу ў рэзерве.** Ад прызыву на ваенную службу, службу ў рэзерве вызваляюцца грамадзяне:

- прызнаныя па стане здароўя непрыгоднымі да ваеннай службы пры ўмове выключэння з воінскага ўліку;
- якія не маюць бацькоў, а таксама грамадзяне, бацькі, маці, родныя браты, сёстры якіх загінулі або памерлі альбо сталі інвалідамі I або II групы ў выніку калецтва, захворвання, атрыманых пры выкананні абавязкаў ваеннай службы;
- якія прайшлі ваенную службу або іншым чынам выканалі воінскі абавязак у іншай дзяржаве.

Прызыву на ваенную службу, службу ў рэзерве не падлягаюць грамадзяне:

- якія адбылі пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі ў папраўчых установах;
- якія адбываюць пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі, грамадскіх або папраўчых работ, абмежавання свабоды або арышту;
- якія маюць судзімасць;
- у адносінах да якіх судом прыменены прымусовыя меры медыцынскага характару, — на працягу тэрміну прымянення гэтых мер;
- у адносінах да якіх ажыццяўляецца крымінальнае праследаванне або крымінальная справа перададзена пракурору для накіравання ў суд ці ажыццяўляецца судовая вытворчасць.

Адтэрміноўка ад прызыву на тэрміновую ваенную службу, службу ў рэзерве даецца грамадзянам:

- па стане здароўя;
- для працягу адукацыі;
- па сямейным становішчы;
- для атрымання ваенна-тэхнічных спецыяльнасцей;
- у сувязі з ажыццяўленнем дэпутацкіх паўнамоцтваў;
- на падставе Указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.



**1.** Раскажыце пра парадак прыпіскі дапрызыўнікаў да прызыўных участкаў. **2.** Раскажыце пра парадак прызыву на ваенную службу. **3.** Хто вызваляецца ад прызыву і хто не падлягае прызыву на ваенную службу, службу ў рэзерве? **4.** Каму даецца адтэрміноўка ад прызыву?

## § 18. Правы, абавязкі і адказнасць прызыўніка

**Правы прызыўніка**. Юнак з'яўляецца прызыўніком з дня прыпіскі яго да прызыўнога ўчастка з выдачай пасведчання прызыўніка і да адпраўкі для праходжання ваеннай службы, службы ў рэзерве ў воінскую часць з заменай пасведчання прызыўніка на ваенны білет.

Прызыўнікам гарантуюцца правы і свабоды, устаноўленыя заканадаўствам для грамадзян Рэспублікі Беларусь, з абмежаваннямі ў іх выкарыстанні, абумоўленымі асаблівасцямі воінскага абавязку.

У заканадаўстве Рэспублікі Беларусь па пытаннях праходжання тэрміновай ваеннай службы featureнабакова ўлічваюцца магчымасці грамадзян, іх матэрыяльнае, сацыяльнае і сямейнае становішча, стан здароўя. У сувязі з гэтым прызыўнік мае права на адтэрміноўкі і вызваленне ад прызыву ў выпадках, прадугледжаных Законам Рэспублікі Беларусь «Аб воінскім абавязку і воінскай службе».

Прызыўнік мае права на аб'ектыўны медыцынскі агляд і прыняцце ў дачыненні да яго рашэння прызыўной камісіі, якое адпавядае яго стану здароўя, адукацыі, сямейнаму і матэрыяльнаму становішчу. Члены прызыўной камісіі, а таксама іншыя асобы, якія дапусцілі злоўжыванні або нядобрасумленнае стаўленне да выканання ўскладзеных на іх абавязкаў, прыцягваюцца да адказнасці.

Прызыўнік мае права абскардзіць рашэнне раённай (гарадской) прызыўной камісіі ў абласную (Мінскую гарадскую) прызыўную камісію. Рашэнні абласной (Мінскай гарадской) прызыўной камісіі з'яўляюцца абавязковымі для ніжэйшых прызыўных камісій.

Пры неабходнасці прызыўнік мае права патрабаваць копіі прынятых у дачыненні да яго рашэнняў раённай (гарадской) або абласной (Мінскай гарадской) прызыўной камісіі.

Рашэнне абласной (Мінскай гарадской) прызыўной камісіі па скарзе грамадзяніна можа быць абскарджана ім у суд. У гэтым выпадку выкананне рашэння абласной (Мінскай гарадской) прызыўной камісіі прыпыняецца да ўступлення ў законную сілу рашэння суда.

Грамадзянам, прызваным (паступіўшым) на ваенную службу, службу ў рэзерве, па месцы іх працы даюцца гарантыі і кампенсацыі, устаноўленыя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Прызыўнікам, якія навучаюцца ва ўстановах адукацыі, прызваным (паступіўшым) на ваенную службу, службу ў рэзерве, выплачваецца па месцы вучобы дапамога ў памеры двухтыднёвай стыпендыі.

Грамадзяне, якія навучаюцца ва ўстановах адукацыі, вызваляюцца ад вучобы на час, неабходны для прыпіскі да прызыўных участкаў, афармлення прызыву (паступлення) на ваенную службу, службу ў рэзерве, пастаноўкі на воінскі ўлік і зняцця з воінскага ўліку, з захаваннем за імі стыпендыі па месцы вучобы.

Юнакам, якія навучаюцца ва ўстановах адукацыі і накіроўваюцца на медыцынскі агляд, абследаванне, лячэнне або на паўторны агляд, на час знаходжання ў медыцынскай установе захоўваюцца месца вучобы і стыпендыя, а таксама пакрываюцца расходы на праезд да месца медыцынскага агляду, абследавання, лячэння або паўторнага агляду і назад.

**Абавязкі прызыўніка.** Прызыўнік абавязаны:

- з’яўляцца ва ўстаноўлены час і месца па выкліку (павестцы) ваеннага камісарыята або іншага органа, што ажыццяўляе воінскі ўлік;
- паведамляць у тыднёвы тэрмін у ваенны камісарыят або іншы орган, які ажыццяўляе воінскі ўлік, па месцы пастаяннага жыхарства (рэгістрацыі) аб змене свайго сямейнага становішча, адукацыі, месца працы (вучобы), месца пастаяннага жыхарства (рэгістрацыі);
- зняцца з воінскага ўліку пры пераездзе на новае месца пастаяннага жыхарства (рэгістрацыі) у межах Рэспублікі Беларусь, а таксама пры выездзе для часовага пражывання за мяжу і стаць у тыднёвы тэрмін на воінскі ўлік па прыбыцці на новае месца пастаяннага жыхарства (рэгістрацыі) або дзяржавы часовага пражывання;
- мець і захоўваць пасведчанне прызыўніка. У выпадку страты пасведчання ў тыднёвы тэрмін звярнуцца ў ваенны камісарыят або іншы орган, які ажыццяўляе воінскі ўлік, а пры знаходжанні за мяжой — у дыпламатычнае прадстаўніцтва або консульскую ўстанову Рэспублікі Беларусь

для вырашэння пытання аб атрыманні дубліката пасведчання прызыўніка;

• рыхтавацъ сябе да будучай ваеннай службы, у навучальнай установе добрасумленна вывучаць курс «Дапрызыўная падрыхтоўка», выконваць нарматывы прыкладнога фізкультурна-спартыўнага комплексу «Абаронца Айчыны»;

• будучы накіраваным для навучання па ваенна-тэхнічнай спецыяльнасці, акуратна наведваць усе заняткі.

Грамадзяне, якія падлягаюць прызыву на ваенную службу, службу ў рэзерве і выязджаюць з месца пастаяннага жыхарства (рэгістрацыі) у перыяд правядзення прызыву на тэрмін больш за адзін месяц, павінны асабіста паведамляць аб гэтым у ваенны камісарыят.

Паважлівымі прычынамі няяўкі прызыўніка па павестцы (накіраванні) ваеннага камісарыята або іншага органа, што ажыццяўляе воінскі ўлік, з'яўляюцца:

• калецтва (раненне, траўма, кантузія) або захворванне грамадзяніна, звязанае са стратай ім працаздольнасці;

• цяжкі стан здароўя бацькі, маці, айчыма, мачахі, жонкі, сына, дачкі, родных брата або сястры, дзеда, бабулі, апекуна грамадзяніна або ўдзел у пахаванні названых асоб;

• перашкода, якая ўзнікла ў выніку дзеяння непераадольнай сілы, або іншыя абставіны, што не залежаць ад волі грамадзяніна;

• іншыя прычыны, прызнаныя ўважлівымі прызыўной камісіяй (ваенным камісарам) або судом.

Прычыны няяўкі павінны быць пацверджаны дакументамі адпаведных органаў.

**Адказнасць прызыўнікоў.** За няяўку грамадзян без паважлівай прычыны ў ваенны камісарыят для прыпіскі да прызыўнога ўчастка прадугледжваецца папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да адной мінімальнай заработнай платы. За здзяйсненне ўказанага парушэння паўторна на працягу года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання прадугледжваецца накладанне штрафу ў памеры ад аднаго да двух мінімальных заробкаў.

За ўхіленне прызыўніка або ваеннаабавязанага ад воінскага ўліку прадугледжваецца накладанне штрафу ў памеры да адной мінімальнай заработнай платы.

За няяўку грамадзян без паважлівай прычыны ў ваенны камісарыят для прызыву на тэрміновую ваенную службу ў

тэрміны, устаноўленыя Законам Рэспублікі Беларусь «Аб воінскім абавязку і воінскай службе», або па выкліку ваеннага камісарыята прадугледжваецца накладанне штрафу ў памеры ад двух да трох мінімальных заробкаў.

За наўмыснае псаванне або нядбайнае захоўванне прызыўнікамі пасведчанняў аб прыпісцы да прызыўных участкаў, якія прывялі да іх страты, прадугледжваецца папярэджанне або накладанне штрафу да адной мінімальнай заработнай платы.

Ухіленне ад прызыву на ваенную службу па мабілізацыі або ад прызыву на ваенную службу ў ваенны час караецца пазбаўленнем волі на тэрмін ад двух да сямі гадоў.

Ухіленне ад прызыву на тэрміновую ваенную службу, здзейсненае на працягу года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за такое ж парушэнне, караецца штрафам, або арыштам на тэрмін да шасці месяцаў, або абмежаваннем волі на тэрмін да двух гадоў, або пазбаўленнем волі на той жа тэрмін.

Ухіленне ад прызыву на ваенную службу, здзейсненае шляхам наўмыснага прычынення сабе цялеснага пашкоджання або шляхам сімуляцыі хваробы, з дапамогай падробкі дакументаў або шляхам іншага падману, караецца абмежаваннем волі на тэрмін да пяці гадоў або пазбаўленнем волі на той жа тэрмін.

Ухіленне прызыўніка або ваеннаабавязанага ад воінскага ўліку, здзейсненае на працягу года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за такое ж парушэнне, караецца штрафам або арыштам на тэрмін да трох месяцаў.



**1.** Раскажыце аб правах прызыўніка. **2.** У чым заключаюцца абавязкі прызыўніка? **3.** Раскажыце пра адміністрацыйную адказнасць прызыўніка за парушэнне правілаў воінскага ўліку. **4.** Якую адказнасць нясе прызыўнік за ўхіленне ад прызыву на ваенную службу?

# АСНОВЫ ВАЕННАЙ СПРАВЫ

Маральна-псіхалагічная гатоўнасць да будучай ваеннай службы найбольш поўна можа быць дасягнута з дапамогай практычнага авалодання першапачатковымі ваеннымі ведамі і ўменнямі. Азнаямленне са спецыфікай армейскай службы, жыццём, побытам ваеннаслужачых, авалоданне першапачатковымі навыкамі ў стральбе, страявымі прыёмамі, дзеяннямі ў палявых умовах — усё гэта спрыяе прывіццю юнакам якасцей, неабходных будучаму воіну, псіхалагічна рыхтуе іх да наступнай ратнай працы.

# РАЗДЗЕЛ V
# Тактычная падрыхтоўка

Тактыка — гэта вучэнне пра бой, яна з'яўляецца складовай часткай ваеннага майстэрства і ахоплівае тэорыю і практыку падрыхтоўкі і вядзення бою падраздзяленнямі, воінскімі часцямі і злучэннямі.

Тактыка зарадзілася са з'яўленнем армій. Яе развіццё было звязана з удасканаленнем зброі, з'яўленнем новых сродкаў узброенай барацьбы, якасным змяненнем асабовага складу войскаў.

Тактычная падрыхтоўка — гэта навучанне асабовага складу, падраздзяленняў і воінскіх часцей падрыхтоўцы і вядзенню бою. Яна з'яўляецца асновай палявой вывучкі воінаў. Гэта абумоўліваецца тым, што толькі на тактычных занятках і вучэннях магчыма максімальнае набліжэнне навучання да рэальнай баявой абстаноўкі.

## § 19. Асновы тактычных дзеянняў

Тактычныя дзеянні — арганізаваныя дзеянні падраздзяленняў, воінскіх часцей і злучэнняў па выкананні пастаўленых баявых задач.

**Формы тактычных дзеянняў.** Асноўнай формай тактычных дзеянняў з'яўляецца бой.

***Бой*** — гэта арганізаванае ўзброенае сутыкненне падраздзяленняў і часцей ваюючых бакоў. Бой можа быць агульнавайсковым, далёкім (бескантактавым), агнявым, супрацьпаветраным, паветраным і марскім.

***Удар*** — адначасовае і кароткачасовае паражэнне груповак войскаў і аб'ектаў праціўніка шляхам магутнага ўздзеяння на іх усімі наяўнымі сродкамі паражэння.

***Агонь*** — паражэнне праціўніка стральбой з розных відаў зброі.

***Манеўр*** — арганізаванае перамяшчэнне падраздзяленняў (агнявых сродкаў, ваеннаслужачых) у ходзе бою. Падчас манеўру падраздзяленні займаюць выгадныя месцы для

вядзення агню і атакі або выходзяць з-пад удару праціўніка. Манеўр праводзіцца сіламі і сродкамі, а таксама агнём.

Віды манеўру сіламі і сродкамі наступныя: ахоп, абыход, адыход.

Ахоп — манеўр, які здзяйсняецца падраздзяленнямі для ўдару ў фланг праціўніка.

Абыход — глыбокі манеўр, які здзяйсняецца падраздзяленнямі для ўдару па праціўніку з тылу.

Адыход — манеўр, які здзяйсняецца з мэтай вываду сваіх падраздзяленняў (агнявых сродкаў) з-пад удару праціўніка, выйгрышу часу і заняцця больш выгаднага рубяжа (раёна).

**Віды агульнавайсковага бою.** Віды агульнавайсковага бою: абарона і наступленне.

***Абарона*** ажыццяўляецца з мэтай адбіць наступ перавышаючых сіл праціўніка, нанесці яму максімальныя страты, утрымаць важныя раёны (аб'екты) мясцовасці і тым самым стварыць спрыяльныя ўмовы для наступных дзеянняў.

Абарона можа падрыхтоўвацца загадзя да пачатку баявых дзеянняў або арганізоўвацца ў ходзе бою. Яна павінна быць устойлівай, актыўнай, здольнай супрацьстаяць ударам усіх відаў зброі праціўніка.

У абароне кожны салдат павінен, выкарыстоўваючы сваю зброю, фартыфікацыйныя збудаванні і выгадныя ўмовы мясцовасці, умела супрацьстаяць наступаючаму праціўніку і паспяхова весці барацьбу з яго бронеаб'ектамі.

***Наступленне*** праводзіцца з мэтай разгрому (знішчэння) праціўніка і авалодання важнымі раёнамі (рубяжамі, аб'ектамі) мясцовасці.

Наступленне заключаецца ў паражэнні праціўніка ўсімі наяўнымі сродкамі, рашучай атацы, імклівым прасоўванні падраздзяленняў у глыбіню яго баявых парадкаў, знішчэнні (паланенні) жывой сілы, захопе ўзбраення, ваеннай тэхнікі і намечаных раёнаў (рубяжоў) мясцовасці. Яно павінна праводзіцца з поўным напружваннем сіл, у высокім тэмпе, безупынна днём і ноччу, у любое надвор'е, пры цесным узаемадзеянні штатных, прыдадзеных і падтрымліваючых падраздзяленняў.

Наступленне можа весціся на праціўніка, які наступае, адыходзіць або абараняецца. На наступаючага праціўніка наступленне ажыццяўляецца шляхам сустрэчнага бою і працяг-

ваецца да таго часу, пакуль адзін з бакоў не адмовіцца ад наступлення. Наступленне на адыходзячага праціўніка праводзіцца шляхам яго бесперапыннага праследу, які ажыццяўляецца як з фронту, так і па паралельных маршрутах.

***Перамяшчэнне.*** Марш — арганізаванае перамяшчэнне падраздзяленняў у калонах па дарогах і калонных шляхах з мэтай выхаду ў прызначаны раён або на ўказаны рубеж у вызначаны час, у поўным складзе і ў гатоўнасці да выканання баявой задачы. Ён з'яўляецца асноўным спосабам перамяшчэння падраздзяленняў. Падчас маршу ажыццяўляецца паходная ахова.

***Размяшчэнне на месцы.*** Пры размяшчэнні падраздзяленняў на месцы арганізуюцца баявая, вартаўнічая і непасрэдная ахова.

**Забеспячэнне баявых дзеянняў** праводзіцца для стварэння ўмоў паспяховага і своечасовага выканання падраздзяленнямі і часцямі пастаўленых перад імі задач. Яно ўключае баявое, тэхнічнае і тылавое забеспячэнне.

***Баявое забеспячэнне*** складаюць: разведка; ахова; радыяцыйная, хімічная і біялагічная абарона; тактычная маскіроўка; інжынернае забеспячэнне; ідэалагічная праца.

***Тэхнічнае і тылавое забеспячэнне*** — папаўненне боеприпасаў, запраўка гаруча-змазачнымі матэрыяламі, правядзенне тэхнічнага абслугоўвання баявых машын і ўзбраення, забеспячэнне асабовага складу сродкамі індывідуальнай абароны і спецыяльнай апрацоўкі, харчаваннем, вадой і іншымі матэрыяльнымі сродкамі.

**Спецыяльныя вайсковыя дзеянні.** Для знішчэння ўзброеных фарміраванняў праціўніка злучэнні, часці і падраздзяленні Сухапутных войскаў ва ўзаемадзеянні з фарміраваннямі іншых сілавых структур могуць праводзіць спецыяльныя вайсковыя дзеянні. У аснове дзеянняў падраздзяленняў, якія вядуць барацьбу з дыверсійна-разведвальнымі па-экстрэмісцку настроенымі злачыннымі ўзброенымі групамі, — хуткі і гнуткі манеўр і раптоўнасць.

Асноўнымі спосабамі дзеянняў падраздзяленняў пры выкананні спецыяльных задач з'яўляюцца:

- блакіраванне (ізаляцыя, акружэнне);
- пошук;
- рэйд, засада, налёт, атака, штурм;

• праследаванне;
• прачэсванне (зачыстка);
• падтрыманне ўстаноўленага рэжыму каменданцкай гадзіны (ваеннага становішча);
• вартаўнічая ахова;
• суправаджэнне калон;
• каравульная служба;
• патруляванне.

***Блакіраванне*** — дзеянне войскаў па ізаляцыі раёна верагоднага размяшчэння праціўніка. Мэты блакіравання: забараніць выхад праціўніка з раёна, забяспечыць яго пошук, захапіць або знішчыць.

Пры блакіраванні мотастралковае падраздзяленне можа прызначацца ў заслон, засаду або знаходзіцца ў рэзерве.

*Заслон* — спосаб тактычных дзеянняў па прыкрыцці напрамку, на якім чакаецца з'яўленне праціўніка ці выяўлена яго прасоўванне.

Пры выяўленні праціўніка блакавальныя падраздзяленні робяць спробы да яго захопу, пры аказанні супраціўлення — уступаюць з ім у бой і знішчаюць. Падазроных асоб затрымліваюць. Пры прарыве (абыходзе) заслону або засады блакавальныя падраздзяленні застаюцца на занятым рубяжы да завяршэння правядзення разведвальна-пошукавых дзеянняў.

***Пошук*** — пільны агляд мясцовасці і мясцовых прадметаў з мэтай выяўлення (пры спрыяльных умовах — захопу, пры ўзброеным супраціўленні — знішчэння) праціўніка ў месцах яго верагоднага размяшчэння, а таксама выяўленне яго апорных пунктаў, баз, складоў, пунктаў кіравання.

Пошук звычайна ажыццяўляецца ў блакіраваным раёне, але можа праводзіцца і ў неблакіраваных раёнах.

Для падраздзяленняў, якія вядуць пошук, прызначаюцца зыходны раён ці зыходны рубеж для пошуку і паласа (напрамак) пошуку. Для пошуку прызначаюцца таксама ўраўняльныя рубяжы, рубеж сустрэчы, канчатковы рубеж, участак пошуку.

***Засада*** — спосаб дзеянняў падраздзялення, пры якім яно ўтойліва размяшчаецца на шляху руху баевікоў (дыверсантаў), а затым знянацку нападае на іх, наносіць ім максімальнае паражэнне агнём прамой наводкай, кінжальным агнём і прымяненнем мінна-выбуховых загарод.

У ходзе вядзення баявых дзеянняў камандзір падраздзялення пры выкананні спецыяльных задач мае права: выстаўляць службовыя нарады і кантрольна-прапускныя пункты на аб'екце, які ахоўваецца; аглядаць мясцовасць і населеныя пункты, а таксама канфіскоўваць зброю, боепрыпасы і ваенную маёмасць у мясцовага насельніцтва. Ён мае права спыняць і правяраць аўтатранспарт, што праязджае праз ахоўны аб'ект (зону); весці вайсковую разведку, накіраваную на выяўленне варожых і злачынных элементаў.



**1.** Назавіце формы тактычных дзеянняў. Ахарактарызуйце віды манеўру. **2.** Што такое бой? Якім можа быць сучасны бой? **3.** Назавіце віды агульнавайсковага бою і ахарактарызуйце іх. **4.** Раскажыце пра мэты і асноўныя спосабы дзеянняў пры выкананні спецыяльных задач.

## § 20. Мотастралковае аддзяленне

Ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь мотастралковае аддзяленне з'яўляецца ніжэйшым тактычным падраздзяленнем, яно арганізацыйна ўваходзіць у склад мотастралковага ўзвода.

**Арганізацыя і ўзбраенне мотастралковага аддзялення.** У склад мотастралковага аддзялення на БМП у мірны час уваходзяць: камандзір баявой машыны — камандзір аддзялення, намеснік камандзіра баявой машыны — наводчык-аператар, кулямётчык, гранатамётчык, механік-вадзіцель. Узбраенне і ваенная тэхніка аддзялення: БМП, 5,45-міліметровы ручны кулямёт РКК-74, гранатамёт РСГ-7В.

У склад мотастралковага аддзялення на БТР у мірны час уваходзяць: камандзір аддзялення, наводчык, кулямётчык, гранатамётчык, вадзіцель. Узбраенне і ваенная тэхніка аддзялення: БТР, 5,45-міліметровы ручны кулямёт РКК-74, гранатамёт РСГ-7В.

У ваенны час мотастралковае аддзяленне даўкамплектоўваецца асабовым складам і ўзбраеннем.

**Экіпіроўка.** Частка экіпіроўкі, якая носіцца, як правіла, знаходзіцца пры ваеннаслужачым. Яна ўключае: камуфліраваны касцюм (камбінезон, маскіровачны халат) і абутак па

сезоне, палявую амуніцыю, біклагу з вадой, плашч-палатку і рэчавы мяшок. У частку экіпіроўкі, якая носіцца, таксама ўваходзяць: асабістая зброя, боепрыпасы, бронекамізэлька, шлем сталёвы, процівагаз, рэспіратар, сродкі індывідуальнай абароны, малая пяхотная рыдлёўка (МПЛ-50). У рэчавым мяшку павінны быць: кацялок, лыжка, кубак, сухі паёк, аптэчка індывідуальная, сродак абеззаражвання вады і прадметы асабістай гігіены. Камандзір аддзялення, акрамя таго, павінен мець палявую сумку з прыладамі для працы, сігнальныя сцяжкі і трохкаляровы электрычны ліхтар.

Рашэннем камандзіра склад часткі экіпіроўкі, якая носіцца, можа змяняцца.

Уся астатняя маёмасць з'яўляецца часткай экіпіроўкі, якая перавозіцца (на БМП, БТР, аўтамабілі).

**Баявыя магчымасці.** Баявыя магчымасці мотастралковага аддзялення характарызуюцца яго агнявымі і манеўранымі магчымасцямі. Мотастралковае аддзяленне здольнае паспяхова весці барацьбу з танкамі і браніраванымі машынамі, нізкалётнымі самалётамі і верталётамі праціўніка, знішчаць яго агнявыя сродкі і жывую сілу.

Мотастралковае аддзяленне ахоўвае пазіцыю да 100 м па фронце, маючы на ёй асноўныя і запасныя пазіцыі для агнявых сродкаў, якія дазваляюць сумесна з суседнімі аддзяленнямі знішчаць праціўніка агнём перад фронтам і на флангах апорнага пункта ўзвода. Аддзяленне можа здзяйсняць манеўр на пагражальны кірунак, весці агонь ноччу і ў іншых умовах абмежаванай бачнасці.

**Баявы парадак мотастралковага аддзялення.** Баявы парадак — гэта пастраенне аддзялення для вядзення бою.

У абароне і наступе мотастралковае аддзяленне дзейнічае, як правіла, у складзе мотастралковага ўзвода. У разведцы, паходнай і вартаўнічай ахове і пры выкананні спецыяльных задач яно можа дзейнічаць самастойна.

Мотастралковае аддзяленне ў пешым парадку наступае на фронце да 50 м. Яго баявы парадак складаецца з ланцуга салдат з інтэрваламі паміж імі 6—8 м (8—12 крокаў) і БМП (БТР). Для вядзення бою ў траншэях, хадах сувязі, у лесе, пры выкананні задач у глыбіні абароны праціўніка і іншых выпадках, а таксама для лепшага ўзаемадзеяння ў аддзяленні загадзя або ў ходзе наступлення могуць стварацца

баявыя групы (пары, тройкі). Пры гэтым інтэрвал паміж баявымі групамі (парамі, тройкамі) можа быць 15—20 м, а паміж салдатамі — 3—5 м. Пры вядзенні наступу на мясцовасці, якая забяспечвае агнявую падтрымку паміж баявымі групамі (парамі, тройкамі), яны перамяшчаюцца па чарзе пад прыкрыццём агню суседніх груп. Высунутая на ўказаны камандзірам аддзялення рубеж баявая група (пара, тройка) рыхтуецца для вядзення агню і прыкрывае высоўванне пакінутай ззаду групы (пары, тройкі). Для зручнасці вядзення агню і выгаднага прымянення складак мясцовасці (мясцовых прадметаў) салдаты ў ланцугу могуць высоўвацца крыху наперад або ў бок, не парушаючы агульнага напрамку фронту наступу ланцуга і не замінаючы дзеянням суседзяў. БМП (БТР) дзейнічае за ланцугом аддзялення, на яе флангу ці непасрэдна ў ланцугу.

Мотастралковае аддзяленне ахоўвае і бароніць пазіцыю да 100 м па фронце, маючы на ёй асноўныя і запасныя пазіцыі для агнявых сродкаў, якія дазваляюць сумесна з суседнімі аддзяленнямі знішчаць праціўніка агнём перад фронтам і на флангах апорнага пункта ўзвода. У адпаведнасці з гэтым будуецца і сістэма агню. Пазіцыя аддзялення ў абароне размяшчаецца, як правіла, у адной траншэі ў лінію. Агнявая пазіцыя баявой машыны пяхоты можа абсталёўвацца ў цэнтры пазіцыі аддзялення, на флангу або ззаду на адлегласці да 50 м. Аддзяленне можа здзяйсняць манеўр на пагражальны кірунак, весці агонь ноччу і ў іншых умовах абмежаванай бачнасці.

**Абавязкі пры вядзенні баявых дзеянняў.** Кожны сяржант і салдат абавязан:

- ведаць арганізацыю, узбраенне, тэхніку і тактыку падраздзяленняў праціўніка, асабліва — баявыя магчымасці яго танкаў, іншых браніраваных машын і супрацьтанкавых сродкаў, іх найбольш уразлівыя месцы;
- ведаць узбраенне і тэхніку свайго падраздзялення;
- ведаць памеры, аб'ём, паслядоўнасць і тэрміны абсталявання фартыфікацыйных збудаванняў; умець хутка абсталяваць акопы і ўкрыцці, у тым ліку з прымяненнем выбуховых рэчываў, ажыццяўляць маскіроўку;
- у баі пастаянна весці назіранне, своечасова выяўляць праціўніка і неадкладна дакладваць пра яго камандзіру;

• стойка і ўпарта дзейнічаць у абароне, смела і рашуча ў наступе, знішчаць праціўніка, асабліва яго танкі і іншыя браніраваныя машыны, усімі спосабамі і сродкамі, умела прасоўвацца на полі бою, выбіраць агнявыя пазіцыі (месца для стральбы); праяўляць адвагу, ініцыятыву і вынаходлівасць у баі, дапамагаць таварышу;

• быць фізічна моцным і цягавітым, валодаць прыёмамі рукапашнага бою;

• умець апазнаваць паветранага праціўніка і весці агонь па яго нізкалётных самалётах, верталётах і іншых паветраных цэлях са стралковай зброі;

• абараняць камандзіра ў баі, у выпадку яго ранення або гібелі смела браць на сябе камандаванне падраздзяленнем;

• ведаць спосабы абароны ад зброі масавага знішчэння і высокадакладнай зброі праціўніка; умела выкарыстоўваць мясцовасць, сродкі індывідуальнай абароны і ахоўныя ўласцівасці машын; пераадольваць загароды, перашкоды і зоны заражэння, устанаўліваць і абясшкоджваць супрацьтанкавыя і супрацьпяхотныя міны; праводзіць спецыяльную апрацоўку;

• без дазволу камандзіра не пакідаць свайго месца ў баі;

• пры раненні або паражэнні радыеактыўнымі, атрутнымі рэчывамі, біялагічнымі сродкамі, а таксама запальнай зброяй прымаць неабходныя меры сама- і ўзаемадапамогі і працягваць выкананне задачы з улікам стану здароўя. Атрымаўшы загад, адправіцца ў медыцынскі пункт, узяць з сабой асабістую зброю і сродкі абароны. Калі немагчыма дабрацца ў медыцынскі пункт са зброяй, засяродзіцца ва ўкрыцці і чакаць прыбыцця санітараў;

• умець рыхтаваць узбраенне і боепрыпасы да баявога прымянення, хутка і спрытна набіваць патронамі абоймы, магазіны, стужкі. Сачыць за расходам боепрыпасаў і запраўкай БМП (БТР) гаручым, своечасова дакладваць свайму камандзіру пра зрасходаванне 0,5 і 0,75 запасу боепрыпасаў, які носіцца (перавозіцца), і запраўкі гаручага. Пры пашкоджанні БМП (БТР) хутка прымаць захады па яе аднаўленні;

• ведаць і выконваць нормы міжнароднага права ўзброеных канфліктаў, законы ваеннага часу.

Для паспяховага выканання гэтых абавязкаў салдату неабходна метаскіравана вучыцца, настойліва трэніравацца,

выпрацоўваць высокія маральна-баявыя якасці, павышаць фізічную загартоўку і цягавітасць.



**1.** Якую арганізацыю мае мотастралковае аддзяленне ў мірны час і з чаго складаецца яго ўзбраенне? **2.** Раскажыце аб баявым парадку мотастралковага аддзялення. **3.** Якія абавязкі салдата ў баі? **4.** Што ўваходзіць у частку экіпіроўкі салдата, якая носіцца?

## § 21. Дзеянні салдата ў абароне

**Інжынернае абсталяванне пазіцыі аддзялення.** У сучасным баі роля інжынернага абсталявання пазіцый значна ўзрасла. Гэта звязана са зменамі характару агульнавайсковага бою, павелічэннем магутнасці і дакладнасці звычайных і масавых сродкаў паражэння праціўніка, павышэннем тэхнічнай аснашчанасці часцей і падраздзяленняў.

Абсталяваная ў інжынерным плане пазіцыя стварае лепшыя ўмовы для вядзення агню і назірання, абараняе асабовы склад ад сродкаў паражэння праціўніка, забяспечвае магчымасць скрытнага і хуткага манеўру падчас бою.

Інжынернае абсталяванне пазіцыі аддзялення ўключае ўладкаванне акопаў, траншэй, укрыццяў, хадоў зносін, а таксама ўстаноўку інжынерных загарод.

Пры адсутнасці непасрэднага сутыкнення з праціўнікам абсталяванне пазіцыі аддзялення пасля арганізацыі назірання пачынаецца з разбіўкі і трасіроўкі акопа на аддзяленне. Падчас капання акопаў для БМП (БТР), траншэі і ходу зносін выкарыстоўваецца навеснае інжынернае абсталяванне для самаакопвання, землярыйныя машыны і інжынерныя боепрыпасы.

Ва ўмовах непасрэднага сутыкнення з праціўнікам, пры пераходзе да абароны ў першую чаргу расчышчаецца мясцовасць для паляпшэння назірання і вядзення агню, пры гэтым не дапускаецца дэмаскіроўка. Затым капаюць адзіночныя (парныя) акопы і акоп для БМП (БТР).

У баі на адкрытай мясцовасці салдат робіць самаакопванне з дапамогай малой пяхотнай рыдлёўкі. Адзіночныя акопы для стралкоў, кулямётчыкаў і гранатамётчыкаў капаюць спачатку для стральбы лежачы, затым працягваюць капаць

і робяць акопы для стральбы з калена (глыбінёй 60 см) і для стральбы стоячы (глыбінёй 110 см). На ўладкаванне акопа для стральбы з аўтамата лежачы (мал. 21) малой пяхотнай рыдлёўкай навучаны воін затрачвае каля 30 мін.




*Мал. 21.* Адзіночны акоп для стральбы з аўтамата

Акоп для гранатамётчыка ўладкоўваецца гэтак жа, як і адзіночны акоп для стралка. Адрозненне яго ў тым, што з боку, процілеглага сектару абстрэлу гранатамёта, бруствер не насыпаецца. Акоп мае акопчык для гранатамётчыка, пляцоўку для гранатамёта і нішы для ўкрыцця гранатамётчыка і боепрыпасаў.

Акоп для БМП (БТР) складаецца з катлавана прамавугольнай формы з пляцоўкай для машыны, апарэлі для ўезду (выезду), перакрытай шчыліны (бліндажа) і бруствера. З мэтай абароны ад высокадакладнай зброі ў акопах над БМП (БТР) з штатных і падручных сродкаў ствараюцца маскі, уладкоўваюцца экраны і казыркі, паводле плана старшага

камандзіра ўстанаўліваюцца адбівальнікі і цеплавыя імітатары (пасткі).

Адзіночныя (парныя) акопы злучаюцца паміж сабой у акоп на аддзяленне, які даводзіцца да поўнага профілю і злучаецца суцэльнай траншэяй з акопамі суседніх аддзяленняў. Пасля гэтага капаюць акоп на запасной агнявой пазіцыі для БМП (БТР) і ход зносін да яго. Прамалінейнае размяшчэнне траншэі і ходу зносін не дапускаецца. У акопе на аддзяленне (мал. 22) абсталёўваюць бліндаж, нішы для боепрыпасаў, праводзяць іншыя работы па яго паляпшэнні ў баявых і гаспадарчых адносінах.




*Мал. 22.* Акоп на мотастралковае аддзяленне:
*1* — прымкнутая ячэйка для флангавага агню; *2* — кулямётная пляцоўка; *3* — вынесеная ячэйка для гранатамёта з нішай; *4* — прымкнутая ячэйка для вядзення агню; *5* — бліндаж (перакрытая шчыліна); *6* — байніца для франтальнага агню; *7* — прымкнутая кулямётная пляцоўка; *8* — байніца для гранатамёта; *9* — вынесеная ячэйка з нішай і перакрытай байніцай; *10* — акоп для БМП (БТР) з перакрытай шчылінай (бліндажом) на асноўнай пазіцыі; *11* — прыбіральня; *12* — акоп для БМП (БТР) на запасной пазіцыі

**Дзеянні да пераходу праціўніка ў наступ.** На пазіцыі аддзялення пастаянна нясе службу назіральнік. Для адбіцця раптоўнага нападу праціўніка і знішчэння яго дробных груп, якія вядуць разведку або спрабуюць праробліваць праходы ў загародах, прызначаецца дзяжурны агнявы сродак (кулямётчык або стралок), які размяшчаецца, як правіла, на запасной (часовай) агнявой пазіцыі. Астатні асабовы склад у залежнасці ад становішча робіць інжынернае даабсталёўванне пазіцыі, займаецца баявой падрыхтоўкай, дапамагае механіку-вадзіцелю (вадзіцелю) у тэхнічным абслугоўванні БМП (БТР) або адпачывае. Для выкліку асабовага складу па баявой трывозе ад назіральніка да месца адпачынку ладзіцца надзейная простая сігналізацыя.

Адзіночныя салдаты і дробныя групы праціўніка, якія спрабуюць весці разведку, знішчаюцца агнём, як правіла, з запасных (часовых) агнявых пазіцый. Больш буйныя групы праціўніка, якія набліжаюцца да пазіцыі аддзялення, знішчаюцца агнём кулямёта або БМП (БТР), а пры неабходнасці і агнём усяго аддзялення. Агонь адкрываецца па камандзе камандзіра аддзялення.

**Дзеянні ў перыяд агнявой падрыхтоўкі атакі праціўніка.** Перад пераходам у атаку праціўнік звычайна праводзіць агнявую падрыхтоўку. У гэты час камандзір аддзялення і назіральнік вядуць назіранне, а астатні асабовы склад укрываецца ў шчыліне (бліндажы), на дне акопаў і траншэй або ў БМП (БТР) у гатоўнасці хутка заняць свае месцы на пазіцыі.

**Адбіццё атакі.** Выявіўшы, што праціўнік пераходзіць у атаку, па камандзе камандзіра (сігнале назіральніка) салдат неадкладна падрыхтоўваецца да бою. Агонь па праціўніку адкрываецца з набліжэннем яго на далёкасць сапраўднага агню зброі аддзялення.

Па меры падыходу праціўніка да пярэдняга краю абароны агонь даводзяць да найвышэйшага напружання. Танкі і іншыя браніраваныя машыны праціўніка знішчаюцца супрацьтанкавымі кіравальнымі ракетамі, агнём БМП і гранатамётаў, супрацьтанкавымі гранатамі. Пяхота адсякаецца ад танкаў і знішчаецца агнём кулямётаў, аўтаматаў і падствольных гранатамётаў.

Агонь супрацьтанкавых сродкаў аддзялення канцэнтруецца ў першую чаргу на галаўным танку або танку з тралам, што пераадольвае загароду перад пярэднім краем

абароны, а затым па астатніх атакуючых танках і іншых браніраваных машынах. Пры спрыяльных умовах абстаноўкі з мэтай знішчэння танкаў, якія пераадольваюць загароды перад пазіцыяй аддзялення, камандзір аддзялення можа выслаць наперад гранатамётчыка з памочнікам (стралка з ручнымі супрацьтанкавымі гранатамі). Каб схаваць іх высоўванне, выкарыстоўваюцца складкі мясцовасці і ўжываюцца дымы (аэразолі). Часам у найбольш верагодным месцы праробліванне праціўнікам праходу ў загародах байцы аддзялення загадзя робяць і маскіруюць акоп і ход зносін да яго. У акопе можа размяшчацца гранатамётчык або кулямётчык (стралок) з загадзя падрыхтаваным мінным шлагбаумам. Па магчымасці ў барацьбе з танкамі праціўніка могуць удзельнічаць кулямётчыкі і снайпер, якія засяроджваюць свой агонь па назіральных прыборах танкаў.

У выпадку выхаду танка праціўніка непасрэдна да пазіцыі аддзялення на адлегласць 25—30 метраў бліжэйшы да яго салдат кідае ручную супрацьтанкавую гранату. Калі танк застаецца непашкоджаны, салдат адбягае па траншэі ў бок або кладзецца на яе дно, а калі танк пераадолее акоп, хутка ўскоквае і кідае супрацьтанкавую гранату ў яго борт або кармавую частку. Пасля выбуху гранаты салдат падрыхтоўваецца для знішчэння экіпажа, які пакідае падбіты танк.

З падыходам пяхоты праціўніка да пазіцыі на адлегласць 30—40 метраў салдат закідвае яе гранатамі. Калі праціўнік уварвецца на пазіцыю, салдат знішчае яго агнём ва ўпор, гранатамі і ў рукапашнай сутычцы. Распаўсюджанне праціўніка па траншэі і ходу зносін павінна быць затрымана агнём і хуткай устаноўкай загадзя падрыхтаваных рагатак, яжоў і іншых пераносных загарод.

Наводчык-аператар БМП вядзе агонь самастойна і па камандах (сігналах) камандзіра. Змена агнявых пазіцый адбываецца толькі паводле загаду камандзіра ўзвода. Пры пашкоджанні БМП (БТР) экіпаж па магчымасці працягвае агнём знішчаць праціўніка. З дапамогай дымавых гранат чорнага дыму імітуецца ўзгаранне. Адначасова прымаюцца захады да ліквідацыі пашкоджання. Экіпаж мае права пакінуць БМП (БТР), калі машына гарыць і ўсе захады, прынятыя для тушэння пажару, безвыніковыя. Калі экіпаж пакідае БМП (БТР), то ён забірае замацаваную за ім

стралковую зброю, боепрыпасы да яе, гранаты і займае месца на пазіцыі аддзялення.

Адбіўшы атаку, салдат неадкладна прыводзіць у парадак сваю зброю, папаўняе боепрыпасы, выпраўляе пашкоджанні акопа і рыхтуецца да адбіцця наступнай атакі.



**1.** Што ўяўляе сабой інжынернае абсталяванне пазіцыі аддзялення? **2.** Адтрасіруйце адзіночны акоп для стральбы з аўтамата лежачы. **3.** Выканайце дзеянні салдата пры набліжэнні да акопа танка, а за ім пяхоты праціўніка (зыходнае становішча — стоячы ў акопе з аўтаматам або макетам аўтамата, балванкамі ручной супрацьтанкавай і асколачнай гранат).

## § 22. Дзеянні салдата падчас наступлення

**Перамяшчэнне салдата ў баі.** У баі салдат можа перасоўвацца на БМП (БТР), дэсантам на танку і ў пешым парадку. Пры дзеяннях у пешым парадку ў залежнасці ад характару мясцовасці і ўздзеяння агню праціўніка салдат можа перасоўвацца паскораным крокам або бягом (у поўны рост або прыгнуўшыся), перабежкамі ці перапаўзаннем.

***Паскораным крокам або бягом*** пераадольваюцца ўчасткі мясцовасці, схаваныя ад назірання праціўніка, якія не прастрэльваюцца яго агнём. Гэтымі ж спосабамі ажыццяўляецца рух у атаку. Пры гэтым зброя можа быць у становішчы для неадкладнага адкрыцця агню наўскідку або з прыціснутым да боку прыкладам.

***Перабежкі*** прымяняюцца для зближэння з праціўнікам і ажыццяўлення іншых дзеянняў на адкрытай мясцовасці. Для перабежкі з паставы лежачы неабходна спачатку намеціць шлях руху і схаванае месца прыпынку для перадышкі, паставіць зброю на засцерагальнік. Затым хутка падняцца і імкліва перабегчы ў вызначанае месца, з разбегу легчы на зямлю і хутка адпаўзці ў бок. Гэта робіцца для таго, каб схаваць ад праціўніка месца прыпынку, інакш ён, загадзя прыцэліўшыся, можа патрапіць у салдата, калі той будзе падымацца для наступнай перабежкі.

Даўжыня перабежкі паміж прыпынкамі для перадышкі залежыць ад мясцовасці і агню праціўніка і можа быць ад 20 да 40 крокаў. За гэты час праціўнік не паспявае зрабіць прыцэльны стрэл. Дасягнуўшы вызначанага або названага

камандзірам рубяжа, неабходна заняць месца і падрыхтавацца да стральбы для прыкрыцця агнём перабежак іншых салдатаў.

***Перапаўзаннем*** (мал. 23) перасоўваюцца, калі праціўнік вядзе прыцэльны агонь ці калі неабходна наблізіцца да яго незаўважаным і раптам напасці. У залежнасці ад рэльефу мясцовасці і расліннага покрыва перапаўзаць можна па-пластунску, на паўчацвярэньках або на баку. Як і перад перабежкай, спачатку неабходна намеціць шлях перамяшчэння і скрытыя месцы для перадышкі.

Для перапаўзання п а - п л а с т у н с к у неабходна шчыльна легчы на зямлю, правай рукой узяць аўтамат за рэмень ля верхняй антабкі і пакласці яго на перадплечча правай рукі. Падцягнуць правую (левую) нагу і адначасова выцягнуць левую (правую) руку як мага далей наперад. Затым, адштурхоўваючыся сагнутай нагой, перасунуць цела наперад і падцягнуць другую нагу, выцягнуць другую руку і працягваць рух у тым жа парадку. Пры перапаўзанні галаву высока не падымаць.

*а*



*б*



*в*



*Мал. 23.* Перапаўзанне:
*а* — па-пластунску;
*б* — на паўчацвярэньках;
*в* — на баку

Для перапаўзання на паўчацвярэньках устаць на калені і абаперціся на перадплечча або на кісці рук. Затым падцягнуць сагнутую правую (левую) нагу пад грудзі, адначасова левую (правую) руку выцягнуць наперад, перасунуць цела наперад да поўнага выпроствання правай (левай) нагі, адначасова падцягваючы пад сябе другую, сагнутую, нагу, і, выцягваючы наперад другую руку, працягваць рух у тым жа парадку. Пры гэтым аўтамат варта трымаць гэтак жа, як і пры перапаўзанні па-пластунску (пры апоры на кісці рук — у правай руцэ).

Пры перапаўзанні на баку легчы на левы бок і, падцягнуўшы наперад левую нагу, сагнутую ў калене, абаперціся на перадплечча левай рукі, правай нагой уперціся абцасам у зямлю як мага бліжэй да сябе. Затым, разгінаючы правую нагу, перасунуць цела наперад, не змяняючы становішча левай нагі, пасля чаго працягваць рух у тым жа парадку. Пры перапаўзанні на баку зброю трымаць правай рукой, паклаўшы яе на сцягно левай нагі.

**Дзеянні падчас падрыхтоўкі да наступлення.** У наступленні салдат дзейнічае ў складзе аддзялення. Да пачатку наступлення са становішча непасрэднага сутыкнення з праціўнікам ён у складзе аддзялення скрытна займае ўказаную камандзірам пазіцыю. У зыходным становішчы салдат пры неабходнасці даабсталёўвае свой участак траншэі дадатковай ячэйкай. Затым ён падрыхтоўвае прыстасаванне для выскоквання з траншэі, правярае спраўнасць зброі і сродкаў індывідуальнай абароны. Далей неабходна запраўляць магазіны (стужкі), падрыхтаваць да дзеяння ручныя гранаты. Пры падрыхтоўцы да наступлення ноччу салдат, акрамя таго, вывучае мясцовасць у кірунку руху, запамінае мясцовыя прадметы, якія могуць быць арыенцірамі ноччу. Для карэкціроўкі агню ў цёмны час магазіны набіваюцца дадаткова патронамі з трасіруючымі кулямі.

Да пачатку руху ў атаку салдат вядзе агонь па праціўніку.

***Падчас атакі ў пешым парадку.*** Па камандзе «Аддзяленне, падрыхтавацца да атакі» салдат зараджае зброю поўным магазінам (стужкай), далучае штык-нож, падрыхтоўвае да выкарыстання ручныя гранаты. Калі неабходна, устанаўліваюцца прыстасаванні для хуткага выскоквання з траншэі.

***Падчас атакі на БМП (БТР).*** Падчас агнявой падрыхтоўкі атакі адбываецца пасадка асабовага складу ў БМП (БТР). Па камандах камандзіра аддзялення «Да машыны», «Па месцах» салдат хутка займае сваё месца ў машыне і падрыхтоўваецца для вядзення агню.

**Дзеянні падчас атакі.** ***Атака*** — імклівы і безупынны рух падраздзяленняў у баявым парадку, які спалучаецца з агнём найвышэйшага напружання і ажыццяўляецца з мэтай знішчэння праціўніка.

***Падчас атакі ў пешым парадку.*** Па камандзе «Аддзяленне, у атаку — наперад» салдат аднначасова з іншымі салдатамі хутка выскоквае з акопа (траншэі) і рухаецца наперад бягом або паскораным крокам у ланцугу аддзялення неадступна за танкам, а дзе яго няма — самастойна пры падтрымцы агню БМП. Падчас руху ў ланцугу аддзялення салдат раўняецца па пярэдніх, вытрымлівае ўстаноўлены інтэрвал і сваім агнём знішчае агнявыя сродкі праціўніка, у першую чаргу супрацьтанкавыя (мал. 24).



*Мал. 24.* Мотастралковае аддзяленне наступае ў пешым парадку (варыянт)

Наблізіўшыся да праціўніка ў траншэі на 25—40 м, салдат па камандзе камандзіра аддзялення «Аддзяленне, гранатамі — агонь» закідвае яго гранатамі і з крыкам «Ура» ўрываецца на пярэдні край абароны. Знішчаючы праціўніка агнём ва ўпор і штыком, салдат, не затрымліваючыся, услед за танкамі працягвае атаку ў вызначаным кірунку.

***Падчас атакі на БМП (БТР).*** Салдат атакуе праціўніка, ведучы агонь праз байніцы (па-над бортам), знішчаючы яго жывую сілу і агнявыя сродкі (мал. 25).



*Мал. 25.* Мотастралковы ўзвод наступае на бронетранспарцёрах (варыянт)

**Дзеянні пры наступленні з ходу.** Да пачатку наступлення з ходу салдат у складзе аддзялення размяшчаецца ва ўказаным камандзірам месцы, усведамляе атрыманую задачу і рыхтуецца да наступлення. Высоўванне да абароны праціўніка ажыццяўляецца на БМП (БТР).

***Падчас атакі ў пешым парадку.*** З выхадам БМП (БТР) да ўстаноўленага месца спешвання салдат па камандах камандзіра аддзялення «Да машыны», «Аддзяленне, у кірунку пэўнага прадмета, напраўляючы — называецца прозвішча — да бою, НАПЕРАД» разам з іншымі салдатамі спешваецца. Затым ён хутка займае сваё месца ў баявым парадку аддзялення (ланцуга), ведучы інтэнсіўны агонь на хаду, і працягвае атакаваць услед за танкам ці самастойна.

***Падчас атакі на БМП (БТР).*** Калі абарона праціўніка надзейна падаўлена агнём артылерыі і ўдарамі авіяцыі, атака пярэдняга краю абароны праціўніка ажыццяўляецца на БМП (БТР). Пры гэтым салдат вядзе агонь са сваёй зброі праз байніцы па рэштках на пярэднім краі агнявых сродкаў і жывой сіле праціўніка.

**Пераадоленне загарод.** Загароды перад пярэднім краем абароны праціўніка пераадольваюцца пад прыкрыццём агню

сваіх войскаў. Падчас атакі праціўніка ў пешым парадку салдат пераадольвае міннае поле ў складзе аддзялення ўслед за танкам (БМП) па яго каляіне або па прaробленым праходзе.

Пры падыходзе да міннага поля салдат па камандзе камандзіра «Аддзяленне, за мной, у калону па аднаму (па два), у праход, бягом — МАРШ» хутка займае сваё месца ў калоне аддзялення і імклівым кідком пераадольвае загароду (мал. 26). Трэба памятаць, што затрымка і скучванне недапушчальныя, інакш праціўнік можа нанесці сваім агнём значныя страты. Пераадолеўшы загароду, салдат па камандзе камандзіра «Аддзяленне, у кірунку пэўнага прадмета, напраўляючы — называецца прозвішча — да бою, НАПЕРАД» займае сваё месца ў ланцугу і імкліва працягвае атакаваць.



*Мал. 26.* Мотастралковае аддзяленне пераадольвае змешанае мінное поле ўслед за танкам

**Дзеянні на заражанай мясцовасці.** Падчас пераадолення зон заражэння салдаты, якія знаходзяцца ў бронетранспарцёрах або аўтамабілях, апранаюць процівагазы, у БМП і танках уключаецца сістэма абароны ад зброі масавага паражэння. Рух ажыццяўляецца па магчымасці на максімальнай скорасці і ў кірунку, які забяспечвае найменшае паражэнне і заражэнне людзей.

Пры дзеяннях у пешым парадку, на адкрытых машынах і дэсантам на танку ў сухое надвор’е салдат надзяе рэспіратар (процівагаз), ахоўны плашч, панчохі і пальчаткі. Для пераадолення ўчасткаў мясцовасці, заражаных атрутнымі рэчывамі, ён надзяе процівагаз, ахоўны плашч (накідку), панчохі і пальчаткі. У сырое надвор’е ў зоне радыеактыўнага заражэння процівагаз можна не надзяваць. Адкрытыя

заражаныя ўчасткі мясцовасці салдат пераадольвае доўгімі і імклівымі перабежкамі. Дзейнічаючы на заражанай мясцовасці, не варта без патрэбы дакранацца да заражаных прадметаў, прымаць ежу і піць.



**1.** Пераадолейце на мясцовасці адлегласць 80—100 м перабежкамі. **2.** Прапаўзіце па-пластунску на мясцовасці адлегласць 25 м. **3.** Выканайце дзеянні салдата па камандах «Аддзяленне, падрыхтавацца да атакі» і «Аддзяленне, у атаку — НАПЕРАД». **4.** Як дзейнічае салдат пры пераадоленні загарод па праходах і заражанага ўчастка мясцовасці ў пешым парадку?

## § 23. Дзеянні салдата, прызначанага назіральнікам або дазорным

**Салдат-назіральнік.** Назіранне — адзін са спосабаў разведкі наземнага і паветранага праціўніка. Яно вядзецца ва ўсіх відах баявых дзеянняў, на маршы і пры размяшчэнні падраздзяленняў на месцы, днём і ноччу. Для вядзення назірання ў аддзяленні прызначаецца назіральнік з ліку салдатаў. У назіральніка можа быць прыбор назірання.

Зразумеўшы атрыманую ад камандзіра аддзялення задачу, назіральнік выбірае месца для назірання, калі яно не было ўказана, і займае яго, не спыняючы назірання за праціўнікам. Затым ён вызначае адлегласці да арыенціраў і характэрных мясцовых прадметаў у прызначаным сектары.

*Арыенціры* — гэта добра бачныя і найбольш устойлівыя да разбурэння мясцовыя прадметы. Арыенціры нумаруюцца справа налева і па рубяжах ад сябе ў бок праціўніка. Адзін з арыенціраў прызначаецца асноўным. Замяняць арыенціры, прызначаныя старшым камандзірам, забараняецца.

***Абсталяванне і маскіроўка месца для назірання.*** Месца для назірання звычайна выбіраецца паблізу камандзіра, каб мець магчымасць голасам дакладваць аб выніках назірання. Яно павінна забяспечваць добры агляд, маскіроўку, укрыцце ад агню праціўніка і мець зручныя падыходы. На ім назіральнік размяшчаецца так, каб можна было больш бачыць і чуць, пры гэтым застаючыся нябачным для праціўніка.

Не пажадана размяшчацца для назірання на грабянях вышынь, вяршынях узгоркаў і кurганоў, паблізу асобна размешчаных мясцовых прадметаў (дрэва, куста, будынка, моста, скрыжавання дарог і г. д.). Яны могуць служыць арыенцірамі і прыцягнуць увагу праціўніка (мал. 27). Калі так станецца, што асобны прадмет вельмі зручны для назірання, то размяшчацца каля яго лепш з ценявога боку. У акопе, варонцы або канаве трэба размяшчацца так, каб ззаду былі насып, пагорак або куст, на фоне якога галава назіральніка непрыкметная.



Правільна



Няправільна



Правільна



Няправільна



Правільна



Правільна



Няправільна



Правільна



Няправільна

*Мал. 27.* Выбар месца для назірання

Асноўным месцам укрыцця назіральніка ад агню праціўніка з'яўляецца акоп. Таму трэба пры першай жа магчымасці выкапаць яго і замаскіраваць.

***Спосабы агляду мясцовасці.*** Прызначаны сектар назірання па далёкасці разбіваецца на тры зоны (мал. 28). Глыбіня блізкай зоны 400—500 м, сярэдняй — да 1000 м, далёкай — да межаў бачнасці. Межы зон на мясцовасці ўстанаўліваюцца па добра бачных арыенцірах або мясцовых прадметах.




*Мал. 28.* Парадак агляду мясцовасці ў сектары назірання

Агляд мясцовасці можна весці двума спосабамі. Пры першым агляд пачынаецца з блізкай зоны і вядзецца справа налева ў бок праціўніка. Агледзеўшы такім чынам блізкую зону, неабходна поглядам прайсці па ёй назад, як бы здзяйсняючы самакантроль. У такім жа парадку аглядаюцца сярэдняя і далёкая зоны. Пры гэтым адкрытыя ўчасткі аглядаюцца хутчэй. Месцы, дзе могуць хавацца агнявыя сродкі праціўніка (схілы вышынь, яры, хмызняк, будынкі і інш.), аглядаюцца ўважліва.

Пры другім спосабе спачатку аглядаюцца падоўжныя і папярочныя дарогі, потым ўзлескі лясоў, гаёў, ускраіны населеных пунктаў, сады, а затым асобныя мясцовыя прадметы.

Выявіць праціўніка можна па дэмаскіруючых прыкметах. Імі могуць быць сляды гусеніц і колаў, сцежкі, якія вядуць да ўкрыццяў, завялае лісце і трава, выкарыстаныя для маскіроўкі ўкрыццяў, зброі і ваеннай тэхнікі, з’яўленне дыму там, дзе яго не павінна быць. Пры выяўленні прыкмет прысутнасці праціўніка неабходна ўважліва, з дапамогай прыбора назірання вывучыць гэты ўчастак мясцовасці і вызначыць характар цэлі.

***Выяўленне праціўніка і даклад назіральніка.*** Для вызначэння становішча выяўленай цэлі на мясцовасці неабходна вымераць яе аддаленне (управа або ўлева, далей ці бліжэй) ад бліжэйшага арыенціра, адлегласць да якога ўжо вядома. Аддаленне ў бакі ад арыенціра вымяраецца ў тысячных, а аддаленне па далёкасці — у метрах.

*Тысячная* — вуглавая велічыня, роўная прыблізна 0,001 радыяна. Вугламерныя шкалы бінокля або іншага прыбора назірання размечаны ў тысячных (мал. 29). Велічыня аднаго вялікага дзялення шкалы адпавядае 10 тысячным, малога — 5 тысячным (запісваецца 0-10, 0-05).




*Мал. 29.* Вугламерныя шкалы бінокля

Далёкасць да цэлі звычайна вызначаецца на вока і па вуглавой велічыні цэлі.

На вока далёкасць да цэлі вызначаецца: параўнаннем яе з вядомай далёкасцю да мясцовага прадмета (арыенціра); па адрэзку мясцовасці, які добра захаваўся ў зрокавай памяці; па ступені бачнасці і ўяўнай велічыні цэлі.

Па вуглавой велічыні далёкасць да цэлі вызначаецца па ***формуле тысячнай***

$$Д = \frac{В \times 1000}{У},$$

дзе Д — далёкасць да цэлі ў метрах; В — вышыня (шырыня) цэлі ў метрах; У — вуглавая велічыня цэлі ў тысячных.

Вуглавыя велічыні можна вызначыць таксама з дапамогай падручных прадметаў (лінейкі, алоўка, запалкавага карабка) і з дапамогай пальцаў рукі. Для гэтага трэба ведаць значэнне гэтых прадметаў у тысячных:

1 мм лінейкі — 0-02 (дзве тысячныя);

аловак круглы — 0-12;

запалкавы карабок: па даўжыні — 0-90; па шырыні — 0-60; па вышыні — 0-30;

пальцы рукі: вялікі — 0-40; указальны — 0-30; мезенец — 0-20.

Дакладнасць вызначэння вуглавой велічыні цэлі з дапамогай падручных прадметаў залежыць ад дакладнасці вынасу іх на адлегласць 50 см ад вачэй.

Прыклад вызначэння далёкасці да цэлі па яе вуглавой велічыні: вуглавая велічыня бачнага ў бінокль чалавека (сярэдні рост чалавека прыняты за 1,7 м) роўная аднаму малому дзяленню сеткі бінокля (0-05, гэта значыць 5 тысячных). Такім чынам, далёкасць да чалавека

$$Д = \frac{1,7 \times 1000}{5} = 340 \text{ м.}$$

Даклад па выніках назірання павінен быць кароткі і выразны. Назіральнік нягучна, але так, каб чуў камандзір, дакладвае арыенцір (мясцовы прадмет), становішча выяўленай цэлі адносна арыенціра (мясцовага прадмета) і яе дзеянне. Пры гэтым ён спачатку ўказвае становішча цэлі ўправа або ўлева ад арыенціра ў тысячных, а затым далей ці бліжэй — у метрах. Напрыклад: «Арыенцір 2, направа 40, бліжэй 50, у акопе кулямёт».

Выявіўшы паветраную цэль праціўніка, назіральнік неадкладна падае сігнал апавяшчэння, вызначае яе характар, кірунак і вышыню палёту і дакладвае камандзіру. Напрыклад: «Паветра, над Бярозаўкай звяно верталётаў, вышыня 100».

Калі назіральнік выявіць радыеактыўнае заражэнне або прымяненне праціўнікам атрутных рэчываў, ён неадкладна апранае сродкі абароны, дакладвае камандзіру і працягвае выконваць задачу.

**Дазорнае аддзяленне.** Для своечасовага выяўлення праціўніка і разведкі мясцовасці ад падраздзяленняў, якія вядуць разведку або выконваюць баявыя задачы ў паходнай ахове, прызначаецца дазорнае аддзяленне. Аддзяленне дзейнічае на БМП або ў пешым парадку, а ўзімку і на лыжах. Назіранне вядзецца на хаду, з кароткіх прыпынкаў і з выгоднага для назірання пункта. Пры руху асаблівая ўвага звяртаецца на месцы, дзе магчыма размяшчэнне засад (яры, лагчыны, грэблі, масты, густыя зараснікі, вяршыні дрэў).

**Дзеянні дазорных.** Калі ёсць перашкоды для правядзення разведкі якога-небудзь аб’екта з машыны (або з абранага ўкрыцця), камандзір аддзялення высылае пешых дазорных (двух-трох салдат), прызначыўшы аднаго з іх старшым. Ім указваюцца кірунак руху, пункты для назірання і сігналы для сувязі.

Прасоўваюцца дазорныя па бездарожжы ад аднаго пункта, зручнага для назірання, да другога. Старшы дазорны рухаецца ззаду дазорнага (дазорных). Ён сочыць за сігналамі камандзіра аддзялення і ў выпадку неабходнасці павінен падтрымаць дазорнага агнём. Дазорныя старанна аглядаюць мясцовасць і мясцовыя прадметы, асабліва тыя, дзе можа быць схаванае размяшчэнне праціўніка і адкуль можна чакаць яго раптоўнае нападзенне з засады. Пры гэтым дазорныя дзейнічаюць ўтойліва і хутка, звяртаючы ўвагу на ўсе дэмаскіруючыя прыкметы, па якіх можна выявіць праціўніка.

Мясцовыя прадметы дазорныя аглядаюць спачатку здалёк і, пераканаўшыся ў адсутнасці праціўніка, падыходзяць бліжэй. Пра ўсё заўважанае старшы дазорны неадкладна даносіць камандзіру аддзялення вызначанымі сігналамі, напрыклад: «Бачу праціўніка», «Шлях вольны» і інш.

Дасягнуўшы пункта, вызначанага для назірання, дазорныя размяшчаюцца ўтойліва і ўважліва аглядаюць мясцовасць

спераду. Камандзір разам з аддзяленнем рухаецца да дазорных, пры неабходнасці ўдакладняе ім задачу і высылае іх наперад.

***Парадак агляду мясцовасці.*** Агляд лесу пачынаецца з ўзлеску. Спачатку ўзлесак аглядаецца здалёк, і па разведвальных прыкметах вызначаецца наяўнасць праціўніка ў лесе. Калі праціўнік не выяўлены, рух праз лес працягваецца.

Агляд населенага пункта пачынаецца здалёк, з яго ўскраіны. Асаблівая ўвага звяртаецца на тыя месцы, дзе праціўнік можа размясціць падраздзяленні аховы і назірання, агнявыя сродкі (асобныя будынкі, каменныя будынкі, пасадкі і зараснікі на ўскраіне населенага пункта). Калі праціўнік не знойдзены, неабходна падысці (пад'ехаць) да населенага пункта і апытаць мясцовых жыхароў. Пасля гэтага можна прасоўвацца праз населены пункт у гатоўнасці да адкрыцця агню.

Пры аглядзе будынка дазорны, маючы зброю напагатове, абыходзіць яго вакол і аглядае вокны і дзверы, увесь час прыслухоўваючыся да таго, што робіцца ўнутры. Увайшоўшы ў памяшканне, аглядае яго, асабліва склеп і гарышча, улічваючы магчымасць устаноўкі праціўнікам мін-пастак. Старшы дазорны ў гэты час знаходзіцца ва ўкрытым месцы ў гатоўнасці дапамагчы дазорнаму.

Агляд ракі пачынаецца з агляду подступу да яе. Пры падыходзе да ракі старанна аглядаюцца хмызнякі, прамоіны і іншыя скрытыя месцы на абодвух берагах. Прыкметамі броду могуць быць дарогі, сцяжынкі і каляіны, якія працягваюцца на іншым беразе, перакаты і месцы з мелкахвалістай паверхняй вады.

Роў, які не праглядаецца зверху, дазорны аглядае, рухаючыся па яго дне. Старшы дазорны рухаецца па ўзроўку ў гатоўнасці падтрымаць дазорнага агнём.

Пры аглядзе вышыні дазорныя рухаюцца па яе схіле або абыходзяць з боку. На вяршыню вышыні высоўвацца не варта.



**1.** Якія патрабаванні прад'яўляюцца да выбару і маскіроўкі месца для назірання? **2.** Раскажыце пра спосабы агляду мясцовасці назіральнікам. **3.** Раскажыце пра парадак руху і дзеянні дазорных пры аглядзе мясцовасці і мясцовых прадметаў. **4.** Як аглядаюцца лес, населены пункт, рака, роў, вышыня?

## § 24. Замежныя арміі

Амаль усе краіны свету маюць свае ўзброеныя сілы. Найбольш моцнымі арміямі сёння валодаюць ЗША, Расія, Кітай, Германія, Вялікабрытанія, Францыя. Даволі магутная ваенная групоўка створана ў ваенна-палітычным Паўночнаатлантычным саюзе (блок НАТА).

**Узброеныя сілы ЗША** па сваёй колькасці, баявым складзе, колькасці зброі і ваеннай тэхнікі пераўзыходзяць узброеныя сілы такіх краін, як Германія, Вялікабрытанія, Францыя і Італія разам узятыя. Яны складаюць аснову баявой магутнасці блока НАТА.

Узброеныя сілы ЗША ўключаюць віды: сухапутныя войскі, ваенна-паветраныя сілы, ваенна-марскія сілы і корпус марской пяхоты. Агульная колькасць рэгулярных узброеных сіл ЗША — больш за 1,3 млн чалавек ваеннаслужачых і каля 700 тысяч чалавек грамадзянскага персаналу. Арганізаваны рэзерв складаюць звыш аднаго мільёна чалавек. Рэзерв сумесна з рэгулярнымі войскамі ўдзельнічае ў розных вучэннях і манеўрах, аснашчаецца сучаснай зброяй і ваеннай тэхнікай.

Вярхоўным галоўнакамандуючым узброенымі сіламі з'яўляецца прэзідэнт, які ажыццяўляе агульнае кіраўніцтва імі праз Савет нацыянальнай бяспекі і Міністэрства абароны.

Камплектаванне асабовага складу ўзброеных сіл ажыццяўляецца па добраахвотным прынцыпе вярбоўкі і заключэння індывідуальных кантрактаў. На службу прыцягваюцца грамадзяне ЗША, грамадзяне іншых дзяржаў, якія пастаянна пражываюць у ЗША і маюць хаця б сярэднюю адукацыю. Тэрмін кантракту ад 3 да 6 гадоў. Для ўсіх рэзервістаў устаноўлена праграма, па якой яны прыцягваюцца на заняткі адзін уік-энд у месяц і два тыдні ў годзе. Пры неабходнасці ваеннаслужачыя рэзервовых кампанентаў прызываюцца на абавязковую службу.

Сухапутныя войскі з'яўляюцца адным з асноўных кампанентаў сіл агульнага прызначэння. Яны складаюцца з родаў войскаў і розных службаў. Да родаў войскаў адносяцца: пяхота (мотапяхота), бранятанкавыя войскі, палявая і зенітная артылерыя, армейская авіяцыя, а таксама часці і падраздзяленні

баявога забеспячэння — войскі сувязі, інжынерныя, хімічныя, ваенная разведка і ваенная паліцыя.

Ваенна-паветраныя сілы складаюцца з часцей, злучэнняў і аб'яднанняў міжкантынентальных балістычных ракет, крылатых ракет наземнага базіравання, стратэгічнай, тактычнай і ваенна-транспартнай авіяцыі. У іх таксама ўваходзяць сілы і сродкі супрацьпаветранай абароны, папярэджання аб ракетна-ядзерным удары і кантролю касмічнай прасторы.

Ваенна-марскія сілы з'яўляюцца разнародным і ўніверсальным відам узброеных сіл ЗША і прызначаны для вядзення ваенных дзеянняў у розных па маштабе і характары войнах.

Важным кампанентам узброеных сіл краіны з'яўляецца марская пяхота, яна знаходзіцца ў пастаяннай баявой гатоўнасці і выкарыстоўваецца амерыканскім ваенна-палітычным кіраўніцтвам у якасці ўдарнага атрада.

Асноўныя віды ўзбраення і ваеннай тэхнікі: танкі «Абрамс»; БМП «Брэдлі»; БТР М113; ПУ СКТР «Дракон»; ПУ ЗУР «Пэтрыёт»; міжкантынентальныя балістычныя ракеты «Мінітмен-3» і MX; самалёты F-15, F-16, F/A-18, C-12, A-10A; верталёты UH-60/A/L/M, AH-1W «Супер Кобра»; атамныя авіяносцы шматмэтавыя і авіяносцы малыя; падводныя лодкі ПЛА (падводная лодка атамная) і ПЛАРБ (падводная лодка атамная ракета балістычная); лінкары, крэйсеры, эскадраныя мінаносцы, мінатральныя і дэсантныя караблі.

**Узброеныя сілы Германіі** (Бундэсвер) з'яўляюцца найбольш магутнай па колькасці і звычайным узбраенні арміяй у Заходняй Еўропе. Колькасць рэгулярных узброеных сіл Германіі больш за 300 тысяч чалавек ваенных і 75 тысяч грамадзянскіх, у рэзерве Бундэсвера знаходзяцца звыш 300 тысяч чалавек. Германія мае ўласную ваенную прамысловасць, якая здольная вырабляць амаль усе віды сучаснага ўзбраення і ваеннай тэхнікі. Асноўная частка ўзброеных сіл Германіі ўключана ў склад аб'яднаных узброеных сіл НАТА.

Узброеныя сілы Германіі складаюць сухапутныя войскі, ваенна-паветраныя сілы і ваенна-марскія сілы.

Сухапутныя войскі Германіі складаюцца з сухапутных войскаў і тэрытарыяльных войскаў. Сухапутныя войскі Германіі дзеляцца на роды войскаў і роды зброі. Да родаў войскаў адносяцца: войскі кіравання, баявыя войскі, войскі

баявой падтрымкі і спецыяльныя роды войскаў. Войскі кіравання прызначаны для забеспячэння камандавання і войскаў сувяззю, разведвальнымі данымі, а таксама для арганізацыі і падтрымання агульнага парадку ў войсках. Баявыя войскі з'яўляюцца галоўным родам войскаў і асновай сухапутных сіл Бундэсвера. Яны аб'ядноўваюць два роды зброі — пяхоту і танкавыя войскі — і складаюць больш за 80 % ад усяго баявога саставу сухапутных сіл. Войскі баявой падтрымкі ўключаюць армейскую авіяцыю, артылерыю, войскі супрацьпаветранай абароны і інжынерныя войскі. Да спецыяльных родаў войскаў адносяцца падраздзяленні і часці тылавога забеспячэння і падраздзяленні абароны ад зброі масавага знішчэння.

Ваенна-паветраныя сілы Германіі маюць у сваім складзе аператыўна-тактычныя кіравальныя ракеты, тактычную і знішчальна-бамбардзіровачную авіяцыю, а таксама зенітныя ракетныя комплексы.

Ваенна-марскія сілы Германіі лічацца аднымі з вядучых сярод флатоў еўрапейскіх дзяржаў. Яны складаюцца з флоту і марской авіяцыі. У баявым складзе ваенна-марскіх сіл Германіі маюцца падводныя лодкі, эскадраныя мінаносцы, фрэгаты, малыя супрацьлодачныя, дэсантныя і мінна-тральныя караблі, ракетныя катары, а таксама сучасныя знішчальнікі-бамбардзіроўшчыкі, верталёты, самалёты-разведчыкі і транспартныя самалёты.

Вярхоўным галоўнакамандуючым узброенымі сіламі з'яўляецца канцлер Германіі. У мірны час агульнае кіраўніцтва ўзброенымі сіламі ажыццяўляе міністр абароны.

З 2011 года Германія перайшла да камплектавання ўзброеных сіл добраахвотнікамі па кантракце і прафесійнымі ваеннаслужачымі. У перыяд знаходжання ў рэзерве асабовы склад рэгулярна прыцягваецца на перападрыхтоўку і для ўдзелу ў вучэннях.

Асноўныя віды ўзбраення і ваеннай тэхнікі Бундэсвера: танкі «Леапард-2»; БМП «Мардар»; БТР М-113; ПУ СКТР «Мілан»; ПУ ЗУР «Хок», «Роланд» і «Пэтрыёт»; самалёты «Тарнада»; верталёты UH-1D, «Сі Лінкс», «Сі Кінг»; падводныя лодкі, фрэгаты, тарпедныя катары.

**Узброеныя сілы Вялікабрытаніі.** Ваенна-палітычны курс Вялікабрытаніі накіраваны на ўсялякае ўмацаванне ваеннай магутнасці НАТА, развіццё ўсебаковага супрацоўніцтва

з ЗША і вядучымі краінамі Заходняй Еўропы. Па ваенных расходах Вялікабрытанія займае другое месца ў НАТА пасля ЗША.

Узброеныя сілы Вялікабрытаніі складаюцца з сухапутных войскаў, ваенна-паветраных сіл і ваенна-марскіх сіл. Агульная колькасць рэгулярных узброеных сіл 180 тысяч чалавек, звыш 250 тысяч чалавек знаходзяцца ў рэзерве.

Вярхоўным галоўнакамандуючым узброенымі сіламі краіны з'яўляецца кароль (каралева). Распрацоўку ваеннай палітыкі, асноўных напрамкаў будаўніцтва ўзброеных сіл і падрыхтоўку краіны да вайны ажыццяўляе камітэт абароны на чале з прэм'ер-міністрам. У ваенны час камітэт абароны ажыццяўляе агульнае кіраўніцтва ўзброенымі сіламі.

Узброеныя сілы Вялікабрытаніі камплектуюцца на добраахвотнай аснове. Камплектаванне радавым асабовым саставам ажыццяўляецца за кошт вярбоўкі добраахвотнікаў па кантракце. Асобы, якія паступілі на ваенную службу ў сухапутныя войскі і ВПС, заключаюць кантракты тэрмінам ад 3 да 22 гадоў, а ў ВМС — ад 12 да 22 гадоў. Праходжанне службы ў тэрытарыяльных войсках уяўляе сабой спалучэнне асноўнай працы рэзервістаў на прадпрыемствах і фермах з сістэматычным праходжаннем ваеннай падрыхтоўкі. Сістэма баявой падрыхтоўкі ўключае заняткі ў вучэбных цэнтрах воінскіх часцей у выхадныя дні (12 сутак у год), штогадовыя лагерныя зборы і ўдзел у вучэннях рэгулярных войскаў.

Асноўныя віды ўзбраення і ваеннай тэхнікі: танкі «Чэленджэр-2»; БМП «Уорыёр»; самалёты «Тарнада», «Ягуар», «Харыер»; верталёты «Сі Кінг», «Лінкс»; ПЛАРБ, ПЛА, АВЛ (авіяносец лёгкі).

**Узброеныя сілы Францыі.** Супрацоўніцтва Францыі з НАТА і краінамі — удзельніцамі блока пастаянна развіваецца. Узброеныя сілы Францыі складаюцца з сухапутных войскаў, ваенна-паветраных сіл, ваенна-марскіх сіл, а таксама ваеннай жандармерыі. Колькасць узброеных сіл каля 250 тыс. чалавек, колькасць ваеннай жандармерыі — звыш 100 тыс. чалавек.

Вярхоўным галоўнакамандуючым узброенымі сіламі з'яўляецца прэзідэнт краіны. Агульнае кіраўніцтва падрыхтоўкай краіны да вайны і ўзброенымі сіламі ён ажыццяўляе праз вышэйшы савет абароны, камітэт абароны, прэм'ер-міністра і міністра абароны.

Камплектаванне ажыццяўляецца на добраахвотнай аснове.

Асноўныя віды ўзбраення і ваеннай тэхнікі: танкі «Леклерк» і АМХ-30; БМП АМХ-10 Р/РС, бронетранспарцёры VAB розных мадыфікацый; СТКР «Мілан» і «Хот»; ЗРК «Хок» і «Роланд», РЗРК «Містраль»; самалёты «Міраж», «Ягуар», «Альфа Джэт», верталёты «Лінкс»; ПЛАРБ, атамны авіяносец, эсмінцы, фрэгаты, тарпедныя катары.

У Дадатку 3 падручніка паказаны агульны від, а ў Дадатку 4 прыведзены тактыка-тэхнічныя характарыстыкі некаторых узораў узбраення і ваеннай тэхнікі замежных армій.



**1.** Раскажыце пра склад і прынцып камплектавання ўзброеных сіл ЗША. **2.** Раскажыце пра склад і прынцып камплектавання ўзброеных сіл Германіі, Вялікабрытаніі, Францыі. **3.** Ахарактарызуйце вядомыя вам віды стралковай зброі замежных армій. **4.** Раскажыце пра баявыя магчымасці бранятанкавай тэхнікі і авіяцыі замежных армій.

# РАЗДЗЕЛ VI
# Агнявая падрыхтоўка

Стральба — гэта і займальны від спорту, і надзейны спосаб самаабароны, і, вядома ж, найважнейшы від узброенай барацьбы воінаў. Уменне страляць заўсёды было адным з асноўных якасцей і заслуг салдата. Ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь агнявая падрыхтоўка — адзін з асноўных відаў баявой падрыхтоўкі.

Знаёмства з асновамі стральбы, устройствам зброі і правіламі абыходжання з ім, першапачатковыя ўменні ў стральбе, атрыманыя на занятках па дапрызыўнай падрыхтоўцы, дапамогуць будучым воінам у авалоданні даручанай ім зброяй.

## § 25. Гісторыя ўзнікнення і развіцця стралковай зброі

**Узнікненне і развіццё стралковай зброі.** Порах або блізкі да яго выбуховы састаў быў вядомы ў Азіі са старажытных часоў. У 1320 годзе нямецкі манах з Фрэйбурга Бертольд Шварц абследаваў раскідвальную сілу пораху. Пазней легенда прыпісала Шварцу вынаходства пораху.

Рускія былі знаёмыя з агнястрэльнай зброяй ужо ў XIV стагоддзі. Яно завозілася ў Расію з Германіі праз Ганзейскі саюз. У вайне Вітаўта з Ягайлам пры аблозе Трокаў у 1383 годзе літоўцы выкарыстоўвалі ручную агнястрэльную зброю. Літоўскі князь Вітаўт, што быў на чале літоўскіх і рускіх войскаў супраць манголаў у 1399 годзе, меў гарматы і пішчалі.

Асноўнымі этапамі развіцця стралковай зброі былі распрацоўка і прымяненне кнотавага, а затым крамянёвага замка́ (XV стагоддзе), папяровага патрона (XVI стагоддзе), ударнага саставу і капсуля (пачатак XIX стагоддзя), наразной зброі (сярэдзіна XIX стагоддзя), унітарнага патрона з металічнай гільзай і казназараднай зброі (другая палова XIX

стагоддзя), аўтаматычнай стралковай зброі (канец XIX стагоддзя), якая ўжо ў Першай сусветнай вайне атрымала шырокае прымяненне.

**Вінтоўка Мосіна.** Асноўнай стралковай зброяй рускіх і савецкіх воінаў да з'яўлення аўтаматычнай зброі была вінтоўка канструкцыі Сяргея Іванавіча Мосіна. Гэтая вінтоўка стала лепшым узорам шматзараднай зброі. На выпрабаванне новых відаў стралковай зброі, якое праводзілася ў канцы XIX стагоддзя Ваенным міністэрствам Расіі, побач з мосінскай вінтоўкай былі прадстаўлены 118 вінтовак замежных марак. Вытрымалі выпрабаванні толькі дзве вінтоўкі — канструкцыі Мосіна і бельгійскага збройніка Нагана. Нягледзячы на тое, што Наган запазычыў шматлікія дэталі з мосінскай вінтоўкі, яго вынаходка не вытрымала далейшых працяглых выпрабаванняў, якія праводзяцца ў войсках, прыярытэт застаўся за рускай вінтоўкай С. І. Мосіна. Пасля некаторых дапрацовак яна, як найбольш простая і бездакорная, у 1891 годзе была прынята на ўзбраенне рускай арміі пад назвай «трохлінейная вінтоўка ўзору 1891 года». Цар Аляксандр III пры зацвярджэнні назвы не прысвоіў ёй імя Мосіна і выкрасліў слова «руская». За 60 гадоў службы рускім і савецкім воінам яна падвяргалася зусім нязначнай мадэрнізацыі, у той час як за гэты ж тэрмін вінтоўкі, якія былі на ўзбраенні французскай, англійскай і амерыканскай армій, не толькі вытрымалі карэнную мадэрнізацыю, але нават па два-тры разы замяняліся новымі, а японская армія за гэты час пераўзбройвалася вінтоўкамі чатыры разы.

**Аўтаматычная стралковая зброя.** Заснавальнікам рускай школы аўтаматычнай зброі быў ***Уладзімір Рыгоравіч Фёдараў***. Канструктар аўтаматычнай зброі генерал-лейтэнант інжынерна-тэхнічнай службы, доктар тэхнічных навук, прафесар У. Р. Фёдараў напісаў шэраг фундаментальных навуковых прац, арганізаваў шырокую вытворчасць аўтаматычнай зброі на савецкіх ваенных заводах.

У перадваенныя гады ў СССР былі створаны і прыняты на ўзбраенне ручны кулямёт Дзегцярова (ДП) і на яго аснове — авіяцыйны (ДА, ДА-2) і танкавы кулямёты, авіяцыйны кулямёт ШКАС, самазарадны пісталет Токарава ТТ і яго

самазарадная вінтоўка СВТ, аўтаматычная вінтоўка канструктара Сіманава, буйнакаліберны кулямёт ДШК (Дзегцярова і Шпагіна), пісталеты-кулямёты ППШ (Шпагіна) і ППД (Дзегцярова).

У Другой сусветнай вайне істотна павысілася роля індывідуальнай аўтаматычнай зброі — пісталетаў-кулямётаў і аўтаматаў. Вялікае значэнне для барацьбы з браніраванымі цэлямі ў пачатку вайны набылі супрацьтанкавыя стрэльбы. Па прычыне цяжкасці стварэння лёгкай, надзейнай і трапнай індывідуальнай аўтаматычнай зброі пад магутны вінтовачны патрон у шэрагу краін сталі распрацоўваць патроны, якія займалі б па сваёй магутнасці прамежкавае становішча паміж пісталетным і вінтовачным патронам. У СССР такі патрон быў прыняты на ўзбраенне ў 1943 годзе.

У перадваенныя гады і перыяд Вялікай Айчыннай вайны вялікі ўклад у стварэнне аўтаматычнай зброі ўнеслі савецкія канструктары ***М. Я. Бярэзін***, ***П. М. Гаруноў***, ***В. А. Дзегцяроў***, ***І. А. Камарыцкі***, ***С. Г. Сіманаў***, ***І. А. Судаеў***, ***Ф. В. Токараў***, ***Г. С. Шпагін***, ***Б. Г. Шпітальны*** і інш.

У пасляваенны перыяд на ўзбраенне Савецкай Арміі паступілі высоканадзейныя, невялікіх габарытаў, лёгкія ўзоры аўтаматычнай зброі: аўтамат Калашнікава (АК), самазарадны карабін Сіманава (СКС), ручны кулямёт Дзегцярова (РПД) і ручны кулямёт Калашнікава (РПК), распрацаваныя пад патрон узору 1943 года. У якасці зброі ўзмацнення былі прыняты кулямёты пад вінтовачны патрон на сошках (ПК) і трыножным станку (ПКС), створана самазарадная снайперская вінтоўка СВД (канструктара ***Драгунова***). Для барацьбы з нізкалётнымі паветранымі цэлямі паступілі зенітныя кулямётныя ўстаноўкі. Пад укарочаны 9-міліметровы патрон ***М. Ф. Макараў*** сканструяваў пісталет (ПМ), які быў прыняты на ўзбраенне нараўне з аўтаматычным пісталетам канструктара ***І. Я. Стэчкіна*** (АПС).

**Аўтамат Калашнікава.** Знамянальны лёс аўтамата Калашнікава. Яго канструктар ***Міхаіл Цімафеевіч Калашнікаў*** нарадзіўся ў 1919 годзе. Дзевятнаццацігадовым юнаком ён быў прызваны на абавязковую ваенную службу, дзе праявіў павышаную цікавасць да ўстройства стралковай

зброі. У Вялікую Айчынную вайну старшы сяржант Калашнікаў у танкавым баі пад Бранскам быў паранены і адпраўлены ў Алма-Ату. Тут у адной з чыгуначных майстэрняў пачаў ствараецца новы пісталет-кулямёт. У 1942 годзе ён быў прадстаўлены на выпрабаванні ў акадэмію імя Ф. Э. Дзяржынскага, але камісія яго забракавала. У сваім заключэнні акадэмік Благанраваў характарызаваў маладога збройніка як «...таленавітага самавука, якому пажадана даць магчымасць тэхнічнай адукацыі. Несумненна, з яго можа атрымацца добры канструктар, калі яго накіроўваць па належным шляху».

Не спалохаўшыся няўдачы, М. Ц. Калашнікаў працягнуў працу над новай зброяй. Шмат цяжкасцей прыйшлося пераадолець маладому канструктару. «АК-47» — так ён назваў свой аўтамат. Вось якую характарыстыку дае амерыканскі часопіс «Ньюсуік» аўтамату Калашнікава: «Яшчэ больш надзейным, чым ракетныя снарады і мінамёты, стаў неразлучны спадарожнік в’етконгаўца — кароткі аўтаматычны карабін “АК-47” савецкай вытворчасці. Ён праявіў сябе як зброя куды больш надзейная, чым капрызная амерыканская вінтоўка М-16». Вывучыўшы вопыт выкарыстання аўтамата ў войсках, М. Ц. Калашнікаў удасканаліў існуючы ўзор. Прыняты на ўзбраенне 7,62-міліметровы мадэрнізаваны аўтамат Калашнікава (АКМ) валодае яшчэ больш высокімі баявымі і эксплуатацыйнымі характарыстыкамі, а ў 70-я гады XX стагоддзя з’явіўся аўтамат Калашнікава пад патрон 5,45 міліметра — АК-74.

**Удасканаленне стралковай зброі**. Шмат разнастайных мадэляў стралковай зброі з’явілася ў канцы XX стагоддзя. У Расіі новыя мадэлі распрацоўваліся ў асноўным у канструктарскіх бюро Тульскага, Іжэўскага, Каўроўскага зброевых заводаў.

Створаныя мадэлі аўтаматаў АЕК-971 і канструктара ***Ніканава*** АН-94 («Абакан») валодаюць цудоўнай кучнасцю стральбы, а спецыяльны аўтамат 9А91 калібру 9 міліметраў лёгкі (маса 2 кг) і малагабарытны (даўжыня 380 мм).

Практычна па ўсіх параметрах пераўзыходзяць замежныя аналагі 9-міліметровыя пісталеты-кулямёты «Кедр», «Кіпарыс» і «Каштан». Пісталет-кулямёт «Бізон» канструктара

***Віктара Міхайлавіча Калашнікава*** пры масе 2,1 кг мае падствольны магазін умяшчальнасцю 64 патроны.

9-міліметровыя пісталеты ГШ-18 (канструктары ***Гразеў*** і ***Шыпуноў***) і «Грак» — лёгкія і валодаюць вялікай прабівальнасцю. Умяшчальнасць магазінаў гэтых пісталетаў — 18 патронаў. 7,62-міліметровы пісталет ПСС бясшумны.

Высокія тактыка-тэхнічныя характарыстыкі маюць 7,62-міліметровы кулямёт «Печанег», 7,62-міліметровая снайперская вінтоўка ***Конева***, 9-міліметровыя снайперскія вінтоўкі ВСС і ВСК-94, 12,7-міліметровая антыснайперская вінтоўка СВВ-96.

Арыгінальныя распрацоўкі падводнай зброі — 5,66-міліметровы аўтамат АПС і чатырохствольны 4,5-міліметровы пісталет СПП.

У апошнія гады распрацаваны новыя сістэмы гранатамётаў: шасціствольны 6Г-30 (па прынцыпе рэвальвера) і станковы АГС-30.

Беларускім оптыка-механічным аб'яднаннем (БелОМА) створаны шэраг самых сучасных прыцэлаў да стралковай зброі: каліматарны прыцэл для стралковай зброі ПК-А, каліматарны прыцэл для ручных супрацьтанкавых гранатамётаў ПК-Г, прыцэл тэлескапічны з пераменным павелічэннем 1П21, прыцэл тэлескапічны з падсветкай сеткі ПОСП 8×42, прыцэл начнога бачання NV/S-17, акуляры начнога бачання NV/G-14 і інш.

***Малакаліберная зброя.*** Выдатным стваральнікам малакалібернай зброі быў ***Дзмітрый Міхайлавіч Кочатаў.*** Ён стварыў некалькі ўзораў паляўнічай зброі і прыбораў, а ў 1932 годзе сканструяваў малакаліберную вінтоўку ТОЗ-8, якасць і тэхнічныя дадзеныя якой былі значна вышэй, чым у вінтовак дадзенага класа замежных краін. Пазней ён сканструяваў вінтоўкі ТОЗ-9, ТОЗ-10, ТОЗ-8М, ТОЗ-12.

З павагай спартсмены называюць імя стваральніка малакалібернага пісталета ***Міхаіла Уладзіміравіча Марголіна***, усё жыццё якога была прысвечана стварэнню зброі, неабходнай для падрыхтоўкі майстроў трапнага стрэлу. Увосень 1923 года ў баі з бандытамі, якія дзейнічалі на Каўказе, Марголін ад атрыманага ранення страціў зрок. Вырабляючы макеты дэталяў з пластыліну, воску і дрэва, ён цалкам па-новаму вырашыў пытанні ўстройства ствала, прыцэльнага прыстасавання і затвора. Малакаліберны

пісталет Марголіна неаднаразова забяспечваў перамогу нашых стралкоў на міжнародных спаборніцтвах. «Ваша зброя, — сказаў савецкім спартсменам адзін з лепшых стралкоў ЗША лейтэнант В. Райт, — лепшая ў свеце. Містэр Марголін, напэўна, выдатны стралок, калі здолеў разгадаць таямніцу трапнага стрэлу, сканструяваць пісталет, які пераўзыходзіць па сваіх якасцях сістэмы Кольта і Вальтэра». Так, Райт не памыліўся. Сляпы М. У. Марголін сапраўды быў некалі трапным стралком.



**1.** Калі ўзнікла і як удасканальвалася стралковая зброя? **2.** Што вы ведаеце пра С. І. Мосіна і сканструяваную ім вінтоўку? **3.** Раскажыце пра М. Ц. Калашнікава і сканструяваную ім зброю. **4.** Што вам вядома пра малакаліберную зброю і яе канструктараў?

## § 26. Патрабаванні і меры бяспекі

Бяспека на занятках па вывучэнні матэрыяльнай часткі зброі, прыёмаў і правілаў стральбы, падчас правядзення стрэльбаў забяспечваецца зладжанай арганізацыяй заняткаў, высокай дысцыплінаванасцю навучэнцаў. Неабходныя таксама веданне і дакладнае выкананне патрабаванняў і мер бяспекі пры абыходжанні са зброяй, а таксама парадку і правілаў, усталяваных у ціры (на стрэльбішчы). Перш чым карыстацца зброяй, навучэнцы павінны засвоіць меры бяспекі пры абыходжанні з ёй і патрабаванні бяспекі падчас правядзення стрэльбаў.

**Меры бяспекі пры абыходжанні са зброяй.** Мерамі бяспекі пры абыходжанні са зброяй з'яўляюцца:

- да працы са зброяй допускаюцца толькі асобы, якія вывучылі патрабаванні і меры бяспекі, агульнае ўстройства зброі, парадак і правілы яе эксплуатацыі;
- перад пачаткам любых заняткаў са зброяй праверыць, ці не зараджана яна;
- калі аглядаецца, разбіраецца і збіраецца зброя, набіваецца патронамі або апаражняецца ад патронаў магазін, трэба праяўляць асцярожнасць, выконваць паслядоўнасць дзеянняў;
- катэгарычна забараняецца прыцэльвацца, спускаць курок і накіроўваць зброю ў бок людзей і жывёл, нават калі яна не зараджана;

• калі неабходна спусціць курок, зброі патрэбна надаваць вугал узвышэння;

• катэгарычна забараняецца выкарыстоўваць баявыя патроны з вучэбнымі мэтамі (не для стральбы), перад тым, як набіць магазін вучэбнымі патронамі, праверыць, ці няма сярод іх баявых;

• не выкарыстоўваць патроны з асечкай з вучэбнымі мэтамі;

• не дапускаць udараў па капсулю патронаў;

• па заканчэнні заняткаў зброю ставіць на засцерагальнік;

• не пакідаць зброю і патроны без нагляду, а па заканчэнні заняткаў вярнуць яе ў вызначанае для захоўвання месца.

**Патрабаванні бяспекі пры правядзенні стрэльбаў.** Стральба з малакалібернай або пнеўматычнай вінтоўкі праводзіцца ў школьным ціры, які забяспечвае бяспеку стральбы. Стральба з аўтамата Калашнікава баявымі патронамі праводзіцца толькі на абсталяваных стрэльбішчах воінскіх часцей або стралковых спартыўных клубаў ДТСААФ.

Да стральбы з любога віду зброі дапускаюцца толькі асобы, якія маюць навыкі абыходжання са зброяй, ведаюць парадак паводзін у ціры (на стрэльбішчы) і патрабаванні бяспекі падчас правядзення стрэльбаў.

Падчас стрэльбаў, якія праводзяцца з малакалібернай і пнеўматычнай зброі, у ціры павінны выконвацца наступныя правілы:

• стральба дапускаецца толькі са спраўнай, прыведзенай да нармальнага бою зброі;

• стралкі выходзяць на агнявы рубеж толькі па камандзе кіраўніка стрэльбаў;

• стралкам забараняецца прыцэльвацца і накіроўваць зброю ў бакі ад мішэні, у тыл, а таксама наводзіць яе на людзей або жывёл;

• на агнявым рубяжы забараняецца браць, зараджаць, чапаць зброю ці падыходзіць да яе без каманды (дазволу) кіраўніка стральбы;

• зброю зараджаюць баявымі (малакалібернымі) патронамі або кулямі толькі па камандзе кіраўніка стральбы;

- забараняецца выносіць з агнявога рубяжа зараджаную зброю, а таксама пакідаць яе дзе б там ні было або перадаваць іншым асобам без каманды кіраўніка стральбы;
- пасля заканчэння стрэльбаў кожнай змены стралкі збіраюць гільзы і разам з нявыкарыстанымі патронамі здаюць іх, падлічыўшы колькасць, кіраўніку стральбы;
- пасля здачы гільз і патронаў кіраўнік стрэльбаў аглядае зброю паводле прынятых правілаў;
- падчас стральбы на агнявым рубяжы забараняецца знаходзіцца староннім асобам.

Стральба неадкладна спыняецца пры з'яўленні ў зоне агню людзей і жывёл.

Падчас стральбы ў ціры павінен знаходзіцца медыцынскі работнік з медыкаментамі і перавязачнымі матэрыяламі.

Стралок абавязаны ведаць і строга выконваць устаноўленыя правілы, усе каманды і патрабаванні бяспекі падчас стральбы, а пасля стральбы здаць кіраўніку нявыкарыстаныя патроны (кулі) і гільзы.

Адказнасць за парадак у ціры і бяспеку ўскладаецца на кіраўніка стрэльбаў, які прызначаецца загадам па навучальнай установе.

Парадак правядзення стрэльбаў на стрэльбішчах воінскіх часцей вызначаецца Курсам стрэльбаў.

**Патрабаванні бяспекі пры абыходжанні з ручнымі гранатамі**. Гранаты пераносяцца ў гранатных сумках. Запалы змяшчаюцца ў іх асобна ад гранат, пры гэтым кожны запал загортваюць у паперу або рыззё.

Зараджаць гранаты (устаўляць запал) дазваляецца толькі перад іх кіданнем.

Перад зараджаннем і ўкладкай у сумку гранаты і запалы неабходна агледзець. Корпус гранаты не павінен мець значных увагнутасцей і глыбокай іржы. Трубка для запала і запал павінны быць чыстымі, без увагнутасцей і ржы; канцы засцерагальнай загваздкі павінны быць разведзены і не мець расколін на загібах. Запаламі з расколінамі і зялёным налётам карыстацца нельга.

Пры пераносцы гранаты трэба засцерагаць яе ад штуршкоў, удараў, агню, бруду і сырасці. Падмоклыя і забруджаныя гранаты і запалы неабходна працерці і высушыць пад наглядам камандзіра; нельга сушыць іх каля агню.

Разбіраць баявыя гранаты і ліквідоўваць у іх няспраўнасці, пераносіць гранаты без сумак (падвешанымі за кольца засцерагальнай загваздкі), а таксама чапаць гранаты, якія не разарваліся, забараняецца.



**1.** Якія меры бяспекі неабходна выконваць пры абыходжанні са зброяй? **2.** Раскажыце пра патрабаванні бяспекі падчас правядзення стрэльбаў. **3.** Якія патрабаванні бяспекі неабходна выконваць пры абыходжанні з ручнымі гранатамі?

## § 27. Пнеўматычная і малакаліберная зброя

**Пнеўматычная зброя.** Стральба з пнеўматычнай зброі — асноўная форма масавага навучання школьнікаў прыёмам і правілам стральбы. Уменні і навыкі, набытыя пры стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі, спрыяюць паспяховаму авалоданню тэхнікай стральбы з малакаліберная і баявой зброі.

Пнеўматычная зброя мае шэраг пераваг. Да іх адносяцца невялікая вага, прастата ўстройства зброі і магчымасць стральбы ў спрошчаных цірах ці спецыяльна абсталяваных памяшканнях.

Да спартыўных пнеўматычных вінтовак адносяцца вінтоўкі ІЖ-22, ІЖ-32, ІЖ-38.

***Прызначэнне, характарыстыка і агульнае ўстройства вінтоўкі ІЖ-38С.*** Вінтоўка (мал. 30) прызначана для масавага першапачатковага навучання кулявой стральбе. Яе калібр — 4,5 мм, даўжыня ствала — 450 мм, даўжыня вінтоўкі — 1050 мм, вага — 2,8 кг. Высілак спуску курка з баявога ўзвода 02—03 кгс. Пачатковая скорасць палёту кулі — 140 — 180 м/с.




*Мал. 30.* Пнеўматычная вінтоўка ІЖ-38С:
*1* — ложа; *2* — прыцэл; *3* — восць ствала; *4* — ствол; *5* — восць шарніра; *6* — шарнір; *7* — скаба спускавая; *8* — кручок спускавы

Стрэл адбываецца ў выніку ціску паветра, што сціскаецца поршнем, які перамяшчаецца пад уздзеяннем папярэдне напружанай спружыны. Пры вызваленні баявой спружыны ў паветранай камеры вінтоўкі ствараецца ціск да 5 атмасфер, які выкідвае кулю на адлегласць да 150 м. Высілак нацяжэння спружыны поршня 50—60 кг, але дзякуючы сістэме рычагоў для яе ўзвядзення дастаткова прыкласці намаганне да 3 кг.

Канструкцыя прыцэла дазваляе весці карэкціроўку стральбы па вертыкалі і гарызанталі рэгуліровачнымі вінтамі. Па гарызанталі магчымае і грубае рэгуляванне за кошт зрушэння асновы цаліка адносна рамкі.

***Кулі.*** У стральбе з пнеўматычнай зброі выкарыстоўваюцца два тыпы куль: свінцовыя («Дыябала», «ДЦ», «ДЦ-м») і шматразовага выкарыстання са стабілізатарам з пластмасы. Кулі «Дыябала» маюць кучнасць стральбы 65 мм і прызначаны для першапачатковага навучання кулявой стральбе. Кучнасць стральбы куль «ДЦ» складае 10 мм, гэтыя кулі прызначаны для масавага выканання спартыўных разрадаў. Кулі «ДЦ-м» маюць кучнасць стральбы 2,5—5,5 мм і прызначаны для стралкоў высокай кваліфікацыі.

**Зараджанне вінтоўкі.** Узяць вінтоўку адной рукой за шыйку ложы, а другой націснуць на ствол. Павярнуць ствол вакол восі да крайняга задняга становішча, пры гэтым рычаг узвядзення, пераадольваючы супраціўленне спружыны поршня, паставіць поршань на баявы ўзвод. Уставіць кулю ў канал ствала. Павярнуць ствол вакол восі да фіксацыі яго ў гарызантальным становішчы.

Вінтоўка зараджана. Пры націсканні на спускавы кручок адбудзецца стрэл.

***Догляд і захоўванне.*** Не рэкамендуецца страляць з пнеўматычнай вінтоўкі «ўхаластую», без куль, бо пры гэтым поршань, не маючы належнага супраціву паветра, празмерна разганяецца, моцна ўдараецца аб тарэц цыліндра і можа быць пашкоджаны. Нельга таксама выкарыстоўваць для стральбы замест куль розныя прадметы. Гэта прыводзіць да пашкоджвання зброі.

Разбіраць вінтоўку неабходна толькі для поўнай яе чысткі або ліквідацыі няспраўнасцей. Разборка і зборка вінтоўкі выконваецца спецыялістам (інструктарам, выкладчыкам

дапрызыўнай падрыхтоўкі або стралковага гуртка) або навучаным стралком пад кантролем спецыяліста.

Пры працяглым захоўванні без выкарыстання неабходна злёгку змазваць металічныя часткі вінтоўкі ружэйнай змазкай.

**Малакаліберная зброя.** ***Малакаліберная вінтоўка ТОЗ-8*** прызначана для пачатковага навучання стральбе, трэніровак і масавых спаборніцтваў стралкоў.

Баявыя ўласцівасці вінтоўкі: калібр — 5,6 мм; вага — 3,12 кг; пачатковая хуткасць кулі — каля 310 м/с; хуткастрэльнасць — 10—12 выстр./мін; прыцэльная далёкасць — 250 м; найбольшая далёкасць палёту кулі — да 1600 м; далёкасць забойнага дзеяння кулі — да 800 м.

Вінтоўка (мал. 31) складаецца са ствала, ствольнай каробкі, спускавога механізма, затвора, прыцэльнага механізма і ложы.




*Мал. 31.* Малакаліберная вінтоўка ТОЗ-8:
*1* — намушнік; *2* — ствол; *3* — прыцэл; *4* — ствольная каробка; *5* — каўпачок (тыльнае вечка); *6* — шыйка ложы; *7* — ложа; *8* — прыклад; *9* — ніжняя антабка; *10* — спускавая скаба; *11* — спускавы кручок; *12* — затвор; *13* — ручка затвора; *14* — верхняя антабка; *15* — цаўё ложы

Ствол служыць для накіравання палёту кулі. Канал ствала мае чатыры нарэзы, якія ўюцца злева ўверх направа. Куля, праходзячы праз ствол, робіць каля двух абаротаў. Прамежкі паміж нарэзамі называюцца *палямі*, а адлегласць паміж процілеглымі палямі — *калібрам ствала*. У задняй частцы канал ствала рассвідраваны па форме патрона. Сюды пры зараджанні ўкладваецца патрон, гэтая частка называецца *патроннікам*. На ствале мацуюцца прыцэльнае прыстасаванне.

Ствольная каробка прызначана для памяшчэння ў ёй затвора. Яе пярэдняя частка жорстка злучана са ствалом. У ствольнай каробцы ўмацаваны ўкладыш, які забяспечвае правільную падачу патронаў у патроннік. Знізу да ствольнай каробкі прымацаваны спускавы механізм. Задняя частка ствольнай каробкі зачыняецца каўпачком (тыльным вечкам).

Спускавы механізм складаецца са спускавога кручка, пласціністай спружыны са стойкай, шрубы і восі. Спускавая скаба служыць для прадухілення выпадковага націску на спускавы кручок.

Затвор служыць для дасылання патрона ў патроннік, запірання канала ствала, правядзення стрэлу і вымання гільзы.

Прыцэльны механізм прызначаны для накіравання вінтоўкі ў цэль і надання ёй неабходнага вугла прыцэльвання. Ён мае сектарны прыцэл адкрытага тыпу і намушнік з мушкай. Адкрыты прыцэл складаецца з прыцэльнай калодкі і прыцэльнай планкі з хамуцікам.

Ложа прызначана для злучэння ўсіх частак вінтоўкі і зручнасці стральбы. Яна мае прыклад, шыйку і цаўё.

***Асаблівасці ўстройства малакаліберной вінтоўкі ТОЗ-12***. Малакаліберная вінтоўка ТОЗ-12 (мал. 32) з’яўляецца палепшаным спартыўным узорам вінтоўкі ТОЗ-8.

Прызначэнне і ўстройства ствала, ствольнай каробкі, спускавога механізма і затвора тыя ж, што і ў вінтоўкі ТОЗ-8. Ложа з падоўжаным цаўём.

Прыцэльнае прыстасаванне складаецца з дыяптрычнага прыцэла і мушкі (дыёптры і мушкі зменныя).

Дыяптрычны прыцэл (мал. 32, *б*) складаецца з вугольніка, калодкі з пераходнай планкай і дыёптра. На вугольніку маюцца гарызантальны і вертыкальны мікраметрычныя вінты паправак з галоўкамі. На галоўках нанесены дзяленні. Кожнае дзяленне роўна 1/10 абароту. Пры павароце галоўкі на адно дзяленне адбываецца пстрычка, і сярэдняя кропка пападання перамяшчаецца на 1 см. Для таго каб перамясціць вугольнік па вертыкалі, неабходна папярэдне вызваліць на адзін абарот стопарны вінт. Пасля ўнясення папраўкі вугольнік зноў замацоўваецца стопарным вінтом. Да вінтоўкі дадаюцца зменныя прамавугольная і кальцавая мушкі, якія мацуюцца ў корпусе.




*Мал. 32.* Малакаліберная вінтоўка ТОЗ-12:
*а* — агульны выгляд; *б* — дыяптрычны прыцэл; *1* — дыёптр;
*2* — вугольнік; *3* — калодка; *4* — стопарны вінт вугольніка;
*5* — заціскны вінт; *6* — пераходная планка; *7* — галоўка вертыкальнага вінта паправак вугольніка; *8* — галоўка гарызантальнага вінта паправак вугольніка; *9* — зменная прамавугольная мушка; *10* — зменная кальцавая мушка; *11* — паз асновы мушкі; *12* — выступ корпуса мушкі;
*13* — гайка корпуса мушкі; *14* — корпус мушкі; *15* — аснова мушкі

***Патрон*** (мал. 33). Патрон для малакалібернай вінтоўкі адрозніваецца адсутнасцю спецыяльнага капсуля.




*Мал. 33.* Малакаліберны патрон бакавога агню:
*1* — куля; *2* — вядучыя пояскі; *3* — гільза;
*4* — закраіна гільзы; *5* — ударны састаў;
*6* — парахавы зарад; *7* — сферычнае заглыбленне

Ударны састаў, неабходны для запальвання парахавога зарада, упрасоўваецца ў пятку гільзы паміж сценкамі яе закраіны. Гільза мае цыліндрычную форму. Усярэдзіне гільзы, акрамя ўдарнага саставу, змяшчаецца 0,06 г бяздымнага пораху. У пярэдняй частцы гільзы ўмацоўваецца куля, выраблена са сплаву свінцу і сурмы. У сярэдняй частцы кулі зроблены вядучыя пояскі для памяншэння трэння аб канал ствала. На задняй частцы маецца сферычнае заглыбленне для папярэджання прарыву газаў паміж куляй і сценкамі ствала пры стрэле.

***Няпоўная разборка і зборка вінтоўкі.*** Прыступаючы да разборкі, варта пераканацца ў тым, што вінтоўка не зараджана.

Разбіраць вінтоўку для чысткі і змазкі трэба ў наступным парадку: аслабіць заціскны вінт корпуса прыцэла і зняць дыяптрычны прыцэл (для вінтовак ТОЗ-12); адкрыць затвор і, націснуўшы ўказальным пальцам левай рукі на спускавы кручок, лёгкімі ўдарамі затвора ў дно каўпачка збіць яго са ствольнай каробкі; выцягнуць затвор з каробкі. Зборка вінтоўкі ажыццяўляецца ў зваротнай паслядоўнасці.

Аддзяленне ствала са ствольнай каробкай ад ложы, разборка і зборка затвора і іншых вузлоў робяцца ў выпадку крайняй неабходнасці (моцнае забруджванне, вялікая колькасць змазкі, прымыканне ствала да цаўя ложы, паломка) і толькі спецыялістамі па стралковай зброі.

***Догляд і зберажэнне.*** Захоўваць вінтоўку трэба незараджанай, са спушчаным курком. Неабходна засцерагаць яе ад рэзкіх штуршкоў і ўдараў, не дапускаць забруджвання механізмаў пылам і пяском.

Агляд, чыстку і змазку вінтоўкі неабходна выконваць адразу пасля стральбы і ў далейшым, пры захоўванні без выкарыстання, — не радзей за адзін раз у тры месяцы.

Забараняецца чысціць і змазваць канал ствала малакаліբернай вінтоўкі з дульнай часткі, бо шомпал сцірае грані нарэзаў дульнай часткі ствала, што адмоўна адбіваецца на кучнасці бою вінтоўкі.

Для чысткі канала ствала трэба наматаць на вярчальную частку праціркі рыззё або пакулле даўжынёй 4—5 см, прамачыць яе вадкай ружэйнай змазкай і ўвесці шомпал у канал ствала з боку патронніка. Чыстку варта працягваць да поўнага выдалення парахавога нагару з паверхняў канала ствала і патронніка.

Пасля чысткі канал ствала, патроннік і металічныя дэталі працерці насуха і змазаць тонкім слоем ружэйнай змазкі. Дрэва ложы праціраецца сухім рыззём.



**1.** Раскажыце аб прызначэнні пнеўматычнай вінтоўкі і яе ўстройстве. **2.** Пакажыце парадак зараджання пнеўматычнай вінтоўкі. **3.** Раскажыце аб прызначэнні малакаліբернай вінтоўкі ТОЗ-8 і яе баявых уласцівасцях. **4.** Назавіце асноўныя часткі і механізмы вінтоўкі. **5.** У чым асаблівасці чысткі і змазкі малакаліբернай вінтоўкі? **6.** Раскажыце пра меры бяспекі пры абыходжанні з пнеўматычнай вінтоўкай і малакаліբернай вінтоўкай.

# § 28. Прызначэнне, баявыя ўласцівасці і агульнае ўстройства аўтамата Калашнікава

**Прызначэнне і баявыя ўласцівасці.** Асноўным відам аўтаматычнай стралковай зброі ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь з'яўляецца 5,45-міліметровы аўтамат Калашнікава (АК-74) (мал. 34).

*а*



*б*



*в*



*Мал. 34.* Агульны выгляд аўтамата Калашнікава:
*а* — з пастаянным прыкладам (АК-74); *б* — са складвальным прыкладам і падствольным гранатамётам (АКС-74);
*в* — са складвальным прыкладам, укарочаны (АКС-74У)

З'яўляючыся індывідуальнай зброяй, аўтамат Калашнікава прызначаны для знішчэння жывой сілы і паражэння агнявых сродкаў праціўніка. З аўтамата вядзецца

аўтаматычны або адзіночны агонь. Аўтаматычны агонь з'яўляецца асноўным відам агню: ён вядзецца кароткімі (да 5 стрэлаў) і доўгімі (да 15 стрэлаў) чэргамі і бесперапынна. Для паражэння праціўніка ў рукапашным баі да аўтамата далучаецца штык-нож. Для стральбы і назірання ў начных умовах да аўтамата далучаецца начны стралковы прыцэл. Аўтамат можа быць выкарыстаны ў комплексе з падствольным гранатамётам ГП-25.

Аўтамат Калашнікава атрымаў шырокае прызнанне, ён просты паводле ўстройства і мае высокія баявыя і эксплуатацыйныя якасці.

**Баявыя ўласцівасці аўтамата АК-74:**

Калібр ствала, мм . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 5,45
Прыцэльная далёкасць стральбы, м . . . . . . . . . . . . . . 1000
Пачатковая скорасць кулі, м/с . . . . . . . . . . . . . . . . . . 900
Далёкасць забойнага дзеяння кулі, м . . . . . . . . . . . . . 1350
Баявая скарастрэльнасць, выстр./мін:
падчас стральбы чэргамі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .да 100
падчас стральбы адзіночнымі стрэламі . . . . . . . . . . . .да 40
Тэмп стральбы, выстр./мін. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 600
Далёкасць прамога стрэлу, м:
па грудной фігуры . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 440
па бягучай фігуры . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 625
Умяшчальнасць магазіна, патронаў . . . . . . . . . . . . . . . . 30
Вага з падгатаваным магазінам, кг . . . . . . . . . . . . . . . 3,6
Вага штыка-нажа з ножнамі, г . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 490

**Агульнае ўстройства.** Аўтамат складаецца з наступных асноўных частак і механізмаў (мал. 35): ствала са ствольнай каробкай, прыцэльным прыстасаваннем, прыкладам і пісталетнай ручкай; накрыўкі ствольнай каробкі; затворнай рамы з газавым поршнем; затвора; зваротнага механізма; газавай трубкі са ствольнай накладкай; ударна-спускавога механізма; цаўя; магазіна. Акрамя таго, у аўтамата маецца дульны тормаз-кампенсатар і штык-нож. У камплект аўтамата ўваходзяць прыналежнасць, рэмень і сумка для магазінаў.

Аўтаматычнае дзеянне аўтамата заснавана на выкарыстанні энергіі парахавых газаў, якія адводзяцца з канала ствала ў газавую камеру.

Пры стрэле частка парахавых газаў, якія выходзяць за куляй, накіроўваецца праз адтуліну ў сценцы ствала ў газавую




*Мал. 35.* Асноўныя часткі і механізмы аўтамата АК-74:
*1* — ствол са ствольнай каробкай, прыцэльным прыстасаваннем і прыкладам; *2* — дульны тормаз-кампенсатар; *3* — накрыўка ствольнай каробкі; *4* — зваротны механізм; *5* — затворная рама з газавым поршнем; *6* — затвор; *7* — газавая трубка са ствольнай накладкай; *8* — шомпал; *9* — цаўё; *10* — магазін; *11* — пенал прылад; *12* — штык-нож

камеру, цісне на пярэднюю сценку газавага поршня і адкідае поршань і затворную раму з затворам у задняе становішча. Калі затворная рама вяртаецца назад, затвор адмыкаецца, з яго дапамогай з патронніка вымаецца гільза і выкідваецца наверх, затворная рама сціскае зваротную спружыну і ўзводзіць курок.

У пярэдняе становішча затворная рама з затворам вяртаецца пад дзеяннем зваротнага механізма, з дапамогай затвора дасылаецца чарговы патрон з магазіна ў патроннік і зачыняецца канал ствала, а затворная рама выводзіць шаптала аўтаспуску з-пад узвода аўтаспуску курка. Курок становіцца на баявы ўзвод. Запіраецца затвор паваротам вакол падоўжнай восі ўправа, у выніку чаго баявыя выступы затвора заходзяць за баявыя ўпоры ствольнай каробкі.

Калі пераводчык устаноўлены на аўтаматычны агонь, то стральба будзе працягвацца да таго часу, пакуль націскаецца спускавы кручок і ў магазіне ёсць патроны.

Калі пераводчык устаноўлены на адзіночны агонь, то пры націсканні на спускавы кручок адбудзецца толькі адзін стрэл; каб зрабіць наступны стрэл, неабходна адпусціць спускавы кручок і націснуць на яго зноў.

***Ствол*** (мал. 36) служыць для накіравання палёту кулі. Усярэдзіне ствол мае канал з чатырма нарэзамі, якія ўюцца злева ўверх направа. Нарэзы служаць для надання кулі вярчальнага руху.




*Мал. 36.* Ствол:
*а* — агульны выгляд; *б* — сячэнне ствала;
*1* — калодка прыцэла; *2* — злучальная муфта; *3* — газавая камера; *4* — газаадводная адтуліна; *5* — аснова мушкі; *6* — разьба;
*7* — поле; *8* — нарэзы

Звонку ствол мае аснову мушкі з разьбой для накручвання дульнага тормазу-кампенсатара і ўтулкі для стральбы халастымі патронамі, газаадводную адтуліну, газавую камеру, злучальную муфту, калодку прыцэла і на казённым зрэзе выраз для зачэпу выкідальніка.

***Дульны тормаз-кампенсатар*** служыць для павышэння кучнасці бою і памяншэння энергіі аддачы. Ён мае дзве каморы: пярэднюю і заднюю (з круглай адтулінай у іх для вылету кулі).

***Ствольная каробка*** прызначана для таго, каб злучаць часткі і механізмы аўтамата, зачыняць канал ствала затворам і запіраць затвор. У ствольнай каробцы змяшчаецца ўдарна-спускавы механізм. Зверху каробка зачыняецца накрыўкай.

***Накрыўка ствольнай каробкі*** засцерагае ад забруджвання часткі і механізмы, змешчаныя ў ствольнай каробцы.

***Прыцэльнае прыстасаванне*** служыць для навядзення аўтамата на цэль пры стральбе на розныя адлегласці і складаецца з прыцэла і мушкі. Прыцэл складаецца з калодкі прыцэла, пласціністай спружыны, прыцэльнай планкі і хамуціка. На прыцэльнай планцы прыцэла нанесена шкала з дзяленнямі ад 1 да 10 і літарай «П». Лічбы шкалы абазначаюць патрэбную далёкасць стральбы ў сотнях метраў, а літара «П» — пастаянную ўстаноўку прыцэла, што адпавядае прыцэлу 3. Мушка ўкручана ў палазок, які замацоўваецца ў аснове мушкі.

***Прыклад і пісталетная ручка*** забяспечваюць зручнасць пры стральбе.

***Затворная рама з газавым поршнем*** прызначана для прывядзення ў дзеянне затвора і ўдарна-спускавога механізма.

***Затвор*** служыць для таго, каб дасылаць патрон у патроннік, зачыняць канал ствала, разбіваць капсуль і вымаць з патронніка гільзу (патрон).

***Зваротны механізм*** прызначаны для вяртання затворнай рамы з затворам у пярэдняе становішча.

***Газавая трубка са ствольнай накладкай*** накіроўвае рух газавага поршня і засцерагае рукі аўтаматчыка ад апёкаў падчас стральбы.

З дапамогай ***ударна-спускавога механізма*** курок спускаюць з баявога ўзводу або з ўзводу аўтаспуску, робяць удар па ўдарніку, забяспечваюць вядзенне аўтаматычнага або адзіночнага агню, спыняюць стральбу. Акрамя таго, ён прызначаны для прадухілення стрэлаў пры незакрытым затворы і для пастаноўкі аўтамата на засцерагальнік.

***Цаўё*** служыць для зручнасці дзеянняў з аўтаматам і для засцярогі рук аўтаматчыка ад апёкаў.

***Магазін*** прызначаны для змяшчэння патронаў і падачы іх у ствольную каробку.

***Штык-нож*** далучаецца да аўтамата для паражэння праціўніка ў баі, а таксама можа выкарыстоўвацца ў якасці нажа, пілы (для распілоўкі металу) і нажніц (для рэзкі дроту). Для нашэння штыка-нажа на паясным рамяні служаць ножны. Пры неабходнасці яны выкарыстоўваюцца разам са штыком-нажом для рэзання дроту.

***Баявы патрон*** складаецца з кулі, гільзы, парахавога зарада і капсуля. 5,45-міліметровыя патроны (мал. 37)




*Мал. 37.* Патрон:
*а* — патрон з куляй са сталёвым стрыжнем; *б* — патрон з трасіруючай куляй; *в* — халасты патрон; *г* — вучэбны патрон

выпускаюцца са звычайнымі і трасіруючымі кулямі. Галаўная частка трасіруючай кулі афарбавана ў зялёны колер. Для імітацыі стральбы выкарыстоўваюцца халастыя (без кулі) патроны, стральба якімі вядзецца з выкарыстаннем спецыяльнай утулкі.



**1.** Раскажыце аб прызначэнні і баявых уласцівасцях аўтамата Калашнікава. **2.** Назавіце асноўныя часткі і механізмы аўтамата. **3.** Якое прызначэнне асноўных частак і механізмаў аўтамата?

## § 29. Няпоўная разборка і зборка аўтамата Калашнікава. Догляд і зберажэнне

**Разборка і зборка аўтамата.** Разборка аўтамата можа быць няпоўная і поўная: няпоўная — для чысткі, змазкі і агляду аўтамата; поўная — для чысткі пры моцным забруджванні аўтамата, пасля знаходжання яго пад дажджом або ў снезе і падчас рамонту. Залішне частая разборка аўтамата шкодная, бо паскарае зношванне частак і механізмаў.

Разборку і зборку аўтамата неабходна выконваць на стале або чыстай падсцілцы. Часткі і механізмы трэба складваць у парадку разборкі. Абыходзіцца з імі трэба асцярожна, не класці адну частку на другую, не прыкладаць лішнія высілкі і не рабіць рэзкіх udараў.

**Парадак няпоўнай разборкі аўтамата.** ***Аддзяліць магазін.*** Утрымліваючы аўтамат левай рукой за шыйку прыклада або цаўё, правай рукой абхапіць магазін (мал. 38); націскаючы вялікім пальцам на зашчапку, падаць ніжнюю частку



*Мал. 38.* Аддзяленне магазіна

магазіна ўперад і аддзяліць яго. Пасля гэтага *праверыць, ці няма патрона ў патронніку*, для чаго перавесці пераводчык уніз, паставіўшы яго ў становішча «АВ» ці «ОД»; адвесці ручку затворнай рамы назад, агледзець патроннік, адпусціць ручку затворнай рамы і спусціць курок з баявога ўзводу.

***Выняць пенал прылад*** з гнязда прыклада. Утапіць пальцам правай рукі накрыўку гнязда так, каб пенал пад дзеяннем спружыны выйшаў з гнязда; раскрыць пенал і выняць з яго працірку, ёршык, адвёртку і выбівачку.

***Аддзяліць шомпал.*** Адцягнуць канец шомпала ад ствала так, каб яго галоўка выйшла з-пад ўпора на аснове мушкі (мал. 39), і выняць шомпал.

***Аддзяліць дульны тормаз-кампенсатар.*** Утапіць адвёрткай фіксатар дульнага тормазу-кампенсатара. Звярнуць дульны тормаз-кампенсатар з разьбовага выступу асновы мушкі, круцячы яго супраць ходу гадзіннікавай стрэлкі (мал. 40). У выпадку празмерна тугога кручэння дульнага тормазу-кампенсатара дазваляецца адкручваць яго з дапамогай выбівачкі (шомпала), устаўленай у вокны дульнага тормазу-кампенсатара.

***Аддзяліць накрыўку ствольнай каробкі.*** Левай рукой абхапіць шыйку прыклада, вялікім пальцам гэтай рукі націснуць на выступ напраўляючага стрыжня зваротнага механізма, правай рукой прыпадняць уверх заднюю частку накрыўкі ствольнай каробкі (мал. 41) і аддзяліць накрыўку.

***Аддзяліць зваротны механізм.*** Утрымліваючы аўтамат левай рукой за шыйку прыклада, правай рукой падаць наперад напраўляючы стрыжань зваротнага механізма да выхаду яго пяткі з падоўжнага паза ствольнай каробкі; прыпадняць заднюю частку напраўляючага стрыжня (мал. 42) і дастаць зваротны механізм з канала затворнай рамы.



*Мал. 39.* Аддзяленне шомпала



*Мал. 40.* Аддзяленне дульнага тормазу-кампенсатара



*Мал. 41.* Аддзяленне накрыўкі ствольнай каробкі



*Мал. 42.* Аддзяленне зваротнага механізма

***Аддзяліць затворную раму з затворам.*** Працягваючы ўтрымліваць аўтамат левай рукой, правай адвесці затворную раму назад колькі мажліва, прыпадняць яе разам з затворам (мал. 43) і аддзяліць ад ствольнай каробкі.

***Аддзяліць затвор ад затворной рамы.*** Узяць затворную раму ў левую руку затворам дагары (мал. 44); правай рукой адвесці затвор назад, павярнуць яго так, каб вядучы выступ затвора выйшаў з фігурнага выразу затворнай рамы, і вывесці затвор наперад.

***Аддзяліць газавую трубку са ствольнай накладкай.*** Утрымліваючы аўтамат левай рукой, правай надзець пенал прылад прамавугольнай адтулінай на выступ замыкальніка газавай трубкі, павярнуць замыкальнік ад сябе да вертыкальнага становішча (мал. 45) і зняць газавую трубку з патрубка газавай камеры.



*Мал. 43.* Аддзяленне затворной рамы з затворам



*Мал. 44.* Аддзяленне затвора ад затворной рамы



*Мал. 45.* Аддзяленне газавай трубкі са ствольнай накладкай

**Парадак зборкі аўтамата пасля няпоўнай разборкі.** ***Далучыць газавую трубку са ствольнай накладкай.*** Трымаючы аўтамат левай рукой, правай насунуць газавую трубку пярэднім канцом на патрубак газавай камеры і шчыльна прыціснуць заднюю частку ствольнай накладкі да ствала; павярнуць з дапамогай пенала прылад замыкальнік на сябе да ўваходу яго фіксатара ў выемку на калодцы прыцэла.

***Далучыць затвор да затворнай рамы.*** Узяць затворную раму ў левую руку, а затвор у правую і ўставіць яго цыліндрычнай часткай у канал рамы; павярнуць затвор так,

каб яго вядучы выступ увайшоў у фігурны выраз затворнай рамы, і прасунуць затвор наперад.

***Далучыць затворную раму з затворам да ствольнай каробкі.*** Узяць затворную раму ў правую руку так, каб затвор утрымліваўся вялікім пальцам у пярэднім становішчы. Левай рукой абхапіць шыйку прыклада, правай увесці газавы поршань у поласць калодкі прыцэла і прасунуць затворную раму наперад настолькі, каб адгібы ствольнай каробкі ўвайшлі ў пазы затворнай рамы, невялікім намаганнем прыціснуць яе да ствольнай каробкі і прасунуць уперад.

***Далучыць зваротны механізм.*** Правай рукой увесці зваротны механізм у канал затворнай рамы; сціскаючы зваротную спружыну, падаць напраўляючы стрыжань уперад і, апусціўшы крыху ўніз, увесці яго пятку ў падоўжны паз ствольнай каробкі.

***Далучыць накрыўку ствольнай каробкі.*** Уставіць накрыўку ствольнай каробкі пярэдняй часткай у паўкруглы выраз на калодцы прыцэла; націснуць на заднюю частку накрыўкі далонню правай рукі наперад і ўніз так, каб выступ напраўляючага стрыжня зваротнага механізма ўвайшоў у адтуліну накрыўкі ствольнай каробкі.

***Спусціць курок з баявога ўзвода і паставіць на засцерагальнік.*** Націснуць на спускавы кручок і падняць пераводчык уверх колькі мажліва.

***Далучыць дульны тормаз-кампенсатар.*** Навярнуць дульны тормаз-кампенсатар на разьбовы выступ асновы мушкі да ўпору. Калі паз дульнага тормазу-кампенсатара не супаў з фіксатарам, неабходна адкруціць дульны тормаз-кампенсатар (не больш за адзін абарот) да сумяшчэння паза з фіксатарам.

***Далучыць шомпал.***

***Укласці пенал у гняздо прыклада.*** Скласці працірку, ёршык, адвёртку і выбівачку ў пенал і зачыніць яго накрыўкай, укласці пенал дном у гняздо прыклада (мал. 46) і ўтапіць яго так, каб гняздо зачынілася накрыўкай.



*Мал. 46.* Укладанне пенала прылад

***Далучыць магазін да аўтамата.*** Утрымліваючы аўтамат левай рукой за шыйку прыклада або цаўё, правай увесці ў акно ствольнай каробкі зачэп магазіна і павярнуць магазін на сябе так, каб зашчапка заскочыла за апорны выступ магазіна.

***Чыстка і змазка аўтамата.*** Аўтамат неабходна заўсёды трымаць у чысціні, поўнай спраўнасці і пастаяннай гатоўнасці да баявога прымянення.

Чыстка аўтамата ажыццяўляецца: падчас падрыхтоўкі да стральбы, пасля стральбы, пасля заняткаў у полі, у баявой абстаноўцы і на працяглых вучэннях штодня ў перыяд зацішша бою і падчас перапынкаў вучэнняў. Калі аўтамат не прымяняўся, то чыстка яго выконваецца не радзей аднаго разу ў тыдзень. Чыстка і змазка аўтамата ажыццяўляюцца пад кіраўніцтвам непасрэднага камандзіра, а ў навучальнай установе — кіраўніка (выкладчыка) дапрызыўнай падрыхтоўкі.

Падчас чысткі аўтамата выкарыстоўваюцца прыналежнасць аўтамата і драўляныя палачкі. Для чысткі і змазкі аўтамата прымяняюцца вадкая ружэйная змазка (пры тэмпературы паветра ад +5 да −50° С), ружэйная змазка (пры тэмпературы паветра вышэй +5° С), раствор РЧС (раствор чысткі ствалоў), рыззё або папера КВ-22 і пакулле (толькі для чысткі канала ствала).

Чыстка і змазка аўтамата ажыццяўляюцца ў наступным парадку:

- падрыхтаваць матэрыялы для чысткі і змазкі;
- разабраць аўтамат;
- агледзець прыладу і падрыхтаваць яе для выкарыстання пры чыстцы;
- прачысціць канал ствала;
- вычысціць астатнія часткі, механізмы і металічныя часткі аўтамата;
- абцерці сухім рыззём драўляныя часткі аўтамата;
- прачысціць самасвятлівыя насадкі, працерці цэлік і мушку.

Пра заканчэнне чысткі аўтамата салдат дакладвае камандзіру аддзялення і з яго дазволу выконвае змазку і зборку аўтамата. Пасля зборкі аўтамата правяраецца праца яго частак і механізмаў.

**Захоўванне і зберажэнне.** Адказнасць за захоўванне і зберажэнне зброі нясе камандзір падраздзялення, а ў навучальнай

установе — дырэктар навучальнай установы і выкладчык допрызыўнай падрыхтоўкі.

З аўтаматам неабходна абыходзіцца беражліва — засцерагаць яго ад удараў, а таксама ад пападання ў ствол староніх прадметаў (рыззя, пяску і бруду), што пры стральбе прыводзіць да раздзімання або разрыву ствала. Не пажадана лішні раз спускаць курок, каб пазбегнуць дачаснага зношвання частак і механізмаў аўтамата.

Аўтамат захоўваецца ў пірамідзе разраджаным, пры гэтым магазін аддзелены, штык-нож зняты, курок спушчаны, рычаг пераводчыка знаходзіцца ў верхнім становішчы, хамуцік прыцэла ўстаноўлены на дзяленне «П».

Пры руху на занятку і ў паходзе аўтамат пераносіцца з далучаным магазінам. У час перапынкаў паміж заняткамі, а таксама на прывалах аўтамат знаходзіцца ў руках або на рамяні.



**1.** Раскажыце аб парадку няпоўнай разборкі і зборкі аўтамата. Выканайце пры магчымасці няпоўную разборку і зборку аўтамата. **2.** Калі і ў якой паслядоўнасці ажыццяўляецца чыстка і змазка аўтамата? **3.** Раскажыце пра захоўванне і зберажэнне аўтамата.

## § 30. Ручныя гранаты

**Прызначэнне і баявыя ўласцівасці ручных асколачных гранат.** Ручныя асколачныя гранаты (мал. 47) прызначаны для паражэння асколкамі жывой сілы праціўніка. Пры разрыве гранаты адбываецца разлёт вялікай колькасці асколкаў, якія валодаюць энергіяй, дастатковай для паражэння жывой сілы.




*Мал. 47.* Агульны выгляд ручных асколачных гранат: *а* — РГД-5; *б* — Ф-1; *в* — РГН; *г* — РГО

Ручныя асколачныя гранаты асабліва эфектыўныя ў блізкім баі (падчас атакі, пры вядзенні бою ў акопах, населеных пунктах, лесе, гарах, сховішчах). У залежнасці ад далёкасці разлёту асколкаў гранаты падраздзяляюцца на наступальныя і абарончыя. Баявыя ўласцівасці гранат характарызуюцца дадзенымі, прыведзенымі ў табліцы.

| Характарыстыкі | Гранаты | | | |
|---|---|---|---|---|
| | абарончыя | | наступальныя | |
| | Ф-1 | РГО | РГД-5 | РГН |
| Вага падгатаванай гранаты, г | 600 | 530 | 310 | 310 |
| Радыус разлёту забойных асколкаў, м | 200 | 150 | 25 | 24 |
| Сярэдняя далёкасць кідка гранаты, м | 20—40 | 20—40 | 30—45 | 30—45 |
| Тып запала гранаты | Дыстанцыйны | Ударнадыстанцыйны | Дыстанцыйны | Ударнадыстанцыйны |
| Час гарэння запавольніка запала, с | 3,2—4,2 | 3,3—4,3 | 3,2—4,2 | 3,3—4,3 |
| Час далёкага ўзвядзення запала, с | | 1—1,8 | | 1—1,8 |

**Устройства ручных асколачных гранат РГД-5 і Ф-1.** ***Ручная асколачная граната Ф-1*** (мал. 48, *б*). Ручная асколачная граната Ф-1 прымяняецца пераважна ў абарончым баі. Яна складаецца з корпуса, разрыўнога зарада і запала.

Корпус гранаты чыгунны, з падоўжнымі і папярочнымі баразнамі, па якіх ён звычайна разрываецца на асколкі. У верхняй частцы корпуса маецца наразная адтуліна для ўкручвання запала. Пры захоўванні, транспарціроўцы і пераносцы ў яго ўкручваюць пластмасавую закрутку.

Корпус гранаты запаўняецца разрыўным зарадам, які служыць для разрыву гранаты на асколкі.

***Ручная асколачная граната РГД-5*** (мал. 48, *а*). Граната выкарыстоўваецца ў асноўным у наступальным баі. Яна складаецца з корпуса, разрыўнога зарада і запала.




*Мал. 48.* Устройства ручных асколачных гранат:
*а* — РГД-5; *б* — Ф-1; *в* — РГН; *г* — РГО;
*1* — закрутка пластмасавая ахоўная; *2* — трубка для запала з манжэтай; *3* — каўпак з укладышам; *4* — разрыўны зарад; *5* — паддон з укладышам; *6* — запал УЗРГМ; *7* — корпус чыгунны; *8* — стакан з манжэтай; *9* — верхнія паўсферы; *10* — ніжнія паўсферы; *11* — запал УДЗ

Корпус гранаты складаюць верхняя (каўпак) і ніжняя (паддон) часткі. Каўпак і паддон маюць унутраныя абалонкі — укладышы. Да верхняй часткі з дапамогай манжэты далучаецца трубка для запала, якая служыць для далучэння запала да гранаты і герметызацыі разрыўнога зарада ў корпусе гранаты. Для засцярогі трубкі ад забруджвання ў яе ўкручваецца пластмасавая закрутка.

Корпус гранаты запаўняецца разрыўным зарадам, які служыць для разрыву гранаты на асколкі.

***Запал гранат.*** Разрыўны зарад гранат выбухае ад дэтанацыі. Для таго каб граната ўзарвалася, трэба яе «запаліць»,

гэта значыць спачатку ўзарваць дэтанатар. Гэтую ролю і выконвае запал.

Запалам гранат РГД-5 і Ф-1 служыць запал дыстанцыйнага тыпу УЗРГМ (уніфікаваны запал ручной гранаты мадэрнізаваны). Запал складаецца з ударнага механізма і ўласна запала.

Ударны механізм служыць для запальвання капсуля-запальніка запала. Пасля вырывання засцерагальнай загваздкі і кідка гранаты спускавы рычаг аддзяляецца ад гранаты і вызваляе ўдарнік, які пад дзеяннем баявой спружыны робіць удар па капсулю-запальніку.

Уласна запал складаюць капсуль-запальнік, запавольнік і капсуль-дэтанатар. Іскра ад запаленага ўдарным механізмам капсуля-запальніка ўмомант падпальвае запальнік. Запавольнік гарыць 3,2—4,2 с, а затым узрывае капсуль-дэтанатар. Імгненна адбываецца выбух гранаты.

Запалы заўсёды знаходзяцца ў баявым становішчы. Разбіраць іх і правяраць працу ўдарнага механізма катэгарычна забараняецца!

**Устройства ручных асколачных гранат РГО і РГН.** ***Ручная асколачная граната РГО*** (ручная граната абарончая) (мал. 48, *г*). Яна прымяняецца пераважна ў абарончым баі. Асноўныя часткі гранаты: корпус, разрыўны зарад і запал.

Корпус гранаты складаецца з чатырох стальных паўсфер: дзвюх верхніх і дзвюх ніжніх (вонкавых і ўнутраных). Усе паўсферы маюць насечкі, якія палягчаюць фарміраванне паражальных элементаў пры выбуху.

***Ручная асколачная граната РГН*** (ручная граната наступальная) (мал. 48, *в*). Яна прымяняецца перш за ўсё ў наступальным баі. Асноўныя часткі гранаты: корпус, разрыўны зарад і запал.

Корпус гранаты выраблены з алюмініевага сплаву. Ён складаецца з верхняй і ніжняй паўсфер, кожная з якіх мае ўнутраную насечку для фарміравання паражальных элементаў пры выбуху.

***Запал гранат.*** У склад гранат РГО і РГН уваходзіць больш дасканалы запал — ударна-дыстанцыйны. Яго перавага заключаецца ў тым, што ён падрывае гранату не толькі па сканчэнні пэўнага часу пасля кідка (запал УЗРГМ — праз 3,2—4,2 с), але і ад удару, гэта значыць пры сустрэчы

з перашкодай з дапамогай датчыка цэлі. У той жа час ва ўдарна-дыстанцыйным запале прадугледжана дадатковая ступень засцярогі ад выпадковага выпадзення гранаты з рукі пры гранатакіданні. Пасля таго як засцерагальная загваздка вырвана і спускавы рычаг аддзяліўся ад гранаты, спрацоўвае механізм далёкага ўзвядзення, які толькі праз 1—1,8 с «дазволіць» гранаце выбухнуць ад сустрэчы з перашкодай. Але ў любым выпадку, калі нават не спрацаваў датчык цэлі, праз 3,3—4,3 с граната падарвецца дыстанцыйным устройствам (самаліквідатарам).

**Баявое прымяненне ручных асколачных гранат.** Перад кіданнем гранаты неабходна вывернуць з трубкі закрутку, а на яго месца ўкруціць да ўпору запал.

Для кідання гранату трэба ўзяць у рукі так, каб спускавы рычаг пальцамі быў прыціснуты да корпуса гранаты. Не адпускаючы рычага, вырываюць засцерагальную загваздку за кольца і кідаюць гранату ў цэль. У момант кідку гранаты спускавы рычаг аддзяляецца ад гранаты і вызваляе ўдарнік. Ударнік пад уздзеяннем баявой спружыны робіць удар (накол) па капсулю-запальніку і запальвае яго. Падчас удару аб перашкоду ці па заканчэнні часу запаволення запала выбухае капсуль-дэтанатар і выклікае выбух разрыўнога зарада гранаты. Корпус гранаты разрываецца, і асколкі разлятаюцца ў розныя бакі.

**Ручная кумулятыўная граната РКГ-3** з'яўляецца супрацьтанкавай гранатай і прызначаецца для барацьбы з танкамі і іншымі браніраванымі цэлямі, а таксама для разбурэння трывалых перашкод і ўкрыццяў палявога тыпу.

Ручная кумулятыўная граната пры трапленні ў цэль імгненна выбухае, утвораныя пры выбуху газы дзякуючы кумулятыўнай варонцы збіраюцца ў вузкі пучок, які здольны прабіць браню танка і знішчыць унутры яго экіпаж і абсталяванне. Найбольш эфектыўнае дзеянне граната мае пры ўдары аб цэль дном. Напрамак палёту гранаты дном уперад забяспечваецца стабілізатарам.

Вага падгатаванай гранаты РКГ-3 складае 1070 г. Сярэдняя далёкасць кідку гранаты — 15—20 м.

Кіданне гранаты выконваецца з розных пастаў і толькі з-за ўкрыццяў.



**1.** Раскажыце аб прызначэнні ручных асколачных гранат і назавіце іх баявыя ўласцівасці. **2.** Назавіце асноўныя часткі ручных асколачных гранат. **3.** У чым прынцыповае адрозненне ў дзеянні запала УЗРГМ і ўдарна-дыстанцыйнага запала? **4.** Раскажыце аб парадку баявога прымянення ручных асколачных гранат. **5.** Раскажыце аб прызначэнні і баявых уласцівасцях гранаты РКГ-3.

## § 31. Асновы стральбы са стралковай зброі

Асновы стральбы ўключаюць тэарэтычныя палажэнні, веданне якіх неабходна для свядомага і глыбокага вывучэння пытанняў устройства і зберажэння зброі, прыёмаў і правілаў стральбы з яго.

***Стрэлам*** называецца выкіданне кулі з канала ствала пад дзеяннем парахавых газаў, якія ўтвараюцца пры згаранні парахавога зарада. Пры ўдары байка па капсулю патрона ўзнікае полымя, ад якога запальваецца парахавы зарад. Пры гэтым утвараецца вялікая колькасць моцна нагрэтых газаў, якія ствараюць высокі ціск, што дзейнічае ва ўсе бакі з аднолькавай сілай. Пры ціску газаў 250—500 кг/см$^2$ куля зрушваецца з месца і ўразаецца ў нарэзы канала ствала, атрымліваючы вярчальны рух. Порах працягвае гарэць, а значыць, колькасць газаў павялічваецца. Затым з прычыны хуткага павышэння скорасці руху кулі аб'ём закулявай прасторы павялічваецца хутчэй за прыток новых газаў, і ціск пачынае падаць. Аднак скорасць кулі ў канале ствала працягвае расці, бо газы, хоць і ў меншай ступені, але па-ранейшаму ціснуць на яе. Куля прасоўваецца па канале ствала з бесперапынна нарастальнай скорасцю і выкідваецца наверх у кірунку восі канала ствала. Увесь працэс стрэлу адбываецца за вельмі кароткі прамежак часу (0,001—0,06 с). Далей палёт кулі ў паветры працягваецца па інерцыі і ў значнай ступені залежыць ад яе пачатковай скорасці.

***Пачатковай скорасцю*** кулі называецца скорасць, з якой куля пакідае канал ствала. Пачатковая скорасць кулі — адна з найважнейшых характарыстык баявых уласцівасцей зброі. Чым большая пачатковая скорасць, тым далей паляціць куля, тым больш устойлівая яна ў палёце і тым большым прабіўным дзеяннем будзе валодаць. Куля малакалібернай

вінтоўкі вылятае со скорасцю 350 м/с і на адлегласці 25 м прабівае жалезную пліту таўшчынёй 0,2 см, цагляную кладку — 2 см, сасновыя дошкі — 8 см. З аўтамата Калашнікава куля вылятае са скорасцю, якая больш чым у два разы перавышае скорасць кулі малакаліберной вінтоўкі, а таму і прабіўное дзеянне аўтаматнай кулі з улікам і яе большай вагі ў шмат разоў перавышае прабіўное дзеянне кулі малакаліберной вінтоўкі.

Рух зброі назад падчас стрэлу называецца ***аддачай***. Ціск парахавых газаў у канале ствала дзейнічае ва ўсе бакі з аднолькавай сілай. Ціск газаў на дно кулі прымушае яе рухацца ўперад, а ціск на дно гільзы перадаецца на затвор і выклікае рух зброі назад. Пры аддачы ўтвараецца пара сіл, пад дзеяннем якой дульная частка зброі адхіляецца ўгору (мал. 49). Аддача стралковай зброі адчуваецца як штуршок у плячо, руку або ў грунт. Дзеянне аддачы зброі характарызуецца велічынёй скорасці і энергіі, якой яно валодае пры руху назад. Скорасць аддачы зброі прыкладна ў столькі разоў меншая за пачатковую скорасць кулі, у колькі разоў куля лягчэйшая за зброю. Энергія аддачы ў аўтамата Калашнікава невялікая і ўспрымаецца стралком бязбольна, а ў малакаліберной вінтоўцы — амаль неадчувальная. Для памяншэння ўплыву аддачы на вынікі стральбы неабходна дакладна выконваць прыёмы стральбы.




*Мал. 49.* Аддача

Крывая лінія, якую апісвае цэнтр цяжару кулі пры палёце ў паветры, называецца ***траекторыяй*** (мал. 50). У момант стрэлу ствол зброі ў залежнасці ад вугла ўзвышэння займае пэўнае становішча. Палёт кулі ў паветры пачынаецца па прамой лініі, якая прадстаўляе працяг восі канала ствала ў момант вылету кулі. Гэтая лінія называецца

***лініяй кідання***. Пры палёце ў паветры на кулю дзейнічаюць дзве сілы: сіла цяжару і сіла супраціўлення паветра. Сіла цяжару ўсё больш адхіляе кулю ўніз ад лініі кідання, а сіла супраціўлення паветра запавольвае рух кулі. Пад дзеяннем гэтых дзвюх сіл куля працягвае палёт па крывой, размешчанай ніжэй лініі кідання. Форма траекторыі залежыць ад велічыні вугла ўзвышэння і пачатковай скорасці кулі, яна ўплывае на велічыню далёкасці прамога стрэлу, прыкрытай, паражальнай і мёртвай прасторы. З павелічэннем вугла ўзвышэння вышыня траекторыі і поўная гарызантальная далёкасць палёту кулі павялічваюцца, але гэта адбываецца да вядомай мяжы. За гэтай мяжой вышыня траекторыі працягвае павялічвацца, а поўная гарызантальная далёкасць памяншацца.




*Мал. 50.* Траекторыя палёту кулі

Вугал узвышэння, пры якім поўная гарызантальная далёкасць палёту кулі становіцца найбольшай, называецца вуглом найбольшай далёкасці. Велічыня вугла найбольшай далёкасці для куль розных відаў зброі складае каля 35°.

Траекторыі, якія атрымліваюцца пры вуглах узвышэння, меншых за вугал найбольшай далёкасці, называюцца ***насцільнымі***.

***Прамым стрэлам*** называецца стрэл, пры якім траекторыя палёту кулі не падымаецца над лініяй прыцэльвання вышэй за цэль на ўсім сваім працягу (мал. 51). Далёкасць прамога стрэлу залежыць ад вышыні цэлі і насцільнасці траекторыі. Чым вышэйшая цэль і чым больш насцільная траекторыя, тым большая далёкасць прамога стрэлу, а зна-

чыць, і адлегласць, на якой цэль можа быць збіта з адной устаноўкай прыцэла. Практычнае значэнне прамога стрэлу ў тым, што ў напружаныя моманты бою стральба можа весціся без перастаноўкі прыцэла, пры гэтым пункт прыцэльвання па вышыні будзе выбірацца па ніжнім абрэзе цэлі.




*Мал. 51.* Прамы стрэл

Прастору за ўкрыццем, што не прабіваецца куляй, ад яе грэбня да пункта сустрэчы называецца ***прыкрытай прасторай*** (мал. 52). Прыкрытая прастора тым большая, чым вышэйшае ўкрыцце і чым больш насцільная траекторыя. Частка прыкрытай прасторы, на якой цэль не можа быць збіта пры дадзенай траекторыі, называецца ***мёртвай (непаражальнай) прасторай***. Яна тым большая, чым большая вышыня ўкрыцця, меншая вышыня цэлі і больш насцільная траекторыя. Другая частка прыкрытай прасторы, на якой цэль можа быць збіта, называецца ***паражальнай прасторай***.




*Мал. 52.* Прыкрытая, паражальная і мёртвая прастора



**1.** Раскажыце пра з’яву стрэлу. **2.** Як утвараецца траекторыя палёту кулі? **3.** Ахарактарызуйце аддачу. Як яна ўплывае на стральбу? **4.** Што такое прамы стрэл і якое яго практычнае значэнне? **5.** Ахарактарызуйце прыкрытую, мёртвую (непаражальную) і паражальную прастору. Ад чаго залежаць іх памеры?

## § 32. Прыёмы і правілы стральбы са стралковай зброі

**Прыёмы стральбы** са стралковай зброі наступныя: узяць напагатоў, прыцэльванне, спуск курка і арганізацыя дыхання пры стральбе.

***Узяцце напагатоў.*** Правільная гатоўнасць да стральбы забяспечвае ўстойлівасць зброі, якая аказвае ўплыў на трапнасць стральбы. Прыём узяцця напагатоў уключае прыняцце паставы для стральбы, зараджанне зброі і прыкладку.

Каб прыняць паставу для стральбы лежачы з малакаліберннай вінтоўкі, трэба, утрымліваючы вінтоўку ў правай руцэ дульнай часткай наперад, зрабіць правай нагой поўны крок наперад і крыху направа. Нахіліцца ўперад і апусціцца на левае калена. Затым, абапіраючыся левай рукой аб зямлю, паслядоўна апусціцца на сцягно левай нагі і перадплечча левай рукі. Легчы на левы бок і хутка павярнуцца на жывот, злёгку раскінуўшы ногі ў бакі наскамі ў бакі. Пры гэтым корпус размяшчаецца пад вуглом 25—30° да плоскасці стральбы. Вінтоўка кладзецца цаўём на далонь левай рукі (мал. 53). Для зараджання малакаліберннай вінтоўкі трэба правай рукой адкрыць і адвесці назад затвор, узяць патрон за пятку вялікім і ўказальным пальцамі правай рукі і ўвесці кулю ў патроннік; вялікім пальцам падштурхнуць патрон наперад, пакуль закраіна гільзы не натыкнецца на тарэц пянька ствала; правай рукой закрыць затвор.

Для прыкладкі з малакаліберннай вінтоўкай левую руку, сагнутую ў локці, трэба высунуць наперад так, каб вінтоўка ніжняй плоскасцю цаўя ляжала на яе далоні бліжэй да мякаці вялікага пальца. Пальцы левай рукі толькі злёгку, без ніякага напружання, дакранаюцца да цаўя вінтоўкі. Кісцю правай рукі трэба крыху абхапіць шыйку ложы, а ўказальны палец кладзецца першым суставам на спускавы

*а*



*б*



*в*



*Мал. 53.* Становішча для стральбы лежачы:
*а* — з рукі; *б* — з выкарыстаннем упора, на ўпоры кісць левай рукі;
*в* — з выкарыстаннем упора, на ўпоры цаўё вінтоўкі

кручок. Прыклад сярэдзінай затыльніка павінен упірацца ў выемку пляча.

Для надання зброі большай устойлівасці пры стральбе з паставы лежачы можна карыстацца ўпорам. У якасці ўпора прымяняюцца мяшэчкі з пяском або пілавіннем вышынёй 20—25 см.

Правільную паставу корпуса адносна ўпора стралок знаходзіць, нязначна перамяшчаючы корпус наперад або назад, пакуль не зойме зручнага для сябе становішча. Калі гэта немагчыма, трэба падагнаць вышыню ўпора і паўтарыць узяцце напагатоў.

Усе нарматывы па спартыўнай стральбе лежачы без ўпора выконваюцца з выкарыстаннем ружэйнага рамяня.

Правільная прыкладка залежыць ад паставы корпуса, ног, рук і галавы стралка. Ад правільнай прыкладкі ў сваю чаргу залежыць устойлівасць зброі.

Пры стральбе лежачы паміж корпусам стралка і плоскасцю стральбы павінен быць некаторы вугал. Велічыня перамяшчэння корпуса ўлева ад напрымку стральбы залежыць ад целаскладу стралка. Калі рукі кароткія, то корпус

мэтазгодна размяшчаць пад большым вуглом да напрамку стральбы, калі доўгія — пад меншым вуглом. Звычайна велічыня вугла паміж корпусам і напрамкам стральбы вагаецца ад 25 да 30°.

Галаву трэба крыху нахіліць уперад і, не напружваючы шыі, правую шчаку крыху прыціснуць да прыклада. Пры гэтым правае вока павінна знаходзіцца на ўзроўні прыцэла і ў 25—30 см ад яго або на такой адлегласці, якое дазваляла б стралку найбольш ясна і заўсёды аднастайна бачыць прорազь прыцэла і мушку. Затыльнік прыклада павінен шчыльна прылягаць да пляча сярэдзінай.

***Прыцэльванне*** — гэта сукупнасць дзеянняў стралка, прызначаных для надання канала ствала зброі становішча ў прасторы, якая забяспечвае палёт кулі ў патрэбным напрамку і на неабходную далёкасць. Гэтыя дзеянні выконваюцца з дапамогай прыцэла і мушкі.

Для таго каб на працягу ўсёй стральбы захавалася аднолькавасць узяцця напагатоў і прыкладкі, першапачатковую наводку зброі ў цэль варта рабіць не рукамі, а перамяшчэннем корпуса, не мяняючы становішча левай рукі. Калі зброя накіравана нізка, корпус трэба перамясціць назад. Калі зброя накіравана высока, корпус падаецца наперад. Пры перамяшчэнні корпуса разам з нагамі ўправа ствол зброі адхіляецца налева, а калі корпус перасоўваецца ўлева, ствол перамяшчаецца направа.

Варта пасля заканчэння грубай наводкі зброі ў цэль заплюшчыць вочы і паслабіць мышцы. Потым, адкрыўшы вочы, паглядзець, куды накіравана зброя, і пры неабходнасці паправіць грубую наводку.

Для прыцэльвання (мал. 54) неабходна заплюшчыць левае вока, а правым глядзець праз прорազь прыцэла на мушку так, каб мушка знаходзілася строга пасярэдзіне проразі, а яе вяршыня апынулася роўна з верхнімі бакамі грыўкі прыцэльнай планкі. Гэта і называецца *ўзяць роўную мушку*; яе трэба ўтрымліваць. Потым, затрымаўшы дыханне на выдыху, неабходна падвесці роўную мушку да пункта прыцэльвання, адначасова націскаючы на спускавы кручок.

Пры змяшчэнні мушкі ў бок ад сярэдзіны проразі, а таксама вышэй або ніжэй яе краёў трапнай стральбы не атрымаецца (мал. 55). Пры гэтым, чым больш памылка ў становішчы мушкі адносна проразі прыцэла, тым больш




*Мал. 54.* Узяцце роўнай мушкі:
*1* — верхні край грыўкі проразі; *2* — мушка;
*3* — пункт прыцэльвання; *4* — цэль; *5* — прорэзь прыцэла



Дробная мушка



Кулі пойдуць ніжэй



Буйная мушка



Кулі пойдуць вышэй



Мушка прытрымана справа



Кулі пойдуць управа



Мушка прытрымана злева



Кулі пойдуць улева

*Мал. 55.* Памылкі ў прыцэльванні

будуць адхіленні куль ад пункта прыцэльвання. Ва ўсіх выпадках кулі адхіляюцца ў бок змяшчэння мушкі.

***Спуск курка*** — адзін з найбольш важных і адказных элементаў тэхнікі стральбы. Указальны палец правай рукі неабходна накладваць на спускавы кручок першым суставам і націскаць плаўна і прама назад. Калі палец накладваць другім суставам, націск будзе адбывацца ўлева назад, з прычыны чаго і зброя будзе ссоўвацца налева. Для спуску курка трэба, затаіўшы дыханне, плаўна націскаць на спускавы кручок да той пары, пакуль курок непрыметна для стралка не спусціцца з баявога ўзвода, г. зн. пакуль не адбудзецца выстрал.

Падчас прыцэльвання і спуску курка неабходна ***затрымліваць дыханне***. Найбольш мэтазгодным момантам для затрымкі дыхання з'яўляецца канец выдыху. Трэба спачатку зрабіць грубую наводку, глыбока ўдыхнуць, а потым, павольна выдыхаючы, выканаць дакладную наводку з адначасовым плаўным націскам на спускавы кручок, каб ліквідаваць яго мёртвы ход. Удакладніўшы прыцэльванне і затаіўшы дыханне ў канцы выдыху, стралок працягвае плаўна націскаць на спускавы кручок і страляе.

**Прыёмы і правілы стральбы з аўтамата.** Стральба з аўтамата складаецца з наступных прыёмаў: узяцце напагатоў, стральба, правядзенне стральбы (стрэлу) і спыненне стральбы.

Узяцце напагатоў адзначае, што трэба прыняць паставу для стральбы і зарадзіць аўтамат. Пры вядзенні агню з месца аўтаматчык прымае паставу для стральбы стоячы, з калена або лежачы ў залежнасці ад умоў мясцовасці і агню праціўніка. У руху аўтаматчык можа весці агонь без перапынку і з кароткім перепынкам. Падрыхтоўваюцца да стральбы па камандзе камандзіра або самастойна. Кіруючыся агульнымі правіламі выканання прыёмаў стральбы і ўлічваючы свае індывідуальныя асаблівасці, кожны аўтаматчык выпрацоўвае і прымяняе найбольш зручныя і ўстойлівыя паставы для стральбы, дамагаючыся аднолькавага становішча галавы, карпуса, рук і ног.

Правядзенне стральбы складаецца з устаноўкі прыцэла, пастаноўкі пераводчыка на патрэбны від агню, прыкладкі, прыцэльвання, спуску курка і ўтрымання аўтамата пры стральбе. У залежнасці ад пастаўленай задачы і абстаноўкі

агонь вядзецца па камандзе камандзіра або самастойна. У камандзе для адкрыцця агню звычайна ўказваецца, каму страляць, цэль, прыцэл і пункт прыцэльвання. Пры стральбе па цэлях на адлегласці да 300 м прыцэл і пункт прыцэльвання могуць не ўказвацца.

Падчас вядзення агню чэргамі трэба трывала ўтрымліваць прыклад аўтамата ў плячы, не змяняючы становішча локцяў, захоўваць роўна ўзятую мушку пад абраным пунктам прыцэльвання. Пры стральбе з паставы лежачы дазваляецца ўпіраць аўтамат магазінам у грунт.

У залежнасці ад абстаноўкі спыненне стральбы можа быць часовым і поўным. Для часовага спынення стральбы падаецца каманда «Стой» або «Спыніць агонь». Па гэтых камандах аўтаматчык спыняе націск на спускавы кручок, ставіць аўтамат на засцерагальнік і, калі неабходна, мяняе магазін. Для поўнага спынення стральбы пасля каманды «Стой» або «Спыніць агонь» падаецца каманда «Разраджай». Па гэтай камандзе аўтаматчык ставіць аўтамат на засцерагальнік, устанаўлівае прыцэл «П» і разраджае аўтамат.

Прыцэл і пункт прыцэльвання выбіраюцца аўтаматчыкам з такім разлікам, каб пры стральбе сярэдняя траекторыя праходзіла пасярэдзіне цэлі. Пры стральбе на адлегласць да 300 м агонь варта весці, як правіла, з прыцэлам 3 або «П», прыцэльваючыся ў ніжні край цэлі або ў сярэдзіну, калі цэль высокая.

Пры стральбе на адлегласці, якія перавышаюць 300 м, прыцэл устанаўліваецца адпаведна адлегласці да цэлі, акруглёнай да цэлых сотняў метраў. За пункт прыцэльвання, як правіла, прымаецца сярэдзіна цэлі. Калі ўмовы абстаноўкі не дазваляюць змяняць устаноўку прыцэла ў залежнасці ад адлегласці да цэлі, у межах далёкасці прамога стрэлу агонь трэба весці з прыцэлам «П», прыцэльваючыся ў ніжні край цэлі.



**1.** Раскажыце і пакажыце, як правільна падрыхтавацца да стральбы лежачы з малакаліберная вінтоўкі. **2.** Раскажыце аб прыцэльванні. Якія памылкі робяцца падчас прыцэльвання, да чаго яны прыводзяць? **3.** Для чаго на прыцэльнай планцы аўтамата Калашнікава ёсць пастаянная ўстаноўка прыцэла «П»?

## § 33. Кіданне ручных гранат

На занятках і вучэннях кіданне гранат выконваецца па камандзе камандзіра (кіраўніка заняткаў), а ў баі — у залежнасці ад абстаноўкі па камандзе ці самастойна. Кіданне гранаты складаецца з наступных прыёмаў: гатоўнасць для кідання (зараджанне і прыняцце адпаведнай паставы) і кіданне гранаты.

**Зараджанне гранаты.** Зараджанне гранаты выконваецца па камандзе «Падрыхтаваць гранаты», а ў баі, акрамя таго, і самастойна.

Для зараджання ручной асколачнай гранаты неабходна (мал. 56) дастаць гранату левай рукой з сумкі, а правай рукой выкруціць закрутку з трубкі корпуса. Затым, трымаючы гранату ў левай руцэ, правай рукой дастаць з гнязда сумкі запал, уставіць яго ў цэнтральную трубку і ўкруціць да ўпору. Граната гатовая да кідка.

**Кіданне ручной асколачнай гранаты.** Кіданне гранаты выконваецца з розных пастаў: стоячы, з калена, лежачы,




*Мал. 56.* Зараджанне ручной асколачнай гранаты:
*а* — выкручванне закруткі; *б* — даставанне запала;
*в* — укручванне запала

а таксама ў руху з БМП (БТР) і ў пешым парадку (толькі наступальных). Для кідання гранаты выбіраецца месца і прымаецца такая пастава, каб можна было зрабіць кідок без перашкод, г. зн. каб на шляху палёту гранаты не было галін дрэў, высокай травы, правадоў і іншых перашкод.

Кіданне гранаты выконваецца па камандзе «Гранатай — агонь», а ў баі, акрамя таго, і самастойна.

Для кідання гранаты неабходна ўзяць гранату ў руку і пальцамі шчыльна прыціснуць спускавы рычаг да корпуса гранаты (мал. 57). Працягваючы шчыльна прыціскаць спускавы рычаг, другой рукой сціснуць (выпрастаць) канцы засцерагальнай загваздкі; утрымліваючы спускавы рычаг у прыціснутым становішчы, за кольца выцягнуць засцерагальную загваздку; размахнуцца і кінуць гранату ў цэль (пры кіданні абарончай гранаты адразу пасля кідка трэба схавацца).




*Мал. 57.* Дзеянні перад кіданнем ручной асколачнай гранаты:
*а* — прыцісканне спускавой скабы да корпуса гранаты;
*б* — выпростванне канцоў засцерагальнай загваздкі;
*в* — выцягванне засцерагальнай загваздкі

Пры кіданні гранаты ў руху крокам або бягом (мал. 58) неабходна, утрымліваючы гранату ў правай паўсагнутай руцэ, а зброю — у левай выцягнуць засцерагальную загваздку. На першым кроку (левай нагой) вынесці руку з гранатай наперад і ўніз. На другім кроку (правай нагой) рука працягвае рух па дузе ўніз—назад з адначасовым паваротам корпуса ўправа. На трэцім кроку, выставіўшы левую нагу ў напрамку да цэлі на насок і сагнуўшы правую нагу ў калене, закончыць паварот корпуса і замах рукой. Выкарыстоўваючы




*Мал. 58.* Кіданне гранаты ў руху:
*а*, *б*, *в*, *г* — паслядоўнасць дзеянняў

скорасць руху, укласці ў кідок паслядоўна сілу ног, корпуса і рукі, кінуць гранату, праносячы яе над плячом.

Для кідання гранаты з траншэі або акопа (мал. 59) неабходна пакласці зброю на бруствер, узяць гранату ў правую руку і выцягнуць засцерагальную загваздку; адставіць (наколькі магчыма) правую нагу назад; прагінаючыся ў паясніцы і злёгку згінаючы абедзве нагі, адвесці правую руку з гранатай максімальна назад; абапіраючыся на левую руку, рэзка выпрастацца і кінуць гранату ў цэль, пасля чаго схавацца ў траншэі (акопе).

Для паражэння жывой сілы праціўніка, размешчанай у траншэі (акопе), трэба кідаць гранату пад вуглом да гарызонту прыкладна 35—45°, каб граната падала ў акоп па навеснай траекторыі і менш перакочвалася цераз траншэю.

*а*



*б*



*Мал. 59.* Кіданне гранаты з траншэі (акопа):
*а, б* — паслядоўнасць дзеянняў

**Кіданне ручной супрацьтанкавай (кумулятыўнай) гранаты.** Кіданне гранаты складаецца з выканання наступных прыёмаў: готоўнасць да кідання (зараджанне гранаты і прыняцце адпаведнай паставы) і кіданне гранаты. Зараджанне гранаты выконваецца па камандзе «Падрыхтаваць кумулятыўныя гранаты», а ў баі, акрамя таго, і самастойна.

Кіданне супрацьтанкавай гранаты ажжыцяўляецца з паставы стоячы і з калена (з паставы лежачы, паднімаючыся на калена) толькі з-за вертыкальнага ўкрыцця або з траншэі, варонкі і да т. п.

Улічваючы вагу супрацьтанкавай гранаты, замах варта рабіць больш спакойна, а кідок выконваць з плаўна ўзрастаючай скорасцю. Кідок робіцца з вялікай сілай па насцільнай траекторыі. Кінуўшы гранату, неабходна адразу схавацца, не чакаючы, калі яна трапіць у цэль або ўпадзе на зямлю.



**1.** У якой паслядоўнасці ажыццяўляецца падрыхтоўка ручной асколачнай гранаты да кідання? **2.** Пакажыце паслядоўнасць выканання прыёмаў кідання гранаты ў руху і з траншэі (акопа). **3.** У чым заключаюцца асаблівасці кідання ручной супрацьтанкавай гранаты?

# РАЗДЗЕЛ VII
# Страявая падрыхтоўка

Страявая падрыхтоўка арганізуецца і праводзіцца на аснове Страявога статута Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. На занятках па страявой падрыхтоўцы ў навучэнцаў выхоўваюцца акуратнасць, дысцыплінаванасць і ўважлівасць, выпрацоўваецца ўменне выконваць адзінкавыя страявыя прыёмы і дзейнічаць у складзе падраздзялення. Страявая падрыхтоўка ўдасканальваецца на занятках па фізічнай, тактычнай падрыхтоўцы і на іншых занятках, пры пастраеннях, перамяшчэннях і ў паўсядзённым жыцці.

## § 34. Страі і кіраванне імі

Для паспяховага выканання прыёмаў і дзеянняў у страі навучэнцам неабходна мець уяўленне пра строй, ведаць яго элементы, парадак выканання каманд, абавязкі перад пастраеннем і ў страі.

**Строй. Элементы строю.** ***Строй*** — устаноўленае Статутам размяшчэнне ваеннаслужачых, падраздзяленняў і воінскіх часцей для іх сумесных дзеянняў у пешым парадку і на машынах.

***Шарэнга*** — строй, у якім ваеннаслужачыя размешчаны адзін каля другога на адной лініі.

***Фланг*** — правы (левы) канец строю. Пры паваротах строю назвы флангаў не мяняюцца.

***Фронт*** — бок строю, у які ваеннаслужачыя звернутыя тварам (машыны — лабавой часткай).

***Тыльны бок строю*** — бок, процілеглы фронту.

***Інтэрвал*** — адлегласць па фронце паміж ваеннаслужачымі (машынамі), падраздзяленнямі і воінскімі часцямі.

***Дыстанцыя*** — адлегласць у глыбіню паміж ваеннаслужачымі (машынамі), падрадзяленнямі і воінскімі часцямі.

***Шырыня строю*** — адлегласць паміж флангамі.

***Глыбіня строю*** — адлегласць ад першай шарэнгі (ваеннаслужачага, які стаіць наперадзе) да апошняй шарэнгі

(ваеннаслужачага, які стаіць ззаду), а пры дзеяннях на машынах — адлегласць ад першай лініі машын (машыны, якая стаіць наперадзе) да апошняй лініі машын (машыны, якая стаіць ззаду).

***Двухшарэнгавы строй*** — строй, у якім ваеннаслужачыя адной шарэнгі размешчаны адзін за другім ваеннаслужачым другой шарэнгі на дыстанцыі аднаго кроку (выцягнутай рукі, накладзенай далонню на плячо ваеннаслужачага, які стаіць наперадзе). Шарэнгі называюцца першай і другой. Пры павароце строю назвы шарэнгаў не змяняюцца. Чатыры чалавекі і менш заўсёды становяцца ў адну шарэнгу.

***Рад*** — два ваеннаслужачых, якія стаяць у двухшарэнгавым страі адзін за другім. Калі за ваеннаслужачым першай шарэнгі не стаіць ваеннаслужачы другой шарэнгі, такі рад называецца няпоўным; апошні рад заўсёды павінен быць поўным. Пры павароце двухшарэнгавага строю кругом ваеннаслужачы няпоўнага раду пераходзіць ў шарэнгу, якая стаіць наперадзе.

Аднашарэнгавы і двухшарэнгавы страі могуць быць самкнутымі або разамкнутымі. У ***самкнутым страі*** ваеннаслужачыя ў шарэнгах размешчаны па фронце адзін ад другога на інтэрвалах, роўных шырыні далоні паміж локцямі. У ***разамкнутым страі*** ваеннаслужачыя ў шарэнгах размешчаны па фронце адзін ад другога на інтэрвалах ў адзін крок або на інтэрвалах, указаных камандзірам.

***Калона*** — строй, у якім ваеннаслужачыя размешчаны адзін за другім, а падраздзяленні (машыны) — адно за другім на дыстанцыях, устаноўленых Статутам або камандзірам. Калоны могуць быць па аднаму, па два, па тры, па чатыры і больш. Чатыры чалавекі і менш строяцца ў калону па аднаму. Калоны скарыстоўваюцца для пастраення падраздзяленняў і воінскіх часцей у паходны або разгорнуты строй.

***Разгорнуты строй*** — строй, у якім падраздзяленні пастроены на адной лініі па фронце ў аднашарэнгавы або двухшарэнгавы строй (у лінію машын) або ў лінію калон на інтэрвалах, устаноўленых Статутам або камандзірам. Разгорнуты строй скарыстоўваецца для правядзення паверак, разлікаў, аглядаў, парадаў, а таксама ў іншых неабходных выпадках.

***Паходны строй*** — стой, у якім падраздзяленне пастроена ў калону або падраздзяленні ў калонах пастроены адно

за другім на дыстанцыях, устаноўленых Статутам або камандзірам.

***Напраўляючы*** — ваеннаслужачы (падраздзяленне, машына), які рухаецца галаўным у вызначаным напрамку. Па напраўляючаму ўзгадняюць свой рух астатнія ваеннаслужачыя (падраздзяленні, машыны).

***Замыкаючы*** — ваеннаслужачы (падраздзяленне, машына), які рухаецца апошнім у калоне.

**Кіраванне строем.** Кіраванне строем ажыццяўляецца камандамі і загадамі, якія падаюцца камандзірам голасам і сігналамі, а таксама перадаюцца з дапамогай тэхнічных і рухомых сродкаў. Каманды і загады могуць перадавацца па калоне праз камандзіраў падраздзяленняў (старшых машын) і прызначаных наглядальнікаў.

Каманда падзяляецца на папярэднюю і выканаўчую; каманды могуць быць і толькі выканаўчымі.

***Папярэдняя каманда*** падаецца выразна, гучна і працягла, каб тыя, хто знаходзіцца ў страі, зразумелі, якіх дзеянняў ад іх патрабуе камандзір. Па ўсякай папярэдняй камандзе ваеннаслужачыя, якія знаходзяцца ў страі і па-за строем на месцы, прымаюць становішча «смірна», а ў руху нагу ставяць больш цвёрда.

***Выканаўчая каманда*** падаецца пасля паўзы гучна, адрывіста і выразна. Пасля атрымання выканаўчай каманды яна хутка і дакладна выконваецца.

З мэтай прыцягнуць увагу падраздзялення або асобнага ваеннаслужачага ў папярэдняй камандзе пры неабходнасці ўказваецца назва падраздзялення або званне і прозвішча ваеннаслужачага. Голас пры падачы каманд павінен сувымярацца з працягласцю строю, а рапарт аддавацца выразна, без рэзкага павышэння голасу.

Каб адмяніць або спыніць выкананне прыёму, падаецца каманда «АДСТАВІЦЬ». Па гэтай камандзе прымаецца становішча, якое было перад выкананнем прыёму.

Пры навучанні дапускаецца выкананне названых у Статуце прыёмаў, а таксама паваротаў і руху па раздзяленнях. Напрыклад: «Направа, па раздзяленнях: рабі — РАЗ, рабі — ДВА».

Для ўдзелу ў парадах, а таксама ў іншых выпадках падраздзяленне па загаду камандзіра можа строіцца ў агульную

калону па тры, па чатыры і больш. Пры гэтым пастраенне ажжыццяўляецца па росце (ранжыры).

**Абавязкі перад пастраеннем і ў страі.** Ваеннаслужачы абавязаны:

- праверыць спраўнасць сваёй зброі, замацаванай за ім баявой і іншай тэхнікі, боепрыпасаў, індывідуальных сродкаў абароны, шанцавага інструмента, абмундзіравання і рыштунку;
- мець акуратную прычоску і ахайны знешні выгляд;
- заправіць абмундзіраванне, правільна надзець і падагнаць рыштунак, дапамагчы таварышу ліквідаваць заўважаныя недахопы;
- ведаць сваё месца ў страі, умець хутка, без мітусні заняць яго; у руху захоўваць раўненне, устаноўленыя інтэрвал і дыстанцыю; не выходзіць са строю (машыны) без дазволу;
- у страі без дазволу не размаўляць, быць уважлівым да загадаў і камандаў (сігналаў) свайго камандзіра, хутка і дакладна іх выконваць, не перашкаджаючы іншым;
- перадаваць загады, каманды (сігналы) без скажэнняў, гучна і выразна.



**1.** Раскажыце пра элементы строю. **2.** Якія віды строю вы ведаеце? **3.** Як падаюцца каманды камандзірам, што павінен рабіць салдат па папярэдняй і выканаўчай камандзе? **4.** Назавіце абавязкі салдата перад пастраеннем і ў страі.

## § 35. Страявыя прыёмы і рух без зброі

**Страявая стойка** (мал. 60). Страявая стойка прымаецца па камандзе «СТАНАВІСЯ».

Па гэтай камандзе хутка стаць у строй і стаяць прама, без напругі, абцасы паставіць разам, а наскі разгарнуць па лініі фронту на шырыню ступні; ногі ў каленях разагнуць, але не напружваць; грудзі прыпадняць, а ўсё цела некалькі падаць уперад; жывот падабраць; плечы выпрастаць; рукі апусціць так, каб кісці, павернутыя далонямі ўнутр, былі збоку і пасярэдзіне сцёгнаў, а пальцы паўсагнутыя і датыкаліся сцягна; галаву трымаць высока і прама, не выстаўляючы



*Мал. 60.* Страявая стойка

падбародка; глядзець прама перад сабой; быць гатовым да неадкладнага дзеяння.

На месцы па камандзе «СМІРНА» хутка прыняць страявую стойку і не варушыцца.

Палажэнне «смірна» на месцы прымаецца і без каманды: у час выканання Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь, пры адданні і атрыманні загаду, рапарце і звароце ваеннаслужачых адзін да аднаго, падчас воінскага прывітання, а таксама пры падачы каманд.

Па камандзе «ВОЛЬНА» стаць свабодна, аслабіць у калене правую ці левую нагу, але не сыходзіць з месца, не аслабляць увагі, не размаўляць.

Па камандзе «ЗАПРАВІЦЦА», не пакідаючы свайго месца ў страі, паправіць зброю, абмундзіраванне і рыштунак; пры неабходнасці выйсці са строю — за дазволам звярнуцца да непасрэднага начальніка; размаўляць і курыць — толькі з дазволу старшага камандзіра. Перад камандай «ЗАПРАВІЦЦА» падаецца каманда «ВОЛЬНА».

Для зняцця галаўных убораў падаецца каманда «Галаўныя ўборы (галаўны ўбор) ЗНЯЦЬ», а для надзявання — «Галаўныя ўборы (галаўны ўбор) НАДЗЕЦЬ». Пры неабходнасці адзінкавыя ваеннаслужачыя галаўны ўбор здымаюць і надзяваюць без каманды. Зняты галаўны ўбор трымаецца ў левай свабодна апушчанай руцэ зоркай (кукардай) наперад.

**Павароты на месцы.** Павароты на месцы выконваюцца па камандах: «Напра-ВА», «Паўпаварота напра-ВА»; «Нале-ВА», «Паўпаварота нале-ВА»; «Кру-ГОМ».

Павароты кругом (на 1/2 круга), налева (на 1/4 круга), паўпаварота налева (на 1/8 круга) выконваюцца ў бок левай рукі на левым абцасе і на правым наску; направа і паўпаварота направа — у бок правай рукі на правым абцасе і на левым наску.

Павароты выконваюцца на два лікі: па першым ліку павярнуцца, захоўваючы правільнае становішча корпуса, і, не згінаючы ног у каленях, перанесці цяжар цела на нагу, што стаіць наперадзе, па другім ліку карацейшым шляхам прыставіць другую нагу.

**Рух.** Рух здзяйсняецца крокам або бегам. Нармальная скорасць руху крокам 110—120 крокаў у хвіліну. Памер кроку 70—80 см. Нармальная скорасць руху бегам 165—180 крокаў у хвіліну. Памер кроку 85—90 см.

Крок бывае страявы і паходны.

Страявы крок (мал. 61) прымяняецца пры праходжанні падраздзяленняў урачыстым маршам; падчас воінскага прывітання імі ў руху; пры падыходзе ваеннаслужачага да начальніка і пры адыходзе ад яго; пры выхадзе са строю і вяртанні ў строй, а таксама на страявых занятках.




*Мал. 61.* Рух страявым крокам

Паходны крок прымяняецца ва ўсіх астатніх выпадках.

Рух страявым крокам пачынаецца па камандзе «Страявым крокам — МАРШ» (у руху «Страявым — МАРШ»), а рух паходным крокам па камандзе «Крокам — МАРШ». Па папярэдняй камандзе падаць корпус некалькі ўперад, перанесці цяжар яго больш на правую нагу, захоўваючы ўстойлівасць; па выканаўчай камандзе пачаць рух з левай нагі поўным крокам.

Пры руху страявым крокам нагу з адцягнутым уперад наском выносіць на вышыню 15—20 см ад зямлі і ставіць яе цвёрда на ўсю ступню, падымаючы ў той жа час ад зямлі другую нагу. Рукамі, ад пляча выконваць рухі каля тулава: уперад — згінаючы іх у локцях так, каб кісці падымаліся вышэй спражкі пояса на шырыню далоні і на адлегласці далоні ад цела; назад — максімальна ў плечавым суставе. Пальцы рук паўсагнутыя. У руху галаву і корпус трымаць прама, глядзець перад сабой.

Пры руху паходным крокам нагу выносіць вольна, не адцягваючы насок, і ставіць яе на зямлю, як пры звычайнай хадзе; рукі свабодна рухаюцца каля тулава.

Пры руху паходным крокам па камандзе «СМІРНА» перайсці на страявы крок. Пры руху страявым крокам па камандзе «ВОЛЬНА» ісці паходным крокам.

Па камандзе «ЗАПРАВІЦЦА» дазваляецца паправіць зброю, абмундзіраванне і рыштунак, калі трэба, — звярнуцца да непасрэднага начальніка. Выходзіць са строю і размаўляць — толькі з дазволу камандзіра.

Рух бегам пачынаецца па камандзе «Бягом — МАРШ». Пры руху з месца па папярэдняй камандзе корпус злёгку падаць уперад, рукі паўсагнуць, адводзячы локці некалькі назад; па выканаўчай камандзе пачаць бег з левай нагі, рукі свабодна рухаюцца ўперад і назад у такт бегу.

Крок (бег) на месцы (мал. 62) выконвацца па камандзе «На месцы, крокам (бегам) — МАРШ». Па гэтай камандзе крок неабходна пазначыць падыманнем і апусканнем ног, пры гэтым нагу падымаюць на 15—20 см ад зямлі і ставяць яе на зямлю з пярэдняй часткі ступні на ўвесь след (падчас бегу — на пярэднюю частку); рукамі выконваюць рухі ў такт кроку.

Па камандзе «ПРАМА», якая падаецца адначасова з пастаноўкай левай нагі на зямлю, зрабіць правай нагой яшчэ

адзін крок на месцы і з левай нагі пачаць рух поўным крокам (бегам).

Для спынення руху падаецца каманда, напрыклад: «Радавы Пятроў — СТОЙ». Па выканаўчай камандзе, якая падаецца адначасова з пастаноўкай на зямлю правай ці левай нагі, зрабіць яшчэ адзін крок і, прыставіўшы нагу, прыняць становішча «смірна».




*Мал. 62.* Крок на месцы

Для змены скорасці руху падаюцца каманды: «ШЫРЭЙ КРОК», «КАРАЦЕЙ КРОК», «ЧАСЦЕЙ КРОК», «РА-ДЗЕЙ», «ПАЎКРОКУ», «ПОЎНЫ КРОК».

Для перамяшчэння адзіночных ваеннаслужачых на некалькі крокаў у бок падаецца каманда, напрыклад: «Радавы Пятроў, два крокі направа (налева), шагам — МАРШ». Па гэтай камандзе ваеннаслужачы робіць два крокі направа (налева), прыстаўляючы нагу пасля кожнага кроку.

Для перамяшчэння наперад або назад на некалькі крокаў падаецца каманда, напрыклад: «Два крокі наперад (назад), шагам — МАРШ». Па гэтай камандзе зрабіць два крокі наперад (назад) і прыставіць нагу.

Пры перамяшчэнні ўправа, улева і назад рукі не рухаюцца.

**Павароты ў руху.** Павароты ў руху крокам выконваюцца па камандам: «Напра-ВА», «Паўпаварота напра-ВА», «Нале-ВА», «Паўпаварота нале-ВА», «Кругом — МАРШ».

Для паварота направа і паўпаварота направа выканаўчая каманда падаецца адначасова з пастаноўкай на зямлю правай нагі. Па гэтай камандзе з левай нагі зрабіць крок, павярнуцца на наску левай нагі, адначасова з паваротам вынесці правую нагу наперад і працягваць рух у новым напрамку.

Для паварота налева і паўпаварота налева выканаўчая каманда падаецца адначасова з пастаноўкай на зямлю левай нагі. Па гэтай камандзе з правай нагі зрабіць крок, павярнуцца на наску правай нагі, адначасова з паваротам

вынесці левую нагу наперад і працягваць рух у новым напрамку.

Для павароту кругом выканаўчая каманда падаецца адначасова з пастаноўкай на зямлю правай нагі. Па гэтай камандзе зрабіць яшчэ адзін крок левай нагой (па ліку раз), вынесці правую нагу на паўкроку наперад і некалькі ўлева і, рэзка павярнуўшыся ў бок левай рукі на насках абедзвюх ног (па ліку два), працягваць рух з левай нагі ў новым напрамку (па ліку тры).

Пры паваротах рукі рухаюцца ў такт кроку.

Павароты і паўпавароты направа і налева пры руху бегам выконваюцца па тых жа камандах, што і пры руху крокам, паваротам на адным месцы на два лікі ў такт бегу. Паварот кругом на бягу адбываецца ў бок левай рукі на адным месцы на чатыры лікі ў такт бегу.



**1.** Раскажыце і пакажыце, як выконваецца страявая стойка. **2.** Раскажыце пра дзеянні ваеннаслужачых па камандзе «Смірна», «Вольна», «Заправіцца». **3.** Выканайце павароты на месцы і ў руху, пакажыце рух страявым крокам.

## § 36. Воінскае прывітанне, выхад са строю і падыход да начальніка

**Воінскае прывітанне на месцы** (мал. 63). Воінскае прывітанне робіцца выразна і малайцавата, з дакладным выкананнем правілаў страявой стойкі і руху.

Пры воінскім прывітанні на месцы па-за строем без галаўнога ўбору за пяць-шэсць крокаў да начальніка павярнуцца ў яго бок, стаць «смірна» і глядзець яму ў твар, паварочваючы ўслед за ім галаву.

Калі галаўны ўбор надзеты, то, акрамя таго, прыкласці правую руку да галаўнога ўбору так, каб пальцы былі разам, далонь прамая, сярэдні палец дакранаўся да ніжняга краю галаўнога ўбору (каля брыля), а локаць быў на лініі і вышыні пляча. Пры павароце галавы ў бок начальніка становішча рукі не мяняецца.

Калі начальнік абміне таго, хто выконвае воінскае прывітанне, галаву паставіць прама і адначасова з гэтым апусціць руку.

**Воінскае прывітанне ў руху** (мал. 64). Пры воінскім прывітанні ў руху па-за строем без галаўнога ўбору за пяцьшэсць крокаў да начальніка адначасова з пастаноўкай нагі спыніць рух рукамі, прыціснуўшы іх да сцёгнаў, павярнуць галаву ў бок начальніка, прыпадняць падбародак і, працягваючы рух, глядзець яму ў твар. Абмінуўшы начальніка, галаву павярнуць прама і працягваць рух рукамі.

Пры надзетым галаўным уборы адначасова з пастаноўкай нагі на зямлю павярнуць галаву, прыпадняць падбародак і прыкласці правую руку да галаўнога ўбору, левую руку трымаць нерухома каля сцягна; абмінуўшы начальніка, адначасова з пастаноўкай левай нагі на зямлю галаву павярнуць прама, а правую руку апусціць.

Пры абгоне начальніка воінскае прывітанне выконваецца з першым крокам абгону. З другім крокам галаву павярнуць прама і правую руку апусціць.



*Мал. 63.* Воінскае прывітанне на месцы



*Мал. 64.* Воінскае прывітанне ў руху

Калі ў ваеннаслужачага рукі занятыя ношай, воінскае прывітанне выконваецца паваротам галавы ў бок начальніка.

**Выхад са строю і вяртанне ў строй.** Для выхаду ваеннаслужачага са строю падаецца каманда, напрыклад: «Радавы Астаповіч, выйсці са строю на вось столькі крокаў» ці «Радавы Астаповіч, да мяне (бягом да мяне)». Ваеннаслужачы, пачуўшы сваё прозвішча, адказвае: «Я», а па камандзе аб выхадзе (аб выкліку) са строю адказвае: «Ёсць». Па першай камандзе ваеннаслужачы страявым крокам выходзіць са строю на ўказаную колькасць крокаў, лічачы ад першай шарэнгі, спыняецца і паварочваецца тварам да строю. Па другой камандзе ваеннаслужачы, зрабіўшы адзін-два крокі ад першай шарэнгі прама, на хаду паварочваецца ў бок начальніка, карацейшым шляхам страявым крокам падыходзіць або падбягае да яго і дакладвае аб прыбыцці.

Пры выхадзе ваеннаслужачага з другой шарэнгі ён злёгку накладвае левую руку на плячо ваеннаслужачага, які стаіць у першай шарэнзе, той робіць крок наперад, і, не пристаўляючы правай нагі, крок у правы бок, прапускае ваеннаслужачага, які выходзіць са строю, затым становіцца на сваё месца. Пры выхадзе ваеннаслужачага з першай шарэнгі яго месца займае ваеннаслужачы другой шарэнгі, які стаіць за ім.

Пры выхадзе з калоны па два (па тры, па чатыры) ваеннаслужачы выходзіць са строю ў бок бліжэйшага фланга, выконваючы папярэдне паварот направа (налева). Калі побач стаіць ваеннаслужачы, то ён робіць крок правай (левай) нагой у бок і, не прыстаўляючы левай (правай) нагі, крок назад, прапускае ваеннаслужачага, які выходзіць са строю, і затым становіцца назад на сваё месца.

Для вяртання ваеннаслужачага ў строй падаецца каманда, напрыклад: «Радавы Астаповіч, стаць у строй» або толькі «Стаць у строй». Па камандзе «Радавы Астаповіч» ваеннаслужачы, які стаіць тварам да строю, пачуўшы сваё прозвішча, паварочваецца тварам да начальніка і адказвае: «Я», а па камандзе «Стаць у строй», калі ён без зброі або са зброяй у становішчы «за спіну», прыкладае руку да галаўнога ўбору, адказвае: «Ёсць», паварочваецца ў бок руху, з першым крокам апускае руку, рухаючыся страявым крокам, становіцца на сваё месца ў страі.

Калі падаецца каманда «Стаць у строй» (без згадвання прозвішча), ваеннаслужачы, які стаіць тварам да строю, вяртаецца ў строй без папярэдняга павароту да начальніка і без адказу «Я».

**Падыход да начальніка і адыход ад яго.** Пры падыходзе да начальніка па-за строем ваеннаслужачы за пяць-шэсць крокаў да яго пераходзіць на страявы крок, за два-тры крокі спыняецца і адначасова з прыстаўленнем нагі прыкладвае правую руку да галаўнога ўбору, пасля чаго дакладвае, напрыклад: «Таварыш лейтэнант, радавы Астаповіч па вашым загадзе прыбыў». Па заканчэнні даклада руку апускае.

Атрымаўшы дазвол ісці, ваеннаслужачы прыкладвае правую руку да галаўнога ўбору, адказвае: «Ёсць», паварочваецца ў бок руху, з першым крокам (з пастаноўкай левай нагі на зямлю) апускае руку і, зрабіўшы тры-чатыры крокі страявым, працягвае рух паходным крокам.

Начальнік, падаючы каманду на вяртанне ваеннаслужачага ў строй або дазвол ісці, прыкладвае руку да галаўнога ўбору і апускае яе.



**1.** Пакажыце, як выконваецца воінскае прывітанне на месцы і ў руху па-за строем. **2.** Пакажыце парадак выхаду са строю з першай і другой шарэнгі і вяртання ў строй. **3.** Пакажыце парадак падыходу да начальніка са строю і па-за строем.

## § 37. Страі аддзялення

**Разгорнуты строй.** Разгорнуты строй аддзялення можа быць аднашарэнгавы (шарэнга) або двухшарэнгавы.

Пастраенне аддзялення ў аднашарэнгавы (двухшарэнгавы) строй выконвацца па камандзе «Аддзяленне, у адну шарэнгу (у дзве шарэнгі) — СТАНАВІСЯ».

Падаўшы каманду, камандзір аддзялення прымае становішча «смірна», тварам у бок фронту пастраення; аддзяленне строіцца налева ад камандзіра на ўстаноўленых Статутам інтэрвалах і дыстанцыях; пры гэтым наскі абутку ва ўсіх павінны быць на адной прамой лініі. З пачаткам пастраення камандзір аддзялення выходзіць са строю страявым крокам і сочыць за пастраеннем аддзялення. Аддзяленне (экіпаж, разлік) колькасцю чатыры чалавекі і менш заўсёды строіцца ў адну шарэнгу.

Пры неабходнасці выраўнаваць аддзяленне на месцы падаецца каманда «РАЎНЯЙСЯ» ці «Налева — РАЎНЯЙСЯ». Па камандзе «РАЎНЯЙСЯ» усе, акрамя правафланговага, паварочваюць галаву направа (правае вуха вышэй за левае, падбародак прыпадняты), выраўноўваюцца так, каб кожны бачыў грудзі чацвёртага чалавека, лічачы сябе першым. Па камандзе «Налева — РАЎНЯЙСЯ» усе, акрамя левафланговага, паварочваюць галаву налева (левае вуха вышэй за правае, падбародак прыпадняты). Пры выраўноўванні ваеннаслужачыя могуць некалькі перамяшчацца наперад, назад або ў бок.

Пасля заканчэння выраўноўвання падаецца каманда «СМІРНА», па якой усе ваеннаслужачыя хутка ставяць галаву прама. Пры выраўноўванні аддзялення пасля павароту яго кругом у камандзе ўказваецца бок раўнення, напрыклад: «Направа (налева) — РАЎНЯЙСЯ».

Па камандзе «Аддзяленне, — РАЗЫЙДЗІСЯ» ваеннаслужачыя выходзяць са строю. Для збору аддзялення падаецца каманда «Аддзяленне, — ДА МЯНЕ», па якой ваеннаслужачыя бягуць да камандзіра і па яго камандзе строяцца.

Каб разамкнуць аддзяленне, на месцы падаецца каманда «Аддзяленне, направа (налева, ад сярэдзіны), разам-КНІСЯ (бягом разам-КНІСЯ)» або «Аддзяленне, направа (налева, ад сярэдзіны) на вось сколькі крокаў, разам-КНІСЯ (бягом разам-КНІСЯ)». Па выканаўчай камандзе ўсе ваеннаслужачыя, за выключэннем таго, ад якога пачынаецца размыканне, паварочваюцца ва ўказаны бок, адначасова з прыстаўленнем нагі паварочваюць галаву ў бок фронту строю і ідуць учашчаным паўкрокам (бягом), гледзячы цераз плячо на таго, хто ідзе ззаду, і не адрываючыся ад яго; пасля прыпынку таго, хто ідзе ззаду, кожны робіць яшчэ адзін крок ці колькі было вызначана камандай і паварочваецца налева (направа). Калі інтэрвал не быў указаны, размыканне адбываецца на адзін крок. Пры размыканні ад сярэдзіны называецца той, хто сярэдні. Ваеннаслужачы, названы сярэднім, пачуўшы сваё прозвішча, адказвае: «Я», выцягвае ўперад левую руку і апускае яе. Пры выраўноўванні аддзялення вызначаны пры размыканні інтэрвал захоўваецца.

Каб самкнуць аддзяленне, на месцы падаецца каманда «Аддзяленне, направа (налева, да сярэдзіны), сам-КНІСЯ (бягом сам-КНІСЯ)». Па выканаўчай камандзе ўсе ваеннаслу-

жачыя, за выключэннем таго, да якога прызначана змыканне, паварочваюцца ў бок змыкання, пасля чаго ўчашчаным паўкрокам (бягом) падыходзяць на вызначаны для самкнутага строю інтэрвал і па меры падыходу самастойна спыняюцца і паварочваюцца налева (направа).

Каб зрушыць аддзяленне, падаецца каманда «Аддзяленне, шагам (страявым крокам, бягом) — МАРШ». Па камандзе «Марш» усе ваеннаслужачыя адначасова пачынаюць рух з левай нагі, трымаючы раўненне і захоўваючы інтэрвалы і дыстанцыі. Калі бок раўнення не вызначаны, то раўненне адбываецца ў бок правага фланга поглядам без павароту галавы. Каб спыніць аддзяленне, падаецца каманда «Аддзяленне, СТОЙ».

Пры неабходнасці ісці не ў нагу падаецца каманда «Ісці не ў нагу», а для руху ў нагу — «Ісці ў нагу» (нага бярэцца па галаўному або па падліку камандзіра).

Для перамены напрамку заходам плячом падаецца каманда «Аддзяленне, правае (левае) плячо наперад, шагам — МАРШ» (на хаду «МАРШ»). Па гэтай камандзе аддзяленне пачынае заход правым (левым) плячом наперад: фланговы заходзячага фланга, павярнуўшы галаву ўздоўж фронту, ідзе поўным крокам, узгадняючы свой рух так, каб не пацясніць астатніх да нерухомага фланга; фланговы нерухомага фланга пазначае крок на месцы і паступова паварочваецца налева (направа), узгадняючыся з рухам заходзячага фланга; астатнія, захоўваючы раўненне па фронце поглядам у бок заходзячага фланга (не паварочваючы галавы) і адчуваючы локцем суседа з боку нерухомага фланга, робяць крок тым меншы, чым бліжэй яны знаходзяцца да нерухомага фланга. Калі аддзяленне зробіць заход наколькі трэба, падаецца каманда «ПРАМА» ці «Аддзяленне — СТОЙ».

Для перастраення аддзялення з адной шарэнгі ў дзве ваеннаслужачыя папярэдне разлічваюцца на першы і другі па камандзе «Аддзяленне, на першы—другі — РАЗЛІЧЫСЯ». Разлік пачынаецца з правага фланга: кожны ваеннаслужачы, хутка паварочваючы галаву да таго, хто стаіць злева ад яго, называе свой нумар і хутка ставіць галаву прама; левафланговы галаву не паварочвае. Па такім жа правілы ваеннаслужачыя разлічваюцца па агульнай нумарацыі, для чаго падаецца каманда «Аддзяленне, па парадку — РАЗЛІЧЫСЯ». У двухшарэнгавым страі левафланговы другой шарэнгі па

заканчэнні разліку строю па агульнай нумарацыі дакладвае: «Поўны» ці «Няпоўны».

Перастраенне аддзялення на месцы з адной шарэнгі ў дзве выконваецца па камандзе «Аддзяленне, у дзве шарэнгі — СТРОЙСЯ». Па выканаўчай камандзе другія нумары робяць з левай нагі крок назад, не прыстаўляючы правай нагі, крок управа, каб стаць за першым нумарам, і прыстаўляюць левую нагу.

Для перастраення аддзялення на месцы з самкнутага двухшарэнгавага строю ў аднашарэнгавы, аддзяленне папярэдне размыкаецца на адзін крок, пасля чаго гучыць каманда: «Аддзяленне, у адну шарэнгу — СТРОЙСЯ». Па выканаўчай камандзе другія нумары выходзяць на лінію першых, робячы з левай нагі крок улева, не прыстаўляючы правай нагі, крок наперад і прыстаўляюць левую нагу.

**Паходны строй.** Паходны строй аддзялення можа быць у калону па аднаму або ў калону па два. Пастраенне аддзялення ў калону па аднаму (па два) на месцы выконваецца па камандзе «Аддзяленне, у калону па аднаму (па два) — СТАНАВІСЯ». Падаўшы каманду, камандзір аддзялення прымае становішча «смірна», тварам у бок руху, а аддзяленне строіцца за ім адзін за другім. Аддзяленне (экіпаж, разлік) колькасцю ў чатыры чалавекі і менш заўсёды строіцца ў калону па аднаму.

Перастраенне аддзялення з разгорнутага строю ў калону выконваецца паваротам аддзялення направа па камандзе «Аддзяленне, напра-ВА». Пры павароце двухшарэнгавага строю камандзір аддзялення робіць паўкроку ўправа.

Перастраенне аддзялення з калоны ў разгорнуты строй выконваецца паваротам аддзялення налева па камандзе «Аддзяленне, нале-ВА». Пры павароце аддзялення з калоны па два, камандзір аддзялення робіць паўкроку ўперад.

Перастраенне аддзялення з калоны па аднаму у калону па два выконваецца па камандзе «Аддзяленне, у калону па два шагам — МАРШ». Па выканаўчай камандзе камандзір аддзялення (напраўляючы) ідзе ў паўкроку, другія нумары, выходзячы направа, у такт кроку займаюць свае месцы ў калоне. Аддзяленне рухаецца ў паўкроку да каманды «ПРАМА» ці «Аддзяленне — СТОЙ». Перастраенне аддзялення з калоны па два ў калону па аднаму выконваецца па

камандзе «Аддзяленне, у калону па аднаму, шагам — МАРШ» (на хаду — «МАРШ»). Па выканаўчай камандзе камандзір аддзялення (напраўляючы) ідзе поўным крокам, а астатнія — у паўкроку; па меры вызвалення месца другія нумары ў такт кроку заходзяць за першых і працягваюць рух поўным крокам.

Для змены напрамку руху калоны гучаць каманды:

«Аддзяленне, правае (левае) плячо наперад — МАРШ»; напраўляючы заходзіць налева (направа) перад камандай «ПРАМА», астатнія ідуць за ім;

«Аддзяленне, за мной — МАРШ (бягом — МАРШ)»; аддзяленне накіроўваецца за камандзірам;

«Аддзяленне, кругом — МАРШ»; аддзяленне адначасова паварочваецца кругом.



1. Раскажыце аб пастраенні аддзялення ў разгорнуты строй. 2. Выканайце дзеянні пры размыканні і змыканні аддзялення налева і ад сярэдзіны. 3. Выканайце дзеянні пры перастраенні аддзялення з адной шарэнгі ў дзве і назад. 4. Раскажыце пра парадак разліку ваеннаслужачых у страі.

# РАЗДЗЕЛ VIII
# Агульнавоінскія статуты Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь

Агульнавоінскія статуты Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь — гэта звод законаў ваеннай службы. Яны з'яўляюцца заканадаўчай асновай рашэння задач па дасягненні высокай арганізаванасці і дысцыпліны, удасканаленні баявой гатоўнасці. У іх вызначаны агульныя правы і абавязкі ваеннаслужачых і ўзаемаадносіны паміж імі, правілы ўнутранага парадку ў падраздзяленнях, парадак арганізацыі і нясення розных відаў службаў, агульныя палажэнні аб відах строю, страявых прыёмах, вызначаны змест воінскай дысцыпліны.

Статуты, патрабаванні якіх у роўнай ступені з'яўляюцца агульнымі для ўсіх ваеннаслужачых, называюцца ***агульнавоінскімі.***

Да агульнавоінскіх статутаў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь адносяцца:

- Статут унутранай службы;
- Дысцыплінарны статут;
- Статут гарнізоннай і каравульнай службаў;
- Страявы статут.

Статут унутранай службы, Дысцыплінарны статут і Статут гарнізоннай і каравульнай службаў зацвярджаюцца Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Дзеянні палажэнняў гэтых статутаў распаўсюджваюцца на ваеннаслужачых войскаў Міністэрства ўнутраных войскаў, Камітэта дзяржаўнай бяспекі, пагранічных войскаў і іншых воінскіх фарміраванняў, якія ствараюцца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, а таксама на рэзервістаў пры выкананні імі абавязкаў, звязаных са службай у рэзерве, і ваеннаабавязаных, прызваных на зборы. Страявы статут уведзены ў дзеянне загадам Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.

## § 38. Узаемаадносіны паміж ваеннаслужачымі

**Правілы воінскай ветлівасці і паводзін ваеннаслужачых.** Ваеннаслужачыя павінны пастаянна быць прыкладам высокай культуры, сціпласці і вытрыманасці, захоўваць воінскі гонар і асабістую годнасць.

Узаемаадносіны паміж ваеннаслужачымі будуюцца на аснове ўзаемнай павагі. Па пытаннях службы яны павінны звяртацца адзін да аднаго на «вы». Начальнікі і старшыя, звяртаючыся па службе да падначаленых і малодшых, называюць іх па воінскім званні і прозвішчы або толькі па званні, дадаючы ў апошнім выпадку перад званнем слова «таварыш». Напрыклад: «Радавы Каўтуновіч», «Таварыш салдат», «Сяржант Шыцько», «Таварыш сяржант». Падпарадкаваныя і малодшыя, звяртаючыся па службе да начальнікаў і старшых, называюць іх па воінскім званні, дадаючы перад званнем слова «таварыш». Напрыклад: «Таварыш старшы лейтэнант», «Таварыш генерал-маёр». Пры звароце да ваеннаслужачых гвардзейскіх воінскіх часцей перад воінскім званнем дадаецца слова «гвардыі». Скажэнне воінскіх званняў, ужыванне нецэнзурных слоў і выразаў не адпавядае паняццям воінскага гонару і годнасці ваеннаслужачых.

Па-за строем, аддаючы або атрымліваючы загад, ваеннаслужачыя абавязаны прыняць страявую стойку, а пры надзетым галаўным уборы — прыкласці да яго руку і апусціць яе. Дакладваючы або прымаючы даклад, ваеннаслужачы трымае руку каля галаўнога ўбору і апускае яе пасля заканчэння дакладу. Пры звароце да іншага ваеннаслужачага ў прысутнасці камандзіра (начальніка) або старшага трэба спытаць у апошняга на гэта дазвол.

У грамадскіх месцах, а таксама ў трамваі, тралейбусе, аўтобусе, вагоне метро ці прыгарадных цягніках пры адсутнасці свабодных месцаў ваеннаслужачы абавязаны прапанаваць сваё месца начальніку (старшаму). Ваеннаслужачыя павінны быць ветлівыя ў дачыненні да грамадзянскага насельніцтва, праяўляць асаблівую ўвагу да пажылых людзей, жанчын і дзяцей, спрыяць абароне гонару і годнасці грамадзян, а таксама аказваць ім дапамогу пры няшчасных выпадках, пажарах і стыхійных бедствах.

Ваеннаслужачым не рэкамендуецца трымаць рукі ў кішэнях адзення, сядзець або курыць у прысутнасці начальніка

(старшага) без яго дазволу. Ваеннаслужачыя павінны ўтрымлівацца ад курэння на хаду і ў месцах, не адведзеных для гэтай мэты.

Цвярозы лад жыцця павінен быць паўсядзённай нормай паводзін ўсіх ваеннаслужачых. З'яўленне ў нецвярозым стане на службу і ў грамадскіх месцах з'яўляецца грубай дысцыплінарнай правіннасцю, якая ганьбіць гонар і годнасць ваеннаслужачага.

**Воінскія званні, знакі адрознення і форма адзення ваеннаслужачых.** Кожнаму ваеннаслужачаму і ваеннаабавязанаму прысвойваецца адпаведнае воінскае званне.

Ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь устаноўлены наступныя воінскія званні:

***Салдаты***: радавы (курсант), яфрэйтар.

***Сяржанты***: малодшы сяржант, сяржант, старшы сяржант, старшына.

***Прапаршчыкі***: прапаршчык, старшы прапаршчык.

***Малодшыя афіцэры***: малодшы лейтэнант, лейтэнант, старшы лейтэнант, капітан.

***Старшыя афіцэры***: маёр, падпалкоўнік, палкоўнік.

***Вышэйшыя афіцэры***: генерал-маёр, генерал-лейтэнант, генерал-палкоўнік.

Знакі адрознення на форменным адзенні ваеннаслужачых паказваюць іх персанальнае воінскае званне, прыналежнасць да Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, пагранічных войскаў, унутраных войскаў Міністэрства ўнутраных спраў або войскаў Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, віду і роду войскаў. Да знакаў адрознення адносяцца: пагоны (мал. 65), эмблемы, нагрудныя і нарукаўныя знакі, знакі на пагонах і галаўных уборах, канты і лампасы.

Для ваеннаслужачых устанаўліваюцца неабходныя віды формы адзення. Ваенная форма адзення і знакі адрознення носяцца ў строгай адпаведнасці з устаноўленымі правіламі.

**Адзінаначалле.** Адзінаначалле — прынцып ваеннага кіраўніцтва, пры якім камандзіры (начальнікі) надзелены ўсёй паўнатой распарадчай улады ў дачыненні да падначаленых, нясуць поўную адказнасць за ўсе бакі жыцця і дзейнасці войскаў.

Адзінаначалле выяўляецца ў праве камандзіра (начальніка) аднаасобна прымаць рашэнні, аддаваць адпаведныя

| Да палявой формы адзення | Да паўсядзённай формы адзення | Да параднай формы адзення |
|---|---|---|

салдаты и сяржанты (курсанты)




прапаршчыкі

малодшыя і старшыя афіцэры




вышэйшыя афіцэры




*Мал. 65.* Пагоны ваеннаслужачых Узброенных Сіл Рэспублікі Беларусь

загады, забяспечваць іх выкананне. Абмеркаванне загаду недапушчальнае, а непадпарадкаванне або невыкананне загаду з'яўляецца воінскім злачынствам.

**Начальнікі і падначаленыя, старшыя і малодшыя.** Па службовым становішчы і воінскім званні адны ваеннаслужачыя ў дачыненні да іншых могуць быць начальнікамі або падначаленымі.

Начальнік мае права аддаваць падначаленаму загады і патрабаваць іх выканання. Падпарадкаваны абавязаны беспярэчна выконваць патрабаванні начальніка. Выканаўшы загад, падпарадкаваны можа падаць скаргу, калі лічыць, што ў дачыненні да яго паступілі няправільна.

Начальнікі, якім ваеннаслужачыя падпарадкоўваюцца па службе, у тым ліку і часова, з'яўляюцца ***прамымі начальнікамі***. Бліжэйшы да падначаленага прамы начальнік называецца ***непасрэдным начальнікам***.

Адны ваеннаслужачыя ў дачыненні да іншых могуць быць начальнікамі або падначаленымі і па воінскім званні. Палкоўнікі, напрыклад, з'яўляюцца начальнікамі для ўсіх малодшых афіцэраў, прапаршчыкаў, сяржантаў і салдат, малодшыя афіцэры — для ўсіх сяржантаў і салдат, а сяржанты — для салдат адной з імі вайсковай часці.

Ваеннаслужачыя, якія па сваім службовым становішчы і воінскім званні не з'яўляюцца ў дачыненні да іншых ваеннаслужачых іх начальнікамі або падначаленымі, могуць быць ***старшымі*** або ***малодшымі***. Старшынство вызначаецца воінскімі званнямі. Старшыя па воінскім званні павінны патрабаваць ад малодшых па воінскім званні захавання воінскай дысцыпліны, грамадскага парадку, правілаў паводзін, нашэння ваеннай формы адзення і выканання воінскага прывітання. Малодшыя па воінскім званні абавязаны беспярэчна выконваць гэтыя патрабаванні старшых.

**Парадак аддачы і выканання загадаў і распараджэнняў.** Загад — абавязковы для выканання наказ начальніка. Ён можа быць аддадзены пісьмова, вусна альбо па тэхнічных сродках сувязі аднаму ваеннаслужачаму або групе.

Распараждэнне — форма давядзення камандзірам (начальнікам) задач да падначаленых. Распараджэнні аддаюцца ў пісьмовым выглядзе або вусна.

Загад павінен мець дакладную фармулёўку, якая б не выклікала двуякага тлумачэння і сумнення ў падначаленага.

Камандзір (начальнік) нясе поўную адказнасць за аддадзены ім загад і яго наступствы. Загады аддаюцца, як правіла, у парадку падпарадкаванасці. У выпадку крайняй неабходнасці старшы начальнік можа аддаць загад падначаленаму, абыходзячы яго непасрэднага начальніка.

***Загад камандзіра (начальніка) павінен быць выкананы беспярэчна, дакладна і ў тэрмін.*** Ваеннаслужачы, атрымаўшы загад, адказвае: «Ёсць» і затым выконвае яго. Каб пераканацца ў правільным разуменні аддадзенага загаду, камандзір (начальнік) можа патрабаваць кароткага яго паўтарэння, а ваеннаслужачы, які атрымаў загад, — звярнуцца да камандзіра (начальніка) з просьбай паўтарыць (удакладніць) яго. Аб выкананні атрыманага загаду ваеннаслужачы абавязаны далажыць начальніку, які аддаў загад, і свайму непасрэднаму начальніку.

Каб паспяхова выканаць пастаўленую задачу, ваеннаслужачы абавязаны праяўляць разумную ініцыятыву.

**Воінскае прывітанне.** Воінскае прывітанне з'яўляецца ўвасабленнем таварыскай згуртаванасці ваеннаслужачых, сведчаннем узаемнай павагі і праяўленнем агульнай культуры. Усе ваеннаслужачыя пры сустрэчы ці абгоне абавязаны вітаць адзін аднаго. Падпарадкаваныя і малодшыя па воінскім званні вітаюць першыя.

Ваеннаслужачыя абавязаны таксама вітаць брацкія магілы воінаў, якія загінулі ў баях за свабоду і незалежнасць Айчыны, Баявы Сцяг воінскай часці, пахавальныя працэсіі, якія суправаджаюцца воінскімі падраздзяленнямі.

Ваеннаслужачыя, якія знаходзяцца па-за строем, пры выкананні Дзяржаўнага гімна прымаюць страявую стойку, а пры апранутым галаўным уборы прыкладаюць да яго руку. Правілы воінскага прывітання ўстаноўлены Страявым статутам Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

Пры знаходжанні па-за строем як падчас заняткаў, так і ў вольны ад заняткаў час ваеннаслужачыя вітаюць начальнікаў па камандзе «Смірна» ці «Устаць. Смірна». На занятках па-за строем і нарадах, дзе прысутнічаюць толькі афіцэры, для воінскага прывітання камандзіраў (начальнікаў) падаецца каманда «Таварышы афіцэры». Каманды для прывітання падае старшы з прысутных або ваеннаслужачы, які першы ўбачыў прыбыўшага камандзіра (начальніка). У час правядзення класных заняткаў каманды «Смірна», «Устаць. Смірна» або

«Таварышы афіцэры» падаюцца перад кожным заняткам і па яго заканчэнні.

На прывітанне начальніка або старшага ваеннаслужачыя адказваюць: «Добрага здароўя!», а калі начальнік або старшы развітваецца, то адказваюць: «Да пабачэння». У канцы адказу дадаецца слова «таварыш» і воінскае званне. Калі начальнік у парадку службы віншуе ваеннаслужачага або дзякуе яго, то ваеннаслужачы адказвае: «Служу Рэспубліцы Беларусь».



1. Раскажыце аб правілах ваеннай ветлівасці і паводзін ваеннаслужачых, як выконваюцца гэтыя правілы вучнямі на занятках па дапрызыўнай падрыхтоўцы? 2. Раскажыце аб воінскіх званнях і знаках адрознення ваеннаслужачых. 3. Хто з’яўляецца начальнікам і старшым для салдат? 4. Раскажыце аб парадку аддачы і выканання загадаў. 5. Каго павінен вітаць салдат па-за строем?

## § 39. Ваенная прысяга

Ваенная прысяга — урачыстае абяцанне, якое даецца грамадзянамі пры іх уступленні ў шэрагі ўзброеных сіл дзяржавы. Змест Ваеннай прысягі і рытуал прывядзення да яе адлюстроўваюць гістарычныя і нацыянальныя традыцыі і звычаі народа, арміі. Прыняцце Ваеннай прысягі — важны прававы і маральна-палітычны акт, характэрны для ваеннай службы ў большасці дзяржаў свету.

**З гісторыі ваеннай прысягі.** Прыняцце ваеннай прысягі, як ўрачыстага абяцання, вядома з найстаражытных часоў. Яшчэ ў 480 годзе да н. э. воіны спартанскага цара Леаніда перад бітвай з персамі пакляліся не адступаць і ў палон не здавацца. Усе загінулі, але ні адзін не адступіў і не здаўся ў палон.

Абавязковую прысягу прыносілі легіянеры Рыма. Перад арлом (галоўным сцягам) салдат прысягаў верна служыць імператару, не пакідаць сцягоў легіёна, шанаваць рымскіх багоў, паважаць традыцыі свайго легіёна.

У Сярэднія вякі рыцарская клятва ператварала маладога двараніна ў паўнапраўнага члена міжнароднай ваеннай карпарацыі. Працэдура прыняцця прысягі пачыналася

з усяночнай малітвы. На досвітку малады чалавек ішоў з храма, пакідаючы ў ім вопратку хлапчука. Апрануты ў белую туніку, ён прадстаўляўся сеньёру, які прымаў яго ў вялікай зале замка. Апусціўшыся на калена, кандыдат у рыцары гаварыў клятву. Ён абяцаў верай і праўдай служыць свайму сеньёру і яго сям'і, ва ўсім падпарадкоўвацца хрысціянскай царкве, абараняць пакрыўджаных, быць шчодрым і міласэрным.

Прысягалі ў Сярэднія вякі і простыя людзі — хлебаробы, рамеснікі, дробныя гандляры. Каралі і імператары выціскалі са сваіх падданых розныя клятвы і абяцанні.

У Вялікім Княстве Літоўскім вялікі князь прыносіў клятву дваранству. Ён абяцаў захоўваць правы і прывілеі феадалаў, пашыраць межы Вялікага княства, вяртаць землі, страчаныя падчас войнаў. Услед за вялікім князем прысягу дваранству прыносілі сенатары — каталіцкія епіскапы, ваяводы, кашталяны.

У Расіі «Статут ротных, гарматных і іншых спраў, якія тычацца да воінскай навукі» замацоўваў рытуал прыняцця прысягі на вернасць цару. Кожны вайсковы чалавек прыводзіўся да цалавання крыжа — прыносіў прысягу ўладару «верна служыць» і «ва ўсім паслухмяным і пакорлівым быць і рабіць па яго загаду». З XIX стагоддзя рэкруты «...прыводзяцца да прысягі духоўнымі асобамі таго веравызнання, да якога яны належаць, і на мове, якая ім вядомая». У часцях, якія не мелі сцягоў, прысяга прымалася: у батарэях — перад фронтам гармат, у крапасных часцях — на крапасным вале, у іншых часцях — перад фронтам часці.

У савецкі перыяд традыцыя прывядзення воінаў да ваеннай прысягі працягвалася. У лютым 1918 года першыя палкі маладой Чырвонай Арміі адпраўляліся на фронт з клятвай вернасці рэвалюцыі і Савецкай уладзе. Такая клятва складалася ў многіх воінскіх часцях і звалася па-рознаму: ўрачыстым абяцаннем, рэвалюцыйнай клятвай, чырвонай прысягай. 22 красавіка 1918 года Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт зацвердзіў адзіны для ўсёй Чырвонай Арміі тэкст ваеннай прысягі, якая называлася Урачыстым абяцаннем. Тэкст Урачыстага абяцання з растлумачэннем быў змешчаны ў «Службовай кніжцы чырвонаармейца».

Тэкст апошняй ваеннай прысягі ў Савецкім Саюзе быў прыняты ў 1960 годзе і праіснаваў да распаду СССР.

**Ваенная прысяга Рэспублікі Беларусь.** Тэкст першай ваеннай прысягі маладой суверэннай Рэспублікі Беларусь быў зацверджаны Вярхоўным Саветам 10 лістапада 1992 года. Яе змест выказваў абавязацельствы ваеннаслужачага быць годным воінам і грамадзянінам сваёй краіны, рыхтавацца да абароны Рэспублікі Беларусь у мірны час і мужна абараняць яе ў выпадку ўзброеных канфліктаў.

У чэрвені 2003 года быў прыняты новы Закон Рэспублікі Беларусь «Аб воінскім абавязку і воінскай службе», які ўстанавіў новы тэкст ваеннай прысягі.

*Прысягаючы Беларусі*, ваеннаслужачы клянецца быць адданым свайму народу. Ва ўсе часы і ва ўсіх народаў такія якасці, як вернасць і адданасць, былі вышэйшымі духоўнымі якасцямі чалавека. Адданасць свайму народу, вернасць воінскаму абавязку лічацца асноўнымі прафесійнымі духоўна-маральнымі каштоўнасцямі воіна.

*Прысягаючы Беларусі*, ваеннаслужачы клянецца свята трымацца Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, выконваць патрабаванні воінскіх статутаў і загады камандзіраў і начальнікаў. Ваеннаслужачыя карыстаюцца правамі і выконваюць усе абавязкі грамадзян Беларусі. Ваенная служба рэгламентуецца законамі, а жыццё і дзейнасць войскаў — воінскімі статутамі. «Строгае і дакладнае выкананне кожным ваеннаслужачым парадку і правілаў, устаноўленых законамі і воінскімі статутамі», — так вызначаюць статуты воінскую дысцыпліну. Прыносячы Ваенную прысягу, ваеннаслужачы клянецца быць годным грамадзянінам Рэспублікі Беларусь і дысцыплінаваным воінам яе Узброеных Сіл.

*Прысягаючы Беларусі*, ваеннаслужачы клянецца дастойна выконваць воінскі абавязак, мужна і самаадданна абараняць незалежнасць, тэрытарыяльную цэласнасць і канстытуцыйны лад Рэспублікі Беларусь. У армейскім кодэксе маральнасці, выпрацаваным стагоддзямі, стаўленне да воінскага абавязку і воінскага гонару прызнаецца самай важнай якасцю салдата. Салдат гонару — гэта воін, які па перакананні і з гонарам выконвае свой воінскі абавязак.

Мужнасць — гэта якасць чалавека, якая ў складаных абставінах дапамагае яму захоўваць прысутнасць духу, вытрымліваць цяжкія выпрабаванні, праяўляць смеласць, адвагу, самавалоданне, ўстойлівасць.

Мужнасць і вернасць свайму воінскаму абавязку прывялі гвардыі старшага сяржанта ***А. П. Луцэвіча*** да подзвігу. Улетку 1944 года 138-ы гвардзейскі артылерыйскі полк з ходу фарсіраваў раку Заходняя Дзвіна. Пад агнём праціўніка ў ліку першых на супрацьлеглы бераг пераправіўся на плыце з гарматным разлікам і гарматай Андрэй Луцэвіч. На невялікім плацдарме адбылася гарачая сутычка. Фашысты перавышаючымі сіламі спрабавалі скінуць смельчакоў ў раку. Так бы і адбылося, калі б не артылерысты Луцэвіча. Дваццаціпяцігадовы камандзір выкаціў гармату на прамую наводку і стаў ва ўпор расстрэльваць праціўніка. Амаль без паўзаў вёў разлік прыцэльны агонь па ворагу. На працягу дня гармата Луцэвіча і пяхота адбілі некалькі варожых контратак, падавілі мінамёт, знішчылі чатыры кулямёты, дзясяткі фашыстаў. Утрыманне невялікага плацдарма забяспечыла паспяховае фарсіраванне ракі астатнімі падраздзяленнямі палка. Падчас развіцця наступлення разлік Андрэя ўвесь час знаходзіўся ў баявых парадках пяхоты і без промаху біў акупантаў, чым расчышчаў шлях атакуючым ротам і спрыяў вызваленню горада Полацка. За мужнасць і гераізм Андрэю Піліпавічу Луцэвічу было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза.

Мужным і самаадданым абаронцам свайго народа быў і Герой Беларусі падпалкоўнік ***У. М. Карват***, які здзейсніў свой подзвіг у мірныя дні.

— Ён уратаваў нас, а сам загінуў, як загінулі, абараняючы Радзіму, мае сыны. Ён хацеў, каб мы жылі, — сказала старэнькая бабуля, жыхарка вёскі Вялікае Гацішча. Уся вёска палічыла: лётчык загінуў, ратуючы іх. Многія бачылі, нягледзячы на позні час, як агнізаваў у небе знішчальнік. Усе чакалі: вось-вось раскрыецца парашут. Але лётчык машыну не пакінуў. «Перацягнуўшы» амаль на 900 метраў вёску Вялікае Гацішча, самалёт упаў побач з дарогай.

• **Прыняцце Ваеннай прысягі.** Прынццце Ваеннай прысягі праводзіцца:

• па прыбыцці ваеннаслужачага, рэзервіста да першага месца ваеннай службы, службы ў рэзерве пасля праходжання пачатковай ваеннай падрыхтоўкі;

• па прыбыцці грамадзяніна, які не праходзіў ваенную службу, да першага месца правядзення збораў пасля праходжання пачатковай ваеннай падрыхтоўкі.

Час прыняцця Ваеннай прысягі аб'яўляецца ў загадзе камандзіра воінскай часці. У прызначаны час воінская часць пры Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь, Баявым Сцягу часці з аркестрам строіцца ў пешым страі са зброяй.

Камандзір воінскай часці ў кароткай прамове нагадвае тым, хто прыносіць Ваенную прысягу, значэнне ганаровага і адказнага абавязку, які на іх ускладаецца ў сувязі з прынясеннем прысягі.

Пасля растлумачальнай прамовы камандзір воінскай часці загадвае камандзірам падраздзяленняў прыступіць да прыняцця Ваеннай прысягі.

Камандзіры рот (батарэй) і іншых падраздзяленняў па чарзе выклікаюць са строю ваеннаслужачых, якія прыносяць Ваенную прысягу. Кожны ваеннаслужачы, які прыносіць Ваенную прысягу, чытае яе тэкст услых перад строем падраздзялення (мал. 66), пасля чаго ўласнаручна распісваецца ў спецыяльным спісе ў графе супраць свайго прозвішча і становіцца на сваё месца ў страі.

Па заканчэнні цырымоніі прыняцця Ваеннай прысягі спісы з асабістымі подпісамі тых, хто прынёс прысягу, уручаюцца камандзірамі падраздзяленняў камандзіру воінскай часці. Камандзір воінскай часці віншуе іх з прынясеннем Ваеннай прысягі, а ўсю воінскую часць — з новым папаўненнем, пасля чаго аркестр выконвае Дзяржаўны гімн. Пасля выканання Дзяржаўнага гімна воінская часць праходзіць урачыстым маршам.

Прыняцце Ваеннай прысягі можа праводзіцца ў гістарычных месцах, месцах баявой і працоўнай славы, а таксама каля брацкіх магіл воінаў, якія загінулі ў баях за свабоду і незалежнасць Радзімы.

Дзень прыняцця Ваеннай прысягі з'яўляецца непрацоўным днём для дадзенай воінскай часці і праходзіць як святочны дзень.



## ВАЕННАЯ ПРЫСЯГА

**Я, грамадзянін Рэспублікі Беларусь (прозвішча, імя, імя па бацьку), урачыста клянуся быць адданым свайму народу, свята трымацца Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, выконваць патрабаванні воінскіх статутаў і загады камандзіраў і начальнікаў.**

**Клянуся дастойна выконваць воінскі абавязак, мужна і самаахвярна абараняць незалежнасць, тэрытарыяльную цэласнасць і канстытуцыйны лад Рэспублікі Беларусь.**

*Мал. 66.* Прынясенне Ваеннай прысягі



**1.** Што такое прысяга, калі і кім быў зацверджаны тэкст Ваеннай прысягі Рэспублікі Беларусь? **2.** Раскажыце аб прыкладах вернасці прысязе беларускіх воінаў. **3.** Што гаворыцца ў прысязе пра абарону Рэспублікі Беларусь, што павінен рабіць воін, каб выканаць сваю клятву? **4.** Раскажыце пра парадак прыняцця Ваеннай прысягі салдатамі.

## § 40. Баявы Сцяг воінскай часці. Воінскія рытуалы

**Баявы Сцяг.** Яшчэ шмат стагоддзяў таму воіны хадзілі ў паходы і ўступалі ў бітвы пад сцягамі, харугвамі сваіх гарадоў, княстваў або ваяводстваў. Пазней такія харугвы і сцягі сталі сімваламі воінскіх фарміраванняў.

27 студзеня 1807 года ў жорсткай генеральнай бітве з французамі ў Прэйсіш-Эйлаў, дзе падчас моцнай завеі змяшаліся людзі і коні, артылерыя і абозныя калёсы, упаў, забіты, сцяганосец Полацкага пяхотнага палка. Сцяг апынуўся ў французаў. Убачыўшы гэта, штабс-капітан ***Дземчынскі*** са жменькай храбрацоў, ставячыся з пагардай да небяспекі, у жорсткай сутычцы адбіў у ворагаў палкавую святыню.

У суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны, 21 снежня 1942 года, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР зацвердзіў узор Чырвонага Сцяга і палажэнне аб Сцягу воінскіх часцей Чырвонай Арміі.

У 1944 годзе ў бесперапынных баях за горад Гольдап ва Усходняй Прусіі гітлераўцам удалося замкнуць кольца акружэння. Быў атрыманы загад прабівацца з горада. Сцяг палка даручана несці сцяганосцу — старшаму сяржанту ***Елгіну***. З ім невялікая група салдат. Наперадзе варожы кулямёт. У выніку дзёрзкай атакі кулямёт быў знішчаны, але Елгін быў цяжка паранены. Сабраўшы апошнія сілы, ён спрабаваў прабіцца да пазіцый сваіх войскаў. Раніцай, калі нашы адбілі вышыню, яны знайшлі сцяганосца. Вакол яго ляжалі дзевяць забітых гітлераўцаў. Сам Елгін атрымаў другое — смяротнае раненне, але гонар і святыня 611-га Мінскага ордэна Аляксандра Неўскага стралковага палка — Баявы Сцяг застаўся ў яго на грудзях.

У працэсе ваеннага будаўніцтва часці і злучэнні былой Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі ўвайшлі ў склад Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, захаваўшы за сабой назвы і нумары часцей, а разам з імі Баявыя Сцягі, гвардзейскія званні, заслужаныя ордэны і ганаровыя назвы, сталі пераемнікамі слаўных баявых спраў, паслуг і традыцый.

Палажэннем аб Баявым Сцягу воінскай часці Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь вызначана, што Баявы Сцяг ёсць сімвал воінскага гонару, доблесці і славы (мал. 67).




*Мал. 67.* Баявы Сцяг воінскай часці

Ён з’яўляецца напамінам кожнаму ваеннаслужачаму аб свяшчэнным абавязку аддана служыць Рэспубліцы Беларусь, стойка і мужна абараняць кожную пядзю роднай зямлі, не шкадуючы сваёй крыві і самога жыцця.

Баявы Сцяг захоўваецца за воінскай часцю на ўвесь час, незалежна ад змены назвы і нумарацыі вайсковай часці. Змены назвы і нумарацыі вайсковай часці заносяцца ў Грамату Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якая выдаецца пры ўручэнні Баявога Сцяга.

Баявы Сцяг заўсёды знаходзіцца ў сваёй воінскай часці, а на полі бою — у раёне баявых дзеянняў воінскай часці. Увесь асабовы склад абавязаны самаахвярна і мужна абараняць Баявы Сцяг у баі і не дапусціць яго захопу праціўнікам. Пры страце Баявога Сцяга камандзір воінскай часці і ваеннаслужачыя, непасрэдна вінаватыя ў такой ганьбе, падлягаюць ваеннаму суду, а воінская часць расфарміраванню.

У мірны час баявую славу сваіх сцягоў воіны памнажаюць доблеснай службай, поспехамі ў баявой падрыхтоўцы. Для аховы Баявога Сцяга выстаўляецца ўзброены вартавы — гэта адзін з самых адказных пастоў, і даручаецца ён лепшым салдатам. Пад Баявым Сцягам сваёй часці воіны прымаюць прысягу, удзельнічаюць у вучэннях і паходах. Да Баявога Сцяга прымацоўваюцца стужкі ордэнаў, якімі часць узнагароджвалася за выдатныя баявыя заслугі.

**Воінскія рытуалы.** Здаўна павагу да пасады, воінскага звання, помнікаў, грамадскага становішча той ці іншай асобы, гістарычнай падзеі выказвалі воінскім прывітаннем.

Глыбокі змест, маральны сэнс закладзены ў такім рытуале. Раней старшаму начальніку кланяліся, схілялі перад ім шпагу або сцяг, бралі мушкет «на каравул», білі барабанны дробат, прыкладвалі руку да галаўнога ўбору, а без яго прымалі становішча «смірна» і паварочвалі галаву ў бок начальніка і г. д. Нешта з гэтага састарэла, а некатарыя элементы захаваліся да нашага часу.

Воінскае прывітанне — гэта сведчанне павагі да мундзіра воіна, да ратнай працы, традыцый, якія захаваліся і якія зноў нараджаюцца. Воінскае прывітанне — не фармальны знак увагі, а праява ўзаемнай павагі, увасабленне таварыскай згуртаванасці ваеннаслужачых. Усе ваеннаслужачыя пры сустрэчы вітаюць адзін аднаго. Воінскія часці і падраздзяленні, а таксама асобныя ваеннаслужачыя вітаюць брацкія магілы воінаў, якія загінулі ў баях за свабоду і незалежнасць Айчыны; Баявы Сцяг воінскай часці; пахавальныя працэсіі, якія суправаджаюцца войскамі; начальнікаў і службовых асоб, якія вызначаюцца агульнавоінскімі статутамі. Прыгажосць, відовішчнасць і ўрачыстасць гэтага рытуалу дасягаюцца бездакорнай адзіночнай страявой падрыхтоўкай, зладжанасцю падраздзяленняў, дысцыплінай строю, яна сведчыць пра высокую навучанасць, згуртаванасць і культуру воінаў.

Да адной з формаў урачыстага прывітання адносяцца салюты. Найбольш старажытным і распаўсюджаным відам салюту ў азнаменаванне асабліва выдатных падзей з'яўляецца салют выстраламі. У ходзе Вялікай Айчыннай вайны было праведзена 354 салюты. Кожнаму салюту папярэднічаў загад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага. У загадзе разам з кароткім паведамленнем аб подзвігах савецкіх войскаў пералічваліся злучэнні і часці, якія вялі баявыя дзеянні, і ўказваліся воінскія званні і прозвішчы камандзіраў, якія асабліва праславіліся. Усяму асабоваму складу аб'яўлялася падзяка і выдаваўся спецыяльны дакумент. 3 ліпеня 1944 года ў гонар вызвалення горада Мінска ад фашыстаў у Маскве быў дадзены салют у 24 залпы з 324 гармат па самай высокай, першай катэгорыі. 9 мая 1945 года, у Дзень Перамогі над фашысцкай Германіяй, быў праведзены незвычайны, грандыёзны салют 30 залпамі з тысячы гармат. Цяпер у Беларусі салюты

і святочныя феерверкі праводзяць у дні найбольш значных дзяржаўных свят.

У Рэспубліцы Беларусь адзначаюцца дзяржаўныя святы: Дзень Перамогі — 9 мая; Дзень Незалежнасці — 3 ліпеня. Святочным днём лічыцца Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь — 23 лютага.

Устаноўлены прафесійныя дні: Дзень Войскаў супрацьпаветранай абароны — другая нядзеля красавіка; Дзень пагранічніка — 28 мая; Дзень дэсантнікаў — 2 жніўня; Дзень ваенна-паветраных сіл — трэцяя нядзеля жніўня; Дзень танкістаў — другая нядзеля верасня; Дзень мотастралкоў — 21 верасня; Дзень ракетных войскаў і артылерыі — 19 лістапада.

Адзначаюцца таксама Дзень тылу Узброеных Сіл, Дзень войскаў сувязі, Дзень інжынерных войскаў, Дзень разведчыка, Дзень войскаў радыяцыйнай, хімічнай і біялагічнай абароны, Дзень чыгуначных войскаў, Дзень аўтамабіліста і дарожніка, Дзень спецыяліста радыёэлектроннай барацьбы, Дзень ваенных камісарыятаў і іншыя, а таксама гадавыя святы часцей і злучэнняў.

Адзін з самых галоўных актаў прызнання воінскага гонару абаронцы Айчыны — залічэнне яго навечна ў спісы асабовага складу воінскай часці. Парадак здзяйснення рытуалу згадвання на вячэрняй паверцы прозвішчаў ваеннаслужачых, залічаных за здзейсненыя імі подзвігі ў спісы падраздзяленняў навечна або ганаровымі салдатамі, вызначаны Статутам унутранай службы. Загадамі Міністра абароны Рэспублікі Беларусь у спісы воінскіх часцей навечна залічаны 64 чалавекі, сярод якіх героі-франтавікі, воіны-інтэрнацыяналісты, а таксама Герой Беларусі падпалкоўнік Карват Уладзімір Мікалаевіч. Жывым сімвалам мужнасці, гонару і воінскай доблесці з’яўляецца ўведзены ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь інстытут Ганаровых салдат.

Вельмі ўрачысты і значны рытуал прыняцця Ваеннай прысягі. Ваеннаслужачыя і рэзервісты, упершыню прызваныя на ваенную службу, службу ў рэзерве, прыносяць Ваенную прысягу перад Дзяржаўным сцягам Рэспублікі Беларусь і Баявым Сцягам воінскай часці.

Да воінскіх рытуалаў адносяцца таксама парады войскаў; адданне воінскіх ушанаванняў; ўскладанне вянкоў да помнікаў і магіл воінаў, якія загінулі ў баях за свабоду і незалежнасць Айчыны; урачыстыя пастраенні і маршы войскаў. Вельмі ўрачыстыя і значныя аркестравыя суправаджэнні і розныя сімвалічныя дзеянні (прыспускаць сцяг, стаяць на каленях перад ім і інш). У беларускай арміі праводзяцца рытуалы размеркавання прыбыўшага папаўнення па падраздзяленнях, уручэння асабоваму складу ўзбраення і ваеннай тэхнікі, заступлення на баявое дзяжурства, провадаў ваеннаслужачых, звольненых у запас або адстаўку, і іншыя мерапрыемствы.



Прыгажосць строю

Істотным элементам воінскіх рытуалаў з'яўляецца строй. Страявая выпраўка, дысцыпліна, дакладнасць выканання каманд, адпрацоўка страявога кроку спрыяюць выхаванню такіх важных якасцей, як падцягнутасць, стараннасць. Прыгажосць ваеннай формы — адна са складовых прывабнасці воінскіх рытуалаў.



**1.** Што сімвалізуе Баявы Сцяг воінскай часці? **2.** Раскажыце пра вернасць Баявому Сцягу воінскай часці. **3.** Раскажыце пра вядомыя вам воінскія рытуалы. Што адлюстроўваюць воінскія рытуалы?

## § 41. Правы, абавязкі і адказнасць ваеннаслужачых

Ваеннаслужачыя пры выкананні абавязкаў ваеннай службы з'яўляюцца прадстаўнікамі дзяржаўнай улады і знаходзяцца пад абаронай дзяржавы. Іх жыццё, здароўе, гонар і годнасць ахоўваюцца законам. Ваеннаслужачаму гарантуецца асабістая недатыкальнасць. Знявага ваеннаслужачага, любыя незаконныя гвалтоўныя дзеянні з боку грамадзян у дачыненні да ваеннаслужачых, якія знаходзяцца пры выкананні абавязкаў ваеннай службы, а таксама парушэнне і ўшчамленне іх правоў разглядаюцца як дзеянні, накіраваныя супраць прадстаўніка дзяржаўнай улады і цягнуць за сабой для вінаватых адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Правы ваеннаслужачых.** Ваеннаслужачыя карыстаюцца ўсімі правамі і свабодамі, гарантаванымі Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і дзеючым заканадаўствам. Разам з тым у інтарэсах нацыянальнай бяспекі Канстытуцыя прадугледжвае абмежаванні правоў і свабод асобы, у сувязі з чым для ваеннаслужачых таксама заканадаўствам вызначаны некаторыя абмежаванні.

Дзяржава гарантуе сацыяльную і прававую абарону ваеннаслужачых, ажыццяўляе меры для стварэння ім дастатковага і годнага жыццёвага ўзроўню, паляпшэння ўмоў службы і побыту; кампенсуе некаторыя абмежаванні правоў і свабод ваеннаслужачых, даючы ім дадатковыя правы і льготы, узмацняючы іх сацыяльную абарону. Асновы дзяржаўнай палітыкі па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых вызначаны ў Законе Рэспублікі Беларусь «Аб статусе ваеннаслужачых».

Забеспячэнне і ахова правоў ваеннаслужачых ўскладаецца на органы дзяржаўнай улады і кіравання, у тым ліку на праваахоўныя органы, органы ваеннага кіравання і камандзіраў.

Да прывядзення да Ваеннай прысягі ваеннаслужачы не можа прызначацца на воінскія пасады, прыцягвацца да выканання баявых задач; за ім не павінны замацоўвацца ўзбраенне і ваенная тэхніка, на яго нельга накласці такое дысцыплінарнае спагнанне, як арышт.

Ваеннаслужачыя пры выкананні абавязкаў ваеннай службы маюць права на нашэнне і прымяненне зброі. Правілы захоўвання і парадак прымянення імі зброі вызначаюцца Статутам унутранай службы ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Ваеннаслужачыя, якія ўваходзяць у склад каравула, маюць права прымяняць зброю ў выпадках і парадку, устаноўленым Статутам гарнізоннай і каравульнай службаў Рэспублікі Беларусь.

Ваеннаслужачы Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь у службовай дзейнасці кіруецца патрабаваннямі законаў, воінскіх статутаў і не павінен звязвацца рашэннямі палітычных партый, масавых грамадскіх рухаў, не можа займацца грамадска-палітычнай работай і любымі відамі прадпрымальніцкай дзейнасці, аказваць паслугі з выкарыстаннем службовага становішча і атрымліваць за гэта ўзнагароджанне.

**Абавязкі ваеннаслужачых.** Ваеннаслужачы павінен з годнасцю несці высокае званне абаронцы Рэспублікі Беларусь, шанаваць гонар і баявую славу Узброеных Сіл, сваю воінскую часць і гонар воінскага звання.

Ваеннаслужачы абавязаны:

- беспярэчна выконваць свой воінскі абавязак, быць верным Ваеннай прысязе, беззапаветна служыць свайму народу, мужна, умела, не шкадуючы сваіх сіл і самога жыцця, абараняць суверэнітэт і тэрытарыяльную цэласнасць Рэспублікі Беларусь;
- строга прытрымлівацца Канстытуцыі і іншых заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь, выконваць патрабаванні воінскіх статутаў;
- выконваць загады камандзіраў (начальнікаў) беспярэчна, дакладна і ў тэрмін;
- стойка пераносіць цяжкасці ваеннай службы;
- пастаянна авалодваць ваеннымі прафесійнымі ведамі, удасканальваць сваю вывучку і воінскае майстэрства;
- ведаць і ўтрымоўваць у пастаяннай гатоўнасці да прымянення даручаныя яму ўзбраенне і ваенную тэхніку, берагчы ваенную маёмасць;
- быць сумленным, дысцыплінаваным, адважным, пры выкананні воінскага абавязку праяўляць разумную ініцыятыву;

- беспярэчна слухацца камандзіраў (начальнікаў) і абараняць іх у баі, ахоўваць Баявы Сцяг воінскай часці;
- шанаваць вайсковае таварыства, не шкадуючы свайго жыцця выручаць таварышаў з небяспекі, дапамагаць ім словам і справай, паважаць гонар і годнасць кожнага, не дапускаць у адносінах да сябе і іншых ваеннаслужачых грубасці і здзекаў, утрымліваць іх ад амаральных учынкаў;
- выконваць правілы воінскай ветлівасці, паводзін і выканання воінскага прывітання, заўсёды быць па форме, чыста і акуратна апранутым;
- быць пільным, строга захоўваць дзяржаўную і службовую тайну.

Аб усім, што здарылася з ваеннаслужачым і што ўплывае на выкананне яго абавязкаў, а таксама пра зробленыя яму заўвагі ён абавязаны дакладваць свайму непасрэднаму начальніку.

Ваеннаслужачы павінен выконваць патрабаванні бяспекі ваеннай службы, меры папярэджання захворванняў, траўмаў і пашкоджанняў, паўсядзённа павышаць фізічную загартоўку і трэніраванасць.

Ваеннаслужачы абавязаны ведаць і няўхільна выконваць міжнародныя правілы вядзення ўзброенай барацьбы, абыходжання з параненымі, хворымі і грамадзянскім насельніцтвам у раёне баявых дзеянняў, а таксама з ваеннапалоннымі.

У ходзе баявых дзеянняў ваеннаслужачы павінен аказваць рашучае супраціўленне праціўніку, пазбягаючы захопу ў палон. Ён абавязаны да канца выканаць у баі свой воінскі абавязак. Калі ж ваеннаслужачы, адарваўшыся ад сваіх войскаў і вычарпаўшы ўсе сродкі і спосабы супраціўлення або знаходзячыся ў бездапаможным стане з прычыны цяжкага ранення або кантузіі, будзе захоплены праціўнікам у палон, ён павінен шукаць і выкарыстоўваць любую магчымасць, каб вызваліць сябе і сваіх таварышаў з палону і вярнуцца ў размяшчэнне сваіх войскаў. Ваеннаслужачы, захоплены праціўнікам у палон, пры допыце мае права паведаміць толькі сваё прозвішча, імя, імя па бацьку, воінскае званне, дату нараджэння і асабісты нумар. За ваеннаслужачымі, захопленымі ў палон, а таксама інтэрніраванымі ў нейтральныя краіны, захоўваецца статус ваеннаслужачых.

Службовыя абавязкі ваеннаслужачых вызначаюцца воінскімі статутамі, а таксама адпаведнымі настаўленнямі, палажэннямі, інструкцыямі і пісьмовымі загадамі прамых начальнікаў.

Ваеннаслужачыя пры нясенні службы на баявым дзяжурстве, у сутачным і каравульным нарадах, а таксама пры ліквідацыі наступстваў стыхійных бедстваў і ў іншых надзвычайных абставінах выконваюць спецыяльныя абавязкі.

**Адказнасць ваеннаслужачых.** Усе ваеннаслужачыя незалежна ад воінскага звання і пасады роўныя перад законам і нясуць адказнасць, устаноўленую для грамадзян Рэспублікі Беларусь, з улікам асаблівасцей праходжання ваеннай службы.

За парушэнні воінскай дысцыпліны або правілаў паводзін у грамадскіх месцах ваеннаслужачыя нясуць дысцыплінарную адказнасць. Прыцягненне да дысцыплінарнай адказнасці заключаецца ва ўжыванні камандзірам (начальнікам) да падначаленага, які ўчыніў правіннасць, дысцыплінарнага спагнання, прадугледжанага Дысцыплінарным статутам Узброеных Сіл. Спагнанне камандзір (начальнік) можа і абавязаны прымяняць у межах паўнамоцтваў, дазволеных яму Статутам, без звароту ў якія-небудзь органы.

Адміністрацыйную адказнасць ваеннаслужачыя нясуць у адпаведнасці з заканадаўствам аб адміністрацыйных правапарушэннях. Пры гэтым да іх не могуць прымяняцца такія адміністрацыйныя спагнанні, як папраўчыя работы і адміністрацыйны арышт, а да ваеннаслужачых тэрміновай службы — і штраф.

За невыкананне, неналежнае выкананне прадугледжаных грамадзянскім заканадаўствам абавязацельстваў, за шкоду, прычыненую дзяржаве, юрыдычным асобам і грамадзянам, ваеннаслужачыя ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку нясуць грамадзянска-прававую адказнасць.

Матэрыяльная адказнасць ваеннаслужачых вызначаецца правіламі, якія адрозніваюцца ад правілаў, прадугледжаных грамадзянскім або працоўным заканадаўствам. Парадак і памеры іх матэрыяльнай адказнасці за матэрыяльную шкоду, прычыненую дзяржаве падчас выканання абавязкаў ваен-

най службы, рэгламентуюцца Палажэннем аб матэрыяльнай адказнасці ваеннаслужачых.

За здзяйсненне злачынстваў, прадугледжаных Крымінальным кодэксам Рэспублікі Беларусь, ваеннаслужачыя нясуць крымінальную адказнасць. Акрамя адказнасці за агульнакрымінальныя злачынствы яны нясуць адказнасць за ўчыненне воінскіх злачынстваў, сярод якіх такія, як ухіленне ад ваеннай службы альбо ад прызыву па мабілізацыі, парушэнне правілаў нясення спецыяльных службаў, выдаванне службовай тайны, злачынствы супраць парадку падпарадкаванасці і іншыя.

Акрамя таго, за правіннасці, звязаныя з парушэннем воінскай дысцыпліны і грамадскага парадку, а таксама за амаральныя правіннасці да ваеннаслужачых могуць прымяняцца меры грамадскага ўздзеяння. Ваеннаслужачыя радавога саставу могуць падвяргацца грамадскаму ўздзеянню на сходах асабовага складу падраздзяленняў, сяржанты — на сходах сяржантаў падраздзялення, прапаршчыкі — на сходах прапаршчыкаў, афіцэры — на афіцэрскіх сходах. Правіннасці афіцэраў і прапаршчыкаў могуць разглядацца таксама таварыскімі судамі гонару.



**1.** Якія правы ёсць у ваеннаслужачых? **2.** У чым заключаюцца абмежаванні правоў і свабод ваеннаслужачых і як гэтыя абмежаванні кампенсуюцца дзяржавай? **3.** У чым заключаюцца асноўныя абавязкі ваеннаслужачых? **4.** Якія віды юрыдычнай адказнасці вы ведаеце? Ахарактарызуйце гэтыя віды.

## § 42. Воінская дысцыпліна

**Сутнасць і значэнне воінскай дысцыпліны.** Ва ўсе часы толькі арміі са строгай дысцыплінай і высокай выканаўчасцю маглі разлічваць на поспех і дамагаліся перамогі. Асновы дысцыпліны ў розных арміях былі неаднолькавыя. У XVIII стагоддзі шматлікія дзяржавы Еўропы запазычылі прускую сістэму навучання і выхавання, якая заключалася ў сляпым падпарадкаванні, муштры і механічным выкананні баявых прыёмаў. Салдат разглядаўся як сляпая прылада вайны, як механізм, які не разважае і не думае.

Падпарадкаванне дысцыпліне можа быць дасягнута шляхам прымусу, але пры гэтым нельга разлічваць на самаад-

данасць, актыўнасць, ініцыятыву воіна. Вышэйшай формай падпарадкавання з'яўляецца свядомае, добраахвотнае падпарадкаванне, заснаванае на дэмакратычнай перакананасці асобы ў неабходнасці выканання грамадскага абавязку.

Воінская дысцыпліна ў Рэспубліцы Беларусь, з'яўляючыся адным з відаў дзяржаўнай дысцыпліны, грунтуецца на свядомасці кожным ваеннаслужачым воінскага абавязку і асабістай адказнасці за абарону сваёй Радзімы, яна служыць гарантам трываласці Узброеных Сіл Беларусі.

***Воінская дысцыпліна*** ёсць строгае і дакладнае выкананне ўсімі ваеннаслужачымі парадку і правілаў, устаноўленых заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і воінскімі статутамі.

У сучасных умовах значэнне вельмі строгай дысцыпліны ўзрасло. Складаная ваенная тэхніка, якая абслугоўваецца групамі воінаў, павысіла патрабаванні да кожнага з іх. Без моцнай воінскай дысцыпліны, выканаўчасці і арганізаванасці ў мірны час немагчыма эфектыўная падрыхтоўка воінаў да выканання баявых задач. Поспех у сучасным баі ў вырашальнай ступені будзе вызначаць дысцыпліна.

Воінская дысцыпліна дасягаецца: выхаваннем у ваеннаслужачых высокіх маральна-псіхалагічных і баявых якасцей, свядомага падпарадкавання камандзірам і начальнікам; падтрыманнем у падраздзяленнях і часцях статутнага парадку; паўсядзённай патрабавальнасцю камандзіраў і начальнікаў да падначаленых, пастаянным клопатам пра іх, умелым спалучэннем і правільным прымяненнем мер перакanання і прымусу. За стан воінскай дысцыпліны ў падраздзяленні або воінскай часці адказвае яе камандзір.

**Абавязкі ваеннаслужачых па захаванні воінскай дысцыпліны.** Захаванне воінскай дысцыпліны абавязковае як у баі, так і ў паўсядзённым жыцці, у страі і па-за строем, у размяшчэнні воінскай часці і за яе межамі.

Воінская дысцыпліна абавязвае кожнага ваеннаслужачага:

- верна і аддана служыць Рэспубліцы Беларусь, быць у пастаяннай гатоўнасці абараняць яе суверэнітэт і тэрытарыяльную цэласнасць;
- строга трымацца Канстытуцыі і іншых заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь, патрабаванняў Ваеннай прысягі

і воінскіх статутаў, выконваць загады камандзіраў і начальнікаў беспярэчна, дакладна і ў тэрмін;

• стойка пераносіць цяжкасці ваеннай службы, не шкадаваць свайго жыцця пры выкананні воінскага абавязку;

• быць пільным, строга захоўваць дзяржаўную і службовую тайну;

• пастаянна ўдасканальваць ваеннае майстэрства, утрымліваць ў гатоўнасці да прымянення ўзбраенне і ваенную тэхніку, усямерна берагчы ваенную маёмасць;

• быць сумленным і шчырым, шанаваць гонар і баявую славу абаронцы свайго народа, воінскае званне і вайсковае таварыства;

• з годнасцю паводзіць сябе па-за размяшчэннем часці, не парушаць грамадскі парадак, не дапускаць самому і ўтрымліваць іншых ад недастойных учынкаў, садзейнічаць абароне гонару і годнасці грамадзян.

**Заахвочванні, якія прымяняюцца да салдат.** Важным сродкам умацавання воінскай дысцыпліны і правапарадку, стымулявання добрасумленнага выканання ваеннаслужачымі свайго воінскага абавязку з'яўляюцца заахвочванні. Кожны камандзір у межах дадзеных яму правоў абавязаны заахвочваць падпарадкаваных ваеннаслужачых за подзвігі, разумную ініцыятыву, стараннасць і выдатную службу.

Да салдат і сяржантаў прымяняюцца наступныя заахвочванні:

• зняцце раней накладзенага дысцыплінарнага спагнання;

• аб'ява падзякі;

• дазвол водпуску па-за чаргой з размяшчэння воінскай часці ваеннаслужачым тэрміновай службы, у тым ліку з выездам за межы гарнізона, на тэрмін да 3 сутак;

• паведамленне на радзіму або па месцы ранейшай працы (вучобы, жыхарства) ваеннаслужачага аб узорным выкананні ім воінскага абавязку і аб атрыманых заахвочваннях;

• павелічэнне працягласці водпуску ваеннаслужачым тэрміновай службы (за выключэннем курсантаў ваенна-навучальных устаноў) на тэрмін да 5 сутак;

• узнагароджанне граматай, каштоўным падарункам або грашыма;

• узнагароджанне асабістай фатаграфіяй ваеннаслужачага на фоне разгорнутага Баявога Сцяга воінскай часці;

• прысваенне салдатам воінскага звання «яфрэйтар»;

• прысваенне сяржантам чарговага воінскага звання на адну ступень вышэй прадугледжанага па штатнай пасадзе, якая займаецца;

• занясенне прозвішча ваеннаслужачага ў Кнігу гонару вайсковай часці.

Пры вызначэнні віду заахвочвання прымаюцца да ўвагі характар заслуг або адзнакі ваеннаслужачага, а таксама ранейшае стаўленне яго да службы.

Заахвочванні аб’яўляюцца перад строем, на нарадзе ваеннаслужачых, у загадзе ці асабіста. Аб’ява загадаў аб заахвочваннях, а таксама ўручэнне ваеннаслужачым, якія маюць адзнакі, узнагарод звычайна праходзіць ва ўрачыстых абставінах. Адначасова з аб’явай загадаў аб заахвочваннях ім уручаюцца граматы, каштоўныя падарункі або грошы, асабістыя фатаграфіі ваеннаслужачых на фоне разгорнутага Баявога Сцяга воінскай часці, а таксама зачытваюцца тэксты паведамленняў на радзіму або па месцы ранейшай працы (вучобы, жыхарства) аб узорным выкананні імі воінскага абавязку і аб атрыманых заахвочваннях.

**Дысцыплінарныя спагнанні, якія накладваюцца на салдат.** Дысцыплінарныя спагнанні, гэтак жа як і заахвочванні, з’яўляюцца важным сродкам выхавання ваеннаслужачых і ўмацавання воінскай дысцыпліны.

Пры вызначэнні віны і меры дысцыплінарнага спагнання прымаюцца пад увагу: характар правіннасці, абставіны яе здзяйснення, яе наступствы, ранейшыя паводзіны вінаватага, а таксама час знаходжання яго на ваеннай службе. Строгасць дысцыплінарнага спагнання павялічваецца, калі правіннасць учынена падчас нясення баявога дзяжурства і пры выкананні іншых службовых абавязкаў, у стане ап’янення.

На салдат тэрміновай службы могуць накладацца наступныя дысцыплінарныя спагнанні:

• вымова;

• строгая вымова;

• пазбаўленне чарговага водпуску з размяшчэння воінскай часці;

• прызначэнне па-за чаргой у нарад па службе — да 5 нарадаў;

• арышт з утрыманнем на гаўптвахце — да 10 сутак;

## Нагрудныя знакі Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь



«Гвардыя»



«Заслужаны спецыяліст Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь»




«Выдатнік Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь»



«Спецыяліст-майстар»



«Спецыяліст 1-га класа»



«Спецыяліст 2-га класа»



«Спецыяліст 3-га класа»



«Спецыяліст 1-га класа»



«Спецыяліст 2-га класа»



«Спецыяліст 3-га класа»



«Воін-спартсмен I ступені»



«Воін-спартсмен II ступені»



«Доблесць і майстэрства»





«За размініраванне I і II ступені»



«Парашутыст-выдатнік»



«Парашутыст»



«Інструктар-парашутыст»





Нагрудныя знакі роты ганаровай варты

**Нагрудныя знакі Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь**




Аб заканчэнні Мінскага суворaўскага ваеннага вучылішча



Аб заканчэнні Ваеннай акадэміі (вышэйшая ваенная адукацыя)



Аб заканчэнні Ваеннай акадэміі, ваенных факультэтаў грамадзянскіх ВНУ (вышэйшая ваенная спецыяльная адукацыя)

- пазбаўленне воінскага звання «яфрэйтар».

На сяржантаў тэрміновай ваеннай службы могуць накладацца наступныя дысцыплінарныя спагнанні:

- вымова;
- строгая вымова;
- пазбаўленне чарговага водпуску з размяшчэння воінскай часці;
- арышт з утрыманнем на гаўптвахце — да 10 сутак;
- паніжэнне ў пасадзе;
- паніжэнне ў воінскім званні;
- пазбаўленне воінскага звання «сяржант».

З мэтай грамадскага асуджэння парушэнняў воінскай дысцыпліны або грамадскага парадку правіннасці салдат па рашэнні камандзіра могуць разглядацца і абмяркоўвацца на сходах асабовага складу падраздзялення.

Пры накладванні спагнання не дапускаецца грубасць і знявага асабістай годнасці ваеннаслужачага. Накладанне дысцыплінарнага спагнання на ваеннаслужачага, які знаходзіцца ў стане ап'янення, а таксама атрыманне ад яго якіх-небудзь тлумачэнняў адкладаецца да яго выцверажэння. Дысцыплінарныя спагнанні на ваеннаслужачых, якія ўваходзяць у склад сутачнага нараду (баявога разліку), за правіннасці, учыненыя падчас нясення службы, накладаюцца пасля змены іх з нараду, баявога дзяжурства або замены іншымі ваеннаслужачымі. Не дапускаецца накладанне за адну і тую ж правіннасць некалькіх дысцыплінарных спагнанняў, злучэнне аднаго спагнання з іншым.

Аб накладзеных дысцыплінарных спагнаннях салдатам аб'яўляецца перад строем, у загадзе ці асабіста. Ваенна-

служачы, які лічыць сябе невінаватым, мае права падаць скаргу ва ўстаноўленым парадку. Прывядзенне ў выкананне накладзенага спагнання пры падачы скаргі не прыпыняецца, пакуль не выйдзе следам распараджэнне старшага камандзіра аб яго адмене.

Ваеннаслужачы, падвергнуты дысцыплінарнаму спагнанню, не вызваляецца ад матэрыяльнай адказнасці за прычыненую шкоду. Калі ў ходзе расследавання высветліцца, што правіннасць утрымлівае прыкметы злачынства, камандзір воінскай часці абавязаны ўзбудзіць крымінальную справу, уведаміць ваеннага пракурора і правесці расследаванне.



**1.** Што такое воінская дысцыпліна, на чым яна грунтуецца і якое яе значэнне? **2.** Раскажыце пра абавязкі ваеннаслужачага па захаванні воінскай дысцыпліны. **3.** Якія заахвочванні прымяняюцца да салдат? **4.** Раскажыце пра дысцыплінарныя спагнанні, якія накладаюцца на салдат.

## § 43. Воінскі калектыў

**Спецыфіка жыцця і побыту ваеннаслужачых тэрміновай службы.** З прызывам у армію юнак адрываецца ад сям'і, сваякоў і блізкіх, ад звыклых умоў жыцця і характару ўзаемаадносін. Ён павінен засвойваць іншы ўклад жыцця, прывыкаць да загаднай формы зносін, набываць новыя веды і навыкі, звязаныя з абавязкамі ваеннай службы.

Усё гэта — значныя псіхалагічныя нагрузкі. Многія салдаты на першых парах службы часта зведваюць пачуццё няўпэўненасці і нават боязі ў самых простых вайсковых сітуацыях. Тут многае залежыць ад таго, якім малады воін прыйшоў у армію, якая яго асабістая мэтавая ўстаноўка на службу і якімі валявымі і фізічнымі якасцямі ён валодае. Калі юнак псіхалагічна і фізічна моцны, то ён бязбольна адаптуецца да новых умоў жыцця, а ўстаноўлены для яго тэрмін ваеннай службы пройдзе хутка і лёгка. Значная роля ў гэтым адводзіцца дапрызыўнай падрыхтоўцы, якая закладвае падмурак поспеху ў далейшай воінскай дзейнасці маладых салдат.

Асаблівасць армейскага жыцця і побыту заключаецца яшчэ і ў тым, што вялікую частку свайго часу ваеннаслужачыя

знаходзяцца сярод таварышаў па службе. Навучальныя заняткі, баявое дзяжурства, абслугоўванне тэхнікі, спартыўна-масавыя і культурна-інфармацыйныя мерапрыемствы, ды і асабісты час праходзяць, у асноўным, у цесным кантакце з таварышамі па службе.

**Воінскі калектыў.** Ці працуюць людзі або вучацца, займаюцца спортам або захапляюцца творчасцю, іх жыццё праходзіць у калектывах — вытворчых брыгадах, вучнёўскіх класах, спартыўных секцыях або гуртках мастацкай самадзейнасці. Ваенная служба салдат і сяржантаў, прызваных на тэрміновую ваенную службу, праходзіць у воінскіх калектывах.

У першасных воінскіх калектывах — аддзяленнях, экіпажах, узводах, ротах — воіны знаходзяцца ў бесперапынным службовым, бытавым ці іншым узаемадзеянні і зносінах адзін з адным. Воінская дзейнасць спецыфічная, яна, як правіла, насычана вучэннямі, баявымі дзяжурствамі, трэніроўкамі, якія вядуцца ў любы час года і сутак, поўная цяжкасцей, а часам небяспек і рызыкі, найбольшая па маральна-фізічных і псіхалагічных нагрузках. У баі воінскі калектыў выконвае свае задачы сілай зброі і баявой тэхнікі, насіллем у адносінах да праціўніка.

*Воінскі калектыў — гэта арганізаваная група ваеннаслужачых, аб’яднаных на аснове воінскага абавязку для сумеснага рашэння службовых, навучальных або баявых задач.*

Воінскія калектывы адрозніваюць высокая ступень арганізаванасці і дысцыпліны, узаемная адказнасць і ўзаемадапамога, вайсковае таварыства, унутраная згуртаванасць, пастаянная гатоўнасць да калектыўнага подзвігу ў імя інтарэсаў Радзімы.

Прыкладам гераізму, мужнасці і найвышэйшай ступені калектывізму быў подзвіг Аляксандра Матросава. 23 лютага 1943 года радавы Матросаў ў баі за в. Чарнушкі (Пскоўская вобл.) закрыў сваім целам амбразуру кулямётнага дзота гітлераўцаў. Коштам свайго жыцця ён збярог ад гібелі многіх сваіх таварышаў і забяспечыў выкананне баявой задачы падраздзяленнем. У лістападзе 1944 года подзвіг Героя Савецкага Саюза А. Матросава паўтарыў ураджэнец Беларусі яфрэйтар Пётр Купрыянаў. Толькі на беларускай зямлі подзвіг Аляксандра Матросава ў гады Вялікай Айчыннай вайны паўтарылі 23 воіны Чырвонай Арміі.

Самаахвяраванне для спасення таварышаў было ўласціва нашай арміі ва ўсе часы.

У кнізе «Сыны» беларускі пісьменнік Мікалай Чаргінец так апісвае бой Мікалая Кобліка ў Афганістане:

«Турлакоў хутка перавязаў сябра, паклаў яго ніжэй і падпоўз да Кобліка.

— Коля, Банявічус паранены ў грудзі. Яго трэба тэрмінова да медыкаў, у роту.

Коблік бачыў, што душманы абклалі іх ужо з трох бакоў. Хлопец ліхаманкава шукаў выхад. Ён нямала паваяваў, і набыты вопыт падказваў яму адзінае рашэнне. Коблік, не губляючы часу, загадаў:

— Фелікс, пакінь мне аўтамат Банявічуса, тры поўныя ражкі і чатыры гранаты, а сам цягні яго да нашых. Я прыкрыю!

— А ты?

— Я прыкрыю! Утрох мы не зможам адысці. Не губляй час! Выконвай загад! Альгірдас жа крывёй зыходзіць!

Турлакоў сумна паглядзеў па баках, моўчкі паклаў перад Коблікам чатыры гранаты, вужакай праслізнуў да Банявічуса, які ўжо ляжаў без прытомнасці, узяў яго аўтамат і перадаў Кобліку.

— Коля, а можа, я застануся?

— Не цягні час, Фелікс, — рэзка сказаў Коблік...

І вось наступіў момант, калі ў яго руках засталася адзіная, апошняя граната... Мікалай дэманстратыўна кінуў аўтамат на камяні і чакаў, калі душманы наблізяцца ўшчыльную. Ён чуў іх радасныя галасы. Яны лічылі, што рускі здаецца.

І калі не менш як два дзясяткі душманаў апынуліся вакол яго, Мікалай падумаў: «Прабач мяне, матуля!» — і разняў руку».

Такі подзвіг здзейсніў у Афганістане беларус Аляксандр Чэпік, якому пасмяротна было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Праява таварыства і ўзаемадапамогі характэрная для воінскіх калектываў і ў мірныя дні — пры правядзенні баявых стрэльбаў або гранатакіданні, пераадоленні водных перашкод, паветраным дэсантаванні. Так, у ходзе вучэбнатрэніровачных заняткаў пры выкананні скачка з парашутам з-за рэзкай змены метэаралагічных умоў на вышыні 600 м

адбылося сутыкненне парашутыстаў, воінаў 5-й асобнай брыгады спецыяльнага прызначэння радавых Уладзіміра Тышкевіча і Андрэя Браўкова. У выніку купал парашута Браўкова патух. Тышкевіч у складанай пазаштатнай сітуацыі змог ухапіць патухлы купал парашута Браўкова і ўтрымліваў яго да самага прызямлення. Так Уладзімір выратаваў жыццё свайму таварышу. За мужнасць і адвагу, праяўленыя пры выкананні воінскага абавязку, Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь радавы Тышкевіч Уладзімір Генадзьевіч узнагароджаны медалём «За адвагу».



Калі таварыш у бядзе

Сучасныя арміі аснашчаны, у асноўным, зброяй калектыўнага карыстання. Такая зброя значна павысіла ўзаемазалежнасць воінаў пры вырашэнні баявых задач. Ад таго, як добра падрыхтаваны, дысцыплінаваны і адказны адзін член разліку залежыць выкананне пастаўленай задачы ўсім разлікам і ў цэлым усім падраздзяленнем. Недастатковае навучанне, недысцыплінаванасць або промах, да прыкладу,

механіка-вадзіцеля БМП можа прывесці да невыканання баявой задачы і гібелі ўсяго мотастралковага аддзялення. Памылка ў разліку планшатыста можа прывесці да невыканання баявой задачы ўсім зенітна-ракетным комплексам. Самая малая нядбайнасць пры правядзенні рэгламенту на ракеце можа прывесці не толькі да зрыву знішчэння важнай цэлі праціўніка, але і да несанкцыянаванага выбуху на сваёй стартавай пазіцыі. Таму для паспяховага вырашэння баявых задач неабходна стварыць згуртаваны калектыў, у якім асоба кожнага ваеннаслужачага магла б развівацца і ўплываць на фарміраванне здаровага клімату ў падраздзяленні.

**Ад школьнага калектыву да воінскага калектыву.** У выхаваўчай рабоце беларускай арміі вялікая ўвага надаецца стварэнню і ўмацаванню воінскіх калектываў, заснаваных на прынцыпах вайсковага таварыства. Але элементы ўзаемаадносін у воінскім калектыве закладваюцца яшчэ задоўга да армейскай службы — у школе, прафесійна-тэхнічным каледжы, тэхнікуме. Ужо ў школьным, класным калектыве юнак павінен спазнаць, што такое грамадскі абавязак, доўг, прыстойнасць, таварыства, узаемадапамога. Эгаізм, высакамернасць, безадказнасць непрымальныя ў воінскіх калектывах.

Вялікае значэнне ў выхаванні вучняў — будучых воінаў Узброеных Сіл і іншых воінскіх фарміраванняў мае навучальны прадмет «Дапрызыўная падрыхтоўка». У працэсе дапрызыўнай падрыхтоўкі юнакі не проста павінны навучыцца трапна страляць і бадзёра хадзіць строем. Галоўнае ў дапрызыўнай падрыхтоўцы — фарміраванне ў будучых воінаў маральна-псіхалагічнай гатоўнасці да выканання імі свайго грамадзянскага абавязку па абароне Рэспублікі Беларусь. Дапрызыўнік павінен быць гатовым стаць годным членам будучага воінскага калектыву.

На занятках па дапрызыўнай падрыхтоўцы навучэнцам прывіваюцца практычныя навыкі ў выкананні патрабаванняў агульнавоінскіх статутаў у прымальнай для прызыўнікоў форме і меры. З гэтай мэтай класы называюцца ўзводамі, кожны клас дзеліцца на два-тры аддзяленні. З ліку юнакоў, якія валодаюць высокімі маральна-псіхалагічнымі і лідэрскімі якасцямі, прызначаюцца камандзіры ўзводаў і аддзяленняў. На кожным занятку павінны выконвацца

патрабаванні агульнавоінскіх статутаў пры дзеяннях, адказах, пры звароце навучэнцаў да кіраўніка заняткаў (па воінскім званні), прывіваюцца дысцыплінаванасць і падцягнутасць, выхоўваюцца воінская ветлівасць, калектывізм і пачуццё павагі да старэйшых і да сваіх таварышаў.



**1.** У чым заключаецца спецыфіка жыцця і побыту ваеннаслужачых тэрміновай службы? **2.** Што такое воінскі калектыў? Што адрознівае воінскія калектывы? **3.** Як вы разумееце праяўленне таварыства ў баі? Прывядзіце прыклады баявога таварыства. **4.** Чаму калектыўная зброя прад'яўляе больш высокія патрабаванні да воінскіх калектываў? **5.** Ахарактарызуйце калектыў вашага класа (вучэбнай групы).

## § 44. Адаптацыя ў воінскім калектыве

**Адаптацыя.** Сацыяльна-псіхалагічная адаптацыя — гэта прыстасаванне чалавека да новых абставін, да ўзаемаадносін з новымі людзьмі, новым калектывам. Адаптацыя існуе не толькі ў воінскім асяроддзі, але і ў любым калектыве, аднак у воінскім калектыве ў сілу яго спецыфічнасці працэс адаптацыі выяўлены найбольш ярка.

Адаптацыйны перыяд у маладых воінаў праходзіць па-рознаму. Цяжкасці з адаптацыяй, як правіла, узнікаюць у юнакоў з ярка выяўленым эгаізмам, неабавязковых, неахайных і не звыклых працаваць. Істотнымі пры адаптацыі з'яўляюцца таксама нервова-псіхічная няўстойлівасць, слабое фізічнае развіццё, нізкі інтэлект, выхаванне ў «цяплічных» умовах альбо слабое здароўе маладога воіна. Такія ваеннаслужачыя вылучаюцца на агульным фоне падраздзялення сваім неахайным знешнім выглядам, няўпэўненасцю, прыгнечанасцю, адсутнасцю сяброў. Гэта выклікае павышэнне патрабавальнасці да іх з боку камандзіраў, папрокі з боку таварышаў, што ў сваю чаргу яшчэ больш абцяжарвае працэс адаптацыі ў воінскім калектыве. Нармальнай службе маладых салдат часам замінае і празмерная апека з боку сваякоў. У той жа час працяглы, нічым не патлумачаны перапынак у перапісцы і сустрэчах з роднымі, каханымі часта становіцца крыніцай душэўных хваляванняў і перажыванняў.

Працэс адаптацыі да новых абставін паскараецца, калі чалавек папярэдне азнаёмлены з магчымымі сітуацыямі

будучай дзейнасці, атрымаў веды і звесткі, неабходныя для правільнай арыенціроўкі. Вялікую дапамогу ў гэтым будучым воінам можа аказаць дапрызыўная падрыхтоўка. Веданне статутных правілаў і патрабаванняў, пастаяннае выкананне іх у паўсядзённым жыцці з'яўляецца адным з важнейшых фактараў, якія дазваляюць паспяхова адаптавацца ў новых для юнака ўмовах ваеннай службы.

Для паспяховай адаптацыі неабходна вучыцца кіраваць сваімі паводзінамі, умець выпрацоўваць гатоўнасць да мэтазгодных дзеянняў у новых абставінах жыцця.

Як заняць годнае месца ў калектыве падраздзялення, наладзіць добрыя адносіны з калегамі, знайсці сярод іх сяброў?

Вось некалькі парад, якія могуць спатрэбіцца:

- не замыкайцеся ў сабе, з сябрамі заўсёды лягчэй;
- па магчымасці хутчэй даведайцеся пра сваіх таварышаў па службе. У размове называйце іх па імені;
- шчыра цікаўцеся жыццём вашых новых таварышаў па арміі, іх захапленнямі, радасцямі і праблемамі. Гэта вас зблізіць;
- зблізіўшыся з адным ці некалькімі калегамі, не ізалюйцеся ад астатняга калектыву;
- не рэкламуйце празмерна свае вартасці, а пра вартасці таварыша гаварыць не саромейцеся;
- пры сустэчах часцей усміхайцеся таварышу. Шчырая ўсмешка здымае недавер;
- будзьце прынцыповыя, але пазбягайце канфліктаў. Цвёрда памятайце, што сілавое рашэнне канфліктных сітуацый у арміі — воінскае злачынства;
- і галоўнае, паспрабуйце ў мінімальна кароткія тэрміны асвоіць функцыянальныя абавязкі і трывала заняць месца ў баявым страі. Працавітасць і высокая адказнасць — гарант вашага аўтарытэту сярод камандзіраў і таварышаў па службе.

Вельмі важным прынцыпам і правілам армейскага жыцця з'яўляюцца шчырыя адносіны паміж падначаленым і камандзірам. З пытаннямі службовымі і асабістымі, вялікімі і малымі, грамадскімі альбо інтымнымі, якія тычацца толькі вас, вашых таварышаў або начальнікаў, — ідзіце без ваганняў і сумненняў да камандзіра, намесніка камандзіра па выхаваўчай рабоце, псіхолага і, вядома ж, да свайго надзейнага сябра.

**Процідзеянне парушэнняў статутных правілаў узаемаадносін.** У любым армейскім калектыве служаць людзі, з якіх можна браць прыклад. Але некаторыя юнакі прыходзяць у армейскі строй не толькі фізічна нямоглымі, але і маральна распушчанымі, з ілжывым паняццем аб таварыстве. У падраздзяленні малады воін можа сустрэцца з калегамі, якія пярэчаць устаноўленаму воінскаму парадку, парушаюць устаноўленыя правілы ўзаемаадносін паміж ваеннаслужачымі. Нестатутныя ўзаемаадносіны, якія часам называюць «дзедаўшчына», могуць выяўляцца ў маральных і фізічных знявагах, працах па начах або выкананні разнастайных рытуалаў з ліку прадугледжаных негатыўнымі «традыцыямі».

Надзейным заслонам разнастайным нестатутным ўзаемаадносінам з'яўляецца здаровы воінскі калектыў. Ён уздзейнічае на кожнага свайго члена шляхам прад'яўлення да яго пэўных патрабаванняў, пастаяннага кантролю і ацэнкі яго ўчынкаў. Вельмі важнымі тут з'яўляюцца калектыўнае меркаванне, калектыўны настрой і здаровыя ўнутрыкалектыўныя традыцыі.

У турэмных законах жыцця «па паняццях» самым вялікім злом лічыцца данос, а таму і са «стукачамі» на зоне злачынны свет распраўляецца з асаблівай жорсткасцю. З'ява нестатутных узаемаадносін, ці «дзедаўшчыны», таксама грунтуецца на прынцыпе «не стукаць». Нестатутных узаемаадносін не будзе, калі камандзіры будуць ведаць усё, і добрае, і дрэннае, у паводзінах і ўчынках сваіх падначаленых. Камандзір абавязаны і аб'ектыўна зацікаўлены ў падтрыманні статутнага парадку ў падраздзяленні і адсутнасці канфліктаў паміж ваеннаслужачымі. Ён павінен прымяніць усю наяўную ў яго ўладу, аж да ўзбуджэння крымінальнай справы ў выпадку супрацьпраўных дзеянняў, для навядзення статутнага парадку ў падраздзяленні. У беларускай арміі практычна ліквідаваны прычыны для праявы «дзедаўшчыны», створаны ўмовы для навядзення статутнага парадку ў падраздзяленнях і ўстанаўлення нармальных узаемаадносін паміж ваеннаслужачымі ў воінскіх калектывах.

У рамане Вячаслава Варламава «Гонар пагон» апісаны такі эпізод:

«У лазневы дзень салдаты, памыўшыся, атрымлівалі ў каптэнармуса ручнік і чыстую бялізну. У нейкі момант утварылася невялікая чарга. Але вось з мыйнай выйшаў стараслужбовец салдат і, абыходзячы чаргу, падышоў да Уцеўліева за бялізнай.

— Ты не бачыш, усе ў чарзе стаяць? Стань у чаргу, — неабыякава-спакойна сказаў яму Уцеўліеў.

— Чаго? Ты што, яшчэ не ўцяміў, што я дэмбель?

— Без чаргі я нікому не дам.

— Ты і сапраўды хочаш зарабіць па мордзе?

Тут Уцеўліеў рашуча выйшаў з-за свайго прылаўка, пакінуўшы без прыгляду кальсоны і кашулі.

— Пойдзем да таварыш маёр.

— Ды пайшоў ты, — ужо не так агрэсіўна прамямліў «дэмбель». Усе ўбачылі ў Ардагула не спалох, а рашучасць і разумелі, што ён зараз пойдзе не даносіць, а сумленна дакладваць. Уцеўліеў накіраваўся да Андрэя.

— Таварыш маёр. Ён не хоча стаць у чаргу, як усе ў чарзе стаяць. Ён лепш за іншых, так? Ён сказаў мне дасць па башцэ.

Калі Андрэй прыйшоў у лазню, там за атрыманнем бялізны ўжо стаяла вялікая чарга, амаль у хвасце якой быў прыціхлы «дэмбель».

Праз некаторы час усе салдаты, у тым ліку і «дэмбелі», прывыклі да прынцыповасці худзенькага, заўсёды падцягнутага маладога салдата Уцеўліева Ардагула».

Апісаны ў рамане эпізод не з'яўляецца мастацкай выдумкай, а заснаваны на рэальным факце з армейскага жыцця аўтара.

Калі вы сфармулявалі выразныя задачы на перыяд ваеннай службы і выпрацавалі канкрэтныя шляхі іх вырашэння, то зможаце ў кароткія тэрміны адаптавацца да суровага армейскага жыцця. А вашымі памочнікамі ў гэтым будуць воля і настойлівасць, упэўненасць у сабе, добразычлівасць, шчырасць і, вядома ж, вашы новыя армейскія сябры.



**1.** Што такое адаптацыя? У чым заключаецца адаптацыя маладога воіна ў воінскім калектыве? **2.** Што можа перашкодзіць маладому воіну бязбольна адаптавацца ў воінскім калектыве? **3.** Што спрыяе паспяховай адаптацыі маладога воіна ў воінскім калектыве? **4.** Сфармулюйце для сябе мэты і задачы будучай ваеннай службы.

## § 45. Сутачны нарад роты і абавязкі днявальнага

У кожным падраздзяленні і воінскай часці прызначаецца сутачны нарад. Сутачны нарад падтрымлівае ўнутраны парадак, ахоўвае асабовы склад, узбраенне, ваенную тэхніку і боепрыпасы, памяшканні і маёмасць воінскай часці (падраздзялення). Сутачны нарад павінен таксама кантраляваць стан спраў у падраздзяленнях і своечасова прымаць захады па папярэджанні правапарушэнняў. У абавязкі сутачнага нарада ўваходзіць выкананне іншых абавязкаў па ўнутранай службе. Сутачны нарад аб'яўляецца ў загадзе па воінскай часці.

У сутачны нарад роты прызначаюцца:

- дзяжурны па роце;
- днявальныя па роце.

Колькасць змен днявальных у ротах вызначаецца камандзірам воінскай часці. Дзяжурны па роце і днявальныя ўзбройваюцца штыкамі-нажамі ў ножнах. Штык-нож павінен знаходзіцца на паясным рамяні з левага боку на шырыню далоні ад спражкі.

Дзяжурны па роце прызначаецца з сяржантаў і, як выключэнне, з ліку найбольш падрыхтаваных салдат. Ён адказвае за падтрыманне ўнутранага парадку ў роце і дакладнае выкананне распарадку дня, за захаванасць зброі, скрынь з боепрыпасамі, маёмасці роты, асабістых рэчаў салдат і сяржантаў і за правільнае нясенне службы днявальнымі. Дзяжурны па роце павінен мець на левым баку грудзей нагрудны знак або на левым рукаве павязку з чырвонай тканіны з надпісам «Дзяжурны па роце».

Днявальны па роце прызначаецца з салдат. Ён адказвае за захаванасць зброі, шафаў з пісталетамі, скрынь з боепрыпасамі, якія знаходзяцца пад яго аховай, маёмасці роты і асабістых рэчаў салдат і сяржантаў. Днявальны па роце падпарадкоўваецца дзяжурнаму па роце.

Чарговы днявальны па роце нясе службу ўнутры казарменнага памяшкання каля ўваходных дзвярэй, паблізу пакоя для захавання зброі. Ён абавязаны:

- нікуды не адлучацца з памяшкання роты без дазволу дзяжурнага па роце; пастаянна назіраць за пакоем для захавання зброі;

- не прапускаць у памяшканне чужых асоб, а таксама не дапускаць вынасу з казармы зброі, боепрыпасаў, маёмасці і рэчаў без дазволу дзяжурнага па роце;
- своечасова дакладваць дзяжурнаму па роце аб усіх здарэннях у роце, аб парушэнні ўстаноўленых статутамі правілаў узаемаадносін паміж салдатамі або сяржантамі роты, аб заўважаных няспраўнасцях і парушэннях патрабаванняў пажарнай бяспекі, прымаць захады па іх ліквідацыі;
- будзіць асабовы склад пры агульным пад'ёме, а таксама ноччу ў выпадку трывогі або пажару;
- своечасова падаваць каманды згодна распарадку дня;
- сачыць за чысцінёй і парадкам у памяшканнях і патрабаваць іх выканання ад ваеннаслужачых;
- не дазваляць ваеннаслужачым у халодны час, асабліва ноччу, выходзіць з памяшкання неапранутымі;
- сачыць за тым, каб ваеннаслужачыя курылі, чысцілі абутак і адзенне толькі ў адведзеных для гэтага памяшканнях або месцах;
- па прыбыцці ў роту прамых начальнікаў ад камандзіра роты і вышэй і дзяжурнага па воінскай часці падаваць каманду «Смірна»; па прыбыцці ў роту іншых афіцэраў роты, а таксама старшыны роты і ваеннаслужачых не сваёй роты выклікаць дзяжурнага. Напрыклад: «Дзяжурны па роце, на выхад».

Чарговаму днявальнаму забараняецца пакідаць месца нясення службы, садзіцца, здымаць рыштунак і расшпільваць адзенне.

Днявальны свабоднай змены абавязаны падтрымліваць чысціню і парадак у памяшканнях роты і нікуды не адлучацца без дазволу дзяжурнага па роце; застаючыся за дзяжурнага па роце, выконваць яго абавязкі.

Для выканання днявальным па роце сваіх абавязкаў у казарменным памяшканні абсталёўваецца месца, якое ўключае: стэнд з дакументацыяй, сродкі сувязі (тэлефон, селектар, радыёстанцыя), гадзіннік, рэзервовыя крыніцы асвятлення. У сутачнага нарада роты павінна быць наступная дакументацыя: інструкцыі дзяжурнаму і днявальнаму па роце, распарадак дня, табліца пазыўных тэлефонных станцый і службовых асоб, інструкцыя па патрабаваннях пажарнай бяспекі, вопіс дакументаў і маёмасці, кніга прыёму і здачы

дзяжурства, камплект агульнавоінскіх статутаў. Акрамя таго, у дзяжурнага па роце павінны быць: пералік тыпавых каманд і сігналаў, якія падаюцца дзяжурным (днявальным); спіс ваеннаслужачых роты, якія пражываюць па-за казармай, з указаннем адрасоў, тэлефонаў і спосабаў выкліку праз пасыльных; узоры формы адзення для ранішняй фізічнай зарадкі; схема ўчастка тэрыторыі, замацаванай за ротай для ўборкі; кнігі выдачы зброі і боепрыпасаў, запісы хворых і тых, каго рыхтуюць да звальнення; камплект ключоў ад замкоў запальвання і люкаў баявых машын у апячатанай скрыні разам з пуцявымі лістамі на выпадак трывогі.

Дзяжурнаму па роце дазваляецца адпачываць лежачы (спаць) за тэрмін дзяжурства не больш за 4 гадзіны ва ўстаноўлены камандзірам часці час, не здымаючы рыштунку і не распранаючыся. Свабоднай змене днявальных па чарзе дазваляецца распранацца і адпачываць лежачы (спаць) толькі ад адбою да пад'ёму. Ваеннаслужачыя, якія змяніліся з сутачнага нарада, вызваляюцца ад заняткаў і працы ў дзень змены.



**1.** Для чаго прызначаецца сутачны нарад роты, які яго склад і ўзбраенне? **2.** Раскажыце пра абавязкі днявальнага па роце. **3.** Дзе і чым абсталёўваецца месца днявальнага па роце? **4.** Выканайце дзеянні днявальнага па роце, калі прыбывае ў роту камандзір роты, ваеннаслужачы не сваёй роты, дзеянні пры вынасе маёмасці з размяшчэння роты, у выпадку пажару і трывогі.

## § 46. Праходжанне тэрміновай ваеннай службы салдатамі і сяржантамі

Папаўненне, якое прыбыло ў воінскую часць, размяркоўваецца па падраздзяленнях з улікам дзелавых якасцей кожнага ваеннаслужачага, стану яго здароўя, характарыстыкі і заключэння аб прафесійнай годнасці, выдадзеных у ваенным камісарыяце.

У прызначаны час воінская часць з аркестрам выстройваецца ў пешым страі і праводзіцца рытуал размеркавання прыбыўшага папаўнення па падраздзяленнях. Рытуал заканчваецца праходжаннем воінскай часці ўрачыстым маршам.

**Размяшчэнне ваеннаслужачых.** Ваеннаслужачыя тэрміновай службы размяшчаюцца ў казармах. Для кожнай роты ў казарме павінны быць прадугледжаны: спальнае памяшканне; пакой вольнага часу і інфармацыі; канцылярыя роты; пакой для захоўвання зброі; пакой (месца) для чысткі зброі. У казарме таксама павінны быць: пакой (месца) для спартыўных заняткаў; пакой бытавога абслугоўвання; камора для захоўвання маёмасці роты і асабістых рэчаў ваеннаслужачых; пакой (месца) для курэння і чысткі абутку; сушылка для абмундзіравання і абутку; пакой для мыцця; душавая; туалет.

Размяшчэнне ваеннаслужачых у спальных памяшканнях ажыццяўляецца з разліку не менш за 12 м$^3$ аб'ёму паветра на аднаго чалавека. Ложкі ў спальных памяшканнях ўсталёўваюцца так, каб каля кожнага з іх або двух ссунутых разам заставалася месца для прыложкавых тумбачак, а паміж шэрагамі ложкаў было вольнае месца, неабходнае для пастраення асабовага складу.

Для ваеннаслужачых, залічаных за здзейсненыя імі подзвігі ў спісы роты навечна або ганаровымі салдатамі, у спальным памяшканні на бачным месцы усталёўваецца ложак, які пастаянна ўтрымліваецца ва ўзорным стане. Над ложкам у рамцы вывешваецца партрэт героя і апісанне яго подзвігу.

Пасцелі павінны складацца з матрацаў, прасцін, падушак з навалачкамі і коўдраў. Яны павінны быць аднолькова запраўленыя. У прыложкавай тумбачцы могуць захоўвацца туалетныя і брытвенныя прыналежнасці, падкаўнерыкі, кнігі, сшыткі, фотаальбом, пісьмовыя прылады, дробныя прадметы асабістага карыстання, прылады для чысткі адзення і абутку.

Для правядзення заняткаў у брыгадзе (палку) абсталёўваюцца неабходныя класы. У кожнай воінскай часці ёсць музей (пакой) баявой славы і вядзецца Кніга гонару воінскай часці.

Месцы для захоўвання ўсіх відаў абмундзіравання замацоўваюцца за ваеннаслужачымі і пазначаюцца ярлычкамі з указаннем воінскага звання, прозвішча і ініцыялаў ваеннаслужачага.

Стралковая зброя і боепрыпасы захоўваюцца ў падраздзяленнях у асобным пакоі, які знаходзіцца пад пастаяннай



Спальнае памяшканне



Пакой для ўмывання



У салдацкай сталовай



Абедзенная зала



Спартыўны вугалок



Клуб

Размяшчэнне ваеннаслужачых

аховай асоб сутачнага нарада, на вокнах ўстанаўліваюцца металічныя рашоткі.

Рукамыйнікі ставяцца з разліку адзін кран на 5—7 чалавек і на роту не менш як дзве нажныя ванны з праточнай вадой, а таксама абсталёўваецца месца для мыцця абмундзіравання.

Пакой бытавога абслугоўвання забяспечаны сталамі для прасавання абмундзіравання, прасамі, люстэркамі, інвентаром і інструментам для стрыжкі валасоў, выканання бягучага рамонту адзення і абутку, фурнітурай і рамонтнымі матэрыяламі.

Узімку ў жылых памяшканнях падтрымліваецца тэмпература паветра не ніжэй за +18 °С. Памяшканні казармы праветрываюць: спальныя пакоі — перад сном і пасля сну, класы — перад заняткамі і ў перапынках паміж імі.

Казармы абсталююцца поўным і дзяжурным (няяркі цёмна-сіні колер) асвятленнем. У спальных памяшканнях у гадзіны сну пакідаецца дзяжурнае асвятленне. Каля ўваходаў у казармы, у пакоях для захоўвання зброі, калідорах, на лесвіцах, у туалетах з надыходам цемры і да світання падтрымліваецца поўнае асвятленне.

Усе будынкі і памяшканні, а таксама тэрыторыя воінскай часці павінны заўсёды ўтрымлівацца ў чысціні і парадку. Курэнне дазваляецца толькі ў спецыяльна адведзеных і абсталяваных пакоях або месцах. Штодзённая ўборка памяшканняў праводзіцца чарговымі прыбіральшчыкамі пад непасрэдным кіраўніцтвам дзяжурнага па роце. Падтрыманне чысціні ў памяшканнях падчас заняткаў ускладаецца на днявальных. Акрамя штодзённай уборкі адзін раз у тыдзень праводзіцца агульная ўборка ўсіх памяшканняў.

**Размеркаванне часу і паўсядзённы парадак.** Мерапрыемствы, непасрэдна звязаныя з баявой і мабілізацыйнай гатоўнасцю воінскай часці, выконваюцца па загадзе яе камандзіра ў любы час сутак.

У паўсядзённым жыцці ваеннаслужачым тэрміновай службы ўстанаўліваецца шасцідзённы службовы тыдзень з адным выхадным днём. Размеркаванне часу ў воінскай часці на працягу сутак, а па некаторых палажэннях на працягу тыдня, ажыццяўляецца распарадкам дня.

У распарадку дня павінен быць прадугледжаны час для правядзення ранішняй фізічнай зарадкі, ранішняга і вячэрняга

туалету, ранішняга агляду, вучэбных заняткаў і падрыхтоўкі да іх. Распарадкам дня ўказваецца час змены спецыяльнага адзення, чысткі абутку і мыцця рук перад прыёмам ежы, прыёму ежы, догляду за ўзбраеннем і ваеннай тэхнікай. У распарадку дня прадугледжваецца таксама час для выхаваўчай і спартыўна-масавай работы, інфармавання асабовага складу, праслухоўвання радыё і прагляду тэлепраграм, прыёму хворых у медыцынскім пункце, асабістых патрэб ваеннаслужачых, вячэрняй прагулкі, паверкі і 8 гадзін для сну.

Пасля агульнага пад'ёму роты праводзіцца ранішняя фізічная зарадка, уборка памяшканняў і тэрыторыі, запраўка ложкаў, ранішні туалет і ранішні агляд.

Увечары, перад вячэрняй паверкай, праводзіцца вячэрняя прагулка, падчас якой асабовы склад выконвае страявыя песні ў падраздзяленнях. Пасля вячэрняй паверкі ва ўстаноўлены час падаецца сігнал «Адбой».

У гадзіны, устаноўленыя распарадкам дня, праводзяцца навучальныя заняткі. *Баявая падрыхтоўка з'яўляецца асноўным зместам паўсядзённай дзейнасці ваеннаслужачых у мірны час.* Пасля заканчэння заняткаў і вучэнняў праводзяцца чыстка зброі, тэхнічнае абслугоўванне ўзбраення і ваеннай тэхнікі.

Прыгатаванне ежы павінна быць завершана за 30 хвілін да таго часу, які ўстаноўлены распарадкам дня для яе прыёму. Салдаты і сяржанты павінны прыбываць у сталовую ў страі, у вычышчаных адзенні і абутку.

Салдаты і сяржанты тэрміновай службы звальняюцца з размяшчэння воінскай часці камандзірам роты ва ўстаноўленыя дні і гадзіны. Звальненне ажыццяўляецца ў парадку чарговасці. Выезд ваеннаслужачых тэрміновай службы за межы гарнізонаў адбываецца з дазволу камандзіра воінскай часці.

**Матэрыяльнае забеспячэнне.** Нормы і парадак забеспячэння ваеннаслужачых харчаваннем устанаўліваюцца Урадам Рэспублікі Беларусь. Гарачая ежа ў воінскіх часцях выдаецца тры разы ў суткі — на сняданак, абед і вячэру. Прамежкі паміж прыёмамі ежы не павінны перавышаць 7 гадзін. Ежа ў сталовых воінскіх часцей рыхтуецца стро-

га па раскладцы прадуктаў. У палявых умовах харчаванне арганізуецца з палявых кухняў.

Салдаты і сяржанты забяспечваюцца рэчавай маёмасцю: абмундзіраваннем, абуткам, сподняй бялізнай, пасцельнымі і цёплымі рэчамі, спецыяльным адзеннем і рыштункам.

Ваеннаслужачых за кошт дзяржавы забяспечваюць грашамі. Грашовае забеспячэнне салдат і сяржантаў тэрміновай службы складае не менш як палова мінімальнай заработнай платы і залежыць ад пасад, якія яны займаюць.

**Адпачынкі.** Ваеннаслужачым тэрміновай службы даюцца водпускі: за ўвесь перыяд тэрміновай службы, па хваробе, па сямейных абставінах.

За ўвесь перыяд тэрміновай службы водпуск даецца працягласцю: салдатам — 20 сутак, сяржантам — 15 сутак; ваеннаслужачым з вышэйшай адукацыяй пры працягласці службы 12 месяцаў: салдатам — 5 сутак, сяржантам — 10 сутак, не ўлічваючы час, неабходны для праезду ад месца правядзення водпуску і назад. У парадку заахвочвання працягласць водпуску можа быць павялічана на тэрмін да 5 сутак. Акрамя таго, за выкананне абавязкаў ва ўмовах прафесійнай шкоднасці прадугледжаны дадатковы водпуск.

Водпуск па сямейных абставінах даецца на тэрмін да 10 сутак, не ўлічваючы час, неабходны для праезду да месца правядзення водпуску і назад.



**1.** Што вам вядома аб размяшчэнні ваеннаслужачых тэрміновай службы? **2.** Як размяркоўваецца службовы час салдат і сяржантаў тэрміновай службы? **3.** У чым заключаецца матэрыяльнае забеспячэнне салдат і сяржантаў тэрміновай службы? **4.** Якія і якой працягласцю водпускі даюцца салдатам і сяржантам тэрміновай службы?



# РАЗДЗЕЛ IX
# Радыяцыйная, хімічная і біялагічная ахова

На ўзбраенні армій некаторых дзяржаў маецца ядзерная і іншая зброя масавага паражэння. Паражальныя фактары і абарона ад такой зброі спецыфічныя. Рэспубліка Беларусь адмовілася ад валодання ядзернай зброяй, выступае за забарону зброі масавага паражэння, але яе армія павінна быць гатова да вядзення баявых дзеянняў з праціўнікам, які выкарыстаўвае як звычайныя сродкі паражэння, так і ядзерную зброю і іншыя сродкі масавага паражэння. Магчымасць прымянення праціўнікам зброі масавага паражэння прадугледжваецца і грамадзянскай абаронай Рэспублікі Беларусь.

## § 47. Зброя масавага паражэння

Да зброі масавага паражэння адносяцца: ядзерная, хімічная, біялагічная.

**Ядзерная зброя.** Ядзерная зброя ўключае ядзерныя боеприпасы і сродкі дастаўкі іх да цэлі. Сродкамі дастаўкі ядзерных боеприпасаў да цэлі могуць быць ракеты, авіяцыя і артылерыя.

Паражальнае дзеянне ядзернай зброі заснавана на выкарыстанні ўнутрыядзернай энергіі, якая выдзяляецца пры выбуху. Магутнасць ядзернага зараду выражаецца ў трацілавым эквіваленце, гэта значыць колькасцю звычайнага выбуховага рэчыва, пры выбуху якога выдзяляецца столькі ж энергіі, колькі і пры выбуху ядзернага боеприпасу. Відамі ядзерных выбухаў з'яўляюцца: вышынныя, паветраныя, наземныя (надводныя) і падземныя (падводныя). Пункт, у якім адбыўся выбух, называецца цэнтрам, а яго праекцыя на паверхню зямлі (вады) — эпіцэнтрам ядзернага выбуху.

Паражальнае дзеянне ядзернага выбуху залежыць у асноўным ад магутнасці боеприпасу і віду ядзернага выбуху.

Асноўнымі паражальнымі фактарамі ядзернага выбуху з'яўляюцца: ударная хваля, светлавое выпраменьванне,

пранікальная радыяцыя, радыеактыўнае забруджванне і электрамагнітны імпульс.

***Ударная хваля*** — асноўны паражальны фактар ядзернага выбуху. Большасць разбурэнняў і пашкоджанняў, а таксама паражэнняў людзей абумоўлена, як правіла, яе ўздзеяннем.

Ціск у цэнтры выбуху ў першыя імгненні дасягае мільёнаў атмасфер. Утвораныя распаленыя газы са звышгукавой скорасцю распаўсюджваюцца ва ўсе бакі, утвараючы зону высокага ціску. Пярэдняя мяжа сціснутага пласта паветра называецца фронтам ударнай хвалі. Ступень паражэння ўдарнай хваляй людзей і розных аб'ектаў залежыць ад магутнасці і віду выбуху, адлегласці да цэнтра выбуху, рэльефу мясцовасці і становішча аб'ектаў на ёй.

Ад магутнасці ядзернага выбуху залежаць скорасць і далёкасць распаўсюджвання ўдарнай хвалі. Пры выбуху боепрыпасу магутнасцю 20 кт ударная хваля праходзіць 1 км прыкладна за 2 с, 2 км — за 5 с, 3 км — за 8 с. За гэты час чалавек, убачыўшы ўспышку, можа схавацца і гэтым зменшыць паражэнне ўдарнай хваляй або наогул пазбегнуць яго.

***Светлавое выпраменьванне*** — гэта паток прамяністай энергіі, які ўключае бачныя, а таксама ўльтрафіялетавыя і інфрачырвоныя прамяні. Яно выдзяляецца практычна імгненна з пачаткам ядзернага выбуху і доўжыцца ў залежнасці ад магутнасці выбуху да 20 с. Светлавое выпраменьванне здольнае выклікаць апёкі адкрытых участкаў цела, паражаць вочы, асмальваць або запальваць розныя матэрыялы. Яно не пранікае праз непразрыстыя матэрыялы, таму любая перашкода, здольная стварыць цень, абараняе ад светлавога выпраменьвання. Значна аслабляецца светлавое выпраменьванне ў задымленым ці запыленым паветры, у туман, дождж, снегапад.

***Пранікальная радыяцыя*** — гэта паток гама-прамянёў і нейтронаў, якія распаўсюджваюцца з зоны ядзернага выбуху. Працягласць дзеяння пранікальнай радыяцыі 10—15 с. Праходзячы праз жывую тканіну, гама-прамяні і нейтроны іанізуюць атамы і малекулы яе клетак. Іанізацыя спрыяе біялагічным працэсам, што прыводзяць да парушэння жыццёвых функцый асобных органаў, развіцця прамянёвай хваробы.

Падчас праходжання праз любое асяроддзе дзеянне пранікальнай радыяцыі аслабляецца. Здольнасць матэрыялаў аслабляць гама-выпраменьванне і паток нейтронаў характарызуецца

пластом палавіннага аслаблення, гэта значыць таўшчынёй матэрыялу, які аслабляе дзеянне выпраменьвання ў 2 разы. Гама-выпраменьванне лепш аслабляецца цяжкімі, а нейтроны — лёгкімі матэрыяламі. Акопы, бліндажы, шчыліны, бронетэхніка значна памяншаюць уздзеянне пранікальнай радыяцыі, а сховішчы і супрацьрадыяцыйныя ўкрыцці практычна цалкам абараняюць ад яе.

***Радыеактыўнае заражэнне.*** Крыніцай радыеактыўнага заражэння пры ядзерным выбуху з'яўляюцца прадукты дзялення ядзернага паліва, а таксама радыеактыўныя ізатопы, якія ўтварыліся ад уздзеяння нейтронаў на рэчыва ў раёне выбуху (наведзеная актыўнасць), і частка ядзернага паліва, што не прарэагавала. Усе гэтыя радыеактыўныя прадукты змешваюцца з часцінкамі грунту, уцягнутага ў святлівую зону выбуху, і пасля ахаладжэння ўтвараюць радыеактыўнае воблака. Воблака падымаецца на шматкіламетровую вышыню, а затым рухаецца па ветры са скорасцю 25—100 км/ч. Спачатку з воблака выпадаюць найбольш буйныя часцінкі, па меры аддалення ад месца выбуху — больш дробныя, узровень радыяцыі паступова зніжаецца. Радыеактыўныя часцінкі, якія выпалі на зямлю, утвараюць зону радыеактыўнага заражэння (след), даўжыня якой можа дасягаць некалькіх сотняў кіламетраў.

***Электрамагнітны імпульс*** — гэта электрычныя і магнітныя палі, што ўзнікаюць у выніку іанізацыі атамаў навакольнага асяроддзя гама-выпраменьваннем ядзернага выбуху. Паражальнае дзеянне электрамагнітнага імпульсу выяўляецца перш за ўсё ў адносінах да радыёэлектроннай і электратэхнічнай апаратуры.

***Хімічная зброя.*** Паражальнае дзеянне хімічнай зброі заснавана на выкарыстанні таксічных уласцівасцей некаторых хімічных рэчываў. Да хімічнай зброі належаць баявыя атрутныя рэчывы і сродкі іх дастаўкі да цэлі.

Атрутныя рэчывы (АР) — гэта такія хімічныя злучэнні, якія здольныя паражаць людзей і жывёл, заражаць мясцовасць. АР могуць прымяняцца ў кропельна-вадкім стане, у выглядзе газу (пару) або аэразолю (туману, дыму).

АР могуць паражаць арганізм праз органы дыхання і стрававання, скуру і вочы. Па дзеянні на арганізм чалавека АР падзяляюцца на нервова-паралітычныя, скурнанарыўныя, задушлівыя, агульнаатрутныя, раздражняльныя і псіхахімічныя.

АР ***нервова-паралітычнага дзеяння*** (зарын, заман, VX — Ві-Ікс). Гэта самыя небяспечныя АР, бясколерныя і амаль без паху вадкасці. Для паражэння чалавека дастаткова вельмі малой іх колькасці. Яны паражаюць нервовую сістэму праз органы дыхання, у парападобным і кропельна-вадкім стане праз скуру, а таксама калі трапляюць у страўнікава-кішачны тракт з ежай і вадой. Устойлівасць іх летам больш за суткі, зімой некалькі тыдняў і нават месяцаў. Прыкметамі паражэння з'яўляюцца: слінацячэнне, звужэнне зрэнак, цяжкаватае дыханне, млоснасць, ірвота, сутаргі, параліч.

АР ***скурна-нарыўнога дзеяння*** (іпрыт). У кропельна-вадкім і парападобным стане яны паражаюць скуру і вочы, пры ўдыханні пароў — дыхальныя шляхі і лёгкія, калі трапляюць з ежай і вадой — органы стрававання. Характэрнай асаблівасцю іпрыту з'яўляецца наяўнасць перыяду скрытага дзеяння, паражэнне выяўляецца не адразу, а праз 4 і больш гадзін. Прыкметамі паражэння з'яўляюцца пачырваненне скуры, утварэнне дробных вадырыкаў, якія затым зліваюцца ў буйныя і праз двое-трое сутак лопаюцца, пераходзячы ў язвы, якія цяжка загойваюцца. Паражэнне іпрытам выклікае і агульнае атручванне арганізма, якое праяўляецца ў павышэнні тэмпературы, нядужанні.

АР ***удушлівага дзеяння*** (фасген). Фасген дзейнічае на органы дыхання. Гэта бескаляровы газ з пахам, які нагадвае пах прэлага сена ці гнілой садавіны, няўстойлівае АР. Прыкметамі паражэння фасгенам з'яўляюцца: саладкаваты прысмак у роце, кашаль, галавакружэнне, слёзацячэнне, агульная слабасць. Гэтыя з'явы знікаюць пасля выхаду з ачага заражэння — надыходзіць перыяд скрытага дзеяння. У гэты перыяд, які доўжыцца 4—6 гадзін, развіваецца ацёк лёгкіх. Затым стан паражонага рэзка пагаршаецца: з'яўляюцца кашаль з мноствам мокроты, пасіненне вуснаў і шчок, галаўны боль, павышэнне тэмпературы, задышка і ўдушша.

АР ***агульнаатрутнага дзеяння*** (сінільная кіслата, хлорцыян). Сінільная кіслата — бескаляровая вадкасць, якая хутка выпарваецца, з пахам горкага міндалю; хлорцыян — бескаляровая, лятучая вадкасць з рэзкім непрыемным пахам. АР агульнаатрутнага дзеяння паражаюць толькі пры ўдыханні заражанага паветра. Прыкметамі паражэння з'яўляюцца металічны прысмак у роце, раздражненне горла, галавакружэнне, слабасць, млоснасць, сутаргі, параліч.

АР ***раздражняльнага дзеяння*** (CS — Сі-Эс, CR — Сі-Ар, адамсіт) выклікаюць вострую пякоту і боль у роце, горле і вачах, моцнае слёзацячэнне, кашаль, цяжкае дыханне.

АР ***псіхахімічнага дзеяння*** (BZ — Бі-Зед) спецыфічна дзейнічаюць на цэнтральную нервовую сістэму і выклікаюць псіхічныя (здранцвенне, узбуджэнне, галюцынацыі, страх) або фізічныя (ірвота, слепата, глухата) расстройствы.

**Біялагічная зброя.** Дзеянне біялагічнай зброі заснавана на выкарыстанні хваробатворных уласцівасцей мікраарганізмаў: бактэрый, вірусаў, рыкетсій, грыбкоў, а таксама таксінаў, што выпрацоўваюцца некаторымі бактэрыямі. Да біялагічнай зброі належаць рэцэптуры хваробатворных мікраарганізмаў і сродкі дастаўкі іх да цэлі.

Біялагічная зброя здольная выклікаць на шырокіх тэрыторыях масавыя захворванні людзей, жывёл і раслін, мае працяглы скрыты (інкубацыйны) перыяд дзеяння.

У якасці хваробатворных мікраарганізмаў праціўнік можа выкарыстоўваць узбуджальнікаў розных інфекцыйных захворванняў: чумы, халеры, энцэфаліту, сыпнога і брушнога тыфу, грыпу, дызентэрыі, натуральнай воспы і інш. Акрамя таго, можа быць ужыты батулінічны таксін, які выклікае цяжкія атручванні арганізма чалавека. Для паражэння жывёл магчыма прымяненне ўзбуджальнікаў сібірскай язвы, сапу, вірусаў яшчуру, чумы рагатай жывёлы і птушак, халеры свіней і інш; для паражэння сельскагаспадарчых раслін — узбуджальнікаў іржы хлебных злакаў, фітафтарозу бульбы і іншых хвароб.



**1.** Што належыць да зброі масавага паражэння? Чаму беларуская армія павінна быць навучана абароне ад зброі масавага паражэння? **2.** Пералічыце паражальныя фактары ядзернай зброі. **3.** Ахарактарызуйце ўдарную хвалю і светлавое выпраменьванне ядзернага выбуху. **4.** Што вам вядома аб пранікальнай радыяцыі і радыеактыўным заражэнні ядзернага выбуху? **5.** Што такое хімічная зброя? Як падзяляюцца атрутныя рэчывы па дзеянні на арганізм чалавека? **6.** На чым заснавана дзеянне біялагічнай зброі? Якія інфекцыйныя захворванні людзей, жывёл і раслін яно можа выклікаць?

# § 48. Сродкі індывідуальнай і калектыўнай аховы

**Сродкі індывідуальнай аховы** (СІА) прызначаны для аховы органаў дыхання, твару, вачэй і скурных покрываў ад радыеактыўнага пылу і светлавога выпраменьвання ядзернага выбуху, атрутных рэчываў, біялагічных аэразолей. СІА падзяляюцца на сродкі індывідуальнай аховы органаў дыхання, сродкі індывідуальнай аховы скуры і сродкі індывідуальнай аховы вачэй.

***Агульнавайсковы фільтруючы процівагаз*** належыць да сродкаў індывідуальнай аховы органаў дыхання. Прынцып ахоўнага дзеяння фільтруючага процівагаза заснаваны на ачышчэнні (фільтрацыі) паветра ад шкодных прымесяў, што ўдыхае чалавек.

Процівагаз складаецца з фільтруюча-паглынальнай каробкі і часткі для твару (мал. 68). Для захоўвання і пераноскі процівагаза служыць сумка, якая мае аддзяленне для размяшчэння процівагаза і кішэні: унутраная — для размяшчэння плёнак, што не пацеюць; вонкавыя — для запасных мембран перамоўнага устройства, індывідуальнага супрацьхімічнага пакета і накладных уцяплялььных манжэт.




*Мал. 68.* Агульнавайсковы фільтруючы процівагаз ПМГ-2:
*1* — шлем-маска ШМ-66Му; *2* — фільтруюча-паглынальная каробка ЕО-62к у чахле; *3* — сумка; *4* — шлем-маска ШМ-62; *5* — плёнкі, што не пацеюць; *6* — мембрана перамоўнага ўстройства для ШМ-66Му; *7* — накладныя ўцяплялььныя манжэты

Фільтруюча-паглынальная каробка служыць для ачысткі ўдыхальнага паветра ад атрутных рэчываў, біялагічных аэразолей і радыеактыўнага пылу. У металічным корпусе каробкі змешчаны спецыяльныя паглынальнікі і супрацьаэразольны фільтр. Частка процівагаза, прызначаная для твару, — гэта гумавая шлем-маска з акулярным вузлом, абцякальнікамі і клапаннай каробкай.

Маюцца разнавіднасці процівагаза. У некаторых шлем-масках ёсць перамоўнае ўстройства, скразныя выразы для вушных ракавін (ШМ-66Му). Існуе частка процівагаза для твару, размяшчэнне і памеры шкла акулярнага вузла якой дазваляюць карыстацца ёю ў час працы з аптычнымі прыборамі (ШМГ). Адрозненнем такой часткі з'яўляецца і бакавое мацаванне каробкі. Частка процівагаза маскавага каробачнага мае прыстасаванне, каб піць ваду ў надзетым процівагазе.

Падбор шлем-маскі ажыццяўляецца шляхам вымярэння галавы па замкнёнай лініі, якая праходзіць праз макушку, падбародак і шчокі.

Роставыя інтэрвалы для падбору частак для твару агульнавайсковых фільтруючых процівагазаў прыведзены ў табліцы.

| Частка для твару | Вертыкальны абхват галавы, адпаведны памеру часткі для твару, см | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 0 | 1 | 2 | 3 | 4 |
| ШМ-62 | Да 63,0 | 63,5—65,5 | 66,0 — 68,0 | 68,5—70,5 | 71,0 і больш |
| ШМ-66Му | Да 63,0 | 63,5—65,5 | 66,0 — 68,0 | 68,5 и более | — |
| ШМГ | — | 62,5—65,5 | 66,0—67,5 | 68,0—69,0 | 69,5 і больш |

Правільна падабраная шлем-маска павінна шчыльна прылягаць да твару і не дапускаць, каб заражанае паветра траплала пад частку для твару.

Процівагаз укладваецца ў сумку ў такой паслядоўнасці: узяць шлем-маску адной рукой за акуляры, а другой рукой

перагнуць яе ўздоўж і закрыць адно шкло, затым перагнуць шлем-маску папярок і закрыць другое шкло; укласці процівагаз у сумку перамоўным устройствам уніз. Пасля гэтага скласці верхнюю частку сумкі так, каб яе бакавыя сценкі былі схаваныя ўнутр. Зашпіліць клапан на два турнікеты (гузікі).

Процівагаз носяць у трох становішчах: «паходным», «напагатове» і «баявым». У «паходным» становішчы процівагаз носяць на левым баку, верх сумкі павінен быць на ўзроўні паяснога рамяня, клапан зашпілены. Каб палажыць процівагаз у становішча «напагатове», неабходна перасунуць яго сумку наперад, расшпіліць клапан, замацаваць процівагаз паяснай тасьмой, развязаць тасьму або аслабіць падбародкавы рамень галаўнога ўбору (шлемафона, каскі).

У «баявое» становішча процівагаз перакладаецца па камандзе «Газы», па сігналах апавяшчэння або самастойна. Каб пакласці процівагаз у «баявое» становішча, неабходна затрымаць дыханне, заплюшчыць вочы, узяць зброю «на рамень» (пакласці на зямлю, заціснуць паміж ног ці паставіць побач з апорай), зняць галаўны ўбор, а пры апушчаным падбародкавым рамяні адкінуць галаўны ўбор назад, выняць процівагаз. Узяць шлем-маску абедзвюма рукамі за патоўшчаны край ніжняй часткі так, каб вялікія пальцы былі звонку, а астатнія ўнутры. Прыкласці ніжнюю частку шлем-маскі пад падбародак і рэзкім рухам рук уверх і назад нацягнуць яе на галаву так, каб не было складак, а шкло акуляраў прыйшлося супраць вачэй. Зрабіць поўны выдых, адкрыць вочы і аднавіць дыханне. Для здымання процівагаза трэба ўзяць вольнай рукой клапанную каробку, злёгку адцягнуць шлем-маску ўніз і рухам рукі наперад уверх зняць яе.

***Рэспіратар Р-2*** прымяняецца для аховы органаў дыхання ад радыеактыўнага пылу і біялагічных аэразолей. Ён уяўляе сабой фільтруючую паўмаску з наголоўнікам (мал. 69). Вонкавая частка паўмаскі выраблена з порыстага пенаполіўрэтану. З унутранага боку знаходзіцца поліэтыленавая плёнка, у якую ўманціраваны два клапаны ўдыху і адзін клапан выдыху. Між вонкавым і ўнутраным пластом размешчаны фільтруючы палімерны матэрыял. Для лепшай герметызацыі рэспіратар Р-2 мае насавы заціск.

Рэспіратар падбіраюць у залежнасці ад вышыні твару (адлегласць ад пераносся да ніжняй часткі падбародка). Калі вышыня твару складае 10,9 см і менш, то патрабуецца




*Мал. 69.* Рэспіратар Р-2:
*1* — паўмаска; *2* — клапан выдыху; *3* — насавы заціск; *4* — наголоўнік

1-ы рост рэспіратара, 11—11,9 см — 2-і, 12 см і больш — 3-і рост.

Надзяваць рэспіратар трэба так, каб падбародак і нос былі добра размешчаны ўнутры маскі, затым прыціснуць канцы заціску да носа.

***Агульнавайсковы ахоўны камплект (ААК)*** разам з процівагазам прызначаны для абароны ад атрутных рэчываў, а таксама для зніжэння ступені заражэння скурных покрываў, абмундзіравання і абутку біялагічнымі аэразолямі і радыеактыўным пылам. У склад ААК (мал. 70) уваходзяць ахоўны плашч, ахоўныя панчохі і пальчаткі, чахол для ахоўнага плашча, чахол для ахоўных панчох і пальчатак.

Ахоўныя плашчы з прагумаванай тканіны вырабляюцца пяці памераў: першы — для людзей ростам да 165 см, другі — ад 166 да 170 см, трэці — ад 171 да 175 см, чацвёрты — ад 176 да 180 см, пяты — ростам ад 181 см і вышэй. Ахоўныя панчохі вырабляюцца з прагумаванай тканіны з гумавымі ботамі. Ахоўныя пальчаткі выпускаюцца двух відаў — летнія і зімовыя.

ААК пераносіцца ў «паходным» становішчы. Пры непасрэднай пагрозе прымянення праціўнікам зброі масавага паражэння ААК (з процівагазам) перакладаецца ў становішча «напагатове». У такім становішчы ахоўны плашч замацоўваецца ззаду ў чахле або распускаецца за спінай.




*Мал. 70.* Агульнавайсковы ахоўны камплект:
*1* — ахоўны плашч АП-1М; *2* — зацяжнік; *3* — пятля спінкі;
*4* і *7* — рамкі сталёвыя; *5* — пятля для вялікага пальца рукі;
*6* і *10* — закрэпкі; *8* — цэнтральны шпянёк; *9* — хлясцік;
*11* — трымальнікі плашча; *12* — чахол для ахоўнага плашча; *13* — чахол для ахоўных панчох і пальчатак; *14* — ахоўныя панчохі; *15* — ахоўныя пальчаткі БЛ-1М; *16* — уцяпляльныя ўкладышы да ахоўных пальчатак БЗ-1М; *17* — ахоўныя пальчаткі БЗ-1М

У «баявое» становішча ААК можа пераводзіцца як на незабруджанай мясцовасці, так і ва ўмовах забруджвання. Ахоўны плашч у складзе ААК з процівагазам можа быць выкарыстаны ў выглядзе накідкі, надзетай у рукавы, або ў выглядзе камбінезона. Як накідку камплект выкарыстоўваюць пры раптоўным прымяненні праціўнікам атрутных рэчываў і біялагічных сродкаў або пры выпадзенні радыеактыўных рэчываў; надзетымі ў рукавы — пры дзеяннях на мясцовасці, забруджанай радыеактыўнымі рэчывамі і біялагічнымі сродкамі, а таксама пры выкананні работ па абеззаражванні тэхнікі і транспарту. Пры дзеяннях на мясцовасці,

забруджанай атрутнымі рэчывамі, і пры моцным пылаўтварэнні ў зонах хімічнага і біялагічнага забруджвання камплект выкарыстоўваюць у выглядзе камбінезона.

**Сродкі калектыўнай аховы**. Сродкамі калектыўнай аховы з'яўляюцца ахоўныя інжынерныя збудаванні.

***Сховішчы*** — гэта спецыяльныя будынкі, прызначаныя для аховы людзей ад усіх паражальных фактараў ядзернага выбуху, атрутных рэчываў, біялагічных сродкаў без прымянення сродкаў індывідуальнай аховы. У сховішчах арганізуецца пачарговы адпачынак, прыняцце ежы, а таксама аказанне першай медыцынскай дапамогі параненым і паражоным.

Сховішча складаецца з асноўнага і дапаможных памяшканняў. Асноўнае памяшканне абсталёўваецца двух- або трох'яруснымі нарамі. У сховішчы робіцца, як правіла, не менш за два ўваходы; у сховішчах малой умяшчальнасці — уваход і аварыйны выхад. У склад сховішча ўваходзіць фільтравентыляцыйны агрэгат, які забяспечвае падачу паветра, ачышчанага ад радыеактыўных, атрутных рэчываў, біялагічных аэразолей, а таксама стварае подпор (залішні ціск паветра).

Размяшчэнне ў сховішчы людзей праводзіцца ў адпаведнасці з указаннямі дзяжурнага (днявальнага) па сховішчы. У сховішчы забараняецца хуткая і залішняя хада, а таксама курэнне. Ежа дастаўляецца ў тэрмасах, упакаваных у прагумаваныя герметычныя мяшкі; хлеб і посуд — у двух герметычных мяшках (адзін у адным).

***Укрыцці самага простага тыпу*** (адкрытыя або перакрытыя шчыліны, бліндажы). Самыя простыя ўкрыцці маюць значныя ахоўныя ўласцівасці. Так, адкрытая шчыліна ў 1,2—2 разы змяншае верагоднасць паражэння ўдарнай хваляй, светлавым выпраменьваннем і пранікальнай радыяцыяй, у 2—3 разы зніжае магчымасць апраменьвання ў зоне радыеактыўнага забруджвання. Перакрытая шчыліна ахоўвае ад светлавога выпраменьвання цалкам, ад ударнай хвалі — у 2,5—3 разы, ад пранікальнай радыяцыі і радыеактыўнага забруджвання — у 200—300 разоў. Яна засцерагае таксама ад таго, каб не трапілі непасрэдна на вопратку і скуру радыеактыўныя, атрутныя рэчывы і біялагічныя аэразолі.

Шчыліну першапачаткова робяць адкрытай. Глыбіня яе 1,8—2 м, шырыня па версе 1,1—1,2 м і па дне да 0,8 м. Даўжыня шчыліны вызначаецца з разліку 0,5—0,6 м на адна-

го чалавека. Сценкі шчыліны ўмацоўваюць дошкамі, жэрдкамі або іншымі падручнымі матэрыяламі. Затым шчыліну перакрываюць бярвёнамі або малагабарытнымі жалезабетоннымі плітамі. Зверху ўкрыцця робяць пласт гідраізаляцыі, скарыстоўваючы толь, плёнку або ўкладваюць пласт мешанай гліны, а затым пласт грунту таўшчынёй 50—60 см.



**1.** Што адносіцца да сродкаў індывідуальнай аховы? Для чаго яны прызначаны? **2.** Раскажыце аб прызначэнні і агульным устройстве фільтруючага процівагаза. **3.** Які памер шлем-маскі вам неабходны? **4.** У якіх становішчах носіцца процівагаз? Раскажыце пра гэтыя становішчы. **5.** Што ўваходзіць у агульнавайсковы ахоўны камплект? У якіх відах ён выкарыстоўваецца? **6.** Ад чаго абараняе сховішча? Як трэба паводзіць сябе ў сховішчы?

## § 49. Спецыяльная апрацоўка

Спецыяльная апрацоўка заключаецца ў выдаленні радыеактыўных рэчываў, абясшкоджванні або выдаленні атрутных рэчываў і біялагічных сродкаў з забруджаных паверхняў. Пры спецыяльнай апрацоўцы праводзяцца санітарная апрацоўка людзей, дэзактывацыя, дэгазацыя і дэзынфекцыя адзення, абутку, сродкаў індывідуальнай абароны, рышунку, узбраення і ваеннай тэхнікі. Спецыяльная апрацоўка можа быць частковай і поўнай.

***Частковая спецыяльная апрацоўка*** ажыццяўляецца непасрэдна ў баявых парадках падраздзяленняў без спынення выканання баявой задачы.

***Поўная спецыяльная апрацоўка*** ажыццяўляецца пасля выканання баявой задачы ў занятых часцямі раёнах або ў раёнах спецыяльнай апрацоўкі. Яна праводзіцца з выкарыстаннем як табельных сродкаў, так і сродкаў падраздзяленняў радыяцыйнай, хімічнай і біялагічнай абароны.

***Дэзактывацыя*** — абясшкоджванне паверхняў, забруджаных *радыеактыўнымі рэчывамі*. Яна ажыццяўляецца шляхам *выдалення радыеактыўных рэчываў* (здзьмухванне, змятанне, вытрасанне, змыванне).

***Дэгазацыя*** — абясшкоджванне паверхняў, забруджаных *атрутнымі рэчывамі*. Яна ажыццяўляецца шляхам *выдалення*

*або распадзення атрутных рэчываў* (выпарванне, змыванне, хімічнае разбурэнне).

***Дэзынфекцыя*** — абясшкоджванне паверхняў, забруджаных *біялагічнымі сродкамі*. Яна ажыццяўляецца шляхам *выдалення або разбурэння хваробатворных мікраарганізмаў і іх разносчыкаў* (змыванне, уздзеянне фізічных або хімічных фактараў).

**Сродкі спецыяльнай апрацоўкі.** ***Індывідуальны супрацьхімічны пакет ІСП-8*** (ІСП-9, ІСП-10) прызначаны для дэгазацыі скурных покрываў чалавека (твару, шыі, рук), асобных участкаў абмундзіравання (каўняра, абшлагаў, рукавоў) і часткі процівагаза для твару, забруджаных кроплямі (аэразолем) атрутных рэчываў.

Пакет ІСП-8 (мал. 71) уяўляе сабой запаяны поліэтыленавы мяшок, унутры якога знаходзяцца: шкляны флакон з вадкай рэцэптурай (растворам), чатыры ватна-марлевыя тампоны і інструкцыя па карыстанні пакетам.




*Мал. 71.* Індывідуальны супрацьхімічны пакет ІСП-8:
*1* — шкляны флакон; *2* — ватна-марлевыя тампоны;
*3* — герметычны поліэтыленавы пакет

Пакет ІСП-9 уяўляе сабой металічны балон з рэцэптурай. На балон надзета спецыяльнае вечка з прабойнікам і губчатым тампонам, якое зачыняецца ахоўным каўпаком. Унутры каўпака змешчаны два ватна-марлевыя тампоны.

Пакет ІСП-10 уяўляе сабой металічны балон з рэцэптурай. На балон надзета вечка-прабойнік.

***Камплект ІДПС-69*** прызначаны для дэгазацыі асабістай зброі і абмундзіравання. Камплект уяўляе сабой набор з

дзесяці індывідуальных дэгазацыйных пакетаў ІДП-1 і дзесяці дэгазіруючых пакетаў ДПП.

Пакет ІДП-1 (мал. 72) прызначаны для дэгазацыі зброі. Ён уяўляе сабой металічны балон, забяспечаны полідэгазіруючай рэцэптурай і герметычна закрыты мембранай з фольгі. На балоне ўстаноўлена капронавая шчотка з полым прабойнікам для падачы рэцэптуры і поліхлорвінілавае вечка.

Пакет ДПП (мал. 73) прызначаны для дэгазацыі абмундзіравання. Ён складаецца з поліэтыленавага пакета-шчоткі з адтулінамі, двух упаковак з полідэгазіруючай парашковай рэцэптурай, гумавай стужкі і ўпаковачнага мяшочка з інструкцыяй.




*Мал. 72.* Пакет ІДП-1:
*1* — металічны балон; *2* — вечка; *3* — поліэтыленавая шчотка;
*4* — прабойнік




*Мал. 73.* Пакет ДПП:
*1* — пакет-шчотка; *2* — гумавы рамень; *3* — поліэтыленавыя ўпакоўкі з дэгазіруючай рэцэптурай; *4* — памятка па карыстанні;
*5* — поліэтыленавы ўпаковачны мяшок

***Табельныя сродкі.*** Як для частковай, так і для поўнай спецыяльнай апрацоўкі тэхнікі і ўзбраення выкарыстоўваюцца розныя табельныя сродкі. Да іх залічваюцца аўтамабільны камплект для спецыяльнай апрацоўкі ваеннай тэхнікі, танкавы дэгазацыйны камплект, аўтаномныя прыборы для дэгазацыі, дэзактывацыі і дэзынфекцыі ўзбраення і ваеннай тэхнікі сіламі разлікаў і інш.

Камплекты спецыяльнай апрацоўкі з'яўляюцца, як правіла, бартавымі сродкамі, гэта значыць транспартуюцца на тым узоры ўзбраення і ваеннай тэхнікі, для апрацоўкі якога прызначаны, і выкарыстоўваюцца яго разлікам (экіпажам). Гэтыя камплекты рэалізуюць вадкасны спосаб апрацоўкі, які складаецца з арашэння рэцэптурай і праціранння шчоткай забруджанай паверхні. У залежнасці ад віду спецыяльнай апрацоўкі выкарыстоўваюцца дэгазіруючыя, дэзактывавальныя і дэзынфікуючыя растворы.

**Санітарная апрацоўка людзей.** Санітарная апрацоўка — гэта выдаленне радыеактыўных рэчываў, распаданне, разбурэнне або выдаленне атрутных рэчываў, хваробатворных мікробаў і таксінаў са скурнага покрыва людзей, а таксама з надзетых сродкаў індывідуальнай аховы, адзення і абутку.

Частковая санітарная апрацоўка пры забруджванні радыеактыўнымі рэчывамі праводзіцца па магчымасці на працягу першай гадзіны пасля забруджвання, непасрэдна ў зоне радыеактыўнага забруджвання або пасля выхаду з яе. Для гэтага варта зняць вопратку і, стаўшы спінай супраць ветру, вытрасці яе. Затым развесіць вопратку і старанна вычысціць або выбіць яе. Абутак абмыць вадой ці працерці мокрай анучай. Абмыць чыстай вадой адкрытыя ўчасткі рук і шыі, частку процівагаза для твару; старанна вымыць твар, прапаласкаць рот і горла.

Частковую санітарную апрацоўку пры забруджванні кропельна-вадкімі атрутнымі рэчывамі праводзяць неадкладна. Для гэтага неабходна, не здымаючы процівагаза, апрацаваць адкрытыя ўчасткі скуры, на якія трапіла АР, забруджаныя месцы адзення, частку процівагаза для твару растворам з індывідуальнага супрацьхімічнага пакета ІСП-8 (ІСП-9, ІСП-10). Пры раптоўным прымяненні праціўнікам АР неабходна:

- надзець процівагаз і плашч у выглядзе накідкі;

- ускрыць пакет, адкруціўшы каўпачок (ІСП-8), зняўшы каўпачок і націснуўшы на прабойнік (ІСП-9) або павярнуўшы закрутку і націснуўшы на яе (ІСП-10);
- наліць рэцэптуру або адціснуць яе з губчатага тампона (ІСП-9) у правую руку;
- затрымаць дыханне, заплюшчыць вочы, трымаючыся левай рукой за клапанную каробку, зняць частку процівагаза для твару з падбародка;
- хуткім рухам правай рукі працерці скуру твару пад процівагазам і ўнутраную паверхню часткі процівагаза для твару;
- сухім тампонам зняць лішкі рэцэптуры, пачынаючы са скуры каля вачэй;
- надзець частку процівагаза для твару, зрабіць рэзкі выдых і адкрыць вочы;
- працерці вільготным тампонам (губкай) шыю, кісці рук, каўнер, манжэты, вонкавую паверхню часткі процівагаза для твару;
- зняць лішкі рэцэптуры сухім тампонам;
- закрыць флакон каўпачком (ІСП-8) або, выцягнуўшы прабойнік да ўпору, закрыць балон (ІСП-9, ІСП-10).

***Недапушчальна***, каб рэцэптура трапляла ў вочы.

Для правядзення частковай санітарнай апрацоўкі пры забруджванні біялагічнымі сродкамі неабходна адкрытыя ўчасткі цела абцерці сродкамі для дэзынфекцыі, а пры магчымасці і абмыць цёплай вадой з мылам.

Пры адначасовым забруджванні радыеактыўнымі, атрутнымі рэчывамі і біялагічнымі сродкамі абясшкоджваюць у першую чаргу атрутныя рэчывы, а затым біялагічныя сродкі і радыеактыўныя рэчывы.

Поўная санітарная апрацоўка складаецца са стараннага абмывання ўсяго цела цёплай вадой з мылам, а таксама аказання паражоным спецыяльнай медыцынскай дапамогі. Пры гэтым бялізну, адзенне і абутак замяняюць або падвяргаюць спецыяльнай апрацоўцы.

**Спецыяльная апрацоўка ўзбраення і ваеннай тэхнікі.** Пры частковай спецыяльнай апрацоўцы абясшкоджваюць тую частку ўзбраення і ваеннай тэхнікі, да якой асабовы склад датыкаецца пры вядзенні баявых дзеянняў. Індывідуальную зброю і прадметы невялікіх памераў апрацоўваюць цалкам.

***Дэзактывацыя аўтамата*** (ручнога супрацьтанкавага гранатамёта, снайперскай вінтоўкі). Для дэзактывацыі падрыхтаваць 3—5 тампонаў і флягу з вадой. Паставіць аўтамат вертыкальна і старанна працерці яго тампонамі, добра змочанымі вадой. Праціраць трэба ўсю паверхню зброі зверху ўніз, пачынаючы з дульнай часткі. Тампон па меры забруджвання варта паварочваць чыстым бокам да паверхні, якая апрацоўваецца; брудны тампон нельга апускаць у вадкасць, што выкарыстоўваецца для дэзактывацыі, а трэба замяняць яго на чысты. Паўтарыць праціранне два-тры разы; шчыліны і пазы зброі праціраць рыззём, наматаным на канец драўлянай палачкі (шомпала). Пасля заканчэння дэзактывацыі зброю працерці насуха і змазаць, брудныя тампоны і рыззё сабраць і закапаць.

***Дэгазацыя аўтамата.*** Дэгазацыя праводзіцца ў сродках індывідуальнай аховы ў такой паслядоўнасці:

- падрыхтаваць ІДП-1 да працы, для чаго зняць вечка і шчотку, выцягнуць ахоўны каўпачок з прабойніка, паставіць на месца шчотку, націскам на прабойнік да ўпору праціснуць, перавярнуць пакет шчоткай уніз;
- узяць левай рукой аўтамат за ствол і, трымаючы яго вертыкальна або злёгку нахіліўшы, старанна працерці шчоткай усю паверхню зверху да нізу;
- старанна апрацаваць драўляныя часткі і рамень, які неабходна працерці да поўнага прамакання;
- пасля поўнага выкарыстання рэцэптуры працерці аўтамат рыззём насуха.

Для дэзынфекцыі выкарыстоўваць спецыяльныя дэзынфікуючыя рэчывы: фенол, крэзол, лізол, а таксама дэгазіруючыя растворы. Для дэзынфекцыі ўзбраення і ваеннай тэхнікі выкарыстоўваюцца, як правіла, тыя ж рэчывы і растворы, што і для дэгазацыі.



**1.** З якой мэтай праводзіцца і ў чым заключаецца спецыяльная апрацоўка? **2.** У якіх выпадках праводзіцца дэгазацыя? Што гэта такое? **3.** З чаго складаецца дэзактывацыя і дэзінфекцыя? **4.** У чым адрозненне паміж частковай і поўнай спецыяльнай апрацоўкай? **5.** Калі і як праводзіцца санітарная апрацоўка людзей?

# РАЗДЗЕЛ X
# Ваенная тапаграфія

Тапаграфія — навука, якая вывучае зямную паверхню ў геаметрычных адносінах, а таксама спосабы яе выявы на паперы ў выглядзе планаў і карт. Тапаграфія прадстаўляе дадзеныя аб форме зямной паверхні і размяшчэнні на ёй розных натуральных і штучных аб'ектаў (рэкі, лясы, дарогі, населеныя пункты і да т. п.).

Ваенная тапаграфія з'яўляецца спецыяльнай ваеннай дысцыплінай. Яна разглядае спосабы вывучэння мясцовасці, арыентаванне на ёй і іншыя пытанні, звязаныя з ацэнкай і выкарыстаннем мясцовасці ў інтарэсах баявых дзеянняў войскаў, вучыць карыстанню тапаграфічнымі картамі і аэраздымкамі пры выкананні розных баявых задач.

## § 50. Арыентаванне на мясцовасці без карты

Арыентаванне на мясцовасці — вызначэнне свайго месцазнаходжання і напрамку на баках гарызонту адносна навакольных мясцовых прадметаў і формаў рэльефу, знаходжанне названага напрамку руху і дакладнае прытрымліванне яго ў шляху. Пры арыентаванні ў баявой абстаноўцы вызначаюцца таксама месцазнаходжанне падраздзялення адносна сваіх войскаў і войскаў праціўніка. Уменне хутка і дакладна арыентавацца на мясцовасці спрыяе паспяховаму выкананню баявых задач. Мясцовыя прадметы і формы рэльефу, адносна якіх вызначаецца сваё месцазнаходжанне, становішча цэляў (аб'ектаў) і паказваецца кірунак руху, называюцца арыенцірамі.

**Вызначэнне напрамкаў на баках гарызонту.** Напрамкі на баках гарызонту вызначаюцца па магнітным компасе, нябесных свяцілах і па некаторых прыкметах мясцовых прадметаў.

Для вызначэння напрамку на баках гарызонту па компасе (мал. 74), прынцып дзеяння якога заснаваны на ўласцівасці намагнічанай стрэлкі размяшчацца ўздоўж магнітнага




*Мал. 74.* Компас Адрыянава:
*а* — агульны выгляд; *б* — вечка са стойкамі для візіравання (прораэь, мушка) і паказальнік адлікаў; *в* — лімба, стрэлка і тормаз; *1* — мушка; *2* — магнітная стрэлка; *3* — тормаз; *4* — прораэь

мерыдыяна поўнач—поўдзень, неабходна спачатку сумясціць мушку з нулявым дзяленнем лімба. Затым трэба арыентаваць компас. Для гэтага неабходна ўстанавіць яго ў гарызантальнае становішча і растармазіць стрэлку. Паварочваючы компас, дамагчыся, каб паўночны канец магнітнай стрэлкі апынуўся супраць нулявой рыскі лімба. У арыентаваным становішчы компаса кірунак стрэлкі на нулявую рыску лімба будзе напрамкам на поўнач. Пасля гэтага візіраваннем праз прарэз і мушку заўважаюць мясцовы прадмет (арыенцір), які затым выкарыстоўваецца для ўказання на поўнач. Ведаючы напрамак на поўнач, лёгка вызначыць напрамкі на іншыя бакі гарызонту.

Для вызначэння напрамкаў на бакі гарызонту па месцазнаходжанні Сонца дастаткова ведаць, што ў Паўночным паўшар'і яно знаходзіцца прыкладна: у 7.00 (улетку ў 8.00) на ўсходзе, у 13.00 (14.00) на поўдні, у 19.00 (20.00) на захадзе.

Пры вызначэнні напрамкаў на бакі гарызонту па Сонцы і гадзінах (мал. 75) неабходна ўстанавіць гадзіннік ў гарызантальнае становішча, каб гадзіннікавая стрэлка была накіравана на Сонца. Затым, утрымліваючы гадзіннік у гэтым становішчы, у думках падзяліць вугал паміж гадзіннай стрэлкай і лічбай 1 (2) напалам. Атрыманая прамая пакажа прыблізны напрамак на поўдзень. Да паўдня трэба дзяліць напалам дугу (вугал) на цыферблаце, якую гадзіннікавая стрэлка павінна прайсці да 13 (14) гадзін, а пасля паўдня — дугу, якую яна прайшла пасля 13 (14) гадзін.




*Мал. 75.* Вызначэнне бакоў гарызонту па Сонцы і гадзінах: *а* — да 13 гадзін; *б* — пасля 13 гадзін

Для вызначэння напрамкаў на бакі гарызонту па Палярнай зорцы (мал. 76) неабходна на нябесным зводзе знайсці сузор'е Вялікай Мядзведзіцы. Затым адрэзак прамой паміж двума крайнімі зоркамі ($\alpha$ і $\beta$) у думках працягнуць у бок пашыранай яго часткі і адкласці пяць разоў. Атрыманая кропка пакажа месцазнаходжанне Палярнай зоркі, якая ўваходзіць у сузор'е Малой Мядзведзіцы і заўсёды знаходзіцца ў напрамку на поўнач.

Вызначэнне напрамкаў на бакі гарызонту па прыкметах мясцовых прадметаў (мал. 77) заснавана на іх месцазнаходжанні ў адносінах да Сонца. Так, дрэвы, вялікія камяні і скалы з паўночнага боку абрастаюць мохам, мурашнікі ў лесе амаль заўсёды знаходзяцца з паўднёвага боку дрэў, паўночны бок мурашніка больш круты за паўднёвы; ягады і садавіна раней набываюць афарбоўку спеласці з паўднёвага боку. На схілах, звернутых да поўдня, вясной снег растае хутчэй, чым на схілах, звернутых на поўнач; на паўночных схілах яроў і глыбокіх лагчын, наадварот, снег растае хутчэй, чым на паўднёвых.

Алтары праваслаўных цэркваў і пратэстанцкіх кірх павернутыя заўсёды на ўсход, званіцы — на захад. Перакладзіны крыжоў на купалах размешчаны ў напрамку на поўнач—поўдзень, прыпадняты канец перакладзіны крыжоў скіраваны на поўнач.




*Мал. 76.* Знаходжанне Палярнай зоркі на небасхіле




*Мал. 77.* Вызначэнне бакоў гарызонту па прыкметах мясцовых прадметаў

**Даклад аб сваім месцазнаходжанні.** Пры дакладзе аб сваім месцазнаходжанні (пункту стаяння) адносна мясцовых прадметаў (арыенціраў) пасля вызначэння бакоў гарызонту неабходна называць мясцовыя прадметы, непасрэдна ў якіх знаходзіцца той, хто дакладвае, і адлегласці да мясцовых прадметаў (арыенціраў), якія паказваюць напрамкі бакоў гарызонту. Напрыклад: «Знаходжуся на паўночным узлеску: больш на поўнач на 700 м — заводская труба, на захад на 500 м — хутар, больш на поўдзень на 300 м — рака, больш на ўсход на 400 м — дарога».



**1.** Дайце вызначэнне арыентавання на мясцовасці. **2.** Якімі спосабамі можна вызначыць напрамкі на бакі гарызонту? **3.** Вызначце напрамкі на бакі гарызонту рознымі спосабамі.

## § 51. Рух па азімутах

Сутнасць руху па азімутах заключаецца ў вытрымліванні на мясцовасці напрамкаў, зададзеных магнітнымі азімутамі, і адлегласцей, вызначаных па карце.

**Магнітны азімут і яго вызначэнне.** Пры вызначэнні напрамку на мясцовы прадмет звычайна карыстаюцца магнітным азімутам.

***Магнітным азімутам*** называецца гарызантальны вугал, які вымяраецца па ходзе гадзіннікавай стрэлкі ад паўночнага напрамку магнітнага мерыдыяна да напрамку на прадмет. Ён мае значэнні ад 0 да 360°.

Для вызначэння магнітнага азімута на мясцовы прадмет з дапамогай компаса трэба стаць тварам да гэтага прадмета і арыентаваць компас. Затым, утрымліваючы компас у арыентаваным становішчы, усталяваць візірнае прыстасаванне так, каб візірная лінія прорvotазь—мушка супала з напрамкам на мясцовы прадмет. У гэтым становішчы адлік на лімбе супраць паказальніка мушкі пакажа велічыню магнітнага (прамога) азімута (напрамку) на мясцовы прадмет (мал. 78).

Зваротны азімут — гэта напрамак ад мясцовага прадмета на пункт стаяння. Ад прамога азімута ён адрозніваецца на 180°. Для яго вызначэння трэба да прамога азімута дадаць 180°, калі ён менш за 180°, або адняць 180°, калі ён больш за 180°.




*Мал. 78.* Магнітныя азімуты:
на ліставое дрэва — 56°;
на фабрычную трубу — 137°;
на ветраны млын — 244°;
на елку — 323°

Для вызначэння напрамку на мясцовасці па зададзеным магнітным азімуце неабходна ўсталяваць паказальнік мушкі на адлік, роўны значэнню зададзенага магнітнага азімута, і арыентаваць компас. Затым, утрымліваючы компас у арыентаваным становішчы, заўважыць на мясцовасці па візірнай лініі проразь—мушка аддалены прадмет (арыенцір). Накіраванне на гэты прадмет (арыенцір) і будзе шуканым.

Працуючы з компасам, неабходна трымаць яго на 10 см ніжэй за ўзровень вачэй у левай руцэ, локаць якой для ўстойлівасці шчыльна прыціснуць да боку.

**Рух па азімутах.** Для руху па азімутах неабходна ведаць магнітныя азімуты з кожнага пункта на маршруце руху і адлегласці паміж пунктамі руху ў парах крокаў (для чалавека сярэдняга росту пара крокаў прымаецца за 1,5 м). Пры руху на машыне адлегласць вымяраюць па спідометры. Гэтыя дадзеныя падрыхтоўвае камандзір і афармляе ў выглядзе схемы маршруту руху (мал. 79) або табліцы для руху па азімутах.




*Мал. 79.* Схема маршруту руху па азімутах
(п. к. — пара крокаў)

**Табліца для руху па азімутах**

| №<br>п/п | Участкі шляху | Магнітныя азімуты, у градусах | Адлегласць, у парах крокаў |
|---|---|---|---|
| 1 | Хлеў—вышка | 80 | 610 |
| 2 | Вышка—курган | 88 | 580 |
| 3 | Курган—асобнае дрэва | 78 | 850 |

Пры руху пераходзяць ад аднаго пункта да другога, вытрымліваючы кірунак на арыенціры і ведучы лік пар крокаў. На зыходным і паваротных пунктах па зададзеным азімуце з дапамогай компаса знаходзяць напрамак руху. У гэтым напрамку выбіраюць і запамінаюць або больш аддалены арыенцір (дапаможны), або арыенцір, размешчаны бліжэй да паваротнага пункта маршруту руху (прамежкавы). Калі з прамежкавага арыенціру не бачны паваротны пункт, то вызначаюць наступны арыенцір.

На адкрытай мясцовасці без арыенціраў кірунак руху вытрымліваецца па створы. На зыходным пункце па компасе вызначаюць напрамак руху на наступны пункт. Рухаючыся ў гэтым напрамку, выстаўляюць на некаторай адлегласці адзін ад аднаго якія-небудзь знакі. Перыядычна аглядаючыся на іх, сочаць за тым, каб напрамак далейшага руху супадаў з прамой лініяй, у думках праведзенай праз пакінутыя ззаду знакі (сляды ўласнага руху). Для кантролю перыядычна правяраюць напрамак руху па зваротным азімуце і па нябесных свяцілах. Дасягнутыя арыенціры пастаянна параўноўваюць з зададзенымі арыенцірамі, а пры наяўнасці карты (схемы) з354яраюць з ёй мясцовасць і маршрут руху. Калі неабходна вярнуцца назад па тым жа шляху, то карыстаюцца ранейшай схемай маршруту, для чаго папярэдне пераводзяць прамыя азімуты ў зваротныя.

Уначы ў якасці прамежкавых (дапаможных) арыенціраў выкарыстоўваюцца сілуэты мясцовых прадметаў, кропкі і

яркія зоркі, якія свецяцца ўдалечыні. Калі такой магчымасці няма, то компас са свабодна апушчанай стрэлкай ўвесь час трымаюць перад сабой у арыентаваным становішчы, а за напрамак руху прымаюць прамую, якая праходзіць праз прорэзь і мушку.

Для абыходу перашкоды (пры наяўнасці бачнасці) паступаюць такім чынам: заўважаюць арыенцір па напрамку руху на супрацьлеглым баку перашкоды, вызначаюць адлегласць да яго і дадаюць гэтую велічыню да даўжыні пройдзенага шляху; абыходзяць перашкоду і працягваюць рух ад абранага арыенціру, вызначыўшы папярэдне па компасе напрамак перапыненага шляху.



**1.** Якія дадзеныя патрэбныя для руху па азімутах? **2.** Вызначыце памер свайго кроку і перакладзіце ў пары крокаў адлегласць 100 м. **3.** Вызначыце азімут магчымых напрамкаў руху ад дому да ўстановы адукацыі. **4.** Вызначыце зваротныя азімуты для азімутаў 70°, 120°, 170°, 285°.

## § 52. Тапаграфічныя карты

**Тапаграфічная карта** — асноўны графічны дакумент аб мясцовасці, які змяшчае дакладную, падрабязную і наглядную выяву рэльефу і мясцовых прадметаў. Тапаграфічныя карты можна класіфікаваць па самых разнастайных прыкметах: па маштабах, спецыяльным змесце, прызначэнні і іншых прыкметах (карты геаграфічныя, тапаграфічныя, гістарычныя, геалагічныя, глебавыя і інш.)

**Маштаб карты.** Разнастайнасць задач, якія вырашаюцца з дапамогай тапаграфічных карт, выклікае неабходнасць мець карты розных маштабаў.

***Маштаб карты*** паказвае, у колькі разоў даўжыня лініі на карце менш адпаведнай ёй даўжыні лініі на мясцовасці. Напрыклад, маштаб 1 : 50 000 азначае, што ўсе лініі мясцовасці намаляваны на карце з памяншэннем у 50 000 разоў, гэта значыць 1 см на карце адпавядае 50 000 см (500 м) на мясцовасці. Маштабы тапаграфічных карт, якія звычайна выкарыстоўваюцца, адлюстраваны ў табліцы.

| Маштаб | Назва карты | 1 см на карце адпавядае на мясцовасці | Перасячэнне гарызанталяў |
|---|---|---|---|
| 1 : 10 000 | Дзесяцітысячная | 100 м | 2,5 м |
| 1 : 25 000 | Дваццаціпяцітысячная | 250 м | 5 м |
| 1 : 50 000 | Пяцідзесяцітысячная | 500 м | 10 м |
| 1 : 100 000 | Стотысячная | 1 км | 20 м |
| 1 : 200 000 | Двухсоттысячная | 2 км | 40 м |
| 1 : 500 000 | Пяцісоттысячная | 5 км | 50 м |
| 1 : 1 000 000 | Мільённая | 10 км | Пераменна ад 50 да 250 м |

Чым большая ступень памяншэння намаляванай на карце тэрыторыі, тым больш дробным называюць маштаб карты. Дробнамаштабныя карты 1 : 500 000 і 1 : 1 000 000 прынята называць аглядна-тапаграфічнымі. На буйнамаштабных картах павялічваецца колькасць дэталей мясцовасці, якія на яе наносяцца, і гэта дазваляе адлюстроўваць мясцовасць больш падрабязна.

За ніжняй (паўднёвай) рамкай карты паказваюцца: колькасны маштаб, лінейны маштаб і велічыня маштабу. Колькасны маштаб запісваецца ў выглядзе дробу, дзе лічнік роўны адзінцы, а назоўнік — лік, які паказвае, у колькі разоў адлегласці на карце менш адпаведных ім адлегласцей на мясцовасці. ***Лінейны маштаб*** — гэта графічны выраз колькаснага маштабу. Адлегласць на мясцовасці ў метрах або кіламетрах, якая адпавядае 1 см карты, называецца ***велічынёй маштабу***.

На малюнку 80 адлегласць паміж пунктамі $A$ і $D$ роўная 1600 м, а паміж пунктамі $B$ і $C$ — 1350 м.

**Умоўныя тапаграфічныя знакі.** Мясцовыя прадметы на тапаграфічных картах адлюстроўваюцца ўмоўнымі знакамі,




*Мал. 80.* Размяшчэнне (адлюстраванне) маштабаў за паўднёвай рамкай карты

а рэльеф — гарызанталямі. Умоўныя знакі — азбука карты. Без ведання гэтай азбукі нельга навучыцца чытаць карту, а значыць, і вывучаць па ёй мясцовасць.

Існуюць маштабныя, пазамаштабныя і тлумачальныя ўмоўныя тапаграфічныя знакі. ***Маштабныя ўмоўныя тапаграфічныя знакі*** прымяняюцца для выявы мясцовых прадметаў, якія па памерах плошчы, якую яны займаюць, могуць быць паказаны ў маштабе дадзенай карты або плана (лясы, балоты, азёры, вялікія рэкі, буйныя пабудовы і да т. п.). З дапамогай ***пазамаштабных умоўных тапаграфічных знакаў*** паказваюць мясцовыя прадметы, якія займаюць нязначныя плошчы і не могуць быць выяўлены ў маштабе карты (заводскія трубы, радыямачты, калодзежы, кіламетровыя слупы, асобныя пабудовы і да т. п.). ***Тлумачальныя ўмоўныя тапаграфічныя знакі*** служаць для дадатковай характарыстыкі мясцовых прадметаў і прымяняюцца ў спалучэнні з іншымі знакамі (знакі пароды лесу, стрэлкі для ўказання плыні ракі і інш.) Акрамя графічных знакаў, выкарыстоўваюцца поўныя або скарочаныя надпісы прадметаў, якія адлюстроўваюцца (шк. — школа, сан. — санаторый і г. д.), а таксама надпісы і лічбавыя абазначэнні для ўказання ўласных назваў рэк, азёр, населеных пунктаў, вышынь пунктаў, шырыні рэк і дарог, характарыстыка пераправаў і інш.

Усе элементы мясцовасці пры адлюстраванні на картах падзяляюцца на наступныя асноўныя групы, для кожнай з

якіх устаноўлена свая сістэма ўмоўных пазначэнняў: населеныя пункты, мясцовыя прадметы, дарожная сетка, гідраграфія, рэльеф, глебава-раслінная покрыва і межы. З дапамогай умоўных знакаў на карце наглядна перадаецца сапраўдная карціна мясцовасці.

Тапаграфічная карта дае трохмернае (аб'ёмнае) уяўленне аб мясцовасці, таму што на ёй адлюстроўваецца рэльеф з дапамогай гарызанталяў. ***Гарызанталь*** — лінія на карце, якая злучае пункты рэльефу мясцовасці з аднолькавай вышынёй над узроўнем мора. За пачатак адліку вышынь прыняты сярэдні ўзровень Балтыйскага мора (нуль Кранштацкага вадамернага паста).

Элементы рэльефу, якія немагчыма адлюстраваць гарызанталямі (абрывы, яры, прамоіны, скалы, курганы, ямы і г. д.), паказваюцца спецыяльнымі ўмоўнымі знакамі.

**Вымярэнне адлегласцей па карце.** Вымяраць па карце адлегласці зручна з дапамогай цыркуля-вымяральніка. Пры вымярэнні адлегласцей на карце іголкі цыркуля ўстанаўліваюць на канчатковыя пункты адрэзка, які вымяраецца; затым, не змяняючы раствора цыркуля, прыкладваюць яго да лінейнага маштаба так, каб яго левая ножка была злева ад нуля, а правая стаяла дакладна на адным з дзяленняў направа ад нуля. Шуканая адлегласць будзе роўная суме адлікаў па канцах іголак цыркуля. Долі дробных дзяленняў вызначаюцца на вока. Для прыкладу, прыведзенага на мал. 81, вымераная адлегласць паміж асобным дваром і геадэзічным пунктам роўная 1250 м.

Доўгія лініі, што не змяшчаюцца на лінейным маштабе карты, вымяраюцца па частках.

Адлегласці па крывых лініях вымяраюцца крокам (невялікім ростулам) цыркуля. Даўжыня кроку цыркуля звычайна прымаецца за 1 см або 0,5 см.

Напрыклад, па карце маштабу 1 : 100 000 патрабуецца вызначыць даўжыню маршруту па прасёлкавай дарозе паміж населенымі пунктамі Горы і Лужкі (мал. 82). Устанаўліваем ростул ножак цыркуля ў 1 см, што адпавядае 1 км на мясцовасці. Затым ставім адну іголку цыркуля на дарозе каля населенага пункта Горы, другую — на працягу гэтай дарогі ў напрамку пункта Лужкі. Паварочваючы цыркуль адносна адной з іголак і перамяшчаючы яго па маршруце, атрымаем чатыры перастаноўкі (4 км) і астатак, роўны




*Мал. 81.* Вымярэнне адлегласцей па карце з дапамогай цыркуля




*Мал. 82.* Вымярэнне адлегласцей па карце па крывых лініях з дапамогай цыркуля

700 м, які вымяраем па маштабе. Такім чынам, вызначаная даўжыня маршруту будзе роўная 4700 м.

Для вызначэння адлегласці па карце зручны, асабліва пры вымярэнні доўгіх крывых і звілістых ліній, ***курвіметр***. Унізе гэтага прыбора маецца кольца, злучанае сістэмай перадач са стрэлкай. Пры руху кольца ўздоўж вымеранай па карце лініі стрэлка перасоўваецца па цыферблаце і паказвае пройдзеную кольцам адлегласць.

Дзяленні на шкалах цыферблата могуць быць у сантыметрах або кіламетрах. На мал. 83 паказаны курвіметр з трыма шкаламі ў кіламетрах, з якіх кожная адпавядае маштабу 1 : 25 000, 1 : 50 000 і 1 : 100 000. Таму пры вымярэнні ліній папярэдне трэба высветліць, у якіх адзінках алічбаваны цыферблат, і стрэлку ўстанавіць на нуль. У працэсе пракатвання курвіметра ўздоўж лініі, якая вымяраецца, паказанні стрэлкі павінны ўзрастаць (у адваротным выпадку курвіметр трэба павярнуць на 180°).

На мал. 83 стрэлка курвіметра паказвае па шкале для маштабу 1 : 25 000 — 4,2 км, 1 : 50 000 — 8,5 км, 1 : 100 000 — 17 км. Калі курвіметр дае паказанні ў сантыметрах, то адпаведныя ім адлегласці на мясцовасці атрымліваюць, памнажаючы адлікі па курвіметры на велічыню маштабу карты.



*Мал. 83.* Курвіметр (адлік у кіламетрах)

Пры адсутнасці цыркуля або курвіметра адлегласць па карце можна вымераць з дапамогай палоскі паперы, а таксама лінейкі з міліметровымі дзяленнямі.

**Арыентаванне на мясцовасці па карце.** Арыентаванне па карце складаецца з арыентавання карты, вызначэння на ёй пункту стаяння і зверкі карты з мясцовасцю.

***Арыентаванне карты*** складаецца ў наданні ёй такога становішча ў гарызантальнай плоскасці, пры якім усе напрамкі на ёй атрымліваюцца паралельнымі адпаведным напрамкам на мясцовасці. У такім становішчы верхні (паўночны) бок рамкі карты звернуты на поўнач, а паўднёвы — на поўдзень, правы — на ўсход, левы — на захад.

Арыентаванне карты можа быць выканана набліжана, на вока, ці дакладна, з дапамогай компаса або візірнай лінейкі.

***Пункт стаяння*** вызначаецца на карце па мясцовых прадметах, характэрных формах і дэталях рэльефу, намаляваных на карце, адным з наступных спосабаў: па бліжэйшых арыенцірах на вока; прамерам пройдзенай адлегласці; засечкамі па арыенцірах.

Для вызначэння пункту стаяння па бліжэйшых арыенцірах трэба арыентаваць карту і апазнаць на карце і на мясцовасці два-тры бліжэйшыя мясцовыя прадметы або элементы рэльефу. Затым па вокамерна вызначанай адлегласці да апазнаных арыенціраў, напрамках на іх, а таксама іх ўзаемным размяшчэнні намеціць з улікам маштабу пункт стаяння на карце.

Пры вызначэнні пункту стаяння прамерам пройдзенай адлегласці трэба вымераць гэту адлегласць ад дакладна апазнанага на карце пункту мясцовасці і адкласці яе ў напрамку руху ў маштабе карты.

Сутнасць спосабу засечак па арыенцірах заключаецца ў тым, што на арыентаванай карце выконваецца візіраванне з дапамогай лінейкі на два-тры мясцовыя прадметы і праводзяцца напрамкі ад іх; у перасячэнні гэтых ліній і атрымаецца пункт стаяння. Важна, каб арыенціры былі з упэўненасцю апазнаныя, а край лінейкі праходзіў дакладна праз цэнтры іх малюнка на карце.

***Зверка карты з мясцовасцю*** заключаецца ў знаходжанні на ёй усіх размешчаных вакол пункту стаяння мясцовых прадметаў і элементаў рэльефу, а таксама ў апазнанні на мясцовасці аб’ектаў, якія паказаны на карце. Рух ноччу па-за дарогамі мэтазгодна ажыццяўляць па азімутах.



**1.** Што такое тапаграфічныя карты, для чаго яны патрэбныя? **2.** Што называецца маштабам карты? Дайце азначэнне колькаснага, лінейнага маштабу і велічыні маштабу. **3.** Раскажыце пра тапаграфічныя ўмоўныя знакі. **4.** Як вымераць адлегласць на карце з дапамогай цыркуля і курвіметра? **5.** Раскажыце пра арыентаванне на мясцовасці па карце.



# РАЗДЗЕЛ XI
# Выжыванне і дзейнасць у экстрэмальных умовах

Жыццядзейнасць чалавека не заўсёды праходзіць у аптымальных умовах, спрыяльных для фізіялагічнай і псіхічнай дзейнасці арганізма. Часта чалавек трапляе ў больш складаныя, а часам і ў экстрэмальныя сітуацыі, небяспечныя для яго здароўя і жыцця. Ваенная служба, а тым больш магчымыя ўмовы рэальнага бою спалучаны з павышанай эмацыянальнай напружанасцю і значнымі фізічнымі нагрузкамі. Для паспяховага выхаду з цяжкіх сітуацый трэба рыхтаваць сябе, набываць неабходныя веды і ўменні, павышаць эмацыянальна-валявую ўстойлівасць, удасканальваць фізічную падрыхтоўку.

## § 53. Псіхалогія і паводзіны чалавека, якія трапіў у экстрэмальную сітуацыю

**Паняцце аб экстрэмальнай сітуацыі.** Сітуацыі, якія выходзяць за рамкі звычайных, для якіх характэрна інтэнсіўнае ўздзеянне неспрыяльных фактараў навакольнага асяроддзя, а часам і наяўнасць непасрэднай пагрозы жыццю і здароўю чалавека, прынята называць ***экстрэмальнымі***.

Чалавек апынаецца ў экстрэмальных умовах па розных прычынах. Часта гэта здараецца па ўласнай віне — альбо як вынік адсутнасці ведаў і вопыту бяспечных паводзін у прыродным і сацыяльным асяроддзі, альбо па прычыне пагарды нормамі і правіламі бяспекі, легкадумнасці. Сутыкнуўшыся з неспадзяванымі акалічнасцямі, апынуўшыся ў складаным нязвыклым становішчы, людзі часам аказваюцца зусім бездапаможнымі, няздольнымі рашаць прасцейшыя, але жыццёва неабходныя пытанні.

**Псіхалогія паводзін людзей у экстрэмальнай сітуацыі.** У экстрэмальнай сітуацыі ў чалавека ўзнікае асаблівы стан эмацыянальнай напружанасці, названы ***стрэсам***. Такая напружанасць уплывае на звычайныя псіхічныя працэсы чалавека,

аслабляе ўспрыманне, адчуванне, увагу, прытупляе ўяўленне, памяць, затармоўвае мысленне і гаворку.

У агульным выглядзе залежнасць паміж сілай стрэсу і працаздольнасцю можа быць прадстаўлена наступным чынам. Па меры ўзрастання эмацыянальнай напружанасці спачатку працаздольнасць і магчымасці чалавека павышаюцца ў параўнанні са спакойным станам, даходзяць да максімальнай велічыні, а затым пачынаюць падаць. Пры гэтым у першую чаргу абцяжарваюцца ўспрыманне і мысленне, прычым тым больш, чым больш складаная сітуацыя. З павелічэннем напружанасці з'яўляюцца памылкі ў выкананні асобных аперацый або іх пропускі, імкненне перайсці да больш простых дзеянняў. Часам пры гэтым ажываюць старыя, але ўжо непрыдатныя ў дадзенай сітуацыі навыкі — чалавек дзейнічае машынальна, не ўсведамляючы сваіх дзеянняў. Пры яшчэ больш моцным стрэсе з'яўляюцца пачуццё разгубленасці, няздольнасць засяродзіцца на сваёй дзейнасці, а таксама лішнія, імпульсіўныя рухі і дзеянні альбо наадварот — рэзкая скаванасць, затарможанасць.

Разгледжаная схема ўмоўная і агульная. На самай жа справе псіхалагічнае ўздзеянне небяспечных сітуацый уплывае на людзей неадназначна, уяўляе сабой індывідуальную, асобасную рэакцыю. Ёсць людзі, якія дзейнічаюць больш эфектыўна менавіта ў стане высокага эмацыянальнага напружання — на экзаменах, адказных спаборніцтвах, у бяспечных для жыцця бытавых сітуацыях або ў баі. Іншых жа падобныя сітуацыі псіхалагічна дэмабілізуюць, у іх наступае своеасаблівы «псіхалагічны шок» — з'яўляецца моцная затарможанасць альбо мітуслівасць, паспешнасць, няздольнасць да разумных дзеянняў.

Як зменшыць верагоднасць апынуцца ў экстрэмальнай сітуацыі і павялічыць шанцы на захаванне здароўя і жыцця ў складаных умовах?

**Эмацыянальна-валявая падрыхтоўка да дзеянняў у экстрэмальных сітуацыях.** У бяспечных для жыцця сітуацыях вялікую ролю адыгрывае эмацыянальна-валявая ўстойлівасць чалавека, якая фарміруецца як пры яго паўсядзённай жыццядзейнасці, так і ў працэсе мэтанакіраванай эмацыянальна-валявой падрыхтоўкі. Вялікую ролю ў такой падрыхтоўцы адыгрываюць метады эмацыянальна-валявой

самарэгуляцыі: самаперакананне, самазагад, валявая самарэгуляцыя (самаўнушэнне).

Сутнасць ***самаперакананння*** складаецца ў наўмысным перакананні сябе ў чым-небудзь шляхам падбору адпаведных довадаў. Самаперакананне, як правіла, прымяняецца ў тых выпадках, калі чалавек у агульным станоўча ўспрымае нейкую ідэю, але ў яго не хапае рашучасці яе ажыццявіць. Кожнаму, напрыклад, зразумела, што здароўе чалавека шмат у чым залежыць ад заняткаў фізкультурай, але не кожны сістэматычна ёю займаецца. Паспяховасць прымянення гэтага метаду залежыць ад ведаў, лагічнага мыслення і пачуцця абавязку. Працэс самаперакананння зводзіцца да дыскусіі з самім сабой — да вылучэння і параўнання аргументаў і контраргументаў на карысць таго, што табе хочацца і што неабходна зрабіць.

Другім дзейсным прыёмам для выпрацоўкі самавалодання і ўмення кіраваць сабой нават у экстрэмальных сітуацыях з'яўляецца ***самазагад***. Ён спрацоўвае тады, калі чалавек умее кантраляваць свае думкі, прытрымліваецца свайго слова, падпарадкоўваецца ўнутранаму голасу. Самазагад аказваецца больш эфектыўным, калі ён адпавядае вядучым жыццёвым пазіцыям чалавека, яго перакананням. Самазагад і самаперакананне ўзаемазвязаныя. Самазагад становіцца найбольш дзейсным, калі ён робіцца на аснове самаперакананння, а самаперакананне прыводзіць да валявога акта, калі яно завяршаецца самазагадам: «Усё!», «Хопіць!», «Яшчэ раз!», «Трэба!», «Стаяць!», «Наперад!» і да т. п.

У паўсядзённым жыцці самазагад дапамагае пераадольваць цяжкасці ў самых розных жыццёвых сітуацыях. Па самазагадзе можна ўставаць з ложка, займацца фіззарадкай, трымацца дысцыпліны, даводзіць пачатую справу да канца, рабіць малацікавую, але неабходную працу і многае іншае. Уменне падпарадкавацца самазагаду можа адыграць вырашальную ролю ў час узнікнення экстрэмальнай сітуацыі, у напружаны момант бою або пры выкананні нялёгкіх абавязкаў ваеннай службы.

***Валявая самарэгуляцыя*** развівае ў чалавека такія валявыя якасці, як смеласць, рашучасць, стойкасць, самавалоданне, вытрымка, самастойнасць, ініцыятыўнасць. Гэта дасягаецца шляхам пастаянна кантраляванага пераадолення як

небяспек і цяжкасцей, якія рэальна існуюць у паўсядзённым жыцці, так і практыкаванняў, выпрабаванняў, тэстаў, што ствараюцца з навучальнымі мэтамі.

Адным з істотных умоў загартоўкі волі чалавека, з'яўляюцца сістэматычныя заняткі фізічнай культурай і спортам. Пераадоленне цяжкасцей у ходзе заняткаў служыць трэніроўкай не толькі для мускулаў, але і для волі. Найбольшае ўздзеянне аказваюць практыкаванні псіхафізічнага характару, да якіх адносяцца практыкаванні на ўвагу, каардынацыю рухаў, шпаркасць, трываласць. Эфектыўныя практыкаванні з рэзкім змяненнем сітуацыі, якія патрабуюць хуткага, асэнсаванага прыняцця рашэнняў у абмежаваны час.

Вялікае значэнне ў выпрацоўцы псіхалагічнай устойлівасці адыгрываюць практыкаванні, выкананне якіх звязана з рызыкай і патрабуе пераадолення пачуцця боязі. Гэта акрабатычныя скачкі; скачкі ў ваду з вышыні; скачкі цераз перашкоды; лажанне па гарызантальным канаце, які знаходзіцца на вышыні 4—10 м над вадой; перабежкі па бервяне, умацаваным на вышыні ці над вадой; скачкі з парашутам; розныя віды адзінаборстваў. Псіхалагічна тую ж ролю адыгрываюць: пераадоленне спецыяльных палос перашкод і збудаванняў, ваенная гульня на мясцовасці «Выпрабуй сябе», турыстычныя паходы. Такія практыкаванні могуць выклікаць напружанасць, асцярогу, страх, хваляванні, ваганні, неабходнасць перасільваць, прымушаць сябе. У той жа час яны развіваюць валявыя якасці, гартуюць псіхіку.

Атрыманых ведаў пры навучанні дзеянням у экстрэмальных сітуацыях бывае, як правіла, недастаткова — патрэбныя яшчэ ўменні і навыкі. У той жа час узнавіць рэальна экстрэмальную сітуацыю бывае вельмі цяжка, а часам і немагчыма. Як, да прыкладу, стварыць з навучальнымі мэтамі паводку, а тым больш ураган ці землятрус? У такіх выпадках на дапамогу прыходзіць так званая ***ідыяматорная трэніроўка***. Рэальная сітуацыя тут падмяняецца прадстаўленнем аб ёй, а вось дзеянні павінны быць блізкімі да рэальных. Эфектыўнасць такой трэніроўкі шмат у чым залежыць ад таго, наколькі поўна і ўсебакова ў думках сканструяваная экстрэмальная сітуацыя блізкая да рэальнай і ці выклікала яна ў навучэнцаў псіхічныя працэсы, падобныя рэальным.

Удасканаленне валявых якасцей стане больш плённым, калі цяжкасці будуць пастаянна ўскладняцца да гранічна пасільных. У той жа час сам працэс эмацыянальна-валявой падрыхтоўкі павінен быць бесперапынным, а характар цяжкасцей — разнастайным і align рознабаковым.

**Дзеянні чалавека ў экстрэмальнай сітуацыі.** У агульным выглядзе чалавеку, які апынуўся ў экстрэмальнай сітуацыі, мэтазгодна дзейнічаць наступным чынам:

- пераадолець стрэс;
- ацаніць становішча, якое склалася;
- прыняць рашэнне;
- дзейнічаць у адпаведнасці з прынятым рашэннем.

Першапачатковае пераадоленне стрэсу, хоць бы і частковае, вельмі важнае, бо ў адваротным выпадку далейшыя дзеянні могуць аказацца памылковымі і прывесці да пагаршэння становішча. У пераадоленні стрэсу могуць дапамагчы метады эмацыянальна-валявой самарэгуляцыі. Карыснымі бываюць і фізічныя ўздзеянні альбо раздражняльнікі: рэзкія пацiранні далонямі твару, скроняў; удары па шчоках; рэзкія рухі частак цела альбо ўсяго цела, падобныя да зняцця дрымотнасці; апырскванне або абліванне твару, галавы або ўсяго цела вадой; прыняцце заспакаяльных лекаў. Метады і спосабы зняцця стрэсу залежаць ад індывідуальнай эмацыянальна-валявой устойлівасці чалавека, глыбіні стрэсу і наяўных сродкаў (вада, медыкаменты). Вызначальным з’яўляецца і ліміт часу. Калі чалавек заблукаў у лесе, то ў яго ёсць нейкі час для зняцця стрэсавага стану. Іншая справа, калі на яго валіцца сцяна або рухаецца лавіна агню — тут ужо ўсё вырашаюць імгненні.

Пасля поўнага або частковага зняцця стрэсавага стану варта ацаніць абставіны, якія склаліся. Па-першае, трэба вызначыць, ці скончылася небяспечнае ўздзеянне, якое стварыла экстрэмальную сітуацыю, і ці верагодны яго паўтор. Далей варта неадкладна вызначыць стан здароўя — свой і людзей, якія цябе акружаюць, колькасць хворых і параненых, якія патрабуюць першачарговай дапамогі. Пасля гэтага трэба ўлічыць наяўнасць матэрыяльных сродкаў: вады, прадуктаў харчавання, медыкаментаў і інш. Цалкам відавочна, што найбольш важным будзе наяўнасць у гарачы час вады, зімой — цёплых рэчаў і паліва, пры вядзенні баявых дзеянняў — зброі і боепрыпасаў. Пры ацэнцы абставін варта ўлічваць час

года, надвор'е, час сутак, мясцовасць (лес, балота, дарогі, аддаленасць населеных пунктаў) і іншыя моманты, важныя пры дадзеных абставінах.

На аснове ацэнкі абставін прымаецца рашэнне. У некаторых сітуацыях можа быць толькі адно правільнае рашэнне, у іншых жа — некалькі варыянтаў з рознай верагоднасцю спрыяльнага зыходу. У кароткі тэрмін трэба прыняць аптымальнае рашэнне. Каб навучыцца гэтаму, неабходны трэніроўкі. Пры гэтым не абавязкова задаваць усе магчымыя сітуацыі, бо іх можа быць мноства. Важна навучыцца дзейнічаць лагічна, паслядоўна, рацыянальна і хутка. Варта выпрацаваць у сабе паводзінскі стэрэатып дзеянняў у экстрэмальных сітуацыях і пастаянна ўдасканальваць яго як па спектры магчымых сітуацый, так і па хуткасці і дакладнасці рашэнняў, што прымаюцца.



**1.** Што такое экстрэмальная сітуацыя? Чаму чалавек апынаецца ў экстрэмальных сітуацыях? **2.** Як паводзіць сябе чалавек, не падрыхтаваны да дзеянняў у экстрэмальных сітуацыях? **3.** У чым заключаецца эмацыянальна-валявая падрыхтоўка? **4.** Як неабходна весці сябе чалавеку, які апынуўся ў экстрэмальнай сітуацыі?

## § 54. Выжыванне ва ўмовах аўтаномнага існавання

**Перамяшчэнні.** Апынуўшыся ў экстрэмальных умовах прыроднага асяроддзя, часта даводзіцца прымаць адно з двух рашэнняў — адпраўляцца ў дарогу або чакаць дапамогі на месцы.

Перш чым пачаць рух, варта зарыентавацца на мясцовасці і вызначыць маршрут або напрамак руху. Пры рухах на вялікія адлегласці трэба эканоміць сілы, ісці мерна, ногі ставіць амаль паралельна, вугал развароту не павінен перавышаць 10°, а адлегласць паміж абцасамі — каля 3 см. Хвілін праз 20 ходу, пераадолеўшы першыя кіламетры шляху, мэтазгодна зрабіць першы (кантрольны) прывал. На прывале варта праверыць, ці не намульвае абутак ногі, ці добра прыгнаныя адзенне і рыштунак, ці правільна ўкладзены рукзак. Калі абутак муляе ногі, то трэба пераапрануць шкарпэткі

(з левай нагі на правую), а анучы пераматаць. У дарозе неабходна пастаянна сачыць за напрамкам руху.

Калі на шляху сустрэнецца балота, якое нельга абысці, то перш чым пераадольваць яго, варта знайсці шост даўжынёй 2—3 м і таўшчынёй 5—10 см. Рухацца па балоце трэба вельмі асцярожна, скарыстоўваючы цвёрдыя ўчасткі, купіны, хмызняк, пры гэтым прамацваючы перад сабой глебу шастом. Варта абыходзіць лужыны, асабліва з іржавым налётам, вадкі бруд, месца са светла-зялёнай травой з сівым адлівам. Лепш трымацца бліжэй да дрэў або хмызнякоў. Калі вы ўсё-такі праваліліся ў балота, то не ўпадайце ў адчай, вазьміце шост за сярэдзіну, пакладзіце яго канцы на купіны ці галінкі хмызнякоў, адчуйце апору. Далей трэба агледзецца, супакоіцца і выбраць кірунак, у якім будзеце выбірацца. Пры гэтым нельга рабіць рэзкіх рухаў, рухаць нагамі, варта пазбягаць вертыкальнага становішча корпуса. Абапіраючыся на шост, зрабіце выдых і выпаўзайце на жываце да бліжэйшага куста ці купіны.

У выпадку неабходнасці пераправы цераз раку, варта спачатку шукаць брод. Прыкметамі броду могуць служыць месцы перападу вады, перакаты, рабізна на паверхні або сцежкі, дарогі, якія заканчваюцца на беразе. Перш чым увайсці ў ваду, мэтазгодна зняць шкарпэткі і надзець абутак. У якасці апоры карысна скарыстоўваць трывалы шост, які трэба ставіць ўверх па цячэнні. Шост дапаможа і ў прамацванні дна, папярэдзіць аб наяўнасці ям, калдобін. Раку ўброд варта пераадольваць пад вуглом 45° уверх па цячэнні.

Калі вам неабходна пераправіць груз сухім, а вы не знайшлі брод, то трэба шукаць магчымасць стварэння плывучага сродку. Найбольш бяспечны і надзейны плывучы сродак — плыт. 4—5 бярвенняў даўжынёй па 3 м і таўшчынёй 20—25 см, звязаныя разам, могуць служыць надзейным плытом для аднаго чалавека. Для 3—5 чалавек патрабуецца збудаваць больш цяжкі плыт — з 6—8 бярвенняў даўжынёй 5—7 м пры таўшчыні бервяна 20—30 см. У якасці плывучых сродкаў для аднаго чалавека могуць спатрэбіцца асобныя бярвёны, дошкі, балоны з-пад газу, прадметы адзення. Калі ж вам усё-такі прыйшлося пераадольваць раку ўплаў, то выкарыстоўвайце стыль «брас», плаванне на спіне або на баку. Яны менш стомныя і дазволяць вам пераправіць і захаваць

сухімі вопратку і нязначную экіпіроўку. Пераадольваць раку як на плыце, так і ўплаў варта пад вуглом 45° уверх па цячэнні.

Калі вы апынуліся ў лясным масіве з густой расліннасцю, то не адчайвайцеся. Вызначыце напрамак руху — і ў дарогу. Спушчаныя рукавы засцерагуць вас ад драпін, сінякоў і ўкусаў насякомых, а абутак — ад драпін, траўмаў ног і ўкусаў змей. Посах даўжынёй 1—1,5 м дапаможа прабірацца праз густыя зараснікі, аблегчыць шлях на ўчастках па-за зараснікаў, узброіць пры нечаканай сустрэчы з жывёламі. Часцей спыняйцеся і пераконвайцеся, што не збіліся з абранага вамі напрамку руху. Па магчымасці вызначайце аддаленыя арыенціры ў напрамку руху. Калі ваша мэта — выйсці на жыллё чалавека, то любая ў лесе дарога або сцежка — гэта ваш далейшы шлях. Але тут важна не памыліцца. Калі дарога, па якой вы пайшлі, становіцца менш наезджанай альбо ўтаптанай, то варта змяніць напрамак руху.

**Сігналізацыя і сувязь** — гэта шанц на выратаванне, а таму ў экстрэмальных умовах прыроднага асяроддзя варта пазначыць сваё месцазнаходжанне і даць знаць пра сябе ратавальнікам.

Адно з самых эфектыўных сродкаў — развядзенне вогнішча. Каб дым быў больш густы, у вогнішча, якое разгарэлася, можна кідаць свежую траву, лісце, мох. Ноччу можна выкарыстоўваць галіны хвойных дрэў — агонь будзе ярчэйшы, з іскрамі.

У сонечнае надвор’е дастаткова эфектыўны сродак падачы сігналу бедства — «сонечны зайчык». Лётчык з вышыні 1—1,5 км убачыць адлюстраваны сонечны прамень на адлегласці каля 20 км. Люстэрка можна зымітаваць кансервавай бляшанкай, спражкай рамяня, фольгай ад шакаладу і інш.

Сігналы можна падаваць крыкам, свістам, ліхтаром, размахваннем светлымі каляровымі прадметамі.

Для міжнародных выратавальных службаў сігналам бедства з’яўляецца чырвоная ракета і сігнал з перыядычнасцю 6 разоў у хвіліну, паўза 1 хвіліна і паўтор. Увагу экіпажа пошукавага паветранага судна можна прыцягнуць і рознымі сігналамі, якія дэмаскуюць мясцовасць: вытаптаць у снезе, выкласці камянямі, высячы ў хмызняку розныя постаці. Вось некаторыя сігналы міжнароднага кода: патрэбны лекар — **I**, патрэбныя медыкаменты — **II**, не ў стане працягваць рух — **X**, патрэбныя ежа і вада — **F**, месца пасадкі — **Δ**, усё добра — **LL**, не — **N**, да — **Y**.

**Устройства сховішча.** Выгляд і памеры сховішча залежаць ад часу стаянкі, наяўных сродкаў, колькасці людзей і часу на яго абсталяванне.

Выбар месца для сховішча залежыць ад неабходнасці абароны ад ветру, вільгаці і холаду, драпежных жывёл і ядавітых змей, а таксама ад наяўнасці паблізу вады і паліва. У любым выпадку месца павінна быць сухім.

Калі праводзіцца вымушаны начлег па-за абсталяванымі навесам ці буданом, то начлег варта па магчымасці добраўпарадкаваць. Трэба зрабіць падсцілку з галінак, лісця, травы, саломы, не забываючы правіла — «цяпло павінна быць знізу і зверху». Варта асабліва берагчы спіну і грудзі, для чаго карысна абвязаць корпус або падкласці пад сябе куртку, паліто.

Можна арганізаваць ***начлег паляўнічым спосабам***. Для гэтага трэба разгрэбці снег, развесці агонь і добра прагрэць зямлю. Пасля гэтага зрушыць вогнішча ў бок, на прагрэтую зямлю палажыць галінкі хвойных дрэў, мох, мяккія рэчы, накрыць зверху брызентам пры яго наяўнасці. Укладвацца варта апранутымі, шчыльна адзін да аднаго, накрыўшыся зверху брызентам, плашч-палаткамі.

У моцны мароз можна пабудаваць у друзлым снезе самую простую ***снежную хаціну***. Для гэтага снег зграбаюць ў кучу, паверхню яго ўшчыльняюць, паліваюць вадой і даюць замёрзнуць. Затым снег з кучы выграбаюць, а ў пакінутым купале робяць маленькую адтуліну для коміна. Разведзены ўнутры невялікі аганёк аплаўляе сцены і робіць трывалай усю канструкцыю. Такая хаціна захоўвае цяпло.

У сховішчы неабходна забяспечыць вентыляцыю, каб не задыхнуцца ад вялікай колькасці вуглякіслага або ўгарнага газу. Аб наяўнасці ўгарнага газу сведчыць сіняваты колер полымя на вуглях вогнішча, а аб колькасці вуглякіслага газу — жаўтаваты колер полымя.

Больш бяспечны і паўнавартасны адпачынак ва ўмовах аўтаномнага існавання магчымы ў абсталяваным часовым жытле (навесы, буданы).

***Навес*** можна зрабіць паміж дрэвамі (мал. 84). Для гэтага на гарызантальна ўмацаваную жэрдку кладуць нахільна больш лёгкія жэрдкі, якія таксама змацоўваюцца гарызантальнымі жэрдкамі. Зроблены каркас пакрываюць зверху галінкамі хвойных або ліставых дрэў. Перад навесам




*Мал. 84.* Навес

зручна разводзіць вогнішча для абагравання або гатавання ежы.

***Буданы*** (мал. 85) добра абараняюць ад непагадзі, пры шчыльнай кладцы хвойных галінак не прапускаюць дажджу, даюць больш выгод для адпачынку і ўзводзяцца падчас больш працяглых стаянак. Буданы будуюць двухсхільнымі, паўкруглымі альбо конуснымі. Для зімовага часу найбольш прыдатныя конусныя буданы, таму што ў іх можна разводзіць агонь.



*Мал. 85.* Будан

У сырой балоцістай мясцовасці часовае сховішча для адпачынку ўладкоўваецца такім чынам, каб яно знаходзілася вышэй за ўзровень балота на 40—60 см. У час сну неабходна мець пад рукой шост даўжынёй 2—3 м.

**Захаванне здароўя і гігіена**. Ва ўмовах аўтаномнага існавання, калі магчымыя самыя разнастайныя раненні, пераломы, удары, апёкі, атручванні і захворванні, веданне прыёмаў самадапамогі і ўзаемадапамогі асабліва неабходнае. Вырашальным можа быць і наяўнасць сродкаў аказання медыцынскай дапамогі. Добра, калі ў вас ёсць медпрэпараты: ёд, марганцоўка, стрэптацыд, актываваны вугаль, валідол, нашатырны спірт, аспірын. Бывае неабходны перавязачны матэрыял — бінт, вата або індывідуальны перавязачны пакет. Калі ж гэтых сродкаў няма, то ў некаторых выпадках можа дапамагчы прырода.

Кара ясеня, напрыклад, аказвае супрацьзапаленчае дзеянне. Для гэтага варта зняць кару з не вельмі маладой, але і не вельмі старой галінкі і прыкласці сакавітым бокам да ранкі. Добра дапамагаюць свежыя тоўчаныя галінкі крапівы. У іх утрымліваюцца рэчывы, якія спрыяюць згортванню крыві і стымулююць гаенне тканкі. Для гэтых жа мэт рану можна прысыпаць зеленавата-карычневым пылком (спорамі) спелага грыба-порхаўкі, туга заціскаючы парэз вывернутай на другі бок аксаміцістай скуркай таго ж грыба.

Пякучы чырвоны сок медуніцы можа замяніць ёд, а белы мох выкарыстоўваецца ў якасці перавязачнага сродку з дэзынфікуючым дзеяннем. Свежы сок трыпутніку і палыну спыняе крывацёк і абеззаражвае раны, валодае болесуцішальным і гоячым дзеяннем. Павышае згусальнасць крыві прыкладанне да раны патоўчаных лістоў трыпутніку і палыну.

Вельмі важным ва ўмовах аўтаномнага існавання з'яўляецца захаванне гігіенічных правілаў. Неабходна па крайняй меры адзін раз у дзень абціраць твар, падпахі, пахвіну і ногі, трымаць па магчымасці чыстым і сухім адзенне, асабліва ніжнюю бялізну і шкарпэткі. Калі мыццё немагчыма, то трэба хоць бы рэгулярна вытрасаць, сушыць і праветрываць вопратку. Асаблівы клопат трэба праяўляць аб нагах, сачыць за тым, каб шкарпэткі былі сухімі, для ўцяплення можна выкарыстоўваць анучы, паперу, мох, траву, лісце.



**1.** Раскажыце пра спосабы пераходу цераз балота, раку. **2.** Як можна пазначыць сваё месцазнаходжанне і даць знаць пра сябе ратавальнікам? **3.** Як вы праведзяце вымушаны начлег ва ўмовах аўтаномнага існавання? **4.** Абсталюйце сховішчы — навес, будан, снежную хаціну (узімку). **5.** Збярыце вядомыя вам лекавыя расліны. Ад чаго яны лечаць?

## § 55. Здабыванне агню, вады і ежы

**Здабыванне агню і развядзенне вогнішча.** Ва ўмовах аўтаномнага існавання шанцы на выжыванне павялічваюцца ў залежнасці ад таго, ці ёсць у чалавека агонь, вельмі неабходны для абагравання, сушкі адзення, падрыхтоўкі ежы, сігналізацыі, абеззаражвання вады кіпячэннем.

Пры наяўнасці запалак агонь можна развесці ў любых умовах і ў любое надвор'е, трэба толькі ўмець як мага даўжэй захоўваць полымя запалкі пры моцным ветры і ўмела выкарыстоўваць падпалку, што хутка загараецца. Ва ўмовах аўтаномнага існавання запалкі трэба захоўваць у воданепранікальным пакеце, кожную запалку карысна папярэдне абмакнуць у расплаўлены воск або парафін.

Распальванне вогнішча пачынаецца з нарыхтоўкі падпалкі, якую робяць з бярosты, сухіх хваёвых галінак, моху, стружак, ваты з адзення і г. д. На выбранае і падрыхтаванае месца кладуць падпалку, наверх якой шалашыкам укладваюць сухі матэрыял (самы дробны — бліжэй да падпалкі).

Калі няма звыклых крыніц агню, то пры наяўнасці пэўных навыкаў і цярпення можна здабываць агонь адным з нетрадыцыйных спосабаў. Шырока вядомы спосаб — трэнне дрэва аб дрэва, дрэва аб камень. Агонь можна здабыць высяканнем іскраў ударамі каменя аб камень або каменя аб метал, а ў сонечнае надвор'е — факусіроўкай праменя з дапамогай лупы, шкла акуляраў, аб'ектыва фотаапарата.

Для розных мэт існуюць розныя спосабы развядзення вогнішча (мал. 86).

***Вогнішча «зорачка».*** Можа гарэць да 8—10 гадзін без асаблівага догляду. Выкарыстоўваецца для абагравання ноччу.

***Вогнішча «паляўнічае».*** Можа гарэць да 6—8 гадзін без асаблівага догляду.

**Вогнішчы**


Зорачка


Паляўнічае


Піраміда


Рашотка


Калодзеж


Тайговае


Агароджа


На балоце

*Мал. 86.* Віды вогнішчаў

***Вогнішча «піраміда».*** Дае вялікае полымя, хутка абагравае і прасушвае вопратку. Хутка прагарае і патрабуе маскіроўкі.

***Вогнішча «рашотка».*** Дае моцнае шырокае полымя. Грэе з усіх бакоў. Доўга гарыць.

***Вогнішча «калодзеж»*** (палены, складзеныя зрубам). Дае нізкае і шырокае полымя. Доўга гарыць.

***Вогнішча «тайговае».*** Некалькі гадзін гарыць роўным полымем, затым тлее і дае моцны жар.

***Вогнішча «агароджа».*** Маскіруе агонь. Добра абагравае, накіроўваючы цяпло ў адзін бок.

***Вогнішча «на балоце».*** Перад развядзеннем агню робяць двайны насціл, які абараняе ад вільгаці. На верхнім насціле разводзяць вогнішча. Пасля прагарання верхняга насцілу вогнішча гарыць на ніжнім.

У якасці паліва для вогнішча выкарыстоўваюць сухастой і высахлыя галінкі. У вогнішча кладуць пераважна бярозавыя, альховыя, хваёвыя і яловыя дровы. Асіна, лістоўніца, рабіна, чаромха даюць мала гарачыні. У раёнах, дзе няма лесу, выкарыстоўваецца сухая трава, высахлы памёт жывёл, гаручы сланец або торф, які ляжыць на паверхні.

**Здабыванне вады.** Найважнейшай умовай выжывання чалавека з'яўляецца забеспячэнне пітной вадой, якой яму пры аптымальных умовах штодня патрабуецца як мінімум 2—2,5 літра. Абсалютна без вады, у залежнасці ад умоў і індывідуальных фізічных магчымасцей, чалавек можа пражыць толькі 3—5 сутак.

Пошук вады ва ўмовах Беларусі і наогул у сярэдняй паласе асаблівай працы не складае, паколькі крыніцы, рэкі, азёры, балоты, лужыны сустракаюцца часта. Але не ўсякая вада будзе пітной. Ваду з ключоў і крыніц, горных рэчак і ручаёў можна піць і сырой, а перш чым наталіць смагу вадой са стаячых або слабацякучых вадаёмаў, з рэк па плыні ніжэй населеных пунктаў, яе варта ачысціць ад прымешак і абеззаразіць.

***Для ачысткі вады*** лёгка вырабіць вельмі простыя фільтры з ваты, некалькіх слаёў тканіны або з пустой кансервавай бляшанкі, прабіўшы ў яе донцы 3—4 невялікія дзіркі, а затым запоўніўшы банку пяском. Вада стане больш чыстай, калі даць ёй адстаяцца на працягу 20—40 хвілін або дадаць у яе павараную соль. Вельмі добра вада ачышчаецца пасля прапускання праз актываваны вугаль, які ёсць у супрацьгазавай каробцы або можа быць у медыцынскай аптэчцы.

***Абеззаразіць ваду*** можна крышталікамі марганцоўкі (да вельмі слабай ружовай афарбоўкі, 1 гадзіна адстою); хлараваннем або даданнем ёду (8—10 кропель на 1 літр, 30 хвілін адстою); настойваннем на кары дуба, кветках аптэчнага рамонка ці бузіны. Аднак самы надзейны спосаб абеззаражвання вады — кіпячэнне на працягу 10—15 хвілін.

**Здабыванне ежы**. Чалавек, які нечакана трапіў ва ўмовы аўтаномнага існавання, можа апынуцца без запасаў ежы. Яго арганізм рэагуе на галаданне скарачэннем энергазатрат, зніжэннем інтэнсіўнасці абмену рэчываў. Першыя 3—5 дзён галадання самыя пакутлівыя, у гэты перыяд арганізм перабудоўваецца на харчаванне ўласнымі тканкавымі запасамі. Далей самаадчуванне паляпшаецца. Але магчымасці арганізма не бязмежныя, іх можа хапіць толькі на 15—20 дзён пасіўнага галадання. Таму варта прымаць меры для забеспячэння сябе харчаваннем з дапамогай збору дзікарослых ядомых раслін, рыбалкі, палявання.

***Раслінная ежа*** не такая смачная, каларыйная і сытная, як жывёльная, але яна больш даступная. У ежу ідуць розныя часткі раслін: плады, карані, маладыя парасткі, лісце, пупышкі, кветкі. Звычайна можна бяспечна ўжываць у ежу тыя расліны, якія ядуць птушкі і жывёлы.

У Беларусі традыцыйна выкарыстоўваюцца ў ежу грыбы. У іх утрымліваецца і тлушч, і цукар, і бялок. Побач з хвоямі звычайна растуць рыжыкі і маслякі, з асінай — чырвонагаловікі, з бярозай — падбярозавікі, у маладым ельніку і дуброве — грузды. Белыя грыбы растуць пад хвоямі, елкамі, бярозамі. Па-за лесам, на адкрытай мясцовасці растуць шампіньёны, смаржкі. Смачныя і пажыўныя таксама сыраежкі, лісічкі, махавікі, страчкі, апенькі і многія іншыя грыбы. Аднак варта сцерагчыся неядомых грыбоў, сярод якіх ёсць і падобныя па вонкавым выглядзе да ядомых! Калі няма ўпэўненасці ў ядомасці грыба, то яго неабходна перад гатаваннем старанна вымачыць на працягу 6—8 гадзін у цякучай вадзе. Пасля невялікай колькасці з'едзенага пачакаць 2—3 гадзіны, назіраючы за рэакцыяй арганізма. У выпадку атручвання прамыць страўнік вялікай колькасцю вады, выклікаючы рвоту.

Акрамя грыбоў традыцыйна выкарыстоўваюць у ежу ягады, якія з'яўляюцца багатай крыніцай вітамінаў. Браць ягады неабходна толькі ядомыя: чарніцы, дурніцы, суніцы, маліну, журавіны, брусніцы, ажыну, рабіну, шыпшынну.

Лясны арэх — ласунак, які варта толькі ачысціць ад шкарлупіны. Для таго каб ужываць зерне шышак елкі, хвоі, шышкі кідаюць у агонь. Затым вычышчанае зерне вымочваюць у вадзе, а потым смажаць або вараць. Ядомыя і вельмі пажыўныя пры ўмелым гатаванні жалуды.

У вадаёмах растуць гарлачыкі (белыя). Іх карані, як і карані чароту, трыснягу, стрэлкалісту, прыдатныя ў ежу. Каб мука, якая з іх атрымліваецца, не была гаркавай, іх варта папярэдне вымачыць і прамыць у вадзе.

Калі немагчыма знайсці іншую ежу, то прыдатны і карычневы (шэры) лішайнік. Калі яго высушыць і растаўчы, то можна зварыць кашу, хоць яна і атрымаецца клейкай. Вясной пупышкі бярозы, ліпы, асіны можна есці ў абмежаванай колькасці сырымі або варыць. Пупышкі елкі і хвоі таксама ядомыя, але іх неабходна вымочваць і варыць.

Восенню могуць служыць ежай карэнішчы, а вясной — маладыя парасткі прыбярэжнай рагозы, якія ядомыя ў вараным і печаным выглядзе. Увосень ад яшчэ не старых раслін і вясной пры з'яўленні новых лісцяў у вараным і тушаным выглядзе можна ўжываць у ежу корань лопуху войлачнага. Ядомыя і карані палявога званочка. Лісты дзьмухаўца, якія маюць гаркаваты смак, ядомыя ў сырым выглядзе.

Даволі даступны спосаб забяспечыць сябе харчаваннем ва ўмовах аўтаномнага існавання — ***рыбалка***. Рыба мае большую энергетычную каштоўнасць, чым раслінная ежа, а рыбалка менш працаёмкая, чым паляванне. Рыбалоўную снасць можна вырабіць з падручных матэрыялаў. Кручкі — са шпілек, завушніц, заколак ад значкоў. Блешні — з металічных гузікаў, манет, а лёску — з расплеценай вяроўкі, ніткі, выцягнутых з адзення, і да т. п.

Мяса рыбы дапушчальна есці сырым, але лепш нарэзаць яго на вузкія палоскі і сушыць на сонцы, так яно стане смачнейшым і даўжэй захаваецца. Варта памятаць, што рыбай можна атруціцца, а таму незнаёмую і падазроную па якасці рыбу лепш не есці. Не варта таксама ўжываць ікру з рыбы, малако, печань, таму што яны часта бываюць атрутныя.

Па берагах рэк і азёр, у норах пад вадой водзяцца ракі. На выпадак няўдалай рыбалкі можна прыгатаваць мяса жаб. Выкарыстоўваюцца ў асноўным мышцы спіны і сцягна. Пры гэтым, каб ежа не адштурхоўвала сваім выглядам, вонкава непрывабным, мяса рыхтуецца ў масе з дабаўленнем зеляніны.

Здабыць ежу можна і прымітыўнымі спосабамі ***паляванння***. У зімовы час паляванне — асноўны спосаб забяспечыць сябе харчаваннем.

Дробных жывёл і птушку здабываць параўнальна няцяжка. Для гэтага можна выкарыстоўваць пасткі, сіло, завесы і іншыя прыстасаванні.

Здабытае мяса звярка ці птушкі падсмажваюць на прымітыўным ражне. Дробных жывёл і птушак смажаць на ражне, не здымаючы скуркі і не абскубаючы. Пасля прыгатавання, скурка, якая абвуглілася, адразаецца, і тушка ачышчаецца ад вантробаў. Мяса больш буйнай дзічыны пасля трыбушэння і ачысткі мэтазгодна абпаліць на моцным агні, а затым дасмажваць на вуглях.

***Аварыйны запас, які носяць з сабой*** (АЗ). Адпраўляючыся на заданне, разведчыкі, акрамя зброі, рыштунку і прадуктаў харчавання, бяруць з сабой і аварыйны запас. Ён вельмі малы па аб'ёме і вазе, але можа быць дарэчы ва ўмовах аўтаномнага існавання. Аварыйны запас можа ўключаць наступныя прадметы: складаны нож; міні-аптэчку; запаяныя ў поліэтыленавы пакецік 15 запалак з кавалкам цёркі запалкавай каробкі; дзве паловы ляза бяспечнай брытвы, загорнутыя ў глянцаваную паперу; 3 шпількі; 3 метры нітак; шавецкую іголку з кавалкам суровай ніткі; 3 рыбалоўныя кручкі (№ 1, 2, 3); каля 6 метраў рыбалоўнай лёскі; 3 грузілы; 1 прэзерватыў (калі яго змясціць у шкарпэтку, ён становіцца ёмістасцю для аднаго літра вады).

Падобны набор рэчаў карысна мець не толькі разведчыкам, але і паляўнічым, рыбаловам, грыбнікам, ягаднікам, вандроўцам і турыстам. Мікраўкладку для выжывання можна зрабіць са старой аўтаручкі. Для гэтага трэба з корпуса выдаліць начынне і поласць, якая становіцца свабоднай, запоўніць неабходнымі прадметамі. Гэта могуць быць 1—2 швейныя іголкі (пажадана намагнічаныя) з прасунутай у вушка ніткай, пару дробных англійскіх шпілек, 3—5 метраў тонкай лёскі, дзве паловы ляза бяспечнай брытвы, некалькі складзеных напалову запалак, невялікая частка цёркі запалкавай каробкі. Скручаны і злёгку абпалены на агні кавалачак ваты паслужыць трутам, які захоўваецца ў каўпачку.



**1.** Дабудзьце агонь, калі няма звыклых крыніц (запалак, запальніцы). **2.** Развядзіце вогнішча. Да якога віду можна аднесці разведзенае вамі вогнішча? Ахарактарызуйце яго. **3.** У вас ёсць мутная вада. Ачысціце і абеззаразьце яе вядомымі вам спосабамі. **4.** Што прыдатнае для ежы можна знайсці ў лесе? **5.** Падрыхтуйце аварыйны запас, які носяць з сабой.

## § 56. Экстрэмальныя ўмовы ў воінскай дзейнасці

Асноўнымі відамі сучаснай воінскай дзейнасці з'яўляюцца баявая і вучэбна-баявая дзейнасць.

**Баявая дзейнасць** — гэта від воінскай дзейнасці, які ажыццяўляецца ва ўмовах бою, вайны. Бой для воіна —

заўсёды экстрэмальная сітуацыя. У ім, як ні ў адным відзе паўсядзённай дзейнасці, нязмерна ўзрастае значэнне эмацыянальна-валявых якасцей чалавека, на аснове якіх фарміруюцца маральна-баявыя якасці воіна. У баі цана недахопу сілы, спрыту, вынослівасці, запаволенай рэакцыі, памылкі ў дзеяннях — жыццё і невыкананая баявая задача.

Адважны беларускі лётчык двойчы Герой Савецкага Саюза С. І. Грыцавец у баях з японскімі мілітарыстамі на рацэ Халхін-Гол праявіў не толькі выключнае лётнае майстэрства, збіўшы 12 самалётаў праціўніка, але і высокія маральна-баявыя якасці. У адным з паветраных баёў ён выявіў, што самалёт яго камандзіра падбіты, а сам камандзір апынуўся на варожай тэрыторыі. Нягледзячы на крайнюю рызыку, Грыцавец, не вагаючыся, прыняў рашэнне: ратаваць камандзіра. У наступныя імгненні ўсё ўжо вырашалі воля, стрыманасць і майстэрства лётчыка. Ён пасадзіў самалёт на скапаную варонкамі пляцоўку і літаральна ўціснуў свайго камандзіра ў аднамесную кабіну. На вачах у ашаломленых салдат праціўніка Грыцавец развярнуў машыну супраць ветру і з двайной нагрузкай падняўся ў паветра.

У аснове перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй у гады Вялікай Айчыннай вайны ляжаць высокія эмацыянальна-валявыя і маральна-баявыя якасці савецкіх воінаў, партызанаў, падпольшчыкаў.

Каб выжыць і перамагчы ў баі, у мірны час воіны вучацца, гартуюць сваю волю, удасканальваюць фізічныя якасці.

**Вучэбна-баявая дзейнасць** — від воінскай дзейнасці, які ажыццяўляецца з мэтай падрыхтоўкі асабовага складу да баявых дзеянняў ва ўмовах вайны. У мірны час гэты від дзейнасці з’яўляецца вядучым.

Вызначальнае ўздзеянне на фарміраванне маральна-баявых якасцей воіноў аказвае тактычная, агнявая, тэхнічная, спецыяльная, фізічная, страявая падрыхтоўка. Адзін з прынцыпаў баявой падрыхтоўкі асабовага складу ў мірны час — вучыць войскі таму, што неабходна на вайне.

На тактычных і тактыка-спецыяльных вучэннях, вучэннях з баявой стральбой у абставінах, максімальна набліжаных да баявых, воіны вучацца мужна пераадольваць цяжкасці паходна-палявога становішча, дзейнічаць у экс-

трэмальных умовах, загартоўваюцца маральна, псіхалагічна і фізічна, авалодваюць на практыцы навукай перамагаць моцнага, тэхнічна аснашчанага праціўніка. На вучэннях воіны днём і ноччу, у любое надвор'е праводзяць у зададзеным тэмпе працяглыя маршы, фарсіруюць водныя перашкоды, вядуць вучэбна-баявыя дзеянні, практычна выконваюць увесь комплекс сваіх функцыянальных абавязкаў. У ходзе вучэбна-баявой дзейнасці, такім чынам, воіны ажыццяўляюць ідыяматорную трэніроўку — рэальнае ў баявой вучобе ўсё, і толькі праціўнік «умоўны».

Вось фрагмент вучэбна-баявой дзейнасці аднаго з падраздзяленняў нашай арміі. У наступальным баі, замяніўшы афіцэра, гвардыі сяржант Ігар Беражны камандаваў танкавым узводам. На мяжы разгортвання ва ўзводныя калоны танкі ўткнуліся ў балота. Павярнуць назад нельга. Ігар кінуў чэпкі погляд па балоце. Усюды вастраліст, рагоз, чарот — прыкмета багны. І толькі ў адным месцы праблісквала невялікае люстэрка вады, не зацягнутае цінай. Там, магчыма,



Ідзе баявая вучоба

ёсць крыніцы, а значыць і дно павінна быць цвёрдым. «Трэба праверыць», — вырашыў Бяражны і ступіў у балота. Студзёная вада апякала цела, даходзіла да горла. Але ён пераадолеў водны ўчастак да канца і пераканаўся, што дно трывалае, танкі пройдуць. І яны прайшлі! Узвод гвардыі сяржанта Бяражнога своечасова выйшаў на рубеж атакі.

Юнакоў у ходзе дапрызыўнай падрыхтоўкі яшчэ не вучаць усяму, што неабходна ў арміі, але ў іх развіваюць эмацыянальна-валявыя і фізічныя якасці, якія ў любой дзейнасці карысныя, а ў ваеннай — неабходныя.

**Спецыфіка жыцця і побыту ваеннаслужачых тэрміновай службы.** Для ваеннаслужачых, якія праходзяць ваенную службу па прызыве, спецыфічная не толькі баявая і вучэбна-баявая дзейнасць. Новымі для іх становяцца жыццё і побыт, узаемаадносіны з новымі людзьмі ў воінскім калектыве. Для большасці прызваных на ваенную службу салдат перыяд адаптацыі да новых умоў жыцця праходзіць бязбольна і хутка.

Але некаторыя юнакі няздольныя пераадолець надыходзячыя цяжкасці. Новыя ўмовы жыцця і побыту здаюцца ім настолькі выходзячымі за рамкі умоў іх папярэдняга жыцця, што выклікаюць у іх эмацыянальную напружанасць, якая мяжуе са стрэсам. Як правіла, гэта маладыя людзі з нервова-псіхічнай няўстойлівасцю, слабым здароўем і фізічным развіццём, выхаваныя ў «цяплічных» умовах і нязвыклыя працаваць, з ярка выяўленым эгаізмам.

Для фарміравання маральна-псіхалагічнай гатоўнасці да будучай ваеннай службы юнаку неабходна:

- выразна сфармуляваць свае задачы на перыяд ваеннай службы;
- усебакова рыхтаваць сябе да ваеннай службы, добрасумленна вывучаць прадмет «Дапрызыўная падрыхтоўка»;
- удасканальваць сваю фізічную падрыхтоўку, пастаянна ўмацоўваць здароўе;
- удасканальваць свае эмацыянальна-валявыя якасці.



**1.** Ахарактарызуйце віды воінскай дзейнасці. **2.** У чым, на вашу думку, заключаюцца асноўныя цяжкасці ваеннай службы? Ці гатовыя вы пераадолець гэтыя цяжкасці? **3.** Сфармулюйце для сябе мэты і задачы будучай ваеннай службы.

# РАЗДЗЕЛ XII
## Ваенна-медыцынская падрыхтоўка

Ваенна-медыцынская падрыхтоўка — навучанне ваеннаслужачых аказанню першай даўрачэбнай дапамогі з выкарыстаннем індывідуальных табельных і падручных сродкаў пры раненнях, баявых паражэннях і няшчасных выпадках, а таксама прафілактыцы найбольш распаўсюджаных інфекцыйных захворванняў і асновам асабістай і грамадскай гігіены.

### § 57. Першая даўрачэбная дапамога

Пры раненнях, баявых паражэннях або няшчасных выпадках медыцынскі работнік паблізу бывае не заўсёды. Прамаруджванне ў аказанні медыцынскай дапамогі можа прывесці да ўскладненняў або смерці пацярпелага. У гэтым выпадку яму аказваецца ***першая даўрачэбная дапамога***, якая заключаецца ў правядзенні самых простых, тэрміновых і мэтазгодных мерапрыемстваў, якімі могуць быць:

- прыпынак крывацёку, накладанне стэрыльнай павязкі на рану;
- імабілізацыя (забеспячэнне нерухомасці) пэўнай часткі цела на час транспарціроўкі пацярпелага;
- штучная вентыляцыя лёгкіх і непрамы масаж сэрца;
- увядзенне антыдотаў (проціяддзяў) пры атручваннях, сродкаў абязбольвання пры вострых болевых сіндромах, антыбіётыкаў пры інфекцыях;
- саграванне цела або накладанне холаду, частковая санітарная апрацоўка і інш.

Першая даўрачэбная дапамога, якая аказваецца самім пацярпелым — гэта самадапамога, а якая аказваецца іншым чалавекам (іншымі людзьмі) — узаемадапамога. Уменне аказваць самадапамогу і ўзаемадапамогу асабліва важна пры вядзенні баявых дзеянняў.

**Раны** — пашкоджанне тканак з парушэннем цэласці іх покрыва (скуры, слізістай абалонкі).

Раны могуць быць: агнястрэльныя, колатыя, рэзаныя, сечаныя, раструшчаныя, ірваныя, удараныя, укушаныя, скальпаваныя.

Агнястрэльная рана — вынік уздзеяння паражальных фактараў агнястрэльнай зброі (куль, асколкаў, шроту). Асабліва небяспечныя для жыцця агнястрэльныя раны ад разрыўных куль, куль са змешчаным цэнтрам цяжару. Пры скразным агнястрэльным раненні ўтвараюцца ўваходныя і выходныя адтуліны, прычым уваходныя заўсёды меншыя за выходныя. У выніку прамога дзеяння асколка ці кулі ўзнікае ранавы канал. У яго, асабліва пры асколачных раненнях, уцягваюцца абрыўкі адзення, зямля, разарваная тканіна, якая забруджвае рану, што спрыяе развіццю цяжкіх формаў гнойных і іншых ускладненняў. Адрозніваюць першаснае і другаснае мікробнае забруджванне. Першаснае забруджванне надыходзіць у момант нанясення раны, другаснае, як правіла, звязана з парушэннем правілаў асептыкі падчас перавязак і аперацый і праяўляецца ў выглядзе гнойных ускладненняў.

***Асептыка*** — меры па прадухіленні бактэрый, якія трапляюць у рану. ***Антысептыка*** — лячэбныя меры, накіраваныя супраць бактэрый, ужо ўкаранёных у рану.

**Крывацёкі.** Аб'ём крыві ў дарослага чалавека складае прыкладна 5 л. Страта 20—30 % масы крыві небяспечная для жыцця чалавека, а 50 % — смяротная.

***Артэрыяльны крывацёк.*** Артэрыяльная кроў ярка-чырвонага колеру, б'е пульсуючым струменем. Пры пашкоджанні буйных сасудаў на працягу некалькіх хвілін можа ўзнікаць страта крыві, не сумяшчальная з жыццём.

***Вянозны крывацёк.*** Ціск у венах значна ніжэйшы, чым у артэрыях, таму кроў выцякае з вен павольна, раўнамерным і бесперапынным цурком. Колер крыві цёмна-вішнёвы.

***Капілярны крывацёк.*** Узнікае пры пашкоджаннях найдрабнейшых крывяносных сасудаў. Кроў з раны выцякае павольна, па кроплях.

**Спосабы спынення крывацёку.** Пры аказанні першай даўрачэбнай дапамогі ажыццяўляецца часовае спыненне крывацёку шляхам пальцавага прыціскання артэрыі, накладання прыціскальнай павязкі, накладанне кроваспыняльнага жгута, фарсіраванага згінання канечнасці.

***Пальцавае прыцісканне артэрыі.*** Прыцісканне артэрыі на працягу, г. зн. не ў вобласці раны, а бліжэй да сэрца па крывацёку, — самы даступны ў любым становішчы спосаб часовага спынення артэрыяльнага крывацёку. Для прымянення гэтага спосабу трэба ведаць месцы (кропкі), дзе артэрыя найбольш блізка ляжыць да паверхні і яе можна прыціснуць да косткі (мал. 87). У гэтых кропках можна амаль заўсёды прамацаць пульсацыю артэрыі.




*Мал. 87.* Кропкі прыцісканя артэрый:
*1* — скроневай; *2* — патылічнай; *3* — сківічнай; *4* — соннай; *5* — падключычнай; *6* — падпахавай; *7* — плечавой; *8* — прамянёвай; *9* — локцевай; *10*, *11* — сцегнавой; *12*, *13* — вялікагалёначнай

Пальцавае прыцісканне артэрыі дае магчымасць спыніць крывацёк амаль імгненна. Але яно прымяняецца толькі для таго, каб выйграць час для іншых спосабаў спынення крывацёку.

***Накладанне прыціскальнай павязкі.*** На рану накладваюць некалькі слаёў марлі, а зверху — ком ваты і туга бінтуюць. Сціснутыя такой павязкай пашкоджаныя сасуды могуць затрамбавацца, таму дадзены спосаб спынення крывацёку павінен быць кароткачасовым.

***Накладанне крываспыняльнага жгута.*** Гумавы жгут расцягваюць і прыкладваюць да канечнасці, папярэдне наклаўшы пракладку (адзенне, ручнік, бінт). Не саслабляючы нацяжэння, абгортваюць жгут вакол канечнасці некалькі разоў так, каб віткі клаліся ўшчыльную адзін да аднаго і каб паміж імі не трапілі складкі скуры. Канцы жгута замацоўваюць з дапамогай ланцужка і кручка. Дакладны час накладання жгута ўказваецца ў запісцы, якую прымацоўваюць да адзення пацярпелага.

Пры адсутнасці гумавага жгута можна выкарыстоўваць падручныя матэрыялы (паясны рамень, гальштук, вяроўку, бінт, насоўку). Пры гэтым перацягваюць канечнасць так, як жгутом, або робяць закрутку з дапамогай палачкі.

**Фарсіраванае згінанне канечнасці.** Спосаб выкарыстоўваецца пры крывацёку з ран у тым месцы, дзе пачынаюцца канечнасці. Пры крывацёку з ран перадплечча і кісці спыненне крывацёку дасягаецца згінаннем да канца ў локцевым суставе і фіксацыяй сагнутага перадплечча з дапамогай бінта, які прыцягвае яго да пляча. Пры крывацёку з ран верхняй часткі пляча і падключычнай вобласці верхняя канечнасць фарсіравана заводзіцца за спіну, згінаецца ў локцевым суставе і фіксуецца з дапамогай бінта. Пры крывацёку з артэрый ніжніх канечнасцей варта да канца сагнуць нагу ў каленным і тазасцегнавым суставах і фіксаваць яе ў гэтым становішчы.

**Павязкі.** Для вырабу і накладання розных павязак служыць перавязачны матэрыял — марля, вата, сеткаватыя бінты. З перавязачнага матэрыялу рыхтуюць пакеты перавязачныя, бінты стэрыльныя і нестэрыльныя, сурвэткі, павязкі розных памераў. Пры адсутнасці або недахопе табельных перавязачных сродкаў у палявых або бытавых умовах выкарыстоўваюць падручныя сродкі — прасціны, кашулі, кавалкі тканіны і інш.

***Пакет перавязачны індывідуальны*** — гэта ўніфікаваная стэрыльная павязка, прызначаная для закрыцця ран і апёкаў пры аказанні першай даўрачэбнай дапамогі. Пакет знаходзіцца ў санітарных сумках малодшага медыцынскага персаналу, а ў ваенны час выдаецца ўсяму асабоваму складу войскаў і фарміраванняў грамадзянскай абароны.

Пакет перавязачны індывідуальны складаецца з бінта, двух ватна-марлевых падушачак і шпількі. Адна з падушачак

прышыта да канца бінта, другая — свабодна перасоўваецца па бінце. Бінт з падушачкамі і шпілька, загорнутыя ў пергаментную паперу, змешчаны ў герметычны непрамакальны мяшочак з прагумаванай тканіны.

Пры выкарыстанні пакета неабходна разарваць прагумаваную абалонку па надрэзе па краі і атрымаць загорнуты ў паперу перавязачны матэрыял. Разгарнуўшы паперу, левай рукой бяруць канец бінта з прышытай да яго ватна-марлевай падушачкай (за бок, пазначаны каляровай ніткай), правай — скатку бінта, рукі разводзяць у бакі. Між рукамі нацягваецца адрэзак бінта з размешчанымі на ім падушачкамі. Падушачкі накладваюць на паверхню раны і замацоўваюць турамі бінта. Пры скразным раненні адну падушачку накладваюць на ўваходную адтуліну раны, другую — на выходную. Канцы бінта замацоўваюць шпількай.

Некаторыя віды павязак на розныя часткі цела паказаны на малюнку (мал. 88).




*Мал. 88.* Віды павязак:
*а* — на галаву
ў выглядзе «чапца»;
*б* — на кісць;
*в* — на перадплечча;
*г* — на локцевы сустаў;
*д* — на плечавы сустаў



**1.** Раскажыце пра значэнне першай даўрачэбнай дапамогі. **2.** Дайце характарыстыку адкрытым пашкоджанням (ранам). **3.** Пералічыце віды крывацёкаў і назавіце спосабы часовага спынення крывацёку. **4.** Раскажыце аб правілах накладання жгута. **5.** Што такое пакет перавязачны індывідуальны?

## § 58. Першая даўрачэбная дапамога (працяг)

**Пераломы костак.** Пералом — пашкоджанне косткі з парушэннем яе цэласці. Калі пад дзеяннем прадмета, які траўміруе, або вострага краю адламанай косткі парушаецца цэласць скуры, то ўтвараецца адкрыты пералом. Калі цэласць скуры не парушана, то пералом называюць закрытым.

Для пашкоджанай часткі цела патрэбны спакой, нерухомасць. Стварэнне такой нерухомасці называецца ***імабілізацыяй***. Імабілізацыя бывае лячэбнай (пастаяннай на час лячэння) і транспартнай (часовай). Транспартная імабілізацыя — важнейшае мерапрыемства першай даўрачэбнай дапамогі пры пераломах і іншых цяжкіх пашкоджаннях.

Для транспартнай імабілізацыі прымяняюць галоўным чынам шыны ў выглядзе палос або жолабаў з розных цвёрдых матэрыялаў, да якіх прыбінтоўваюць пашкоджаную частку цела. Калі няма табельных сродкаў імабілізацыі, то карыстаюцца імправізаванымі шынамі, прымяняючы фанеру, дошчачкі, палкі, лыжы, пучкі дубцоў, палоскі з цвёрдага кардону. Пры адсутнасці падыходзячых падручных сродкаў прыбінтоўваюць пашкоджаную руку да тулава, а пашкоджаную нагу — да здаровай нагі.

Пры транспартнай імабілізацыі варта выконваць наступныя правілы:

- шына павінна быць зручнай для пацярпелага і не прычыняць яму боль;
- імабілізацыя павінна быць праведзена як мага раней;
- пры наяўнасці раны яе варта закрыць асептычнай павязкай да накладання шыны;
- пры неабходнасці прымянення кровазапыняльнага жгута яго неабходна накладваць да правядзення імабілізацыі і не прыкрываць павязкай;

• шына не павінна аказваць моцнага ціску на мяккія тканкі, сасуды, нервы, касцяныя выступы;

• пры пераломах доўгіх трубчастых костак абавязкова фіксаваць 2—3 сумежныя суставы;

• канечнасць варта імабілізаваць у сярэднім фізіялагічным становішчы;

• транспартную шыну трэба прымацоўваць да канечнасці бінтам, які не павінен парушаць кровазварот.

**Штучная вентыляцыя лёгкіх і непрамы масаж сэрца.** У аснове штучнай вентыляцыі лёгкіх ляжыць уздзьмуханне паветра ў дыхальныя шляхі пацярпелага. Найбольш просты метад — «з рота ў рот». Штучная вентыляцыя лёгкіх праводзіцца наступным чынам:

• пакласці пацярпелага на спіну; вызваліць яго шыю, грудную клетку і вобласць жывата ад элементаў адзення, якія сціскаюць (расшпіліць каўнер, аслабіць гальштук, паясны рамень і інш);

• агледзець ротавую поласць і пры наяўнасці вадкасці, іншародных цел выдаліць іх;

• адной рукой узяць пацярпелага за падбародак, а другой заціснуць яму нос і закінуць галаву;

• зрабіць глыбокі ўдых і, шчыльна ахапіўшы вуснамі рот пацярпелага, з некаторым намаганнем удыхнуць у яго паветра. Удыханне можна праводзіць праз хустку, сурвэтку;

• адразу пасля завяршэння ўдыхання паветра і пашырэння грудной клеткі пацярпелага вызваліць яго рот і нос;

• убачыўшы, што грудная клетка пацярпелага апускаецца, зрабіць чарговае ўдыханне ў яго рот.

Цыклы ўдыхання паветра паўтараюцца 12—18 разоў у хвіліну.

У выпадку спынення сэрца пацярпеламу ў парадку аказання першай даўрачэбнай дапамогі варта неадкладна правесці непрамы масаж сэрца. Для правядзення непрамога масажу сэрца пацярпелага трэба пакласці на плоскую цвёрдую паверхню. Выратавальнік размяшчаецца збоку, кладзе далонь на грудзі пацярпелага такім чынам, каб аснова далоні размяшчалася на ніжнім канцы яго грудзіны. На верх гэтай кісці для ўзмацнення ціску выратавальнік змяшчае другую кісць і моцнымі рухамі, дапамагаючы пры гэтым сабе ўсім

цяжарам цела, ажыццяўляе хуткія рытмічныя штуршкі (1 раз у секунду) на грудзь пацярпелага.

Непрамы масаж сэрца абавязкова спалучаецца з правядзеннем штучнай вентыляцыі лёгкіх. Пры гэтым пасля кожнага штучнага ўдыху робяцца наступныя пяць сціскanняў сэрца. Такім чынам, у хвіліну павінна быць праведзена да 12 удыхаў і 60 сціскanняў сэрца.

**Сонечны і цеплавы ўдар.** Пры дзеянні прамых сонечных прамянёў на галаву можа наступіць сонечны ўдар. Цеплавы ўдар узнікае пры агульным пераграванні арганізма, які можа наступіць пры вялікіх фізічных нагрузках, павышанай вільготнасці, недастатковым паступленні ў арганізм пітной вады і інш. Развіццю цеплавога ўдару спрыяюць цеснае і дрэнна пранікальнае для паветра адзенне, ужыванне алкаголю і іншыя фактары.

Аказанне першай даўрачэбнай дапамогі аднолькавае як пры сонечным, так і пры цеплавым удары. Пацярпелага варта тэрмінова вынесці ў цень ці халаднаватае месца, забяспечыць яму доступ свежага паветра, вызваліць ад адзення, даць выпіць халоднай вады, пакласці халодны кампрэс або лёд на галаву, пахвінныя вобласці. Карысна абкручваць пацярпелага прасцінамі, змочанымі халоднай вадой, абдзімаць вентылятарам.

**Адмарожанне** — пашкоджанне тканак цела пад уплывам холаду. Адмарожанне можа адбыцца не толькі ў марознае надвор’е, але і пры тэмпературы каля нуля, калі сыра і ветрана.

Пацярпелага неабходна сагрэць, абклаўшы грэлкамі. Адмарожаную канечнасць трэба апусціць у цёплую ваду (тэмпература 36—40 °С) і асцярожна расціраць да тых часоў, пакуль скура не пачырванее і не адновіцца яе адчувальнасць, затым накласці спіртавую або асептычную павязку. Адмарожаную канечнасць нельга расціраць снегам або апускаць у халодную ваду.

**Удар, вывіх, расцяжэнне.** ***Удар*** — закрытае пашкоджанне тканак і органаў, выкліканае кароткачасовым уздзеяннем на паверхню цела цвёрдага прадмета без парушэння цэласці скуры, тканак, слізістых абалонак і органаў. Аказанне першай даўрачэбнай дапамогі пры ўдарах заключаецца ў накладанні прыціскальнай павязкі, холаду (пузыр з лёдам на 40—50

хвілін, з перапынкам у 10—15 хвілін). Пры невялікіх паверхневых ударах неабходна накласці вільготную павязку з халоднай вадой.

***Вывіх*** — парушэнне цэласнасці сустава з устойлівым перамяшчэннем сустаўных канцоў костак. Траўматычны вывіх узнікае ад празмернага або неўласцівага дадзенаму суставу руху. Найбольш часта сустракаюцца траўматычныя вывіхі пляча, перадплечча, пальцаў кісці, сцягна, ніжняй сківіцы. Першая даўрачэбная дапамога пры вывіху заключаецца ў імабілізацыі пацярпелай канечнасці, увядзенні абязбольвальных сродкаў, прыкладанні холаду на вобласць пашкоджанага сустава. Упраўлянне вывіху і далейшае лячэнне ажыццяўляе толькі ўрач.

***Расцяжэнне*** — гэта надрыў тканак з захаваннем іх цэласці. Першая даўрачэбная дапамога пры расцяжэнні — тугое бінтаванне пашкоджанага сустава, пры моцных болях — імабілізацыя і неадкладны зварот да ўрача.

**Паражэнне ядамі жывёл, атручванне ядавітымі раслінамі.** Небяспечнай жывёлай для чалавека ў Беларусі з'яўляецца гадзюка. Звычайна змеі нападаюць на людзей, калі іх патрывожыць. Ужо ў першыя хвіліны пасля ўкусу гадзюкі, які выклікае невялікі боль і пачуццё пякоты, вакол месца ўкусу з'яўляецца пачырваненне, шматлікія кровазліцці і ацёк, які хутка распаўсюджваецца.

Аказанне першай дапамогі пацярпеламу варта пачаць з неадкладнага і энергічнага адсмоктвання змесціва ранкі, не забываючы пры гэтым увесь час сплёўваць вадкасць, якая адсмоктваецца. Адсмоктванне працягваць 15—20 хвілін. Затым, па магчымасці, апрацаваць ранку ёдам, спіртам, зялёнкай. Пасля гэтага забяспечыць нерухомае становішча ўкушанай канечнасці, супакой пацярпеламу. Катэгарычна супрацьпаказана рабіць пацярпеламу разрэзы скуры на месцы ўкусу, даваць піць спіртныя напіткі, уводзіць у зону ўкусу марганцавакіслы калій ці іншыя акісляльнікі, абпальваць месца ўкусу, накладваць жгут.

Пры ўжыванні ў ежу ядавітых грыбоў (беднай паганкі, мухамора, апёнкаў ілжывых і інш.), недастатковай кулінарнай апрацоўцы ўмоўна ядомых і выкарыстанні ў ежу старых ядомых грыбоў узнікае атручванне. Атручванні праяўляюцца рэзкімі болямі ў жываце, ірвотай і моцным паносам з

дамешкам крыві, могуць суправаджацца зніжэннем тэмпературы, сутаргамі, жаўтухай, павелічэннем печані, расстройствамі сардэчнай дзейнасці з падзеннем крывянога ціску.

Першая даўрачэбная дапамога пры атручванні грыбамі складаецца з прамывання страўніка. Для гэтага трэба выклікаць у пацярпелага моцную рвоту (з гэтымі мэтамі рэкамендуецца багатае піццё), даць яму актываваны вугаль і затым слабіцельнае. Трэба пазбягаць пападання ў рот воцату і кіслаты.

Атручванне чалавека можа наступіць і пры ўжыванні ў ежу пладоў, зяляніны ці каранёў ядавітых раслін. Першая даўрачэбная дапамога пры атручванні ядавітымі раслінамі такая ж, як і пры атручванні грыбамі.

**Спосабы транспарціроўкі паражоных і хворых.** Пасля аказання першай даўрачэбнай дапамогі пацярпеламу яго неабходна даставіць у бліжэйшую лячэбную ўстанову.

Найбольш траўмабяспечным сродкам транспарціроўкі хворых і паражоных з'яўляюцца санітарныя насілкі. Акрамя насілак, для транспарціроўкі пацярпелых, асабліва з пераломамі касцей таза і пазваночніка, мэтазгодна выкарыстоўваць *вакуумныя насілкі*. Для пераноскі хворых прымяняюць спецыяльныя *насілачныя лямкі*, якія дазваляюць выносіць пацярпелых з цяжкадаступных месцаў.

Насілкі можна зрабіць з падручных матэрыялаў — двух жэрдак, злучаных драўлянымі распоркамі, пераплеценых лямкамі (вяроўкамі, рамянём і інш.). У гады Вялікай Айчыннай вайны для вынасу параненага салдата з поля бою пад агнём праціўніка часам адзіным сродкам была салдацкая шынель або плашч-палатка.

Палажэнне паражонага на насілках залежыць ад характару ранення або траўмы. Пры пераломе шыйнага або груднога аддзела пазваночніка пацярпелага транспартуюць на спіне, паяснічнага аддзела — на жываце. Пры раненнях у жывот, пераломах касцей таза пацярпелага кладуць на спіну, ногі яму згінаюць у каленях.

Пры адсутнасці насілак і падручных сродкаў можна пераносіць хворых на руках, спіне, плячы, а таксама пры дапамозе «замка» з чатырох і трох рук (мал. 89).




*Мал. 89.* Спосабы пераноскі пацярпелых:
*а* — санітарныя насілкі; *б* — насілачная лямка; *в* — з дапамогай «замка» з трох рук; *г* — на спіне (з цесных вузкіх памяшканняў)



**1.** Як аказаць першую даўрачэбную дапамогу пры пераломах розных частак цела? **2.** Як праводзяцца штучная вентыляцыя лёгкіх і непрамы масаж сэрца? **3.** Раскажыце пра сонечны, цеплавы ўдар, адмарожанні і першую дапамогу пры іх. **4.** Раскажыце пра першую дапамогу пры закрытых пашкоджаннях. **5.** Як аказаць першую дапамогу пры атручванні грыбамі, ядавітымі раслінамі, пры паражэнні ядамі жывёл?

## § 59. Захаванне і ўмацаванне здароўя ваеннаслужачых

Захаванне і ўмацаванне здароўя, фізічнае развіццё ваеннаслужачых — важная і неад'емная частка іх падрыхтоўкі да выканання свайго воінскага абавязку.

Загартоўванне ваеннаслужачых, заняткі фізічнай падрыхтоўкай і спортам праводзяцца ў мэтах павышэння ўстойлівасці іх арганізма да розных рэзкіх змяненняў фізічных фактараў навакольнага асяроддзя, да ўмоў, звязаных з асаблівасцямі ваеннай службы і выкананнем баявых задач.

Загартоўванне ваеннаслужачых павінна праводзіцца сістэматычна і бесперапынна шляхам комплекснага выкарыстання водных, сонечных і паветраных фактараў у спалучэнні з заняткамі фізічнай падрыхтоўкай і спортам. Асноўнымі спосабамі загартоўвання ваеннаслужачых з'яўляюцца:

- штодзённае выкананне фізічных практыкаванняў на адкрытым паветры;
- абмыванне да пояса халоднай вадой або прыняцце кароткачасовага халоднага душа;
- паласканне горла халоднай вадой, а таксама мыццё ног халоднай вадой перад адбоем;
- правядзенне ў зімовы перыяд лыжных трэніровак і заняткаў, выкананне работ у аблегчанай вопратцы;
- у летні перыяд правядзенне заняткаў і спартыўна-масавых мерапрыемстваў у аблегчанай вопратцы, прыняцце сонечных ваннаў і купанне ў адкрытых вадаёмах.

Заняткі фізічнай падрыхтоўкай і спортам ажыццяўляюцца на ранішняй фізічнай зарадцы, навучальных занятках, у час спартыўна-масавай работы, у працэсе вучэбна-баявой дзейнасці ваеннаслужачых, а таксама ў ходзе самастойных трэніровак. На занятках выконваюцца фізічныя практыкаванні з выкарыстаннем розных спосабаў трэніроўкі і дазіравання фізічнай нагрузкі, з улікам прыналежнасці ваеннаслужачых да віду Узброеных Сіл і роду войскаў, узросту і стану здароўя.

Заняткі спортам ажыццяўляюцца ў спартыўных секцыях і камандах у час, устаноўлены распарадкам дня і рэгламентам службовага часу.

**Санітарна-гігіенічныя і супрацьэпідэмічныя мерапрыемствы.** Кожны ваеннаслужачы павінен клапаціцца пра захаванне свайго здароўя, не ўтойваць хвароб, строга выконваць правілы асабістай і грамадскай гігіены і ўстрымлівацца ад шкодных звычак (курэння, ужывання алкаголю). Выкананне правілаў асабістай гігіены ўключае:

- ранішняе мыццё з чысткай зубоў;
- мыццё рук перад прыёмам ежы;
- мыццё, чыстку зубоў і мыццё ног перад сном;
- своечасовае галенне твару, стрыжку валасоў і пазногцяў;
- штотыднёвае мыццё ў лазні са зменай сподняй і пасцельнай бялізны, ануч і шкарпэтак;
- утрыманне ў чысціні абмундзіравання, абутку і пасцелі, штодзённую змену падкаўнерыкаў.

Прычоска ваеннаслужачага, вусы, калі яны маюцца, павінны быць акуратнымі, адказваць патрабаванням гігіены і не перашкаджаць выкарыстанню сродкаў індывідуальнай аховы і нашэнню рыштунку.

Правілы грамадскай гігіены ўключаюць: утрыманне ў чысціні тэрыторыі воінскай часці, спальных памяшканняў, туалетаў і пакояў агульнага карыстання, а таксама рэгулярнае іх праветрыванне.

Для забеспячэння неўспрымальнасці ваеннаслужачых да інфекцыйных хвароб праводзяцца ахоўныя прышчэпкі. Прышчэпкі могуць быць планавымі і па эпідэмічных паказчыках.

Ваеннаслужачы абавязаны далажыць па камандзе пра выпадкі ўзнікнення інфекцыйных захворванняў сярод асоб, якія пражываюць з ім у адной кватэры (пакоі інтэрната), і выконваць службовыя абавязкі з дазволу камандзіра воінскай часці і паводле заключэння начальніка медыцынскай службы.

Пры выяўленні ў воінскай часці інфекцыйнага хворага неадкладна праводзіцца актыўнае выяўленне, ізаляцыя і шпіталізацыя астатніх хворых. Адразу ж праводзіцца дэзынфекцыя у падраздзяленнях і назіранне за асобамі, якія былі ў кантакце з хворым, узмацняецца санітарна-гігіенічны кантроль. Пры неабходнасці ў воінскай часці ўводзіцца каранцін або рэжым абсервацыі.

**Лячэбна-прафілактычныя мерапрыемствы.** Асноўнымі лячэбна-прафілактычнымі мерапрыемствамі з'яўляюцца

дыспансерызацыя, амбулаторнае, стацыянарнае і санаторна-курортнае лячэнне ваеннаслужачых.

Дыспансерызацыя ўключае медыцынскі кантроль за станам здароўя асабовага складу, актыўнае ранняе выяўленне захворванняў, вывучэнне ўмоў службы і побыту ваеннаслужачых, выяўленне фактараў, якія адмоўна ўплываюць на іх здароўе, правядзенне прафілактычных і лячэбна-аздараўленчых мерапрыемстваў.

Медыцынскі кантроль стану здароўя ваеннаслужачых ажыццяўляецца шляхам правядзення штодзённага медыцынскага назірання ў працэсе баявой падрыхтоўкі і ў побыце, медыцынскіх аглядаў, паглыбленых і кантрольных медыцынскіх абследаванняў.

Пры захворванні ваеннаслужачы абавязаны неадкладна далажыць пра гэта непасрэднаму начальніку і з яго дазволу звярнуцца за медыцынскай дапамогай у медыцынскі пункт воінскай часці. Амбулаторны прыём праводзіцца ў медыцынскім пункце ў гадзіны, устаноўленыя распарадкам дня воінскай часці. Ваеннаслужачыя, якія раптам захварэлі або атрымалі траўму, накіроўваюцца (суправаджаюцца) у медыцынскі пункт неадкладна ў любы час сутак.

Салдаты і сяржанты павінны мыцца ў лазні не радзей аднаго разу ў тыдзень, а кухары і пекары, акрамя таго, штодня прымаць душ. Для мыцця ў лазні (прыёму душа) ваеннаслужачыя тэрміновай службы забяспечваюцца мылам, ручнікамі і прадэзынфікаванымі мачалкамі. Бялізна нацельная і пасцельная, ручнікі, анучы і шкарпэткі павінны мяняцца адзін раз у тыдзень, у дні мыцця ў лазні; кухарам і пекарам споднняя бялізна мяняецца не менш як два разы ў тыдзень. Пры неабходнасці бялізну, ручнікі, анучы і шкарпэткі мяняюць часцей.



**1.** Раскажыце пра значэнне і забеспячэнне загартоўвання ваеннаслужачых, заняткаў фізічнай падрыхтоўкай і спортам. **2.** Назавіце правілы асабістай гігіены ваеннаслужачага. **3.** Што ўключае ў сябе дыспансерызацыя, як ажыццяўляецца медыцынскі кантроль стану здароўя ваеннаслужачых?

# РАЗДЗЕЛ XIII
# Фізічная падрыхтоўка

Для таго каб перамагчы ў баі, адолець ворага, выканаць баявую задачу, аднаго жадання, якім бы вялікім яно ні было, часам бывае недастаткова. Сучасны бой патрабуе ад воіна дасканалых фізічных якасцей, а таму і ваенная служба мірнага часу насычана значнымі фізічнымі нагрузкамі.

Каб лягчэй адаптавацца да ўмоў ваеннай службы, хутчэй і больш якасна авалодаць ваеннай спецыяльнасцю, юнаку ў працэсе дапрызыўнай падрыхтоўкі і фізічнага выхавання варта давесці ўзровень сваёй фізічнай падрыхтаванасці да стартавых нарматываў воіна-навабранца.

## § 60. Ваенна-прыкладная фізічная падрыхтоўка

Пераадоленне перашкод уключае ў сябе безапорныя і апорныя скачкі, пералазанне і пралазанне, скачкі ў глыбіню, перамяшчэнне па вузкай апоры.

*Безапорныя скачкі* прымяняюцца пры пераадоленні нешырокіх гарызантальных і невысокіх вертыкальных перашкод і выконваюцца з прызямленнем на адну або абедзве нагі.

***Скачок з прызямленнем на адну нагу*** прымяняецца пры пераадоленні перашкод шырынёй да 2 м і вышынёй да 0,8 м.

Зрабіць кароткі разбег, адштурхнуцца перад перашкодай адной нагой, выносячы другую нагу шырокім крокам наперад, пераскочыць цераз перашкоду і, прызямліўшыся на гэтую нагу, не затрымліваючыся, працягваць рух. У момант палёту штуршковая (мацнейшая) нага застаецца ззаду да дотыку другой нагой зямлі, пасля чаго робіць узмах наперад, дапамагаючы безупынна працягваць бег. Рукі працуюць у такт руху, як пры хадзе, пры штуршку правай нагой правая рука пасылаецца рэзкім рухам наперад уверх, дапамагаючы скачку.

***Скачок з прызямленнем на абедзве нагі*** прымяняецца пры пераадоленні перашкод шырынёй да 4 м і вышынёй да 1 м, якія не могуць служыць апорай пры скачку.

Зрабіць энергічны разбег, які паскараецца да канца, адштурхнуцца перад перашкодай штуршковай нагой і, дапамагаючы скачку энергічным вынасам абедзвюх рук наперад уверх, пераскочыць цераз перашкоду. У палёце тулава нахілена наперад, ногі сагнутыя, а рукі вынесены наперад. Прызямленне ажыццяўляецца на пяткі злёгку расстаўленых ног.

*Апорныя скачкі* прымяняюцца пры пераадоленні вышынёй да ўзроўню грудзей перашкод, якія можна выкарыстоўваць як апору.

***Скачок з наступам на перашкоду*** прымяняецца пры пераадоленні перашкод вышынёй да 1 м.

Разбегчыся, адштурхнуцца перад перашкодай штуршковай нагой і, падаючы тулава наперад, мякка ўскокнуць на перашкоду другой, моцна сагнутай, нагой. Не выпрастаўшыся, пранесці над перашкодай нагу, якой рабіўся штуршок, і, мякка саскочыўшы на яе, працягваць рух.

***Скачок з апорай рукой і нагой*** прымяняецца пры пераадоленні перашкод вышынёй да ўзроўню грудзей.

Зрабіць энергічны разбег, адштурхнуцца левай нагой і ўскочыць на перашкоду, абапіраючыся на левую руку і на адведзеную ўбок злёгку сагнутую правую нагу. Цяжар цела — на левай руцэ, вялікі палец якой звернуты назад. Падаючы плечы наперад, перанесці левую нагу цераз перашкоду, саскочыць на яе і, не затрымліваючыся, працягваць рух.

Пералазанне прымяняецца пры пераадоленні перашкод вышынёй 4—5 м. У залежнасці ад вышыні перашкоды і абстаноўкі пералазанне можна ажыццяўляць самастойна (вышыня перашкоды да 2,5 м) або з дапамогай таварыша.

***Пералазанне з апорай на грудзі*** прымяняецца пры пераадоленні перашкод, вышыня і верхні край якіх дазваляюць абаперціся аб іх грудзьмі.

Падбегчы да перашкоды, узяцца левай рукой за яе край і легчы грудзьмі на перашкоду. Перавальваючыся цераз яе, абаперціся далонню правай рукі аб другі бок перашкоды, перанесці цераз яе абедзве нагі і саскочыць.

***Пералазанне з апорай на рукі*** прымяняецца пры пераадоленні перашкод вышынёй да ўзроўню плячэй.

Падбегчы да перашкоды, узяцца рукамі за яе край і, адштурхнуўшыся абедзвюма нагамі ад зямлі, выйсці ва ўпор. Саскокваць можна як пры скачку з апорай на перашкоду рукой і нагой або пераносячы цераз перашкоду спачатку левую, а затым правую нагу.

***Пералазанне «зачэпам»*** прымяняецца пры пераадоленні штыкетнікаў, вышэйшых за рост чалавека.

Зрабіць энергічны разбег, адштурхнуцца мацнейшай нагой ад зямлі ў адным кроку ад штыкетніка і, абапіраючыся другой, сагнутай нагой аб штыкетнік, ухапіцца за яго край. Падцягнуцца і павіснуць на штыкетніку левым бокам да яго так, каб верхні край штыкетніка быў пад пахай, а локаць левай рукі прыціснуты да яго са зваротнага боку. Сагнуць левую нагу і, выносячы калена наперад, прыціснуць нагу да штыкетніка. Адвесці правую нагу назад і, узмахнуўшы ёю, зачапіцца абцасам за верх штыкетніка. Падцягваючыся да штыкетніка, пераваліцца цераз яго і саскочыць.

***Пералазанне «сілай»*** прымяняецца пры пераадоленні штыкетнікаў і высокіх перашкод, якія маюць шырокі край.

Энергічна разбегчыся і, адштурхнуўшыся адной нагой ад зямлі, а другой абапіраючыся аб перашкоду, ухапіцца рукамі за яе верхні край. Падцягваючыся на руках, прыціскаючыся грудзьмі да перашкоды і дапамагаючы сабе нагамі, выйсці ва ўпор. Перахапіць левую руку вялікім пальцам наперад. Нахіляючы корпус уперад, зрабіць узмах нагамі назад уверх, уперціся далонню правай рукі ў процілеглы бок перашкоды і, пераносячы цераз яе ногі, мякка саскочыць.

***Саскокванне*** з паставы стоячы прымяняецца пры саскокванні з перашкод вышынёй да 1,5 м, а саскокванне з апорай на руку — пры саскокванні з перашкод вышынёй да 2 м, а таксама пры саскокванні з больш нізкай перашкоды на цвёрды або няроўны грунт, з цяжкім рыштункам і ў цемры. Пры саскокванні з перашкод вышынёй да 3 м прымяняецца саскокванне з паставы седзячы, а пры саскокванні з перашкод вышынёй да 5 м — саскокванне з вісу.

Пры пераадоленні перашкод праз наяўныя ў іх адтуліны прымяняецца ***пралазанне***. У залежнасці ад велічыні і формы

адтуліны пралазіць можна бокам або галавой наперад. Калі адтуліна знаходзіцца на ўзроўні зямлі, пралазанне адбываецца ўпаўзаннем у адтуліну па-пластунску.

***Перамяшчэнне па вузкай апоры*** ў залежнасці ад абстаноўкі і велічыні перашкоды можа праводзіцца або седзячы вярхом, або хадой, або бягом.

На вялікай вышыні, у цемры і пры неабходнасці перасоўвацца з грузам прымяняецца перамяшчэнне па бервяне седзячы вярхом. Сесці вярхом на бервяно (бэльку). Падаць тулава наперад, паставіўшы рукі за 30—40 см перад сабой. Пераносячы цяжар цела на рукі і злёгку прыўзняўшыся на іх, зрабіць адмах нагамі і перасунуцца наперад да рук. Працягваць такім жа чынам перамяшчэнне далей.

Перамяшчэнні па бервяне крокам і бегам прымяняюцца на невялікай вышыні. Рухацца па бервяне дробнымі крокамі на злёгку сагнутых у каленях нагах. Ступні ног ставіць прама ўздоўж бервяна, глядзець на апору за тры-чатыры крокі перад сабой. Пры перамяшчэнні адзін за адным ісці не ў нагу.

Перамяшчацца па вузкай апоры на вялікай вышыні можна крокам, прытрымліваючыся за вяроўку, нацягнутую збоку апоры на вышыні пояса.

**Плаванне.** Пры плаванні на 100 м старт выконваецца са стартавай тумбачкі. Па камандзе «Удзельнікам заняць месцы» (ці падаецца падоўжаны сігнал свістком) плыўцы становяцца на стартавай тумбачцы, а па камандзе «На старт» стаяць нерухома для скачка ў ваду. Па камандзе «МАРШ» (ці падаецца кароткі сігнал свістком) выканаць адвольны скачок у ваду і праплысці дыстанцыю любым спосабам плавання. Паварот выконваецца з абавязковым дотыкам да сценкі (паваротнага шчыта) любой часткай цела.



**1.** Раскажыце пра змест і значэнне ваенна-прыкладной падрыхтоўкі. **2.** Успомніце вядомыя вам спосабы пераадолення перашкод: безапорныя і апорныя скачкі, пералазанне, саскокванне, пралазанне, перамяшчэнне па вузкай апоры. **3.** Выканайце практыкаванні № 1 і 2 па кіданні ручных гранат.

## § 61. Прыкладны фізкультурна-спартыўны комплекс «Абаронца Айчыны»

Да выканання патрабаванняў комплексу дапускаюцца юнакі, аднесеныя па стане здароўя да асноўнай медыцынскай групы, якія маюць дазвол урача і якія прайшлі папярэднюю падрыхтоўку.

Фізкультурна-спартыўныя мерапрыемствы па комплексе «Абаронца Айчыны» праводзяцца ўнутры навучальных устаноў у выглядзе спаборніцтваў з вызначэннем лепшых вынікаў. Да ўдзелу ў спаборніцтвах павінны быць прыцягнуты ўсе прыгодныя па стану здароўя юнакі дапрызыўнага і прызыўнога ўзросту, якія вучацца ў навучальнай установе.

**Патрабаванні комплексу «Абаронца Айчыны».** Комплекс складаюць 7 кантрольных практыкаванняў (тэстаў), якія дазваляюць ацаніць асноўныя фізічныя і спецыяльна-прыкладныя якасці юнакоў: трываласць, сілу, хуткасць, спрытнасць, прыкладныя навыкі. Першы блок тэстаў з трох практыкаванняў вызначае агульную фізічную падрыхтаванасць юнакоў: бег на 100 м; бег на 3 км; падцягванне на перакладзіне. Другі блок тэстаў з чатырох практыкаванняў дазваляе вызначыць спецыяльна-прыкладную падрыхтаванасць дапрызыўнікаў і прызыўнікоў: кіданне гранаты (700 г) або мяча (150 г); лыжныя гонкі на 5 км або крос на 3 км; плаванне на 50 м; стральба з пнеўматычнай вінтоўкі.

**Умовы выканання кантрольных практыкаванняў.** ***Падцягванне на высокай перакладзіне*** выконваецца з паставы «віс хватам зверху». Пры падцягванні не дапускаюцца гойданне на перакладзіне, рыўковыя рухі, а таксама згінанне ног у каленных суставах. Адлегласць паміж кісцямі рук пры выкананні практыкавання павінна быць на шырыню плячэй. Падцягванне залічваецца, калі падбародак падымаецца вышэй за перакладзіну, а рукі пры апусканні цалкам разгінаюцца ў локцевых суставах.

***Бег на 3 км*** праводзіцца па дарожцы стадыёна. Час, затрачаны на пераадоленне дыстанцыі, вызначаецца з дакладнасцю да адной секунды па «коўзкім» секундамеры.

***Бег на 100 м*** выконваецца з высокага старту. Для юнака, які дапусціў два фальстарты, практыкаванне лічыцца нявыкананым.

**Прыкладны фізкультурна-спартыўны комплекс «Абаронца Айчыны» для юнакоў дапрызыўнага і прызыўнога ўзросту**

| Кантрольныя практыкаванні | 15 гадоў | | | 16 гадоў | | | 17 гадоў і старэйшыя | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 5 | 4 | 3 | 5 | 4 | 3 | 5 | 4 | 3 |
| Блок тэстаў агульнай фізічнай падрыхтаванасці | | | | | | | | | |
| Бег на 100 м з высокага старту, с | 14,4 | 14,7 | 15,0 | 14,0 | 14,4 | 14,8 | 13,4 | 14,1 | 14,6 |
| Бег на 3 км, мін, с | 15.00 | 16.00 | 16.50 | 13.50 | 14.45 | 15.30 | 11.40 | 12.05 | 12.55 |
| Падцягванне на перакладзіне, разоў | 11 | 10 | 7 | 13 | 11 | 9 | 13 | 11 | 10 |
| Блок тэстаў спецыяльна-прыкладной падрыхтаванасці | | | | | | | | | |
| | «здадзена» | | | «здадзена» | | | «здадзена» | | |
| Кіданне мяча, м<br>Кіданне гранаты, м | Не менш як 36<br>Не менш як 23 | | | Не менш як 45<br>Не менш як 27.5 | | | Не менш як 58<br>Не менш як 32 | | |
| Лыжныя гонкі на 5 км, мін, с<br>Крос на 3 км, мін, с | Не больш за 30.15<br>Не больш за 16.55 | | | Не больш за 30.00<br>Не больш за 15.35 | | | Не больш за 29.30<br>Не больш за 13.05 | | |
| Плаванне на 50 м | Без уліку часу | | | Без уліку часу | | | Без уліку часу | | |
| Стральба з пнеўматычнай вінтоўкі | 2 пападанні з 5 стрэлаў у чорны круг мішэні | | | 3 пападанні з 5 стрэлаў у чорны круг мішэні | | | 3 пападанні з 5 стрэлаў у чорны круг мішэні | | |

***Кіданне мяча 150 г (гранаты 700 г)*** выконваецца спосабам «з-за спіны цераз плячо» ў сектары для кідання або ў спецыяльна абсталяваным месцы. Шырыня калідора для кідання — 15 м. Удзельніку даюцца тры спробы. З іх залічваецца лепшая.

***Лыжная гонка на 5 км, або крос на 3 км,*** праводзіцца па перасечанай мясцовасці. Вынікі, паказаныя ўдзельнікамі пры выкананні дадзенага практыкавання, фіксуюцца з дакладнасцю да адной секунды па «коўзкім» секундамеры. Лыжная гонка і крос — узаемазамяняльныя практыкаванні: пры адсутнасці снегу ў зімовы перыяд замест лыжнай гонкі праводзіцца крос.

***Стральба з пнеўматычнай вінтоўкі*** выконваецца з паставы «стоячы без упора». Адлегласць да цэлі 10 м. Мішэнь № 8 узору 1989 года. Час на стральбу — 15 хвілін. Колькасць стрэлаў — 8 (3 пробныя, 5 залiковых). Не дапускаюцца да выканання практыкавання юнакі, якія не засвоілі мер бяспекі, што фіксуецца ў пратаколе праходжання інструктажу па тэхніцы бяспекі пры выкананні практыкаванняў па стральбе.

***Плаванне на 50 м*** праводзіцца ў басейне ці спецыяльна абсталяваных месцах адкрытых вадаёмаў. Стыль плавання — вольны.

**Вызначэнне вынікаў выканання комплексу «Абаронца Айчыны».** У кожнай узроставай групе маюцца ўзроўні фізічнай і спецыяльна-прыкладной падрыхтаванасці юнакоў: I ступень; II ступень; III ступень.

Узровень падрыхтаванасці адлюстроўваюць адзнакі, атрыманыя юнакамі пры выкананні практыкаванняў.

Агульны ўзровень фізічнай і спецыяльна-прыкладной гатоўнасці юнакоў дапрызыўнага і прызыўнога ўзросту вызначаецца па табліцы (гл. с. 314).

Юнакі, якія паказалі вынікі, што адпавядаюць I ступені, лічацца добра падрыхтаванымі да службы ў арміі. Юнакі, якія паказалі вынікі, што адпавядаюць II і III ступеням, лічацца здавальняюча падрыхтаванымі да службы ў арміі, аднак іх фізічныя і спецыяльна-прыкладныя якасці патрабуюць далейшага ўдасканалення.

Юнакі, якія паказалі вынікі ніжэй III ступені, лічацца па фізічных і спецыяльна-прыкладных якасцях не падрыхтаванымі

| I ступень | II ступень | III ступень |
|---|---|---|
| Блок тэстаў агульнай фізічнай падрыхтаванасці | | |
| Дзве адзнакі «выдатна», адна не ніжэй за «добра» | а) Адна з адзнак «здавальняюча», астатнія — не ніжэй за «добра»;<br>б) дзве адзнакі «добра», адна — не ніжэй за «добра» | а) дзве адзнакі «здавальняюча», трэцяя — не ніжэй за «здавальняюча»;<br>б) пры адной адзінцы «нездавальняюча», дзве іншыя — не ніжэй за «добра» |
| Блок тэстаў спецыяльна-прыкладной падрыхтаванасці | | |
| Атрыманыя адзнакі не ніжэй за «здадзена» ў чатырох практыкаваннях | Атрыманыя адзнакі не ніжэй за «здадзена» ў чатырох практыкаваннях | Атрыманыя адзнакі не ніжэй за «здадзена» ў чатырох практыкаваннях |
| Пры атрыманні адзнакі ніжэй за «здадзена» у адным з практыкаванняў блока тэстаў спецыяльна-прыкладной падрыхтаванасці залічваецца выкананне патрабаванняў II ступені, у двух — выкананне III ступені, у трох і больш — невыкананне патрабаванняў гэтага комплексу | Пры атрыманні адзнакі ніжэй за «здадзена» у адным з практыкаванняў блока тэстаў спецыяльна-прыкладной падрыхтаванасці залічваецца выкананне патрабаванняў III ступені, у двух і больш — невыкананне патрабаванняў гэтага комплексу | Пры атрыманні хоць бы адной адзнакі «не здадзена» блока тэстаў спецыяльна-прыкладной падрыхтаванасці залічваецца невыкананне патрабаванняў гэтага комплексу |

да службы ў арміі. З гэтага кантынгенту юнакоў камплектуюцца групы агульнай фізічнай падрыхтоўкі, з імі праводзяцца дадатковыя заняткі.

**Дадатковыя патрабаванні да ведаў, уменняў і навыкаў.** Юнак дапрызыўнага і прызыўнога ўзросту павінен:

• ведаць асновы выжывання ў экстрэмальных сітуацыях;

• умець арыентавацца на мясцовасці па компасе і без компаса, па тапаграфічнай і спартыўнай картах, у начны і дзённы час сутак, арганізоўваць бівак, пераадольваць натуральныя і штучныя перашкоды падчас хады, бегу;

• валодаць навыкамі бегу па перасечанай мясцовасці, умець выконваць марш-кідкі з абцяжарваннем («выкладкай» вагой 5—10 кг), з пераадоленнем асобных участкаў у процівагазе; валодаць тэхнікай завязвання турысцкіх вузлоў («васьмёрка», «правадыр», «двайны праваднік», «брамшкотавы» і інш.) і навядзення пераправаў цераз розныя перашкоды.



**1.** Якая мэта прыкладнога фізкультурна-спартыўнага комплексу «Абаронца Айчыны»? **2.** Пералічыце кантрольныя практыкаванні комплексу «Абаронца Айчыны». **3.** Назавіце нарматывы для вашай узроставай групы па ўсіх кантрольных практыкаваннях комплексу. **4.** Выканайце кантрольныя практыкаванні комплексу, якія адпавядаюць вашай узроставай групе.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

**Юны дружа!**

Ты скончыў вывучэнне курсу дапрызыўнай падрыхтоўкі. Ззаду школа дзяцінства і юнацтва. Наперадзе — армейская школа мужнасці. Служы з годнасцю і гонарам сваёй Айчыне. Беларусі патрэбна твая ратная праца.

За продкаў, за бацькоў сваіх,
За Беларусь служы, салдаце,
Каб не было саромна ім,
Каб спаць магла спакойна маці! *

***У добры шлях, салдат!***

---

* Гл. «Во Славу Родины», 1993, 27 кастрычніка.

# Узоры формы адзення ваеннаслужачых Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь

## Форма адзення сяржантаў і салдат, якія праходзяць тэрміновую ваенную службу, ваенную службу па кантракце, курсантаў ваенна-навучальных устаноў



Паўсядзённая



Баявая

## Форма адзення афіцэраў і прапаршчыкаў



Парадная

### Кукарды да галаўных убораў



Кукарда да шапкі-вушанкі, фуражкі шарсцяной, пілоткі



Кукарда да фуражкі (акрамя курсантаў) баваўнянай



Кукарда да фуражкі баваўнянай курсантаў

### Нарукаўныя знакі













## Узоры формы адзення афіцэраў і прапаршчыкаў



Паўсядзённая



Баявая

## Узоры ваеннай тэхнікі замежных армій

### Танкі


«Абрамс»


«Чэленджар»


«Леапард-2»


«Леклерк»

### Баявыя машыны пяхоты


«Брэдлі»


«Мардар»


«Уорыёр»


AMX-10 P/PC

### Самалёты


F-15C «Ігл»


«Тарнада»


F-16


«Міраж»


«Харыер»


A-10A

### Верталёты


«Супер Кобра»


«Сі Кінг»


«Лінкс»

*Дадатак 3*

## Тактыка-тэхнічныя характарыстыкі ўзораў узбраення і ваеннай тэхнікі замежных армій

### А. Ваенная тэхніка

| 1. Бранятанкавая тэхніка | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Найменне і краіна | Экіпаж, чал. | Браня | Скорасць, км/г | Вага, т | Узбраенне |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| **Танкі** | | | | | |
| M1A2 «Абрамс» (ЗША) | 4 | Супрацьснарадная | 67 | 63 | Гармата 120 мм, кулямёт 12,7 мм, 2 кулямёты 7,62 мм |
| «Леапард-2» (Германія) | 4 | | 72 | 62,5 | Гармата 120 мм, 2 кулямёты 7,62 мм |
| «Чэленджэр-2» (Англія) | 4 | | 60 | 62,5 | Гармата 120 мм, 2 кулямёты 7,62 мм |
| «Леклерк» (Францыя) | 3 | | 71 | 54,6 | Гармата 120 мм, кулямёт 12,7 мм, 2 кулямёты 7,62 мм |
| **Баявыя машыны пяхоты** | | | | | |
| M2 «Брэдлі» (ЗША) | 3 + 7 | Да 50 мм | 66 | 22,7 | Гармата 25 мм, кулямёт 7,62 мм |
| «Мардар» (Германія) | 3 + 7 | Да 50 мм | 75 | 28,2 | Гармата 20 мм, 2 кулямёты 7,62 мм |
| «Уорыёр» (Англія) | 3 + 7 | Алюмініевая | 75 | 25,4 | Гармата 30 мм, кулямёт 7,62 мм |
| AMX-10 P/PC (Францыя) | 3 + 8 | Алюмініевая | 65 | 14,2 | Гармата 20 мм, кулямёт 7,62 мм |

| 2. Авіяцыя | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Найменне і краіна | Экіпаж, чал. | Далёкасць палёту, км | Скорасць, км/ч | Баявая нагрузка, кг | Узбраенне |
| **Самалёты** | | | | | |
| F-15C «Ігл» (ЗША) | 1 | 4600 | 2650 | 7260 | Гармата 20 мм, КР *, НАР **, бомбы, нясе ядзерную зброю |
| «Тарнада» (Германія, Англія) | 2 | 5000 | 2100 | 5500 | 2 гарматы 27 мм, КР, бомбы, нясе ядзерную зброю |
| F-16 (ЗША) | 1 | 4200 | 2400 | 6635 | Гармата 23 мм, КР, НАР, бомбы, 2 гарматы 30 мм, КР, бомбы, нясе ядзерную зброю |
| «Міраж» (Францыя) | 1 | 1200 | 1390 | 3000 | |
| «Харыер» (Англія) | 1 | 3700 | 1185 | 4170 | 2 гарматы 25 або 30 мм, КР, бомбы |
| А-10А (ЗША) | 1 | 2000 | 706 | 7200 | Гармата 30 мм, КР, НАР, бомбы |
| **Верталёты** | | | | | |
| АН-1W «Супер Кобра» (ЗША) | 2 | 635 | 282 | 900 | Гармата 20 мм, кулямёт 7,62 мм, гранатамёт, СТКР***, НАР |
| «Сі Кінг» (Англія, Германія) | 2–4+ +22 | 1110 | 230 | 3630 | 4 КР, або 4 тарпеды, або глыбінныя бомбы |
| «Лінкс» (Англія, Францыя) | 1–3 | 790 | 270 | 3830 | Гармата 20 або 30 мм, або 2 кулямёты 7,62 мм; тарпеды, КР, НАР |

